Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



1 (71)

Студзень.

1959.

Год выдання VII.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**

Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108/16. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

АТ 02707. Здадзена ў набор 1.XII. 58 г. Падпісана да друку 12.I.59 г. Заказ 666.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# *Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Беларусі*

# *Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

# *Савету Міністраў Беларускай ССР*

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Саюза ССР і Савет Міністраў СССР горача вітаюць і сардэчна віншуюць усіх рабочых, сялян і інтэлігенцыю Беларусі, усіх камуністаў рэспублікі са знамянальнымі датамі — саракагоддзем утварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Першага з'езда Камуністычнай партыі Беларусі.**

**Сорак год Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Камуністычнай партыі Беларусі — гэта гісторыя гераічнай барацьбы беларускага народа пад кіраўніцтвам ленінскай Камуністычнай партыі супраць замежнай інтэрвенцыі і буржуазна-нацыяналістычнай контррэвалюцыі, за ўмацаванне Беларускай савецкай дзяржавы, гісторыя самаадданай народнай працы ў імя перамогі сацыялізма і камунізма.**

**Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і перамога сацыялізма ў СССР непазнавальна змянілі жыццё беларускага народа, назаўсёды паклалі канец галечы і бяспраўю працоўных. У рэспубліцы створаны сучасная высокаразвітая прамысловасць, перадавая сацыялістычная сельская гаспадарка, багатая рознабаковая культура, нацыянальная па форме і сацыялістычная па зместу.**

**Гістарычныя перамогі сацыялізма, росквіт эканомікі і культуры Савецкай Беларусі, паслядоўнае ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі садзейнічалі ўз'яднанню ўсіх беларускіх зямель у адзінай Беларускай савецкай сацыялістычнай дзяржаве.**

**Беларускі народ і яго слаўны авангард — Камуністычная партыя Беларусі з гонарам вытрымалі суровыя выпрабаванні Вялікай Айчыннай вайны. Больш чым мільён беларусаў мужна змагаліся ў радах Савецкай Арміі. Беларускія партызаны і падпольныя партыйныя арганізацыі паказалі высокую стойкасць і масавы гераізм у барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў.**

**Гісторыя Камуністычнай партыі Беларусі, створанай у ходзе барацьбы за Савецкую ўладу ў канцы снежня 1918 года, неаддзельная ад усёй гісторыі Беларускай савецкай дзяржавы. Кампартыя Беларусі, састаўная і неад'емная частка КПСС, заўсёды была і застаецца цвёрдай апорай Цэнтральнага Камітэта ў правядзенні ленінскай генеральнай лініі партыі.**

**Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка і Камуністычная партыя Беларусі ўступаюць у пятае дзесяцігоддзе свайго існавання поўныя творчых сіл. Разам з усімі народамі Савецкага Саюза рабочыя, сяляне і інтэлігенцыя Беларускай ССР дастойна сустракаюць XXI з'езд Камуністычнай партыі, шырока разгортваюць сацыялістычнае спаборніцтва за далейшы ўздым прамысловасці, за ажыццяўленне рашэнняў**

**снежаньскага Пленума ЦК КПСС у сельскай гаспадарцы, імкнуцца ўнесці свой дастойны ўклад у ажыццяўленне грандыёзнай праграмы разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства ў нашай краіне. Камуністычная партыя Беларусі паслядоўна змагаецца за ўмацаванне і развіццё дружбы народаў нашай вялікай многанацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы.**

**Жадаем таленавітаму і працавітаму беларускаму народу новых вялікіх поспехаў у развіцці сваёй прамысловасці і сельскай гаспадаркі, навукі і культуры, у павышэнні матэрыяльнага дабрабыту, у будаўніцтве камунізма. Выказваем цвёрдую ўпэўненасць, што працоўныя Беларусі будуць і надалей ісці ў першых радах будаўнікоў камуністычнага грамадства.**

**Няхай жыве квітнеючая Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка!**

**Няхай жыве слаўная Камуністычная партыя Беларусі!**

**Няхай жыве наша магутная Савецкая Радзіма — краіна, якая будуе камунізм!**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КПСС** | **ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА САЮЗА ССР** | **САВЕТ МІНІСТРАЎ СССР**

# УРАЧЫСТАЕ СВЯТКАВАННЕ

Яркае святочнае ўбранства на вуліцах. На фасадах дамоў калышуцца сцягі... На будынках партрэты У. І. Леніна і Карла Маркса, кіраўнікоў Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і Савецкага Урада. Шматлікія пано, дэкаратыўныя мастацкія кампазіцыі ўстаноўлены на праспекце і плошчах. Яшчэ ніколі наш Мінск не выглядаў такім прыгожым і маладым. Колькі дасціпнасці праявілі яго жыхары, каб прыбраць сталіцу да слаўнага саракагоддзя! Тут і навагоднія ёлкі, і лятаючы спадарожнік, і казачныя каменныя кветкі, і электрычныя фантаны. Мора агнёў...

Агністыя плакаты, дыяграмы. Усё гэта дэманструе велізарныя поспехі, якіх дасягнула наша рэспубліка пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі за сорак год свайго існавання.



Напярэдадні пачалі з'язджацца госці. Для іх мінчане пабудавалі і абсталявалі новае ў горадзе, прасторнае памяшканне — гасцініцу «Мінск».

3 студзеня ў Мінск на святкаванне прыехаў Першы сакратар ЦК КПСС і Старшыня Савета Міністраў СССР Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Сустракаць тав. М. С. Хрушчова на вакзал прышлі кіраўнікі Кампартыі і ўрада рэспублікі, госці і тысячы працоўных сталіцы. Букеты жывых кветак... Радасныя ўсмешкі на тварах сустракаючых... Прывакзальная плошча не забудзе гэтай хвалюючай сустрэчы.

У гэты ж дзень у адзінаццаць гадзін у будынку Беларускага дзяржаўнага ордэна Леніна Вялікага тэатра оперы і балету адкрылася ўрачыстае пасяджэнне Вярхоўнага Савета БССР і ЦК КП Беларусі, прысвечанае 40-й гадавіне з дня ўтварэння БССР і Камуністычнай партыі Беларусі. Сюды сабраліся дэпутаты і госці, перадавікі прамысловасці і сельскай гаспадаркі рэспублікі.

Па даручэнню бюро ЦК КПБ і Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі тав. К. Т. Мазураў аб'яўляе сумеснае ўрачыстае пасяджэнне адкрытым. Гучаць Дзяржаўныя гімны Савецкага Саюза і Беларускай ССР.

Затым старшынствуючы Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, сакратар ЦК КП Беларусі тав. Ц. С. Гарбуноў дае слова намесніку Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР тав. В. І. Казлову для зачытання Указа аб узнагароджанні Беларусі ордэнам Леніна.

Пад бурныя воплескі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў уручае высокую ўзнагароду. Яе прымаюць тт. К. Т. Мазураў, М. Я. Аўхімовіч і В. І. Казлоў. Тав. Мазураў прымацоўвае ордэн да Дзяржаўнага флага Беларускай ССР.

— Дарагія таварышы! — гаворыць тав. Мазураў. — Дазвольце мне ад вашага імя і ад імя ўсяго беларускага народа выказаць гарачыя, ідучыя ад самага сэрца пачуцці глыбокай удзячнасці Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета і Ураду СССР за высокую ацэнку працы беларускага народа, за ўзнагароджанне нашай рэспублікі ордэнам Леніна.

У сваім дакладзе «Сорак год Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі» тав. К. Т. Мазураў расказаў, як беларускі народ з гонарам адзначае свой слаўны саракагадовы шлях барацьбы і перамог, як у брацкай сям'і савецкіх народаў наша рэспубліка дасягнула вялікіх поспехаў ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. З адсталай ускраіны царскай Расіі Беларусь ператварылася ў рэспубліку высокаразвітай індустрыі, буйнай механізаванай сельскай гаспадаркі. Сапраўднага росквіту

**Мітынг працоўных горада Мінска, прысвечаны 40-й гадавіне з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, 40-годдзю Камуністычнай партыі Беларусі і ўзнагароджанню Беларусі другім ордэнам Леніна.**

На трыбуне: **таварышы М. С. Хрушчоў, К. Т. Мазураў і В. Ф. Шаура.**

Фота У. Лупейкі і Г. Бегуна.



дасягнула культура беларускага народа. Выраслі шматлікія нацыянальныя кадры кваліфікаваных спецыялістаў, умелых арганізатараў прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, работнікаў навукі, літаратуры і мастацтва.

У суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны беларускі народ прадэманстраваў бяспрыкладны гераізм і мужнасць, беззаветную адданасць сацыялістычнай Радзіме. Ні складаныя выпрабаванні вайны, ні цяжкасці першых пасляваенных год не зламалі волю беларускага народа. Пры брацкай дапамозе ўсіх народаў нашай краіны і, перш за ўсё, вялікага рускага народа, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі працоўныя рэспублікі паказалі сапраўды тытанічную работу па аднаўленню і далейшаму развіццю народнай гаспадаркі. Самааддданай працай народа былі ўзняты з руін і папялішчаў беларускія гарады і сёлы. У рэспубліцы створаны новыя галіны прамысловасці, у некалькі разоў перавышаны даваенны ўзровень прамысловай вытворчасці, за апошнія гады дасягнут значны ўздым усіх галін сельскай гаспадаркі.

Велічныя перспектывы адкрываюцца перад нашай рэспублікай у наступным сямігоддзі. Тав. К. Т. Мазураў гаворыць, што прывітанне ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў СССР рабочым, калгаснікам, інтэлігенцыі Беларусі, прыезд дарагога Мікіты Сяргеевіча Хрушчова ў Мінск і яго ўдзел у нашым нацыянальным свяце з вялікай радасцю сустрэты працоўнымі рэспублікі. У гэтым заключаецца яшчэ адно праяўленне пастаяннай глыбокай увагі Прэзідыума ЦК КПСС і Савецкага Урада да беларускага народа, іх бацькоўскі клопат аб нашай роднай Беларусі. Уступаючы ў сваё пятае дзесяцігоддзе, беларускі народ, поўны невычэрпнай творчай энергіі, запэўнівае родную Камуністычную партыю ў тым, што ён не пашкадуе сіл у барацьбе за ажыццяўленне грандыёзнай праграмы разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства ў нашай краіне.

З вялікай прамовай на ўрачыстым пасяджэнні выступіў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў.

Затым ад імя дэлегацый брацкіх савецкіх рэспублік, якія прыехалі на святкаванне, з прывітаннямі выступілі кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў РСФСР Д. С. Палянскі, кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Украінскай ССР Д. С. Каротчанка, сакратар ЦК Кампартыі Узбекістана М. А. Абдуразакаў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Казахскай ССР Ж. А. Ташэнеў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Грузінскай ССР М. Д. Чубінідзе, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Азербайджанскай ССР І. К. Абдулаеў, Старшыня Савета Міністраў Літоўскай ССР М. Ю. Шумаускас, першы сакратар ЦК Кампартыі Малдавіі З. Ц. Сярдзюк, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Латвійскай ССР К. М. Азалінь, намеснік Старшыні Савета Міністраў Кіргізскай ССР М. Мамбеталіеў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Таджыкскай ССР М. Рахматаў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Армянскай ССР Ш. М. Арушанян, сакратар ЦК Кампартыі Туркменскай ССР Р. Чарыеў, намеснік Старшыні Савета Міністраў Эстонскай ССР В. І. Клаусан.

На другі дзень, 4 студзеня, раніцай тысячы мінчан накіраваліся да плошчы імя У. І. Леніна. Яны неслі сцягі, партрэты кіраўнікоў партыі і ўрада.

Адбыўся мітынг, прысвечаны 40-й гадавіне з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Кампартыі Беларусі.

Зноў з вялікай радасцю працоўныя сустрэлі і выслухалі прамову Мікіты Сяргеевіча Хрушчова.

У кароткай інфармацыі нельга перадаць словамі тую ўсхваляванасць і натхненне, якія запалілі сэрцы ўсіх на мітынгу. Радасным з'яўляецца і тое, што наша ўсенароднае святкаванне супала з паспяховым запускам першай касмічнай ракеты ў бок Месяца. Гэта велізарнае дасягненне нашай Савецкай Радзімы і яе народа.

Да позняй ночы на зімовых вуліцах Мінска было народнае гулянне. Успыхвалі феерверкі. Яны нагадвалі салют Перамогі. І яшчэ кожны сабе думаў, што ў гэты момант наша касмічная ракета дзесьці высока імчыцца між зорак у небе...

Назаўсёды застанецца ў памяці гэта незабыўнае, вялікае нацыянальнае свята.

**Васіль ГРЫГОР'ЕЎ**

# ЗА ПАРТЫЯЙ, ЦВЁРДЫМ ПОСТУПАМ

Мара. Дума аб будучыні. Імкненне наперад да новых даляў і новых гарызонтаў. Асабліва добра і радасна марыць, калі пачатак будучыні ўжо існуе сёння, у сённяшнім дні, у рэчаіснасці, якая акружае цябе.

Вялікі Ленін вучыў савецкіх людзей: трэба марыць! З кастрычніцкіх дзён семнаццатага года на кожным новым гістарычным рубяжы наша мара нязменна аснавана на трывалым падмурку зробленага, заваяванага, здабытага. Наша будучыня — прамы і натуральны працяг сённяшняга.

І яшчэ адна асаблівасць ёсць у нашай мары: смеласць і размах. Камуністычная партыя валодае цудоўным ленінскім уменнем дзярзаць у планах на будучае.

Аб усім гэтым думае кожны савецкі чалавек, яшчэ і яшчэ раз перачытваючы тэзісы даклада таварыша М. С. Хрушчова «Кантрольныя лічбы развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1959—1965 гады» на XXI з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, які адкрываецца ў сталіцы нашай Радзімы Маскве 27 студзеня.

27 студзеня 1959 года...

Гэтага дня чакалі, да яго рыхтаваліся мільёны савецкіх людзей. Не адну скарасную плаўку выдалі сталявары; мастакі прысвяцілі з'езду свае новыя творы; канструктары — складаныя машыны, якія аблегчаць працу тысяч людзей; аграномы — новыя гатункі сельскагаспадарчых культур; школьнікі, студэнты — выдатныя адзнакі па аваладанню ведамі.

І гэта заканамерна. З партыяй камуністаў, з яе ўсёперамагаючай тэорыяй, з яе шматграннай кіруючай і арганізуючай дзейнасцю звязана ўсё, чым багата і магутна наша сацыялістычная Радзіма, усё, што дорага савецкаму чалавеку, што стварыў ён сваімі рукамі і адстаяў у жорсткіх баях, над чым натхнёна працуе сёння ў імя яшчэ больш цудоўнага заўтра.

Гаворачы аб будучым, трэба добра ведаць і сённяшняе і мінулае. Вялікае заўсёды пазнаецца ў параўнанні.

Вядома, што царская Расія была выключна адсталай, беднай краінай — яна прывозіла з-за мяжы не толькі машыны, але нават будаўнічы камень для брукавання

вуліц. У нетрах краіны хаваліся велізарныя запасы вугалю, а здабывалася яго вельмі мала — на долю Расіі прыпадала менш 2,5 працэнта сусветнай здабычы вугалю. Валодаючы значнымі запасамі «чорнага золата» — нафты, царская Расія цярпела «нафтавы голад». Электрычнасць ужо тады пераможна крочыла па Еўропе і Амерыцы, асвятляла гарады, прыводзіла ў рух машыны, а ў Расіі была цемра. Нават у Маскве 320 вёрст вуліц асвятлялася газай і толькі 17 вёрст — электрычнасцю.

Звыш трох чвэртак насельніцтва нашай краіны займалася земляробствам, але пагроза голаду няспынна вісела над мільёнамі сялян. Саха і плуг — такая была асноўная «тэхніка» расійскага хлебароба.

Нашаму маладому пакаленню, якое вырасла і выхавалася пры савецкай уладзе, ва ўмовах сацыялізма, карысна было б часцей асэнсоўваць такія, напрыклад, факты: мала хто з сялян былой царскай Расіі ведаў пра скураны абутак; газета на вёсцы была вялікай рэдкасцю і часта на цэлае сяло быў адзін «грамацей». Карысна было б памятаць і аб тым, што выбарчае права маладыя людзі атрымалі толькі пасля рэвалюцыі 1905 года ды і то далёка не ўсе, а толькі тыя, хто быў багатым, «палітычна добранадзейным», меў «цэнз аседласці».

Вось чаму наш народ будзе заўсёды з удзячнасцю ўспамінаць тую гістарычную кастрычніцкую ноч 1917 года, калі, падперазаныя кулямётнымі стужкамі піцерскія рабочыя, рэвалюцыйныя салдаты і матросы Расіі кінулі ў твар перапалоханым міністрам буржуазнага Часовага ўрада:

«Которые тут временные?
Слазь!
Кончилось ваше время...»

... Расказваюць, што калі Стэфенсон упершыню пускаў свой паравоз, нейкая пані, якая была ў натоўпе, істэрычна крычала: «Не пойдзе!» Але калі паравоз крануўся, пані з той жа настойлівасцю прадаўжала: «Не спыніцца!»

Даўно забыты гэты выпадак міжвольна прыходзіць на памяць, калі вяртаешся да першых год савецкай улады. І нам жа тады з усіх бакоў крычалі, што справа ў нас «не пойдзе». Палітычныя дзеячы буржуазнага захаду, ідэолагі «яго вялікасці Капітала» дружным хорам аб'явілі нашу пралетарскую рэвалюцыю «рускім эксперыментам», які з'яўляецца «выклікам здароваму сэнсу». Дзе гэта, маўляў, бачна, каб слесары, вадаправодчыкі, нянькі і кухаркі, ды яшчэ ў такой адсталай краіне, як Расія, маглі стаяць каля руля дзяржавы і нешта такое будаваць!

У 1920 годзе да нас прыязджаў вядомы англійскі пісьменнік Герберт Уэлс. І вось нават гэты прадстаўнік прагрэсіўнай заходняй інтэлігенцыі, пісьменнік, смелымі фантастычнымі раманамі якога і сёння зачытваюцца юнакі і дзяўчаты ўсяго свету, — нават ён убачыў толькі «Расію ў імгле». Расія загіне, — заявіў ён, — калі ёй не дапамогуць Злучаныя Штаты Амерыкі. Яна «стане краінай сялян; гарады апусцеюць і ператворацца ў руіны, чыгункі зарастуць травой».

Капіталісты, як вядома, не толькі не думалі аб тым, каб нам дапамагчы, наадварот, яны ўсюды і ва ўсім стараліся нам шкодзіць. Гаспадары грашовых мяшкоў і перш за ўсё варацілы амерыканскага капітала правакавалі ваенныя напады, арганізоўвалі эканамічную блакаду, імкнуліся знутры падарваць пралетарскую дзяржаву.

Нам тады было нялёгка. І не толькі таму, што на кожным кроку нам пагражалі вайною, але яшчэ і таму — і гэта, бадай, галоўнае, — што ішлі мы па шляху, нязведанаму чалавецтвам, ішлі такой дарогай, якой ніхто, ніколі дагэтуль не хадзіў.

У такіх умовах патрэбна была вялікая вера ў магутныя творчыя сілы народа, каб цалкам, безраздзельна ўзяць на свае плечы адказнасць за лёс велізарнай краіны, за яе будучыню. І ленінская



партыя — гераічная партыя рабочага класа, авангард свайго народа — не пабаялася гэтай адказнасці. Яна выступіла як партыя сапраўдных наватараў, смелых пераўтваральнікаў жыцця.

За сорак адзін год савецкай улады нашым людзям давялося вырашаць задачы, якія па свайму размаху, значэнню і выніках не мелі сабе роўных у гісторыі. Ім давялося перамагаць незлічоныя цяжкасці, святкаваць перамогі і выпраўляць памылкі, якія непазбежны ў вялікай і новай справе. Партыя заўсёды, усюды і ва ўсім была разам з народам. Яна падзяляла з ім радасці і нягоды. Яна заўсёды гаварыла яму праўду — праўду аб цяжкасцях і перашкодах, праўду аб небяспеках з боку ворагаў, праўду аб складанасці нашых задач, якія ніколі і ніхто да нас не вырашаў. Дастойна ацэньваючы заваяваныя перамогі, партыя ўказвала шляхі ліквідацыі недахопаў і цяжкасцей, шляхі да новых поспехаў і дасягненняў. І народ пранікаўся яшчэ большым давер'ем і любоўю да партыі, яшчэ цясней згуртоўваў вакол яе свае незлічоныя рады, упэўнена ішоў за ёю, самааддана ажыццяўляў яе палітыку, яе планы і задумы.

Сорак адзін год — гэта нават менш працягласці жыцця аднаго пакалення людзей. І вось за гэты невялікі тэрмін эканамічна адсталая, паўфеадальная Русь на вачах усяго свету стала сапраўды магутнай і багатай сацыялістычнай краінай.

Калі б чалавек меў магчымасць адзіным позіркам ахапіць прасторы савецкай зямлі, перад ім узнік бы велічны, незабыўны малюнак індустрыяльнай магутнасці нашай дзяржавы. Ён убачыў бы тысячы новых прамысловых гігантаў, цэлыя прамысловыя раёны, якія ўзніклі зусім нядаўна на глухіх, часам неабжытых мясцінах; магутныя плаціны, якія перагарадзілі рэкі; лініі перадач ад велізарных электрастанцый; ён убачыў бы паязды, рачныя і марскія судны, нагружаныя металам і нафтай, вугалем і будаўнічым матэрыялам, шматтоннымі турбінамі, машынамі, механізмамі...

Буйнейшым капіталістычным краінам — ЗША, Германіі, Англіі — на павелічэнне прамысловай вытворчасці прыкладна ў трыццаць разоў спатрэбілася ад 80 да 100 год. Аб'ём прамысловай прадукцыі ў СССР павялічыўся за гады савецкай улады ў 36 разоў. Веліч гэтага поспеху, дасягнутага савецкім народам, становіцца асабліва адчувальнай, калі ўлічыць, што за ўсе гады існавання нашай дзяржавы мірнай працай мы займаліся крыху больш паловы, таму што каля двух дзесяцігоддзяў адабралі войны і наступныя гады аднаўлення разбуранай гаспадаркі. Такім чынам, Савецкі Саюз, спаборнічаючы з капіталізмам, перамог яго ў самым галоўным — у тэмпах росту.

Сёння не толькі нашы шматлікія сябры за рубяжом, але і непрыяцелі нашы прызнаюць, што Савецкі Саюз — гэта не Расія дарэвалюцыйных часоў з яе адсталай тэхнікай, паўсаматужнымі фабрыкамі і заводамі, а магутная індустрыяльная краіна. І на самай справе. Па аб'ёму прамысловай вытворчасці — гэтаму рашаючаму паказчыку — наша краіна займае цяпер не пятае месца ў свеце, а другое, не чацвёртае месца ў Еўропе, а першае. Каб больш наглядна ўявіць сабе пройдзены на чале з партыяй шлях індустрыяльнага развіцця, дастаткова прывесці такі факт. Цяжкая прамысловасць царскай Расіі выпускала менш прадукцыі, чым маленькая Бельгія.

Прапаведнікі «амерыканскага спосабу жыцця» гавораць, што хоць у Савецкім Саюзе вытворчасць і хутка расце, яму, аднак, ніколі не дагнаць ЗША эканамічна, гэта значыць, па ўзроўню вытворчасці на душу насельніцтва. Факты, між тым, паказваюць, што трубадуры капіталізма хацелі б выдаць жадаемае за сапраўднае. Жыццё сведчыць аб тым, што такую думку гісторыя ўжо здае ў архіў. Калі ў 1913 годзе на душу

насельніцтва ў нашай краіне прыпадала прамысловай прадукцыі ў 13—14 разоў менш, чым у ЗША, то цяпер — толькі ўдвая.

Цяпер наступіў такі час, калі нават працаўнікі сацыялізма пачынаюць верыць і баяцца таго, што СССР дагоніць ЗША па вытворчасці на душу насельніцтва. Спрэчкі ідуць толькі аб тэрмінах. Прафесар Масачузецкага тэхналагічнага інстытута (ЗША) Джэром Уіснер піша: «Калі я бываю ў дрэнным настроі, я думаю аб тым, што праз пяць год яны (рускія) яўна пераўзыйдуць нас ва ўсіх галінах. Але калі я настроен аптымістычна, я адчуваю, што ім спатрэбіцца дзесяць год, каб дасягнуць гэтага».

Савецкі Саюз пабудаваў першыя ў свеце атамныя электрастанцыі, атамны ледакол, самы магутны паскаральнік элементарных часціц, стварыў першую міжкантынентальную балістычную ракету, першакласныя турбавінтавыя і рэактыўныя самалёты, запусціў тры спадарожнікі Зямлі. А гэта значыць, што СССР па многіх вельмі важных галінах навукі і тэхнікі не толькі дагнаў, але і перагнаў ЗША.

Сімвалам часу з'яўляецца тое, што буйнейшыя капіталістычныя краіны, якія некалі хваліліся ўзроўнем развіцця навукі і тэхнікі і звысоку глядзелі на нашу краіну, цяпер гавораць: трэба даганяць СССР. Не дзе-небудзь, а ў ЗША, разгортваецца кампанія пад лозунгамі: «Дагнаць СССР у галіне асветы», «Дагнаць СССР у галіне навукі і тэхнікі».

Чаму стаў магчымы такі шпаркі, здзіўляюча вялікі скачок нашай краіны ад адсталасці да вяршынь прагрэсу? У многім таму, што за сорак адзін год, які мы пражылі пад сонцам сацыялізма, партыя вырасціла новае пакаленне людзей, выхавала ў іх асаблівыя рысы, якія мы можам назваць рысамі савецкага характару: бязмежную любоў да сваёй сацыялістычнай Айчыны, высокую ідэйнасць і жыватворную, аптымістычную веру ў чалавека, глыбокае, арганічнае міралюб'е і гатоўнасць да апошняй кроплі крыві адстойваць кожную пядзь савецкай зямлі, уменне не падаць духам у цяжкіх выпрабаваннях і незгасальную веру ў перамогу, багатырскую неўтаймаванасць у працы і барацьбе. І нарэшце — усёасвятляючую, натхнёную, акрыляючую любоў да сваёй Камуністычнай партыі, веру ў партыю, заўсёдную гатоўнасць ператварыць у жыццё яе заклік. На кожны покліч партыі савецкі чалавек адказвае: ёсць!

Вось наш камсамол, які нядаўна адзначыў сваё саракагоддзе. Шлях камсамола — гэта хвалюючы летапіс барацьбы, працы, подзвігаў чалавека новага свету, летапіс, неаддзялімы ад гісторыі савецкага ладу, Камуністычнай партыі, якія выхавалі яго. Рады камсамола няспынна абнаўляюцца, адно пакаленне моладзі змяняецца другім, але непарушнай застаецца іх ідэйная сувязь, пераемнасць мацнеючых традыцый служэння народу, вернасці партыі, самаадданай барацьбы за камунізм. На змену бясстрашнаму будзёнаўцу, які клінком прасякаў дарогу да новага жыцця, прыходзіў рабфакавец, які ўпарта авалодваў ведамі, каб па-гаспадарску будаваць гэтае новае жыццё. Ударнікаў першых пяцігодак змянілі суровыя абаронцы Брэсцкай крэпасці і бясстрашныя байцы Сталінграда, а за імі ва ўвесь рост узняліся новыя героі...

Па камсамольскіх пуцёўках прышлі яны на ўскраіны вялікага горада, што быў ператвораны фашысцкай зграяй у руіны. На пустэчах, на ўскраіне лесу паставілі першыя вешкі, нацягнулі палаткі. Жыццё іх не песціла. Каму давозілася бываць у Беларусі позняй халоднай восенню, той ведае, як цяжка прастаяць змену на пранізлівым ветры. Але маладыя патрыёты выстаялі. У барацьбе з цяжкасцямі загартоўваўся іх характар. Калектыўная праца, усведамленне адказнасці перад Радзімай дапамаглі скласціся пачуццю абавязку, таварыскасці, узаемавыручкі. Калі ж сваімі рукамі на пустэчах былі збудаваны першыя ін-



тэрнаты, туды пасялілі дзяўчат. Так вырашылі самі хлопцы, застаўшыся яшчэ ў палатках. Было гэта пад Мінскам увосень 1946 года на будаўніцтве трактарнага завода.

Прайшло дванаццаць год. І вось з канвеера гэтага завода, які будавалі разам з усім народам беларускія камсамольцы і моладзь, сыходзіць стотысячны трактар. Варта прыгадаць, што некалі Уладзімір Ільіч марыў аб тым часе, калі на палях усёй Расіі будзе працаваць сто тысяч трактароў, якія прывядуць «мужыка ў камунію».

У мінулым годзе з канвеера другога гіганта беларускай індустрыі Мінскага аўтазавода таксама сыйшла знамянальная машына — 75-тысячны самазвал. І гэты ж завод малады. Ён народжаны ў пасляваенныя гады.

Пяць год таму назад родная партыя кінула баявы кліч: моладзь — на цаліну! І маладыя патрыёты, сярод іх тысячы юнакоў і дзяўчат рэспублікі, адгукнуліся ўсім сэрцам на гэты заклік. Ажылі, завірылі стэпы, прачнуліся ад спрадвечнага сну, і там, дзе з часоў Чынгіс-хана рос толькі кавыль, закаласіўся бязмежны акіян пшаніцы. А хлеб жа — гэта не толькі крыніца жыцця народа, але і адзін з галоўных паказчыкаў сілы і магутнасці дзяржавы. Невыпадкова мудрая народная прыказка гаворыць: хлеб усяму галава!

У маі 1956 года Цэнтральны Камітэт партыі звярнуўся да камсамольцаў і ўсёй моладзі з новым заклікам накіраваць лепшых сваіх таварышаў у раёны Усходу і Поўначы краіны, у Данбас, на будаўніцтва заводаў, руднікоў, вугальных шахт, чыгунак. 260 тысяч маладых патрыётаў адгукнуліся на гэты заклік партыі. Пакінуўшы абжытыя мясціны, утульныя гарады, расстаўшыся з роднымі, яны, як і ў свой час цаліннікі, паехалі па камсамольскіх пуцёўках у незнаёмыя далёкія краі. І ўжо многае паспелі зрабіць.

Пасланцы камсамола дапамаглі збудаваць буйнейшую ў свеце Волжскую ГЭС імя Леніна. Зараз яны з яшчэ большым уздымам працуюць на будаўніцтве Сталінградскай ГЭС. Рукамі моладзі пабудавана высакавольтная лінія электраперадачы Іркуцк—Брацк, цераз тайгу пракладзена новая чыгуначная магістраль Сталінск—Абакан. У рэкордна кароткі тэрмін маладыя шахтабудаўнікі збудавалі ў Данбасе 37 новых камсамольскіх шахт. Цяпер ініцыятыва моладзі накіравана на тое, каб хутчэй пабудаваць новыя домны на поўдні краіны і на Урале, новыя сталеплавільныя печы, коксавыя батарэі, пракатныя станы, прадпрыемствы хімічнай, нафтавай, газавай прамысловасці.

Нямала юнакоў і дзяўчат нашай рэспублікі ўліліся ў армію будаўнікоў Полацкага нафтагіганта, Старобінскага калійнага камбіната, які ўжо атрымаў назву «камбіната ўраджаяў», у рады будаўнікоў Бярозаўскай ДРЭС...

Сапраўды, няма краю творчай энергіі савецкага чалавека! І таму такія велізарныя нашы поспехі. А перспектывы? Яны яшчэ больш велічныя, яшчэ больш грандыёзныя!

Калі чытаеш тэзісы даклада Мікіты Сяргеевіча Хрушчова аб сямігадовым плане, здаецца, што ты ўзышоў на высокі перавал і перад табою ў празрыстым горным паветры раптам раскрыліся неабсяжныя велічныя гарызонты. У кантрольных лічбах сямігодкі партыя адкрыла перад намі вышыні, на якія яшчэ не ўзнімаўся чалавек, іх толькі мудра прадбачылі, аб іх горача марылі лепшыя розумы чалавецтва. Спрадвечная мара аб камунізме паўстала перад намі ў строга прадуманых лічбах канкрэтнага, велічнага плана. Намечаная партыяй праграма далейшага магутнага ўздыму эканомікі, культуры, матэрыяльнага дабрабыту працоўных гаворыць аб тым, што наша краіна ўступае ў новы, важнейшы перыяд свайго развіцця — перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства. Іменна гэта перш за ўсё адрознівае сямігадовы план ад усіх нашых папя-

рэдніх планаў. У новай сямігодцы будзе зроблен рашаючы крок у стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма і ў ажыццяўленні асноўнай эканамічнай задачы СССР — у гістарычна карацейшыя тэрміны дагнаць і пераганць найбольш развітыя капіталістычныя краіны па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва.

Калі сямігадовы план будзе выкананы, Савецкі Саюз будзе вырабляць прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва больш, чым яе цяпер вырабляюць Англія і Заходняя Германія. Вышаўшы ў гэтых адносінах к канцу сямігодкі на першае месца ў Еўропе, СССР па абсалютнаму аб'ёму вытворчасці некаторых галоўнейшых відаў прадукцыі наблізіцца да сучаснага ўзроўню вытворчасці ў ЗША, а па некаторых відах і пераўзыйдзе яго.

Усё радуе, усё захапляе і здзіўляе ў кантрольных лічбах. За наступнае сямігоддзе на будаўніцтва будзе затрачана амаль столькі сродкаў, колькі было капітальных укладанняў у народную гаспадарку за ўсе гады савецкай улады — амаль два трыльёны рублёў.

Сямігадовы план прадугледжвае магутнае развіццё прамысловай вытворчасці. Партыя і надалей будзе нязменна следаваць па шляху, які ўказваў Ленін, — перш за ўсё забяспечваць пераважны рост тых галін цяжкай індустрыі, якія садзейнічаюць далейшаму і хуткаму ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі. Металургія, хімія, паліва, энергетыка, машынабудаванне — вось галоўныя ўчасткі нашага наступлення ў 1959—1965 гадах. Тут адбудуцца вялікія колькасныя, а галоўнае — якасныя структурныя змены.

Прадстаўце, напрыклад, карэнная перабудова паліўнага баланса краіны. Нафта і газ намнога выгадней, танней і зручней вугалю. У 1965 годзе здабыча нафты ўзрасце больш чым у два разы, а здабыча і вытворчасць газу — у пяць разоў супраць 1958 года. Здабыча вугалю за гэты перыяд павялічыцца на 20—23 працэнты. Яшчэ на 26 тысяч кіламетраў працягнуцца сталёвыя ніці газаправодаў. Газ будзе плавіць метал, прыводзіць у рух турбіны, ацяпляць дамы... Гэта дазволіць сэканоміць велізарныя сродкі і паслужыць справе паскоранага развіцця савецкай эканомікі.

Вядома, што чым больш металу, тым магутней дзяржава. Таму ў сямігадовым плане прадугледжана павялічыць выплаўку чыгуну з 39 да 65—70 мільёнаў тон і сталі з 55 да 86—91 мільёна тон. Намнога ўзрасце таксама вытворчасць каляровых і рэдкіх металаў. Гады сямігодкі азнамянуюцца будаўніцтвам трэцяй металургічнай базы, а таксама новых магутных механізаваных і аўтаматызаваных металургічных агрэгатаў. Электронныя вылічальныя машыны, тэлемеханіка і аўтаматыка аблегчаць працу металургаў, рэзка павысяць выплаўку металу.

Сапраўдныя цуды будуць рабіцца ў хіміі. Кантрольнымі лічбамі прадугледжваецца паскоранае развіццё хімічнай прамысловасці. Агульны аб'ём вытворчасці прадукцыі ў гэтай галіне павялічыцца амаль утрая. За сямігоддзе будзе пабудавана больш 140 буйнейшых хімічных прадпрыемстваў і звыш 130 прадпрыемстваў рэканструявана. Хімічная прамысловасць стане важнейшай сыравіннай базай для вырабу тавараў народнага ўжытку.

Паступальны рух усіх галін народнай гаспадаркі непарыўна звязаны з электрычнай энергіяй, якая складае тэхнічную аснову цяжкай прамысловасці. Электрыфікацыя ахоплівае цяпер 300 галін і больш 200 тысяч прамысловых прадпрыемстваў нашай краіны. Каб выпусціць аўтамабіль, патрэбна затраціць дзве тысячы кілават-гадзін электраэнергіі, каб выпусціць трактар — 4 тысячы. На пабудову самалёта «ТУ-114» затрачваюць больш двухсот тысяч, а на збудаванне 120-кватэрнага дома — амаль мільён кілават-гадзін. Уся вытворчая дзейнасць савецкага чалавека, яго быт і культура, абараназдольнасць нашай краіны — усё так ці інакш патрабуе электрычнай энергіі. Яна патрэбна і на выпечку хлеба, і на выраб штучнага спадарожніка Зямлі...



Работы па ажыццяўленню ленінскага запавету аб электрыфікацыі краіны ў гэтым сямігоддзі будуць весціся з новым, яшчэ больш размахам. У 1965 годзе выпрацоўка электраэнергіі ўзрасце да 500—520 мільярдаў кілават-гадзін замест 233 мільярдаў у 1958 годзе. Будзе завершана будаўніцтва Сталінградскай, Брацкай, Крэменчугскай, Воткінскай, Бухтармінскай і іншых гідраэлектрастанцый, а таксама разгорнецца збудаванне буйнейшай у свеце Краснаярскай ГЭС. Уступіць у строй рад новых атамных электрастанцый.

Важную ролю ў барацьбе за стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма заклікана адыграць машынабудаўнічая прамысловасць. Высокія тэмпы развіцця гэтай вядучай галіны сацыялістычнай індустрыі створаць умовы для карэннага паляпшэння тэхналогіі вытворчасці.

На Усход! Гэта адна з асаблівасцей сямігадовага плана развіцця прамысловасці. Там, на Усходзе, на аснове новых жалезарудных месцанараджэнняў Сібіры і Казахстана намечана пабудаваць трэцюю магутную металургічную базу. Там будзе хутка развівацца каляровая металургія, энергетыка, хімія, лясная прамысловасць. Сібір і Далёкі Усход чакаюць новых атрадаў савецкіх патрыётаў, пакаральнікаў незлічоных багаццяў гэтых зямель.

Ажыццяўленне сямігадовага плана будзе азначаць небывалы росквіт індустрыяльнай магутнасці нашай рэспублікі.

Дастаткова прывесці такія прыклады. У Беларусі будзе створана нафтаперапрацоўчая і хімічная прамысловасць. Полацкі нафтаперапрацоўчы завод, будаўніцтва якога распачалося, з'явіцца ў нас першынцам нафтаперапрацоўчай прамысловасці, трывалай сыравіннай базай для развіцця цэлага раду хімічных прадпрыемстваў. Гэта будзе адзін з самых буйных нафтаперапрацоўчых заводаў краіны і Еўропы. Яго прадукцыйнасць значна пераўзыйдзе магутнасці нафтазаводаў у такіх краінах, як Бельгія, Швецыя, Аўстрыя, Іспанія, Партугалія, разам узятыя.

Старобінскае месцанараджэнне калійных солей з'яўляецца адным з буйнейшых ва ўсёй Еўропе. Асваенне яго дазволіць толькі на асушаных балотах атрымліваць штогод на два мільярды рублёў дадатковай сельскагаспадарчай прадукцыі. У цэлым жа выкарыстанне калійных угнаенняў, якія будуць здабывацца на Старобінскім камбінаце, дасць магчымасць штогод вырошчваць сельскагаспадарчых культур на суму каля чатырох мільярдаў рублёў. Пуск камбіната на поўную магутнасць задаволіць патрэбы ў калійных угнаеннях не толькі нашай рэспублікі, але і забяспечыць імі Прыбалтыку, суседнія вобласці Расійскай Федэрацыі і Украіны.

Увосень мінулага года дала прамысловы ток буйнейшая ў Беларусі Васілевіцкая ДРЭС. У гэтай сямігодцы ў рэспубліцы будзе пабудавана Бярозаўская ДРЭС, якая перавысіць па сваёй магутнасці Васілевіцкую ў два з паловай раза.

Новы буйнейшы крок у сваім развіцці зробіць сельская гаспадарка нашай краіны. Яшчэ больш умацуецца калгасны лад. Адбудзецца далейшае збліжэнне дзвюх форм уласнасці — калгаснай і ўсенароднай. Рэзка павысіцца ўраджайнасць усіх сельскагаспадарчых культур і прадуктыўнасць грамадскай жывёлагадоўлі. Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ўзрасце прыкладна ў 1,7 раза. Штогодны збор збожжа дасягне 10—11 мільярдаў пудоў. Падвоіцца вытворчасць мяса, рэзка ўзрастуць пасевы цукровых буракоў.

Адным словам, якую б галіну нашай сацыялістычнай эканомікі мы ні ўзялі, усюды прадугледжваецца велізарны рост. І ўсё гэ-

та — у імя чалавека, у імя яго шчасця, матэрыяльнага дастатку, у імя яго прыгожага, натхнёнага жыцця!

Быў час, калі нам даводзілася эканоміць ва ўсім, перажываць часовыя нястачы, каб паставіць на ногі нашу індустрыю, вывесці на шырокую дарогу сельскую гаспадарку. Але зараз, калі намаганнямі партыі і ўсяго народа створана магутная прамысловасць і буйная сельскагаспадарчая вытворчасць, ёсць усе ўмовы, каб у бліжэйшы час нашы людзі сталі жыць яшчэ лепш, паўней задавальняць растучыя матэрыяльныя і духоўныя запатрабаванні.

Будзе значна палепшана харчаванне насельніцтва, асабліва за кошт такіх прадуктаў, як малако, масла, мяса, цукар, гародніна і фрукты. Савецкія людзі будуць удосталь забяспечаны дабротным, прыгожым адзеннем і абуткам. Карэнным чынам палепшацца жыллёвыя ўмовы насельніцтва. Значна пашырыцца выраб мэблі, розных тавараў хатняга ўжытку.

Старэйшае пакаленне савецкіх людзей памятае часы, калі рабочы клас вёў суровую барацьбу з прагным капіталам, адваёўваў у яго кожную чвэртку гадзіны рабочага дня, адстойваў мінімальныя ўмовы чалавечага існавання, змагаўся за кожную капейку заработнай платы. Тэзісы проста і канкрэтна расказваюць аб тым рэальным, што сацыялістычны лад ужо даў і яшчэ дасць працоўнаму чалавеку,— аб павышэнні заработнай платы, аб выдзяленні вялікіх сродкаў на выплату пенсій, дапамог, на арганізацыю выхавання дзяцей... Недалёкі ўжо час, калі ў савецкага чалавека будзе два выхадныя дні на тыдні. Самы кароткі рабочы дзень у свеце і самы кароткі рабочы тыдзень! Гэта забяспечыць усе магчымасці для гарманічнага развіцця чалавека, дасць кожнаму ўсе ўмовы для таго, каб яшчэ паўней задаволіць свае культурныя запатрабаванні, развіваць духоўныя здольнасці.

Прыступаючы да разгорнутага будаўніцтва камунізма, рыхтуючыся да жыцця ў яшчэ больш развітым грамадстве, нельга пакідаць у баку школу, якая выхоўвае наша падрастаючае пакаленне. Народ хоча, каб гэтыя новыя грамадзяне былі дастойнымі наследнікамі накопленых багаццяў, каб яны навучаліся памнажаць іх і былі б для гэтага дастаткова і ўсебакова падрыхтаваныя. Гэтае шчырае жаданне народа адлюстравана ў Законе аб перабудове школы, які прыняты нядаўна сесіяй Вярхоўнага Савета СССР. Намечаная Камуністычнай партыяй і Савецкім урадам перабудова народнай асветы мае на ўвазе ліквідаваць адарванасць школы ад жыцця, спалучыць навучанне і выхаванне падрастаючага пакалення з вытворчай працай. Рыхтаваць нашых дзяцей, нашу моладзь да жыцця, да актыўнага, дзейснага ўдзелу ў грамадскай працы народа — вось галоўная задача савецкай школы.

Было б глыбока памылковым лічыць, што мы хочам узмацніць прафесійнае навучанне школьнай моладзі за кошт некаторага зніжэння яе агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі. Не! Сярэдняя і вышэйшая адукацыя ў будучай сямігодцы будзе развівацца ў нас яшчэ больш бурнымі тэмпамі, чым дагэтуль. Лік вучняў у пачатковых, сямігадовых і сярэдніх школах дасягне ў 1965 годзе 38—40 мільёнаў чалавек, а нашы ВНУ выпусцяць за сем год 2 мільёны 300 тысяч спецыялістаў супраць 1 мільёна 700 тысяч, што падрыхтаваны ў папярэднім сямігоддзі. У Законе, прынятым Вярхоўным Саветам СССР, намечаны меры па строгаму ажыццяўленню ўсеагульнага навучання, паляпшэнню падрыхтоўкі педагагічных кадраў, умацаванню матэрыяльнай базы школ і г. д. Гутарка ідзе, такім чынам, аб далейшым шырокім развіцці народнай асветы ў краіне на аснове новых, больш мэтанакіраваных і сучасных форм.

Кантрольныя лічбы на будучае сямігоддзе выклікалі гарачы водгук у савецкіх працаўнікоў — гаспадароў і актыўных будаўнікоў сваёй краіны. І, як найбольш грандыёзны па свайму значэнню



водгук, прагучала нараджэнне цудоўнай, хутка падхопленай ва ўсіх краях савецкай зямлі ініцыятывы моладзі па арганізацыі брыгад камуністычнай працы. Члены гэтых брыгад пачынаюць новае, камуністычнае спаборніцтва, спаборніцтва, у якім паказчыкам будзе не толькі прадукцыйнасць, якасць, эканомія, але і вучоба, павышэнне кваліфікацыі, пашырэнне культурнага светапогляду. Вялікія мэты ўжо нараджаюць вялікую энергію ўсенароднага спаборніцтва, і гэтая энергія, стаўшы энергіяй мільёнаў, з'яўляецца лепшым залогам таго, што лічбы плана будуць ажыццёўлены.

Велічная праграма камуністычнага будаўніцтва ў СССР, намечаная партыяй, мае велізарнае міжнароднае значэнне. Гэта разумеюць ва ўсім свеце, і таму лічбы нашага росту нікога не пакінулі раўнадушным — ні сяброў, ні ворагаў. Савецкі сямігадовы план захапіў фантазію чалавецтва, асвятліўшы, як магутны пражэктар, перспектывы яго гістарычнага развіцця.

Сотні мільёнаў нашых саратнікаў па будаўніцтву новага свету — працоўныя краін народнай дэмакратыі, вітаючы сёння велічную праграму СССР, справядліва бачаць у ёй і сваю ўласную праграму. Адным жа з важнейшых вынікаў сямігодкі будзе далейшае ўмацаванне магутнасці сусветнай сацыялістычнай сістэмы. Нашы планы, наш імклівы рост радуюць народы краін Усходу, якія ірвуць ланцугі каланіяльнага прыгнёту. Працоўныя гэтых краін ведаюць, што выкананне савецкай сямігодкі пойдзе на карысць і ім, аблегчыць іх барацьбу за ліквідацыю рэшткаў імперыялістычнага рабства, за ўмацаванне сваёй нацыянальнай незалежнасці. Мільёны простых людзей ва ўсіх краінах вітаюць наш сямігадовы план, упэўненыя ў тым, што яго ажыццяўленне паставіць новыя непераадольныя перашкоды на шляху падпальшчыкаў вайны, умацуе пазіцыі міралюбівых сіл ва ўсім свеце.

Быў час, калі ворагі — імперыялісты ўсіх краін насміхаліся над планамі развіцця Савецкага Саюза, прарочылі правалы гэтых планаў. Цяпер настаді іншыя часы. Цяпер, калі савецкія камуністы-ленінцы разгарнулі свой сямігадовы план, тыя, каго ў капіталістычным свеце называюць капітанамі прамысловасці, аднесліся да яго ўжо сур'ёзна. Яны не імкнуцца высмейваць ці абвяргаць лічбы, а найбольш прадбачлівыя ўжо гавораць аб тым, што трэба зрабіць, каб не прайграць спаборніцтва.

...«У італьянскім горадзе Мілане,— расказвае вядомы савецкі пісьменнік Барыс Палявой,— мне аднойчы давялося быць на вялікім рабочым мітынгу, які праходзіў на плошчы перад варотамі буйнага завода. Са словамі прывітання да ўдзельнікаў мітынгу выступіў адзін з савецкіх дэлегатаў — рабочы, машынабудаўнік па прафесіі. Велізарная аўдыторыя прагна падхоплівала пераклад кожнай яго фразы аб Савецкім Саюзе і горача апладзіравала. Прысутнічаўшыя на мітынгу фашысты вырашылі паслабіць уражанне ад гэтага выступлення. Яны захацелі збіць выступаўшага правакацыйнымі пытаннямі.

— Вось вы, сіньёр, гаварылі аб свабодзе ў вашай краіне, а чаму ў вас толькі адна партыя? — выгукнулі з натоўпу.

Тысячы гарачых вачэй глядзелі на прамоўцу. Ён спакойна ўсміхнуўся:

— А нам больш і не трэба. Для чаго? — проста адказаў ён.

— А вось толькі на нашым заводзе ёсць ячэйкі некалькіх партый,— працягвалі дапытваць з натоўпу.

— Ну і што з гэтага, справа знаёмая. У царскай Расіі было таксама шмат партый. А працоўным ад гэтага жылося не лягчэй,— адказаў госць, і пераклад гэтай фразы экспансіўныя італьянцы сустрэлі смехам і дружнымі апладысментамі. А госць працягваў: — Цяпер у нас адна партыя, але гэта партыя сапраўды народная, яна выражае і абараняе інтарэсы працоўных, вядзе наш народ да камуніз-

ма. З гэтай партыяй мы ў агонь і ў ваду, нам з ёй нічога не страшна.

На гэты раз не толькі апладысменты, але і крыкі «Бравісімо!» скаланулі паветра. Мітынг доўга апладзіраваў. Госць стаяў, сарамліва ўсміхаючыся, напэўна нават і не разумеючы, чаму італьянскім рабочым так спадабаўся яго просты і бясхітрасны адказ.

— Камуністычная прапаганда! — злосна выгукнуў фашыст, згубіўшы цярпенне.

Грозны свіст з усіх бакоў быў яму адказам. У гэтым свістанні былі і гнеў, і ганьба, і пагроза.

Госць стаяў, узняўшы руку, паказваючы, што хоча дадаць некалькі слоў. Калі ўсе сціхлі, ён сказаў:

— Я толькі хацеў адказаць сіньёру, што сам жа я беспартыйны...

І пакуль па ўсёй плошчы, перакатваючыся, грымелі апладысменты і здравіцы, мы, савецкія людзі, што прысутнічалі на гэтым мітынгу, з незвычайнай сілай адчулі, якая цесная сувязь усіх савецкіх людзей, усяго нашага народа з вялікай Камуністычнай партыяй, якая з'яўляецца розумам, сумленнем і гонарам нашай эпохі».

---

Велічныя планы сямігодкі, планы, якія вядуць у светлае камуністычнае заўтра, зноў паказваюць усім нам, што няма для партыі нічога больш дарагога, больш святога, чым інтарэсы народа. Гэта яшчэ вышэй узнімае ў савецкіх людзей пачуццё гордасці за слаўную КПСС. І кожны з нас, звяртаючы ў гэтыя хвалюючыя і знамянальныя дні свой позірк да партыі, ад чыстага сэрца гаворыць:

— Я заўсёды з табой! Вядзі далей, родная!



Уладзімір Дубоўка нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Агароднікі Пастаўскага раёна Маладзечанскай вобласці.

З 1915 года ён жыў, працаваў і вучыўся ў Маскве.

У 1920 — 1921 гадах служыў у радах Чырвонай Арміі, а ў 1925 годзе скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава. Працаваў цэнтральным школьным інспектарам Наркамасветы РСФСР, рэдактарам беларускага Збору Законаў СССР, лектарам Камуністычнага ўніверсітэта народаў Захаду, рэдактарам часопіса «Беларускі піянер».

Вышлі з друку зборнікі вершаў Ул. Дубоўкі «Строма», «Трысцё», «Крэда», «Наля».

Цяпер паэт падрыхтаваў да выдання кнігу сваіх выбраных твораў і зборнік вершаваных народных казак.

**Уладзімір ДУБОЎКА**

# ПАХОДНАЯ ПЕСНЯ



Не згасне сонца
на небе сінім.
Ніяк, ніколі
паход не спынім.
Здабудзем шчасце
сабе і свету.
Мы падыходзім
да яснай мэты.

Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!

Сябруе моцна
з навукай праца,
не давядзецца
ім разлучацца.
Шляхі праложым
і цераз горы,
з крамлёўскіх вежаў
нам свецяць зоры.

Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!

Варожай сіле
найболей страшны

работы плённай
здабыткі нашы.
Іх павялічаць
хадой рытмічнай
брыгады працы
камуністычнай.

Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!

Дажджы нас мылі,
вятры сушылі,
а мы — да неба
ўзнімалі крылле.
Нас не прымусяць
цяпер спыніцца
ні гром з маланкай,
ні навальніцы!

Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!

Да камунізма!
Да перамогі!
Для нас адкрыты
шляхі-дарогі.
Здабудзем шчасце
сабе і свету.
Мы падыходзім
да яснай мэты.

Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!

Не згасне сонца
на небе сінім.
Ніяк, ніколі
паход не спынім.
Для нас адкрыты
шляхі-дарогі —
да камунізма,
да перамогі!

Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!



# МАЛАДОСЦЬ

**Ларысе Папугаевай**



Хіба мала ў табе хараства, пекнаты?
Не хапае пяшчоты на вейках?
І на постаць ад іншых не горшая ты,
І чаруеш прывабаю нейкай...

Дык чаму б і табе над красуняй Нявой
Не фарсіць закапроненай ножкай?
Не прайсціся паўз вуліцы пругкай хадой,
Не знайсці прыдатнейшай дарожкі?

Калі покліч над нашай айчынай пайшоў:
«Мы свае адшукаем алмазы», —
На спартыўны гарнітур змяніла ты шоўк
І ў паход узнялася адразу.

Не сатлее і модная сукня твая,
Дачакае цябе з вандравання,
І набудзе красы удвая, утрая,
На тваім апынуўшыся стане...

Пра капрон і пра лёсы сукенкі тваёй
Я згадаў, каб пабачыць усмешку:
Пасмяешся ты шчыра з праблемы такой,
Калі ўспомніш таёжныя сцежкі...

Я іх ведаю сам, бо не мала гадоў
Прасякаў для такіх вось харошых...
І таксама не згадваў ні воўну, ні шоўк,
І таксама без іх не пагоршаў...

Розум ясны вышэй драбязы заўсягды,
Не шукае і лёгкага хлеба...
Пракладаюць шукальнікі смела сляды
Цераз пусткі, прадонні і неба.

Ты пайшла... Калі шчыра казаць, дык куды? —
У тайгу... за тайгу... цераз горы...
Там і летам пад мохам не таюць ільды,
Вецер толькі з тайгою гаворыць...

І гаворыць з тайгой, і шуміць ля цябе,
Рассыпае ўсялякія жахі.
Ён аблічча сячэ, ён за косы скубе,
Аж каменне кранае з размаху...

І адкуль непахісная моц у цябе?
І трываласць адкуль узялася?
Гэта ж гнус, як шалёны, у вочы ўсё б'е,
Недабіты таёжны уласнік...

Праз пакуту, праз вецер, праз багны балот,
Адпачынак шукаючы ў дыме, —
Цераз тысячы розных прайшла перашкод
У нязломным юнацкім уздыме.

Кімберліт і піропы схавала тайга,
Абамкнула замкамі скарбніцу.
Ды якая ахова на ёй ні лягла б —
Ты прымусіш яе адчыніцца.

Ты ўстаеш, ты ідзеш, нямаведама як, —
Праз вятры, праз пакуту, завалы...
А дайшла, а знайшла, і, як першы маяк,
Як дарунак — Зарніца паўстала.

І не толькі маяк для алмазных крыніц,
Кімберлітавай трубкі адзнака, —
А для ўсіх, хто ў шуканнях няспынных гарыць,
Перашкод не баіцца ніякіх.

Яны пройдуць — такія — нязломнай хадой
Цераз тундры, тайгу, праз палессі,
Яны пройдуць, агорнутыя пекнатой,
Як найлепшая самая песня.

Хоць не кожны з іх знойдзе сапраўдны алмаз,
Але будуць знаходкі ільсніцца!
І згадаюць цябе, тваю ўпартасць не раз:
Ты, Ларыса, таксама Зарніца!

# НАМ НЕКАЛІ СА СМУТКАМ ЗНАЦЦА



І Волгу бачыў я і Дон,
багата рэк сібірскіх бачыў.
Такі мой лёс: з юнацкіх дзён
ён вандраванні мне прызначыў.
Вадзіў праз горныя хрыбты,
цераз Байкал і за Байкалам.
А хараства, а пекнаты —



аж цераз самы край бывала.
Жыві хоць лішніх сто гадоў —
красу праславіць немагчыма.
Патрэбна сотня мастакоў,
ды ўсе каб з яснымі вачыма...
Спявалі песню мне вятры,
спявалі песню навальніцы.
А казкі з-пад крутой гары
плылі празрыстаю крыніцай...
У песнях мне шумеў чарот
пра нарачанскія азёры.
У казках казачны народ
вучыў пераадольваць гора...
Які б цяжар ні быў калі,
на сэрцы гарката якая, —
ад гэтых песень і быліц
яны крышыліся, знікалі...
З грузінам жыў, як родны брат,
і сябраваў з сібіракамі.
Таму сяброў усюды шмат,
а ўслед — ніхто не кіне камень.
Не вырываліся з рукі
а ні сякера, ні фуганак.
І з кельняй браў размах такі,
каб не было і з ёй заганы...
Без працы я не быў нідзе,
а праца нам і творыць долю.
Ні на зямлі, ні на вадзе
не сумаваў я аніколі.
Бо ўсюды, скрозь радзімы край,
варштаты ўсюды ёсць для працы.
Сумуе вораг наш няхай, —
нам некалі са смуткам знацца!



Аляксандр Капусцін нарадзіўся ў 1924 годзе на Жлобіншчыне. У час Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у партызанскім руху, быў на фронце. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені і медалем «За перамогу над Германіяй».

Пасля вайны А. Капусцін завочна закончыў Мінскую юрыдычную школу і гістарычны факультэт Гомельскага настаўніцкага інстытута. Зараз працуе на пасадзе народнага суддзі горада Рэчыцы Гомельскай вобласці. Друкавацца пачаў у 1950 годзе. Выступаў з апавяданнямі і нарысамі ў газетах і часопісах. Аповесць «Крутыя павароты» — першы буйны твор аўтара.

**Аляксандр КАПУСЦІН**

# КРУТЫЯ ПАВАРОТЫ

**Аповесць**

Мал. В. Ягорава.

## 1

Завіруха, што лютавала цэлы тыдзень, сціхла. Паўночны вецер цяпер ледзь дыхаў. Затое мацнеў мароз. Ён забіраўся ў рукавы паліто, апякаў холадам твар, шчыпаў вушы.

Вараны бег роўнай рыссю. Вазок падскокваў па гурбах, рыпеў паламі па рыхлым снезе. Паабапал дарогі пад блеклым святлом поўнага месяца і мігатлівых зор іскрылася беллю заснежанае поле. З-пад капытоў рысака ляцелі камякі снегу і стукаліся аб передок вазка. Часам яны заляталі ў вазок, і тады Сямён Пятровіч паварочваўся бокам, хаваючы твар у каўнер.

Конюх Мацвей Бяляк ужо некалькі разоў хацеў пачаць гаворку са сваім суседам, але Сямён Пятровіч неахвотна кідаў якую-небудзь няпэўную фразу і змаўкаў. «От, маўчун, — нездаволена думаў Бяляк, — быццам анямеў. І аб чым разважае? Мо' кару каму-небудзь падбірае, каб заўтра толькі зачытаць?»

Не здагадваўся Мацвей, што думкі суддзі былі зусім пра іншае. А калі б здагадаўся — здзівіўся б: пра жонку пара думаць чалавеку.

Дык хто ж яна, тая дзяўчына, пра якую цяпер думаў суддзя?



Перад пачаткам сходу, пакуль збіраліся ў клуб калгаснікі, Сямён Пятровіч зайшоў у бібліятэку, што размяшчалася ў суседнім пакоі. Там было поўна моладзі. І вось гэты гаваркі вусач, што цяпер усё дакучае яму сваімі размовамі, сядзеў за сталом сярод хлопцаў і дзяўчат. У пакоі было ціха. Але вось Мацвей штосьці сказаў, і ўсе зарагаталі. Сямён Пятровіч з парога не разабраў ягоных слоў. І што конюх сказаў такое смешнае?

— Ну, ці ж Колас, га? — заўважыла невысокая круглатварая дзяўчына. Гаварыла яна з нейкім дакорам у голасе, але вочы яе так і прамяніліся смехам.

— Якуб Колас, — упарта стаяў на сваім Мацвей Бяляк. — Колькі не смейцеся, а з панталыку мяне ўсёроўна збіць не ўдасца. Я ж гэтую кнігу чытаў. Кравец — гэта... Ну, як вам сказаць... Ён жыў у адной з тых дзвюх хатак... Э-эт, спрытныя якія з бацькі смяяцца,— і Мацвей, прыжмурыўшыся, пагразіў дзяўчыне пальцам. — І як жа тая кніга называецца? Ага, успомніў: «Дрыгва».

У пакоі зноў падняўся шум і смех.

— А пра дзеда Талаша ў якой кнізе напісана?— спытала дзяўчына.

Мацвей, сумеўшыся, абвёў усіх позіркам і прамовіў у роздуме:

— Выходзіць, пераблытаў я. І як жа тая кніжка завецца?

— Мо' «Трэцяе пакаленне»? — падказаў хтосьці з хлопцаў.

— Во! — аж ускрыкнуў узрадаваны Мацвей і разам з усімі закаціўся рогатам. Сямён Пятровіч таксама засмяяўся, але адразу ж спахапіўся, змоўк. Ну, як можна! Ён жа тут — чужы чалавек... Не паспеў суддзя прыдаць свайму твару сур'ёзны выгляд, як дзяўчына звярнулася да яго:

— Чаго ж вы там стаіце? Падыходзьце бліжэй, — запрасіла яна. Некалькі пар цікаўных вачэй пазіралі на Сямёна Пятровіча. Што за чалавек, адкуль ён узяўся? А дзяўчына зноў пачала:

— Будзе вечным ленінізм...
Шлях у даль, у камунізм...
Паглядзіце навакола,
Колькі раці-камсамола, —
Гэта Леніна сыны.

І зноў наступіла маўчанне. На Сямёна Пятровіча адразу забыліся, усе засяроджана думалі, пазіраючы то адзін на аднаго, то на перапоўненыя кнігамі зашклёныя шафы, быццам спадзеючыся там знайсці адказ на пытанне дзяўчыны. Суддзя зразумеў нарэшце, што ў гэтай вясёлай, шумлівай грамадзе разгадвалі літаратурны красворд.

— Паўлюк Трус, верш «Ленін», — упэўнена адказаў хлопец, насупраць якога сеў Сямён Пятровіч. Хлопец быў у вайсковым шынялі без пагонаў. Суддзю здалося, што ён неяк асабліва ўважліва пазірае на дзяўчыну. Ды і яна калі-ні-калі спыняе на ім свой позірк.

— Я нават не чуў пра такога,— пацiснуў плячыма Мацвей Бяляк.— Раскажы, Вера, пра яго.

Папрасілі і другія, і дзяўчына пачала расказваць. «Які ў яе меладычны голас, — падумаў Сямён Пятровіч. — Гаворыць, быццам спявае».

Твар дзяўчыны злёгку паружавеў і свяціўся натхнёнасцю. Яна шчыра расказвала сваім слухачам пра паэта. Расказаўшы пра яго жыццёвы шлях, пачала дэкламаваць вершы:

—...Добры дзень, аснежныя прасторы,
Добры дзень, сталіца хараства!

Скора ў бляску вечара, ой, скора
Празвініць на вуліцах трамвай.
І тады я стану пад гарою,
Каб пазбыцца смутку і журбы,
Буду слухаць песні Асінстрою,
Захаплюся музыкай турбін...

У інтанацыі, у кожным прыдыху, з якім вымаўлялася слова, была вялікая шчырасць. Сінія вочы дзяўчыны свяціліся такой радасцю, што Сямёну Пятровічу здалося, — у іх ён бачыць водбліск таго святла, пра якое спяваў у сваіх творах таленавіты паэт.

Яна ж, Вера, у шарсцяной цёмна-сіняй сукенцы, якая шчыльна аблягала яе стан, стаяла, крыху падаўшыся ўперад, з горда ўзнятай галавой. Сямён Пятровіч сачыў за Верай і раптам недзе ў самай глыбіні душы адчуў нейкую слабую, неасвядомленую ўзрушанасць. А калі дзяўчына скончыла, пашкадаваў: чаму так хутка?

У пакоі на нейкі час стала ціха. Усе маўчалі, быццам прыслухоўваліся яшчэ да прыгожага звонкага голасу, што даносіў да сэрца тую чароўную паэзію маладосці.

— У цябе ёсць яго кніжка?— спытаў у бібліятэкаркі Мацвей. Вера моўчкі пакапалася ў шафе, дастала невялікую ў сіняй вокладцы кнігу і падала яе конюху. У гэты час старшыня калгаса паведаміў, што народ сабраўся і што можна пачынаць сход.

Пасля сходу моладзь засталася на танцы. Прыбралі крэслы. Баяніст зайграў вальс, і з усіх бакоў на круг пачалі выходзіць пары.

Сямён Пятровіч са старшынёй калгаса таксама затрымаліся ў клубе. Старшыня даваў нейкую гаспадарчую параду маладому брыгадзіру, а Сямён Пятровіч назіраў за кругам, і яму самому раптам захацелася патанцаваць. Калісьці на вечарах ён не стаяў вось так, як цяпер, у кутку. Але ж ён тады не быў суддзёй!

Шыракаплечы хлопец, што назваў за сталом імя Паўлюка Труса, запрасіў на вальс дзяўчыну, якая сядзела побач з бібліятэкаркай. Сямён Пятровіч, зірнуўшы ў той бок, нечакана сустрэўся вачыма з Верай. Яму здалося, што дзяўчына гуллівым позіркам запытала ў яго: «Танцаваць не жадаеце?» Нейкі момант у думках ён пераконваў сябе, што менавіта пра гэта і гаварыў позірк дзяўчыны. Потым, паправіўшы пінжак, Сямён Пятровіч рашуча падышоў да яе і, як бы нечага саромячыся, спытаў:

— Патанцаваць не жадаеце?

Вера ўсміхнулася яму вачыма, пакратала на плячах туга заплеценыя каштанавыя косы і паклала руку яму на плячо. Абое лёгка закружыліся ў плаўным танцы.

Сямён Пятровіч як бы не заўважыў спачатку, што баяніст скончыў граць. Толькі, калі ўжо ўсе разышліся з круга, ён спыніўся, убачыўшы зусім блізка перад сабою ўгрэты Верын твар і сінія-сінія, як часам бывае веснавое неба, вочы.

... Вось пра што ў тую марозную ноч пад скрып палазоў успамінаў суддзя. І не толькі Мацвей Бяляк, а і яшчэ адзін чалавек, уведаўшы гэтыя думкі, сурова насупіў бы выпуклы маршчыністы лоб і сказаў бы дакорліва: «Калі б ты, хлопча, так кожную судовую справу абдумваў, дык, напэўна, менш памыляўся б. Вось так».

Месяц, здаецца, узняўся вышэй і свяціў ярчэй. Вараны ўпарта махаў галавою, прыбаўляючы кроку. Мацвей прыціснуў нагою лейцы, доўга



круціў адубелымі, непаслухмянымі пальцамі цыгарку, потым глыбока зацягнуўся дымам і нейкім скрыпучым, мабыць, ад холаду, галасам загаварыў:

— Да Марцінавага логу пад'язджаем.

Суддзя маўчаў. А Бяляк, ужо не зважаючы на такую абыякавасць свайго суседа, прадаўжаў:

— Калісь, я хлапчуком яшчэ быў тады, здарыўся ў нашай вёсцы жудасны выпадак. Марцін той асілак быў. Прыгожы, стройны... Служыў парабкам у вясковага кулака Турмаза. Любілі вяскоўцы Марціна: вясёлы быў хлопец і душу меў. А мы, хлапчукі, дык так і бегалі за ім чарадой. Бывала, у вясновы ціхі вечар на прызбе аблепім яго з усіх бакоў і сядзім, як анямелыя. Старэйшыя хлопцы толькі цыгаркамі бліскаюць. А ён расказвае казкі. Заседжваліся да пеўняў. А то другі раз песні спявае. І тады яму падцягвалі ўсе: хто ўмеў і хто не ўмеў. Цудоўны быў Марцін! І вось аднойчы ўлетку Марцін знік з вёскі. Турмаз хваляваўся: гарачая пара, а парабка нібы чэрці схапілі. А праз некалькі дзён вось у гэтым лажку пад гнілым мосцікам знайшоў я знявечанага Марціна. Пасвіў каня і знайшоў. Ніколі я пад той мосцік не лазіў, а то нешта раптам пацягнула мяне туды. Цела Марціна было прыкапана, і толькі стаптаны знаёмы чаравік тырчэў з зямлі. Страшная навіна маланкай абляцела наваколле. У лажок збегліся людзі, прыехалі паліцэйскія чыноўнікі і пракурор.

Мацвей, раз-по-раз зацягваючыся дымам, змоўк, і Сямён Пятровіч нецярпліва папрасіў:

— Ну, а далей?

Бяляк кінуў на снег цыгарку і прадаўжаў:

— На месцы здарэння знайшлі фінскі нож з чорнай адмыслова вытачанай дубовай ручкай. Тою фінкай старэйшы Турмазаў сын не раз круціў перад носам у вясковых хлопцаў. І тады многія прыгадалі, што незадоўга да забойства ўладальнік фінкі і яго малодшы брат п'яныя пагражалі Марціну: калі ён не ўступіць дзяўчыну, якую кахаў, малодшаму Турмазу, то не жыць яму на свеце. Абое Турмазавы сыны былі адразу ж арыштаваны. Але праз колькі дзён яны зноў разгульвалі па вёсцы, а ў Турмазавым статку вяскоўцы недалічыліся дзвюх лепшых кароў. Перад судом малодшы Турмаз прыходзіў да нас і паабяцаў маці пяць пудоў пшаніцы, каб толькі я сказаў на судзе, што фінку тую ўкраў у яго я і, пасвячы каня, згубіў потым пад мастом. Доўга ўпрошваў, а потым і прыгразіў: «У мяне, кажа, і на цябе знойдзецца фінка». На судзе я ўсё гэта выклаў, але абаіх Турмазаў усёадно апраўдалі. Вось якія суддзі тады былі...

Сямён Пятровіч раптам успомніў Мацвеевы словы там, на сходзе, дзе ён, суддзя, рабіў справаздачу аб рабоце суда. Мацвей не выступаў з прамовай, а толькі запытаў, чаму суддзя ніколі раней не рабіў такіх справаздач у іхнім калгасе. Сямён Пятровіч пачуў у ягонай рэпліцы папрок за тое, што ён, суддзя, яшчэ далекавата ад людзей...

— Вось з таго часу гэты лажок і называецца Марцінавым,— памаўчаўшы, закончыў сваё апавяданне Мацвей, тузануў лейцамі, і зноў паляцелі ў вазок камякі снегу.

## 2

Толькі што суд скончыў разглядаць справу па абвінавачванню Марціна Куксы ў кражы грошай, толькі што зачыніліся дзверы кабінета за апошнім наведвальнікам, як у суседнім пакоі канцылярыі пачу-

ліся знаёмыя цяжкія крокі. Дзверы насцеж адчыніліся, і пракурор, яшчэ не пераступіўшы парогу, накінуўся на Сямёна Пятровіча:

— Дык хто гэта даў табе права злачынцу з турмы выпускаць?

— А хто вам даў права на мяне крычаць?

Нейкі момант яны стаялі моўчкі, упіўшыся позіркамі адзін у аднаго. Потым пракурор неяк рэзка махнуў рукою і палез у кішэню за папяросамі. Сямён Пятровіч узяў са стала свой партабак, раскрыў яго і працягнуў пракурору. Той узяў папяросу, прыкурыў. Потым загаварыў ужо спакойна:

— Ну як можна было такога прайдоху выпускаць на волю?

— Ну, і за такую ж кражу нельга ў турму садзіць...

— За такую кражу, кажаш? А хіба яна ў яго першая?

У невялікім кабінеце суддзі стаяла духата. Сямён Пятровіч падышоў да акна, адчыніў фортачку. Там, на двары, гайдалася пабеленая інеем галінка ліпы. Яна нібы прасілася ва ўтульны, цёплы пакой, каб адтаяць і сваім пахам напомніць тую вясну, калі Сямён Пятровіч першы раз прышоў у гэты кабінет. Цудоўная тады была вясна: самастойная работа пасля шумлівых год студэнцтва, новыя людзі, новы клопат... Спачатку і пракурор на яго не крычаў, а толькі, відаць, па праву старэйшага, заўсёды настаўляў: «Слухай, хлопча, Паўла Рыгоравіча, вучыся. Жыццёвы шлях — гэта не асфальтавая шаша. На ім сустракаюцца і пяскі, і грэблі, і крутыя павароты. Бывае, загразнеш дзе-небудзь ці пад адхон звалішся». А цяпер бач як накінуўся! Напэўна таму, што Сямён Пятровіч яго не паслухаўся. А хіба ж можна было гэтага Куксу пазбаўляць волі? Правільна, раней яго судзілі за кражы. Але ж за адно і тое ж злачынства па некалькі разоў не караюць. А за шаснаццаць рублёў, якія ён украў цяпер, дастаткова і прымусовых работ. Калі гаварыць шчыра, дык і ў Сямёна Пятровіча не ляжала душа да гэтага чалавека. Добрая ён цаца... «Тыя грошы, кажа, так ляжалі, што іх бы кожны ўкраў». Ну, хіба гэта не нахабства? Але ж суддзя не павінен да ацэнкі зробленага злачынства адносіцца суб'ектыўна... Не, справу Куксы суд рашыў правільна. А калі пракурор не згодзен...

— Ну, чаго крычаць, Павел Рыгоравіч? Не згодны з прыгаворам — напішыце пратэст. Абласны суд нас рассудзіць.

— Пратэст будзе, — кінуў Павел Рыгоравіч, — гэта само сабой. А табе, Сямён Пятровіч, усё ж раю слухаць старэйшых,— і, наморшчыўшы выпуклы лоб, выйшаў.

На ліпавай галінцы аднекуль з'явіўся чырвонагруды снягір. Ён неяк зазыўна пацікаў, і тады да яго прыляцеў другі, сеўшы побач. Іней дробнымі іскрынкамі пасыпаўся з галінкі; яна захісталася, і суддзя чамусьці раптам убачыў перад сабой лагодныя сінія вочы Веры.

«Мо' на сходзе яе сустрэну?» — падумаў ён. Днямі яму выпадала быць на адкрытым партыйным сходзе ў калгасе «Перамога», дзе нядаўна рабіў справаздачу.

## 3

Цёпла было ў невялікім, чыстым пакойчыку. Двое хлапчукоў, схіліўшыся адзін да аднаго бялявымі галоўкамі, разглядвалі «Мурзілку» і ахвотна смяяліся. Тамара сядзела побач на канапе, вышывала мужу кашулю і час-ад-часу пазірала на іх. Раптам яна ўспомніла самую звычайную рэч, неабходную гаспадыні: на вячэру можа не хапіць хлеба.



— Вы пагуляйце, дзеткі, а я хутка вярнуся. Толькі да таты схаджу, — Тамара пачала апранацца.

— І тату прывядзі, і тату прывядзі... — наперабой зашчабяталі хлапчукі.

Як толькі Тамара пераступіла парог крамы, яна адразу пачула злосны мужаў голас:

— А чаго было надакучаць? Я ж не выжыў з розуму. Што абяцаў — памятаю.

— Надакучаць больш не буду. Падай мне, брат, вось гэтую кнігу, — і Мацвей Бяляк кіўком галавы паказаў на тоўсты сшытак, што вісеў на цвічку.

Андрэй перасмыкнуў плячыма і са злосцю кінуў сшытак на прылавак. Мацвей, не спяшаючыся, пачаў пісаць. А скончыўшы, зазначыў:

— Гэтая скарга, брат, за тое, што хлусіш...

Неяк раней Мацвей папрасіў Андрэя, каб той прывёз яму радыёлу. Крамнік паабяцаў, толькі намякнуў, каб конюх авансам напісаў яму за гэта падзяку. Мацвей узяў ужо быў ручку, але перадумаў.

— Не, тады і напішу, калі прывязеш.

З таго часу Бяляк пачаў амаль кожны дзень заходзіць у краму. Прыдзе — а радыёлы няма. Тым часам дачуўся ён, што калі-ні-калі Андрэй адпускае сякія-такія рэчы з-пад прылаўка. Сказаў пра гэта яму, але той толькі хітра і насмешліва прыжмурыўся:

— Абяцанага, дзядзька Мацвей, тры гады чакаюць.

Так і пайшоў Мацвей з крамы зноў з пустымі рукамі. Увечары таго дня, ідучы дадому, Андрэй пачуў яшчэ здалёк, што з Мацвеевай хаты даносяцца вясёлыя прыпеўкі Варонежскага хору. Аказваецца, Бяляк у той жа дзень з калгаснай машынай пад'ехаў у горад і купіў радыёлу. Няхай жа ведае гэты хлус Андрэй, што ён, калгасны конюх Мацвей Бяляк, абыйдзецца і без яго ласкі.

Можа б на гэтым усё і скончылася, каб Мацвей, зайшоўшы выпадкова ў краму, сам не пераканаўся, што Андрэй гандлюе з-пад прылаўка. Вось тады ён і патрабаваў у крамніка кнігу скаргаў.

Усяго гэтага Тамара, вядома, не ведала, і цяпер, нічога не разумеючы, пaглядала то на мужа, то на Мацвея.

— Добра, я гэтага не забуду, — пагрозліва працадзіў Андрэй праз зубы. А той яму спакойна:

— Ну чаго фанабэрышся, Андрэй. Што заслужыў, тое і атрымлівай.

— Як можна, Андруша, грубіяніць старэйшаму чалавеку? — папракнула мужа Тамара, калі Мацвей выйшаў.

— Цябе яшчэ тут не хапала!— на Андрэевым твары з'явіліся барвовыя плямы. Тамара нічога не адказала, толькі вусны яе задрыжалі і скрывіліся ў тужлівай усмешцы. Купіўшы хлеба, яна хуценька выйшла з магазіна.

... Павячэраўшы, Андрэй доўга сядзеў за сталом у задуменні, падпёршы галаву рукою. Затым раптам злосна плюнуў на падлогу і пачаў:

— От напаскудзіў той стары пень! Каб не гэтая скарга, прэмію б атрымаў. План жа перавыканаў!..

— Дык таму ты і зажурыўся так? Кінь, Андруша, абыйдземся і без гэтай прэміі. Што ў нас ужо нястача такая, ці што?

— Бач, багатырка знайшлася. Ці табе лішняя капейка муляла б? — Андрэй устаў і прайшоўся па пакоі. — Гэта за адзін раз столькі спаль-

ваеш? — ён кіўком галавы паказаў на бярэмак дроў, што ляжалі каля печы.

— А што? Дроў жа хопіць...

— А калі і застанецца, хіба ад гэтага будзе горш? — буркнуў Андрэй.

У пакоі, не зважаючы на гамонку дарослых, шумліва, бестурботна забаўляліся дзеці, а на двары працяжна, глуха скавытаў вецер.

## 4

Стары абшарпаны «газік», чмыхаючы маторам, нервова падскокваў па вузлаватых карэннях старых бяроз, што абступалі гарбаты шлях з абодвух бакоў, а ў лагчынах з разлёту ўрэзваўся ў лужыны, раскідваючы далёка ў бакі брудныя пырскі. Аднекуль, ні то з-пад калёс, ні то з-пад сядзення, чуўся грукат нейкага непрыладжанага як след жалеззя. Ці то ад таго грукату ці мо' ад сваіх непрыемных думак пракурор Павел Рыгоравіч Самусь крывіўся, але прасіў шафёра:

— Гані, брат...

Падруліўшы да заспенскай крамы, «газік» гучна «стрэліў» і заглух. Каля крамы мітусіліся людзі, работнікі міліцыі, быў тут і сам Андрэй Арэшка.

Малады лейтэнант прапанаваў пачаць агляд з разбітага акна і паімкнуўся быў нават пайсці туды, але Павел Рыгоравіч крануў яго за руку і паказаў вачыма кудысьці на дол каля падмурка.

— Бачыш?

Лейтэнант прыглядзеўся і сумеўся.

— Вінават, таварыш пракурор, не заўважыў.

Павел Рыгоравіч асцярожна падышоў да падмурка і, прысеўшы, доўга і ўважліва разглядаў след абцаса на сухім пяску. Ззаду, з правага боку, след меў невялічкую выемку паўкруглай формы. Пашукаўшы позіркам наўкола і нічога больш не знайшоўшы, пракурор зафатаграфаваў след, затым акуратна зняў з яго гіпсавы злепак і паклаў у партфель. Толькі пасля гэтага пачалі аглядаць акно.

На адным абломку шкла, што тырчэў у раме, пракурор заўважыў адбіткі пальцаў. Доўга аглядалі дзверы, замкі, увесь будынак крамы. Але нічога больш так і не знайшлі. Склаўшы пратакол агляду, Павел Рыгоравіч доўга распытваў Андрэя, ці не падазрае ён каго-небудзь у кражы. Той нічога не мог сказаць, але прыпомніў, што ўчора вечарам у краму заглянуў Кукса, нечага пакруціўся каля прылаўка і, ні слова не сказаўшы, выйшаў.

Позна вяртаўся Павел Рыгоравіч дадому. Ад чаднага дыму, што пранікаў праз шчыліны самаробнай кабіны «газіка», ад стомленасці, ад цяжкіх неадступных думак зусім разбалелася галава. Хацеў бы цяпер Павел Рыгоравіч пасядзець, ні аб чым не думаючы, адпачыць ад гэтых штодзённых клопатаў. Дык жа не выпадае. Ці ж у пракурора можа быць такая мінута, каб ён аб чым-небудзь не турбаваўся, аб нечым не ламаў галавы? Вось хаця б сёння... Цэлы дзень біўся, як рыба аб лёд, ды хіба ж гэта ўжо ўсё? Колькі яшчэ над гэтай справай прыдзецца пасядзець... А пападзе ў тыя хлапечыя рукі — хто ведае, ці ўтрымаюць яны яе і як павядуць...

«Газік», ускочыўшы ў нейкую яму, зарыпеў дзверцамі кабіны, ажно





застагнаў. Думкі пракурора, нібы ад гэтага штуршка, раптам пераскочылі на другое: «Той цяпер, напэўна, ужо трэці сон бачыць. А што яму...»

Святло фар выхапіла з цемры на абочыне дарогі дзве нахіленыя адна да адной тонкія бярозкі, а паміж імі — дзве чалавечыя постаці; мужчынскую і жаночую. На момант мужчына павярнуў твар, і Павел Рыгоравіч пазнаў яго: ну як жа, суддзя... Стаіць, уцягнуўшы галаву ў плечы, і засланяе сабою дзяўчыну. Дык вось ён дзе, вось чым займаецца... Тут дыхнуць няма калі, а ў яго час ёсць і на гэта...

Думкі чапляліся адна за адну, і Павел Рыгоравіч ужо думаў пра Куксу, пра тое, што нарсуд дарэмна выпусціў яго тады з турмы. Праўда, абласны суд не задаволіў яго, пракурораў, пратэст і не адмяніў прыгавор нарсуда, але ж ён усёроўна стаіць на сваім. Гэта не ўпартасць, не. У гэтым яго пераконвае шмат што. Прозвішча Куксы ўпамінаецца разам з кражай у заспенскай краме. А можа б злачынства і не было, каб Кукса не разгульваў на волі? Не давяраў Павел Рыгоравіч злачынцам-рэцыдывістам, адносіўся да іх насцярожана і ў некаторых выпадках лічыў за лепшае не забываць ім старых грахоў. Не адзін год працаваў ён у пракуратуры, і такія тыпы, як Кукса, каму-каму, а яму добра вядомы...

Пракурорам Павел Рыгоравіч Самусь стаў пасля вайны. Калісьці ў шаснаццаць год ён быў цесляром. Пасля доўга працаваў старшынёй заўкома. У вайну партызаніў, камандаваў ротай. Добра памятае Павел Рыгоравіч тую хмарную бязветраную раніцу, калі ён вярнуўся ў родны гарадок. Туман ляніва рассейваўся пад касымі промнямі сонца, і паступова з яго шэрай дымчатай масы сталі вырысоўвацца ўцалелыя дамы. Дзе-ні-дзе яшчэ дыміліся галавешкі, не затушаныя дробным восеньскім дажджом, што ішоў з вечара. Павел Рыгоравіч сеў на кучу цэглы на папялішчы роднага дома... Сонца ўжо было амаль на поўдні, а ён усё сядзеў згорбіўшыся і апусціўшы вочы долу. Пазіраў на пачарнелыя

галавешкі, а бачыў змучаныя твары жонкі і сына, якіх расстралялі фашысты. Сябры-партызаны, сустрэўшы яго пад вечар у райкоме партыі, заўважылі, як галава Паўла Рыгоравіча, зрэдку кранутая сівізной за гады партызаншчыны, за адзін дзень зусім пабялела.

Спачатку Самуся часова прызначылі пракурорам. Гэтае «часова» цягнулася каля двух год. За тыя два гады ён, як кажуць, «набіў руку», і яго зацвердзілі пракурорам.

Гэта было вось ужо дзесяць год назад.

У той жа вечар, як толькі Павел Рыгоравіч вярнуўся з Заспы, у Куксы быў зроблены вобыск. Знайшлі ў яго і падношаныя салдацкія боты, на абцасе аднаго з якіх справа цялёпкалася збітая падкоўка. Кукса, згорблены чалавек сярэдніх год, моўчкі пазіраў то на пракурора, то на работнікаў міліцыі, час-ад-часу неяк заўзята цёр размаляваныя татуіроўкай рукі, быццам яны ў яго вельмі рассвярбеліся. У такія мінуты яго глыбокія косыя вочы злосна блішчэлі На допыце Кукса заявіў, што ў Заспе ён ніколі не быў і не ведае нават, дзе там тая крама. Гэтае ж самае ён паўтарыў і на вочнай стаўцы з Андрэем Арэшкам. Але крамнік, акінуўшы яго злосным позіркам, нібы адрэзаў:

— Маніць. Быў.

Другіх сведак, хто б бачыў Куксу ў краме, не знайшлося. «Цяпер слова за экспертызай», — рашыў Павел Рыгоравіч.

5

То неяк таямніча сцішана, то ўзбуджана шэпчуцца маладым лісцем пад майскім ветрам дзве бярозкі. Вось тут, пры дарозе, нямала пабачылі яны людзей, нямала пачулі разважлівых размоў аб жыцці. Дык аб чым жа цяпер шэпчуць яны? Ці не ў вечнай шчырасці клянуцца адна другой?..

Так здавалася ім, закаханым, у тыя хвіліны, калі яны моўчкі прыслухоўваліся да голасу сэрцаў, калі давяралі адно другому свае запаветныя думы. Але хто ж яны, тыя закаханыя? Калі б пракурору, як тады, зноў давялося праязджаць паўз гэтыя бярозкі, ён бы яшчэ раз убачыў, як той самы хлопец, наставіўшы каўнер плашча, засланяе сабою дзяўчыну. Але чаго таму пракурору ездзіць тут у такі позні час? Ён жа, сам ведучы следства, ужо закончыў справу заспенскай крамы.

Пустэльна і ціха на старым шляху. Нішто не перашкаджае закаханым.

Каханне! Якое гэта светлае, велічнае пачуццё!..

Сямён Пятровіч і сам не заўважыў, як яно закралася да яго ў душу. Пасля першай сустрэчы ў бібліятэцы з Верай ён калі-ні-калі лавіў сябе на тым, што думае пра яе. Толькі не прыдаваў гэтаму вялікага значэння. Успомніць чалавека, які нечым табе спадабаўся, — звычайная з'ява. А Вера запомнілася яму такою, якою была тады, пасля танцаў — узнёслаю, з іскрамі-смяшынкамі ў вачах.

Другі раз яны сустрэліся на калгасным партыйным сходзе. Сямён Пятровіч гаварыў тады аб правільнай расстаноўцы кадраў і ўсё кідаў крадком позіркі на Веру.

Ці то зусім выпадкова ці мо' нават наўмысна, Сямён Пятровіч, выходзячы пасля сходу з калгаснай канторы, крануў Веру за локаць.

На вуліцы ім у твар ударыў густы струмень цёплага ветру, ірвануў у дзяўчыны з галавы хусціну.



— Гэта вы нам, Сямён Пятровіч, вецер прынеслі. Учора яго не было, — усміхнулася Вера, папраўляючы косы.

Пад раскідзістым вязам, што нахіліўся над ганкам канторы, яны заўважылі чалавека. Бліснуў агеньчык цыгаркі, і Кузняцоў пазнаў яго. То быў Рыгор, той самы дэмабілізаваны вайсковец, які, разгадваючы тады красворд, першы назваў Паўлюка Труса. Некалькі гадзін таму назад, перад пачаткам сходу, Сямён Пятровіч пазнаёміўся з ім.

Юнак да прызыву ў армію скончыў механічнае аддзяленне сельскагаспадарчага тэхнікума і цяпер працаваў брыгадзірам трактарнай брыгады.

«Мо' кагосьці чакае, каб пайсці разам»,— падумалася Кузняцову, калі яны міналі хлопца.

Кузняцоў праводзіў Веру дахаты. Паварочваючы ў завулак, дзе жыла дзяўчына, ён зноў убачыў на другім баку вуліцы адзінокую постаць. Чалавек бесперапынна бліскаў цыгаркай. А вяртаючыся назад, у кантору, дзе быў абсталяван невялікі пакойчык для прыезджых, Сямён Пятровіч успомніў чамусьці адзін інстытуцкі вечар і сваю ранейшую сяброўку. Тая таксама яму падабалася. Але пачуццё да яе было не такім цёплым, як да гэтай бібліятэкаркі. І чаму так? Вера, як і тая студэнтка, не была асабліва прыгожай — звычайная дзяўчына. Але ж ёсць у ёй нешта такое, што вабіць, прыцягвае.

Сямён Пятровіч быў, як кажуць, не першай маладосці, і таму каханне яго, крыху запозненае, было моцным.

... Бялее на ўсходзе неба, прачнулася, зашчабятала недзе ранняя птушка, а Сямён Пятровіч усё трымае Веру за рукі:

— Ну пабудзь адну хвілінку...

Вера стаіць, прыхіліўшыся да дрэва, пазірае кудысьці на ўсход і ціха спявае:

— Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

Сямён Пятровіч паглядае ў той бок, куды пазірае Вера. Там, далёка-далёка ў небе, яшчэ зіхацяць познія зоры.

А Вера прадаўжае:

— Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.

... Калі Сямён Пятровіч ужо ехаў дадому на веласіпедзе, яго аклікнулі:

— У вас, добры чалавек, няма аганьку?

Быццам хто штурхнуў Сямёна Пятровіча пад руку. Руль захістаўся, веласіпед скаціўся ў каляіну і спыніўся. Кузняцоў азірнуўся. На Марцінавым лагу воддаль пасвіліся коні. А бліжэй да дарогі ў шапцы-вушанцы і плашчы-дажджавіку, шырока расставіўшы ногі, стаяў Мацвей Бяляк.

— Запалак, кажу, няма ў вас часам? А-а, гэта вы, грамадзянін суддзя, добрай раніцы!.. А я быў і не пазнаў вас.

Кузняцоў таропка выняў з кішэні і працягнуў конюху запалкі.

— От жа парадкі!.. І хто гэтых упаўнаважаных прыдумаў? — прыкурыўшы, загаварыў Мацвей.— Гэта ж, мабыць, дагэтуль яшчэ засядалі з праўленцамі? А цяпер пасядзі вось у тым судзе цэлы дзень...

Сямён Пятровіч падазрона прыглядзеўся да Мацвея: не, той, відаць, нічога не бачыў. Але крыху ад'ехаўшы, пачуў, як Бяляк прабурчаў:

— Учэпістыя рукі ў гэтай бібліятэкаркі. Баюся, што нездарма яна так за суддзю трымаецца.

6

Пазнаёміўшыся са справай, Сямён Пятровіч склікаў падрыхтоўчае пасяджэнне суда. Яно павінна было зацвердзіць абвінаваўчае заключэнне. Толькі пасля гэтага крымінальная справа можа разглядацца на судовым пасяджэнні.

Павел Рыгоравіч, асядлаўшы акулярамі шырокі нос, час-ад-часу зазіраў у паперы і даводзіў суддзям, чым пацверджана віноўнасць Куксы. Паводле яго слоў, Кукса, выкарыстаўшы момант, калі не было вартаўніка, разбіў шыбу, залез у заспенскую краму і пацягнуў розных тавараў больш як на 5 тысяч рублёў. Адбіткі пальцаў на абломку шкла і след абцаса — пацверджанне гэтаму. Сямён Пятровіч са стомленым, здавалася, зусім безуважлівым выглядам слухаў пракурора і ратаваўся, каб не пазяхнуць.

— Як бачыце, таварышы суддзі, на гэты раз вядомы нам Кукса ўжо не задаволіўся шаснаццаццю рублямі,— закончыў свой даклад пракурор і, кінуўшы дакорлівы позірк на суддзю, падумаў: «Ну, ці ж яму цяпер да гэтай справы? Ледзь сядзіць ад бяссонніцы. Ды і то, напэўна, у думках стаіць яшчэ пад тымі бярозамі...»

— Кукса ж растлумачыў, што прытрымліваў шыбу рукамі, калі па просьбе крамніка Андрэя Арэшкі забіваў цвічок, каб тая не дрыжала ад ветру. Тады ж і след ад абцаса застаўся. Чым абвергнута гэтая версія? — спакойна запытаў суддзя.

— Хіба такому прайдзісвету можна верыць? Ён жа спачатку сцвярджаў, што зусім у той дзень і не быў у Заспе. А калі эксперты далі заключэнне, што сляды пальцаў і абцаса належаць яму, прыдумаў падобную версію.

— Кукса і гэта растлумачвае: баяўся прызнацца, што быў тады ў краме, каб не западозрылі. Яго судзілі ўжо за кражу.

— Баяўся... Самы той, што пабаіцца...

— А тым не менш, Павел Рыгоравіч, яго баязлівасць была не беспадстаўнай. Вы ж не даказалі, што ён ілжэ, і ўсёроўна яму не верыце.

— Дык жа крамнік кажа, што Кукса ніякага цвічка не забіваў, і ён, Арэшка, на гэта ніколі яго не прасіў.

— У пратаколе агляду месца здарэння значыцца, што пыл на раме, дзе была разбіта шыба, зусім не патрывожаны. А ці можна так асцярожна пралезці праз невялікую шыбу, як вы думаеце?

— Напэўна магчыма, калі той пралез.

— Не шкодзіла б, Павел Рыгоравіч, зрабіць следчы эксперымент. Тады б ясней было, хто з іх гаворыць праўду: Кукса ці крамнік.



Павел Рыгоравіч сарваў з носа акуляры і здзіўлена ўставіўся на суддзю.

— Што ты, Сямён Пятровіч, гэтым хочаш сказаць?

— Абавязкова трэба было праверыць здачу ўтаргаваных грошай і паступленне тавараў,— прадаўжаў сваю думку суддзя, не адказваючы на запытанне Паўла Рыгоравіча.— Карацей кажучы, справу трэба даследаваць.

— Пачакай, навошта заўчасна гаварыць пра даследаванне. Гэта ніколі не позна. Давай назначым справу для разгляду, дапытаем падсуднага, сведак, прааналізуем усё як след і, калі што, зробім гэта ў судовым пасяджэнні. Ты слухай Паўла Рыгоравіча, і ўсё будзе добра.— Пракурор зноў ускінуў акуляры на пераносіцу.

— А навошта столькі людзей адрываць ад работы, калі і так ясна, што без даследавання не абысціся,— запярэчыў Сямён Пятровіч.

Пракурор яшчэ штосьці даводзіў, але засядацелі згадзіліся з суддзёй.

— Хіба гэта разумны падыход да справы? Гэта ж непатрэбная прынцыповасць! — ускіпеў Павел Рыгоравіч і, выходзячы, так стукнуў дзвярыма, што аж графін задрыжаў на стале. Ад гэтай новай сутычкі неяк прыкра зрабілася на душы ў Сямёна Пятровіча. Зноў тое ж самае. Ён, пракурор, змагаецца са злачыннасцю, стараецца навесці парадкі, а суд, выходзіць, стаіць у баку ад усяго гэтага. І як ён не разумее, што Сямён Пятровіч дабіваецца яснасці ў кожнай справе для таго, каб не ахвяраваць правасуддзем, каб не дапусціць судовай памылкі. Апраўданне вінаватага ці асуджэнне невіноўнага — найцяжэйшае злачынства. Не пракурор, а ён, суддзя, ставіць свой подпіс пад прыгаворам. Дык хіба ж ён можа слепа ісці за пракурорам, калі ёсць падставы меркаваць, што той памыляецца? Ды і ён, пракурор, хіба мае права так павярхоўна разбірацца ў справе, калі і на ім ляжыць адказнасць? А яшчэ кажа: «Слухай Паўла Рыгоравіча... Не, цябе слухай, а свой розум май».

Пасля дажджу ў фортачку з вуліцы пацягнула вільгаццю, абдало прахалодай.

Сямён Пятровіч у роздуме хадзіў па кабінеце. Для яго, народнага суддзі, артыкулы законаў, розныя пастановы, якія рэгулявалі нейкія пытанні ўзаемаадносін людзей, у гады студэнцтва былі проста тэмамі, раздзеламі вучэбнага прадмета, які ён павінен быў вывучаць, каб вытрымаць экзамен. Ён не задумваўся тады над тым, што ў іх жыве воля, сумленне, розум народа, што самі яны, як жывыя разумныя істоты, накіроўваюць учынкі людзей у адпаведнасці з патрабаваннямі грамадства. А цяпер, усвядоміўшы гэта, кожны раз, калі браў з этажэркі ці з кніжнай шафы ў сваім кабінеце тую ці іншую кнігу, адчуваў да яе нейкую асаблівую павагу. Гэта была павага да закону.

Мо' яшчэ доўга хадзіў бы суддзя задумаўшыся, каб яго позірк не ўпаў на справу Куксы, што ляжала на стале. Як толькі зірнуў на карычневую тоўстую вокладку і прачытаў на ёй прозвішча, адразу ўспомніў сутычку з пракурорам і, разгарнуўшы справу, зноў, ужо каторы раз, пачаў перачытваць акты і пратаколы. Але засяродзіцца перашкаджала нейкая неакрэсленая думка. Раптам ён уявіў сабе заклапочаны Верын твар, яе ўстрывожаны позірк і зразумеў сваю глыбокую занепакоенасць: Вера ж — сястра крамніку Андрэю...

## 7

Павел Рыгоравіч абураўся. Нейкі хлапчук, што працуе ў судзе «без году тыдзень», павучае яго. Калі быць такім наіўным, як ён, і кожнаму верыць, дык усякі злачынец будзе цябе абдурваць, як таму ўздумаецца. Можна было б пагадзіцца з гэтым азначэннем * суда і сёе-тое даследаваць, калі б зварот справы на даследаванне не лічыўся бракам у рабоце пракурора. А навошта ж яму, Паўлу Рыгоравічу, браць на сябе гэты брак, калі ён упэўнены, што краму абакраў не хто іншы, як Кукса. Не, трэба пратэставаць. І скажы ж, як падчас яшчэ вадзіцца: як толькі са справай трэба павазіцца, папрацаваць над ёй як след — няхай гэта робіць пракурор. Быццам яму больш за ўсіх трэба. А суддзі дай гатовенькае: аблупі, як тое яйка, ды яшчэ і ў рот пакладзі. А калі б справу заслухаць у судзе, мо' ўсе гэтыя непаразуменні і высветліліся б. Тады і не трэба было б накіроўваць яе на даследаванне, валакіту разводзіць. Та-ак, малады спецыяліст наш не з таго пачынае, не з таго... Трэба яго падправіць, і моцна падправіць. І чым хутчэй, тым лепш і для справы, і для яго.

Павел Рыгоравіч нервова схапіў ручку і пачаў пісаць. Але зазваніў тэлефон. Пракурор, нахіліўшы сівую галаву, падстрыжаную «пад вожык», і прыціскаючы ёю да пляча тэлефонную трубку, нейкі момант слухаў і ціха, быццам практыкуючыся, выводзіў на паперы вялікія літары. Потым адрывіста загадаў:

— Рабіце так, як я сказаў. — Трубка бразнула аб рычагі.—Вось так трэба: атрымаў загад — выконвай і не размаўляй,— ужо задаволена прамармытаў Павел Рыгоравіч. Жылістая рука шпарчэй захадзіла па паперы. Пісаў ён хутка, распырскваючы чарніла, быццам спаганяючы тут на некім сваю злосць, часам мармычучы: «Але, такіх разумнікаў мы бачылі. Дарэмна ён петушыцца. Паглядзім яшчэ, што абласны суд скажа нарэшце гэтага даследавання».

У дзверы хтосьці пастукаў. Крыху счакаўшы, пастукаў яшчэ, больш настойліва. Павел Рыгоравіч не адказаў. Тады ў кабінет з прыёмнай прасунулася ўскалмачаная галава Мацвея Беляка. Пракурор акінуў яго сярдзітым позіркам.

— Пачакайце, — і зноў зарыпеў пяром. Пісаў доўга, штосьці перакрэсліваў, надпісваў, перачытваў і зноў пісаў. Калі Мацвей, страціўшы надзею дачакацца, ужо надзеў шапку і хацеў выходзіць, Павел Рыгоравіч з'явіўся ў прыёмным пакоі.

— Аддрукуйце ў двух экземплярах, — загадаў ён сакратарцы, шпурнуўшы на стол спісаныя буйным размашыстым почыркам аркушы, і кінуў Мацвею:

— Заходзьце.

Мацвей скардзіўся на Андрэя Арэшку за тое, што той аблаяў яго ў краме ў прысутнасці многіх аднавяскоўцаў.

Слухаючы Беляка, Павел Рыгоравіч кідаў на таго нецярплівыя позіркі і нервова перабіраў на стале нейкія паперы. А калі той змоўк, запытаў:

— Усё?

— Ат, не хацеў гаварыць, але скажу,— рашыўшыся на нешта, прадаўжаў Мацвей. — Бачыў я аднойчы, як гэты самы Андрэй купляў у ашчаднай касе трохпрацэнтныя аблігацыі. Каб не збрахаць вам, тысяч на пяць купляў...

— Усё? — Павел Рыгоравіч спытаў так, нібы дубцом сцебануў Мацвея. Бяляк быў абражаны такім прыёмам і пакрыўджана змоўк.

— А чаго вы былі ў ашчадкасе? — пракурор вылез з-за стала і падышоў да Мацвея.

— Грошы клаў на кніжку.

— Дзе вы іх узялі?

— Як дзе? Не ўкраў жа, вядома. Вось гэтымі рукамі зарабіў,— гаварыў Мацвей і, разгублена развёўшы свае вялікія з тоўстымі парэпанымі пальцамі рукі, паказаў іх пракурору.

— Значыць, вы не ўкралі, а ён украў? — і Павел Рыгоравіч упіўся позіркам у пачырванелы Мацвееў твар.— Сорамна так рабіць, грамадзянін...

Калі Мацвей выйшаў, пракурор нейкі час стаяў сярод пакоя, у задуменні наморшчыўшы лоб. У душы засталіся нейкія сумненні. А што, калі ён няправільна зразумеў гэтага чалавека? Мо' ўсё ж даследаваць справу, праверыць і довады суда і заадно Белякову заяву?

У кабінет увайшла сакратарка і паклала на стол аддрукаваныя аркушы. Павел Рыгоравіч папраўіў рамень, абцягнуў гімнасцёрку, быццам рыхтуючыся да чагосьці ўрачыстага, і прайшоўся па кабінеце.

«Не, не з добрым намерам прыходзіў гэты чалавек. Прага помсты за знявагу прыгнала яго сюды». Гэтая думка нібы падштурхнула пракурора да стала. Ён схапіў ручку і размашыста падпісаў пратэст. «А такіх тыпаў трэба выкрываць», — усё пераконваў ён сябе і зноў пачаў нешта пісаць.

Неўзабаве ён выводзіў надпіс на канверце: «Рэдакцыі раённай газеты».

## 8

Шумна, святочна на стадыёне. Усюды жарты, смех, радасць — бурлівая, светлая, як гэты сонечны дзень, радасць шчаслівай маладосці невялікага гарадка, што святкуе свой фестываль.

Сямён Пятровіч заўважыў сярод натоўпу Самуся і падышоў да яго

— А чаму б, скажам, пракурору з суддзёй не сыграць што-небудзь, — адказаўшы на прывітанне, пажартаваў Павел Рыгоравіч. — Толькі што не сыграліся мы яшчэ.

Кузняцоў ведаў, што Самусь сапраўды любіць музыку. У яго ёсць скрыпка, яшчэ даваенная. Яе зберагла сястра. Павел Рыгоравіч, кранаючы смычком струны, заўсёды рабіўся суровым, задумлівым. Мо' гэтая скрыпка была яму напамінкам пра сям'ю.

З непрывычкі раз-по-раз папраўляючы свой новенькі светлы гальштук, Павел Рыгоравіч пачаў расказваць нейкую вясёлую гісторыю. Але раптам на ілбе ў яго з'явіліся ўпартыя маршчыны.

— Бач, як шнырыць позіркам, — кіўнуў ён галавою кудысьці ў натоўп. — Так і глядзі, зноў да каго-небудзь залезе...

Сямён Пятровіч азірнуўся і ўбачыў Куксу. Той стаяў, глыбока засунуўшы рукі ў кішэні, і з-пад насунутага на вочы казырка клятчатай

* Азначэнне—так называецца пастанова падрыхтоўчага пасяджэння суда.

кепкі назіраў за нейкім хлапцом, што шукаў чагосьці ў партфелі. Рукавы яго кашулі былі закасаны, і на руцэ Кузняцоў прачытаў вытатуіраваныя вялікімі літарамі словы: «Няма шчасця ў жыцці». І сапраўды, у гэтай крыху прыгорбленай з вузкімі плячыма постаці суддзя адчуў нешта насцярожанае, нядобрае. Кукса, злавіўшы на сабе пільны позірк суддзі, шпарка азірнуўся і, як зноў паказалася Сямёну Пятровічу, нахабна ўсміхнуўся і знік у натоўпе.

— Бачыў? — здзекліва кінуў Самусь. — Ведаеш, Сямён Пятровіч, калі-небудзь у нас грамадскасць сур'ёзна спытае, чаму мы не выведзем на чыстую ваду такіх тыпаў. — Сказаўшы так, ён павярнуўся і пайшоў. Ці то крыўда адагнала яго прэч ад гэтага ўпартага суддзі ці мо' да знаёмых накіраваўся? Адыходзячы, ён нават не развітаўся. Кузняцова гэта нават абразіла.

Дзесьці непадалёку зайграў духавы аркестр.

На сцэне пачаў выстройвацца зводны хор. У купцы дзяўчат і хлопцаў, што станавіліся ў цэнтры, Сямён Пятровіч убачыў Веру. Дзяўчына, прыжмурыўшыся ад сонца, ледзь-ледзь усміхалася. Кузняцову здавалася, што гэта яму шле яна сваё прывітанне. І якая ж яна прыгожая, як да твару ёй гэтая светла-блакітная сукенка!

Заспяваў хор, і Сямёну Пятровічу здалося, што ён чуў Верын голас. Ён быў званчэйшы і прыгажэйшы ад усіх. Кузняцоў чуў яго так выразна, як тады, у ціхія зорныя вечары на шляху, калі Вера спявала «Зорку Венеру».

Пасля канцэрта на стадыёне хор калгаса «Перамога» павінен быў выступаць на мэблевым камбінаце. Вера спяшалася туды, і Сямён Пятровіч толькі змог сказаць ёй:

— Буду чакаць у парку над Дняпром, добра?

...Сонца хілілася да небасхілу, гарачыня ападала. Сямён Пятровіч сядзеў на лавачцы і пазіраў на раку, што ціха бруілася побач з паркам. Думкі набягалі адна за адною, як хвалі Дняпра на жоўты прыбярэжны пясок. І ўсе яны былі пра яе, Веру.

Прарэзлівы гудок парахода абарваў яго думкі. Сямён Пятровіч зірнуў на гадзіннік, потым дастаў з кішэні кругленькае люстэрка, грабянец і пачаў прычэсваць свой чорны віхрасты чуб.

Яшчэ на стадыёне ў кіёску Кузняцоў купіў раённую газету і цяпер разгарнуў яе. З другой старонкі, усё гэтак жа прыжмурыўшыся, з групы юнакоў і дзяўчат глянула на яго Вера. Прабягаючы вачыма загалоўкі на трэцяй старонцы, Сямён Пятровіч прачытаў: «Узмацніць барацьбу са злачыннасцю». Унізе быў подпіс: «П. Самусь, міжраённы пракурор». У артыкуле Павел Рыгоравіч пісаў, што суд аслабіў барацьбу з небяспечнымі злачынцамі, беспадстаўна вызваліў з-пад арышту злодзея Куксу, які нядаўна ўкраў у адной грамадзянкі грошы з кішэні. У другі раз суд, да разгляду справы ў судовым пасяджэнні, выпусціў з-пад арышту гэтага злачынцу, хоць ён і абвінавачваецца ў кражы тавараў з крамы.

Сямён Пятровіч прачытаў артыкул яшчэ раз. Так, пракурор прад'яўляе яму сур'ёзнае абвінавачванне. А ці ж яно справядлівае? Факты, пра якія ён піша, мелі месца. Але ж навошта прыдаваць ім такую афарбоўку? Хіба можна, пакуль не ўстаноўлена прыгаворам, сцвярджаць, што краму абакраў Кукса?





І ўжо не крыўда, а нейкая злосць на пракурора варухнулася ў душы Кузняцова. І чаго дабіваецца Самусь? Мо' хоча, каб ён, суддзя, слепа верыў яму і быў, як кажуць, у яго на павадку? Дык жа не бываць гэтаму. Ён будзе рабіць так, як патрабуе ад яго закон і сумленне.

Сямён Пятровіч не чуў, як падышла Вера, як яна доўга назірала за ім, і схамянуўся толькі тады, калі адчуў на плячы яе руку. Кузняцоў спачатку і не заўважыў, што Вера была нейкая сумная. А калі заўважыў, устрывожыўся.

— Што здарылася, Верачка?

Яна слаба, быццам праз сілу, усміхнулася:

— Не прыкідвайся, ты ж усё ведаеш, Сеня.

Спачатку гэты папрок прагучаў для Сямёна Пятровіча неяк дзіўна: ён не задумваўся над тым, што паміж імі могуць узнікнуць непаразуменні. Таму яму хацелася цяпер пачуць, што Вера пакрыўдзілася на яго за доўгую разлуку. А ён жа не вінаваты, два гэтыя дні быў у камандзіроўцы.

— Сумавала, Верачка?

Вера здзіўлена пазірала на Сямёна, потым сказала:

— Андрэя ж арыштавалі...

Сямён Пятровіч не чакаў гэтага ад яе і не знаходзіў, што адказаць.

## 9

Вера ў бібліятэцы была адна. Яна зачыталася і не заўважыла, як асцярожна адчыніліся дзверы і ў пакой зайшоў незнаёмы чалавек. Яна, здаецца, яго недзе бачыла. А той пастаяў крыху каля парога, відаць, раздумваючы, ці праходзіць далей ці вярнуцца назад, потым паціху падышоў да бар'ера.

— От гэта работка: не пыльная і, відаць, грашовая, га? — кінуў ён неяк насмешліва.

Ад нечаканасці Вера не знайшлася, што адказаць, толькі ўважліва разглядала незнаёмага з пісягам мазуты на абвіслай шчацэ.

— Што вы хацелі? — нарэшце спытала яна.

— Гарэлкі. Гы-гы-гы... — захрыпеў той зусім ужо нахабна.

— Што за недарэчныя жарты? Вы за якой-небудзь кнігай?

— Дай якую-небудзь пра зладзеяў...

— Вы, грамадзянін, мабыць, п'яны. Дык зайдзіце ў бібліятэку другім разам.

— Хіба пра зладзеяў толькі п'яныя чытаюць? Гы-гы-гы...— і позірк яго раптоўна згас, вочы апусцелі. — Ну, дык дасі кніжку, ці не?

Веру здзівіла такая рэзкая перамена ў паводзінах гэтага чалавека. Дзяўчына, не таячыся, мо' цэлую мінуту моўчкі назірала за ім і ў яго зрэнках бачыла толькі халодную абыякавасць, нейкую цёмную бездань. Працягваючы руку за бланкам рэгістрацыйнай карткі, Вера спытала, хто ён і як яго прозвішча.

— Марцін Кукса, злодзей. А цяпер яшчэ па сумяшчэнню і трактарыст у вашым калгасе. — Ён, відаць, зноў хацеў пакпіць з дзяўчыны, але гэты нікчэмны жарт не ажывіў яго самога. Не зірнуўшы нават на кніжку, якую падала яму бібліятэкарка, Марцін распісаўся ў картцы і, быццам прывід, знік за дзвярыма. А Вера яшчэ доўга думала пра яго. Гэта ж той Кукса, што абакраў краму, той злодзей, праз якога і брат яе, і яго сям'я, і сама яна пакутуюць. Але чамусьці да пачуцця непрыязні да гэтага чалавека прымешвалася нейкая неакрэсленая спагада. У такой, як у яго позірку, пустаце можа таіцца толькі спакутаваная душа.

«І навошта яму тая кніга спатрэбілася? Ці ж ён што калі чытаў? — падумала яна з горыччу. — Не, напэўна, не па кнігу прыходзіў. Нешта другое прывяло яго сюды. А што?»

Не ведала Вера, што Марцін перад тым, як прысці ў бібліятэку, па вечарах схіляўся над кніжкай і, шлёпаючы губамі, павольна вадзіў пальцам па старонках.

Кніга наводзіла яго на думку пра сваё маленства. Упершыню ён яшчэ хлапчуком учыніў кражу. Тады яго, здаецца, старэйшыя хлопцы прагналі з валейбольнай каманды. Бадзяючыся па горадзе, Марцін убачыў каля касы кінатэатра дзяўчыну, у якой з кішэні жакеткі тырчалі грошы. Спачатку ён разы са два прайшоўся паўз яе, але дзяўчына не звярнула на гэта ніякай увагі. Потым падцікаваў, калі тая загаварыла з сяброўкамі, і дрыжачай рукой выцягнуў грошы. Здарылася гэта неяк зусім нечакана. Ніколі раней не прыходзіла Марціну думка лазіць па чужых кішэнях. І ён усвядоміў свой учынак толькі тады, калі за вуглом кінатэатра разняў кулак і ўбачыў украдзеную дзесятку. Спачатку хацеў вярнуцца і аддаць грошы дзяўчыне, але пабаяўся, каб яна не паклікала міліцыю. На другі дзень ён не пайшоў у школу: сорамна было за свой учынак перад сябрамі. Чамусьці здавалася, што яны ўжо ўсё ведаюць. Бацька Марціна не жыў з сям'ёю. Маці працавала ў гарадской лазні і позна прыходзіла дадому. Яна спачатку не ведала, што сын кінуў школу. А класную настаўніцу, відаць, не вельмі гэта турбавала, бо Марцін, па праўдзе кажучы, прычыняў ёй нямала клопату. Тым часам Кукса зноў залез да кагосьці ў кішэню. І гэтая кража яму сышла з рук.







Вось тады да яго і прышла думка, што можна так і ўсё жыццё пражыць. Потым турма, кражы, зноў турма. І ніколі за ўвесь гэты час Марцін ні ад каго не чуў добрага слова, не бачыў спачувальнага позірку. Людзі глядзелі на яго, як на ваўка. Дык у чым жа яно, гэтае зладзейскае шчасце? Не, яно, відаць, можа толькі сніцца злодзею. Нядаўна і яму чамусьці прыснілася, што брыгадзір трактарнай брыгады Рыгор Баравік прымацаваў да яго трактара чырвоны вымпел пераможцы ў спаборніцтве.

Пасля таго, як Марцін загарнуў апошнюю старонку кніжкі, ён моцна задумаўся над сваім жыццём. І цяпер, прышоўшы з бібліятэкі, Марцін пазіраў на вокладку кнігі з загалоўкам «Педагагічная паэма» і думаў пра тое ж самае.

## 10

Пачуўшы, як у сенцах бразнула клямка, хлапчукі з крыкам: «Тата ідзе!» — кінуліся да дзвярэй. А калі на парозе ўбачылі Веру, збянтэжана залыпалі вачанятамі.

— Гэта ж цёця Ве-е-ера, — расчаравана працягнуў старэйшы.

Меншы пазіраў на Веру, патупіўшыся, затым захліпаў:

— Чаму не ідзе наш татка?

Веры самой цяжка было стрымацца ад слёз, але яна стала суцяшаць меншага:

— Хутка прыдзе ваш татка, не плач... — і пяшчотна пагладзіла стрыжаную галоўку.

Тамара адправіла дзяцей у другі пакой.

— Томачка, родная мая, мо' ты ад мяне што хаваеш? Скажы шчыра, Андрэй ні ў чым не вінаваты? — Вера трымала за рукі Тамару і пільна пазірала ёй у вочы.

Але тая прашаптала:

— Не ведаю, нічога не ведаю...

— Не, быць гэтага не можа, — загарачылася Вера. І, канчаткова пераконваючы сябе, яшчэ раз дадала: — Не можа быць. Тут нейкае непаразуменне.

Вера любіла брата і была ўдзячна яму за ўсё тое, што зрабіў ён для яе. А зрабіў Андрэй для сястры нямала.

У час нямецкай акупацыі памерлі іхнія бацькі. Веры было тады пяць год. Усе клопаты аб ёй леглі на плечы брата-падлетка. Хлапчук улетку пасвіў вясковы статак. А ўвосень перакопваў у полі бульбянішча, насіў з прыбярэжнага хмызняку лазу на дровы. Страх перад голадам, нястачаю, прымушаў яго трэсціся над кожнай бульбінай, над кожным сухаром. Мо' ў тыя страшныя гады і развілася ў яго прагнасць? Вера зразумела гэта, безумоўна, пазней, калі на вызваленай зямлі аднавілася жыццё і яны з братам ужо не адчувалі нястачы. Яна заўважыла, што Андрэй часам без патрэбы эканоміць. Але каб ён

што-небудзь украў... Не. Такога за ім ніколі не было. Вось таму яна і не магла пагадзіцца з тым, што яе брат — злачынец.

— Вера, як ты думаеш, няўжо яго асудзяць? — парушыла Тамара няёмкае маўчанне.

— Я думаю, што як бы ні было, а праўда сваё возьме. І ты, Томачка, не сумнявайся ў гэтым, не бядуй дарэмна. Ну, дык я пайду, мне ж у бібліятэку трэба.

Тамара правяла Веру сумным позіркам і задумалася.

У суседнім пакоі было ціха. Яна асцярожна адчыніла дзверы. Хлапчукі, скурчыўшыся на канапцы, ужо спалі.

## 11

Сямён Пятровіч пасябраваў з Рыгорам Баравіком з тае пары, калі стаў упаўнаважаным у калгасе «Перамога». У вольную хвіліну яны схіляліся над шахматамі ці над невялікай з адмысловымі малюнкамі кніжкай — дапаможнікам па матацыклу. А ў добрае надвор'е выязджалі за вёску на шлях, і Рыгор вучыў Сямёна Пятровіча вадзіць матацыкл.

Аднойчы Сямён Пятровіч здаваў Рыгору «экзамен» на вадзіцеля. Стаяла ціхае надвор'е. Аднекуль з-за ўзгорку з поля даносіўся гул трактара. Высока ў небе трапятаўся, заліваючыся песняй, жаваранак. Вечарэла. Сябры, пакатаўшыся крыху, селі на абочыне дарогі. Непадалёку стаяў новенькі Рыгораў «ІЖ». Сямён Пятровіч пазіраў на яго з незахаваным замілаваннем.

— Збяру грошай і куплю сабе такую машыну. Абавязкова.

— А табе сабраць на матацыкл — як плюнуць. Суддзі ж і вязуць і нясуць...— Рыгор нават не ўсміхнуўся.

Сямён Пятровіч здзіўлена паглядзеў на яго, але змоўчаў.

— А што, хіба няпраўда? — прадаўжаў Рыгор.

— Ты і сапраўды так думаеш? — твар у Кузняцова раптам спахмурнеў.

— Ну, во, ужо і натапырыўся...— Рыгор зарагатаў.— Які ты далікатны. Нават пажартаваць з табой нельга.

— Такімі жартамі можна без нажа зарэзаць.

— А сапраўды, ніхто не спрабаваў падсунуць табе хабару?

— Ніхто.

— А каб адважыўся каторы, што б яму было за гэта?

— Судзілі б, вядома.

— Ну, а суддзя можа, скажам, па знаёмству скідку якую-небудзь зрабіць? — усё дапытваўся Рыгор.

— Вось прычапіўся. Дык які ж ён быў бы суддзя пасля гэтага? — адказаў Сямён Пятровіч са злосцю.

— Во... Зноў зрэнкі заблішчалі. І чаго ты злуешся? Я ж проста так пытаюся.— Рыгор ускочыў на ногі і абцягнуў камбінезон.

— Паехалі. Ух, і праімчу ж я цябе! З хуткасцю гуку... І толькі так! — Гэтым «і толькі так» Рыгор заўсёды падкрэсліваў, што ён прыняў канчатковае рашэнне і ад свайго ўжо не адступіцца.

Узяўшыся за руль матацыкла, Рыгор з хвіліну пастаяў, да нечага прыслухоўваючыся. Гулу трактара ўжо не было чуваць, і Рыгор, здавалася, намагаўся разгледзець, што рабілася там, за ўзгоркам. Потым



ён пасадзіў свайго «вучня» на задняе сядзенне, і матацыкл паімчаўся па роўнай разоры.

...Трактарыст Кукса, выціраючы пакуллем рукі, нездаволена буркнуў:

— У сеялцы рычаг зламаўся. Рамантуюць абы з рук, а тады прастойвай...

Рыгор пакруціў у руках зламаны рычаг.

— Зараз жа ў кузню трэба,— кінуў ён заклапочана.

— І толькі так,— гукнуў аднекуль з-за плячэй Кукса.

«Рыгораву звычку пераняў? — недаўменна азірнуўся на яго Сямён Пятровіч.— Ці мо' пасмейваецца з брыгадзіра?»

— Паедзем, папрацуем, га?— прапанаваў Рыгор Кузняцову.

Каваля ў кузні яны ўжо не засталі. Рыгор сам распаліў горан і, паказаўшы вачыма на кавальскі мех, загадаў сябру:

— Дзьмі!

А калі выхапіў з агню распалены жалезны прут, зноў, кінуўшы на прыладу малатабойца, гукнуў:

— Удар!

Сямён Пятровіч размахнуўся і стукнуў па кавадлу, што ажно ў далоні закалола...

Позна ўвечары паставіў Рыгор у сеялку новы рычаг. Потым яны павячэралі з Сямёнам Пятровічам і выйшлі на вуліцу. У паветры панавала такая цішыня, што, здавалася, чуваць было, як дыхае зямля. Хлопцы стаялі моўчкі, прыслухоўваючыся ці то да гэтай цішыні, ці то да сваіх думак.

— Ну, дык я пайду,— сцішана, быццам вінавата, кінуў Сямён Пятровіч.

— Да яе? — яшчэ цішэй спытаў Рыгор.

— Да яе.

І зноў стаялі моўчкі. Рыгор пачаў прыкурваць, і Сямён Пятровіч заўважыў, як запалка задрыжала ў яго руцэ. Нічога больш не сказаўшы сябру, ён пайшоў.

Вера была дома. Убачыўшы Сямёна Пятровіча, яна здзівілася. Ніколі раней ён не быў у яе хаце. Уласна кажучы, нічога дзіўнага, што ён прышоў, тут не было. Але ж па вёсцы папаўзлі чуткі, што яна «закруціла з суддзёй любоў», каб той вызваліў яе брата з турмы. Вось чаму прыход Сямёна Пятровіча так уразіў яе. Дзяўчына ўсміхнулася яму шчырай, але нейкай трывожнай усмешкай. Потым яны пілі чай, размаўлялі пра кнігі, пра розныя навіны. Але абое адчувалі, што тут, паміж імі, нябачна прысутнічае нехта трэці. Раптам Вера, прыцiснуўшы рукі да грудзей, горача загаварыла:

— Не магу, Сеня, проста не магу супакоіцца. Як можна трымаць у турме невінаватага чалавека? Ну, чаго ты маўчыш?

— Паслухай, Верачка, не хвалюйся. Суд разбярэцца як след, вось пабачыш...

— Не вінаваты Андрэй, зусім не вінаваты. Пра гэта ж і пракурор пісаў у газеце. Дык чаго тут разбірацца?

— Разабрацца трэба, як жа? — збянтэжана мармытаў Сямён Пятровіч.

— Вот з тым злодзеем Куксай дык ты хутка разабраўся. Ведаеш, Сеня, што я табе скажу: калі нявінны брат будзе пакутаваць у турме — разыйдуцца нашы дарогі...

Як толькі за Сямёнам Пятровічам зачыніліся дзверы, Вера адчула сябе вінаватай перад ім. Сама ж душою рвалася да яго, а калі прышоў — пакрыўдзіла. Ходзячы па хаце, яна то расплятала, то зноў заплятала касу. Нейкае пакутлівае пачуццё пякло ёй сэрца. «І навошта я пакахала цябе? Лепш не сустракаліся б мы ніколі»,— думала яна і бачыла перад сабой то вясёлыя, то лагодна-задумлівыя чорныя вочы Кузняцова.

12

Абласны суд адхіліў пратэст пракурора. Даведаўшыся пра гэта, Павел Рыгоравіч пазваніў абласному пракурору і, даводзячы яму, што калегія абласнога суда не разабралася як след у справе Куксы, прасіў яго апратэставаць яе азначэнне ў прэзідыум. Але абласны пракурор загадаў неадкладна даследаваць справу ў адпаведнасці з патрабаваннямі суда. Павел Рыгоравіч узгарэўся:

— Я настойваю не з-за ўпартасці. Я перакананы, што вінаваты Кукса,— крычаў ён у тэлефонную трубку.— А калі вы не згаджаецеся мяне падтрымаць, дык я адмаўляюся весці далейшае следства. Перадавайце справу, каму хочаце...

Мо' другому каму гэты адказ не сышоў бы з рук. А Паўлу Рыгоравічу зважыў абласны пракурор і перадаў справу следчаму абласной пракуратуры. Як ішло следства, Павел Рыгоравіч не ведаў. Хоць гэта і вельмі яго цікавіла, але ён наўмысна ні ў кога не дапытваўся. Аднойчы, правяраючы камеру папярэдняга зняволення, ён сустрэў там крамніка Андрэя. Тады і даведаўся, што Арэшку прыцягнулі да адказнасці. Падвечар аднаго дня, ідучы дадому пасля работы, Павел Рыгоравіч сустрэў Кузняцова. Той быў нейкі задумлівы, пануры. Убачыў пракурора — прывітаўся і хацеў спыніцца, відаць, аб нечым пагаварыць, але Павел Рыгоравіч, быццам не заўважаючы яго намеру, прайшоў міма. А калі адышоў, азірнуўся і падумаў: «Па-ягонаму ж выйшла, а вось не радуецца чалавек. Ці мо' сваяка шкадуе? Ну, пабачым, як жа ён будзе судзіць яго...»

Сямён Пятровіч сапраўды думаў аб справе Андрэя Арэшкі. Аб ёй і хацеў ён загаварыць з пракурорам, параіцца, як яму быць: ці разглядваць ці мо' заявіць самаадвод. А Павел Рыгоравіч нават адвярнуўся. І што ён за чалавек такі?

Кузняцоў дайшоў да ракі, пастаяў крыху на сырым, спрасаваным, як плаўлены воск, прыбярэжным пяску і ўзяў на лодачнай станцыі лодку. Рака была спакойнай, хвалі мякка плёскаліся аб барты лёгкай паслухмянай пласкадонкі. Сямён Пятровіч і не заўважыў, як апынуўся на другім беразе. Тады ён павярнуў лодку і паплыў уверх па рацэ. Час-ад-часу, каб ямчэй было трымаць вёслы, ён змочваў рукі вадою і, згінаючыся,ківаўся, як маятнік. Толькі, калі адчуў на вуснах салёныя струменьчыкі, што сцякалі з ілба, кінуў вёслы і азірнуўся. Горад быў далёка. Рака падступала да лесу і, агінаючы яго, гублялася за пavароткай. Кузняцоў падплыў да берага, выскачыў з лодкі і лёг, раскінуўшыся, на зялёным, пахучым дыване. У надвячэрняй цішыні былі чутны рэдкія спевы нейкай позняй птушкі ды ўсплёскі рыбы, што выскоквала на паверхню ракі.

Каб толькі ведала Вера, як хацелася Сямёну Пятровічу ў гэты час быць разам з ёю! Але нічога не зробіш, калі так складаюцца акалічнасці. Вера стала нейкая насцярожаная, недаверлівая...



Змакрэлая ад поту саколка прыліпла да плячэй і непрыемна казытала цела. Сямён Пятровіч устаў, распрануўся і паплыў. Плаваў доўга, потым зноў адпачываў на траве і ўсё думаў, думаў... Што яму рабіць? Як выйсці з такога становішча? А мо' і сапраўды заявіць самаадвод? Другі суд разгледзіць справу, а ён будзе ўбаку. А што, калі і сапраўды так зрабіць?

З-за лазняка, што хаваў выгіб ракі, выплыў невялікі белы кацер. Данесліся пералівы гармоніка і дзявочы спеў.

І Сямёну Пятровічу раптам захацелася паплыць з вясёлай моладдзю туды, удалечыню, каб пазбыцца смутку, і мо' тады без ваганняў, як патрабуюць пачуцці і сумленне, разблытаць гэты клубок супярэчнасцей у адносінах з Верай. Кацер прайшоў, пакінуўшы за сабою клінападобную палоску, якая доўга яшчэ трымалася на вадзе.

Ветрык прынёс з лугу мядовы пах траў. Сямён Пятровіч устаў і ўздыхнуў на поўныя грудзі. Раптам яго ўвагу прыцягнулі знаёмыя галасы. З-за кустоў па дарожцы, што пятляла паміж дрэў у напрамку да Заспы, выйшлі Вера і Рыгор. Абое неслі звязкі кніг. Пераходзячы невялікую канаўку, размытую вадой, Рыгор узяў Веру пад руку.

Сямён Пятровіч прывітаўся з імі. Вера адказала стрымана, і яму здалося, што ў яе голасе штосьці абарвалася.

— Ты чаго гэта адзін тут пакутуеш? — засмяяўся Рыгор і спыніўся.— Ці мо' чакаеш каго?

Кузняцоў адчуў, як дзесьці ў душы балюча запякла рэўнасць, але нічога не мог сказаць.

— Рыгор, пайшлі, сонца нізка...— гукнула раптам Вера і паскорыла крокі.

Сямён Пятровіч пазіраў ім услед і бачыў толькі шырокую Рыгораву спіну, што засланяла сабою Веру. «Не, з гэтай дзяўчынай я не магу расстацца,— думаў ён.— Гэта звыш маіх сіл».

Барвовае сонца павольна апускалася за верхавіну дуба. Рака стала пакрывацца туманам. Ён папоўз з яру, дзе знікла Вера са сваім спадарожнікам.

Вяртаючыся назад, Сямён Пятровіч толькі кіраваў вяслом. Шпаркае цячэнне само гнала лодку.

13

Раніца была цёплая, ясная. Сонечныя праменні, што пранікалі ў залу судовага пасяджэння праз шырокія вокны, залівалі барвовым святлом блакітныя сцены, залацілі стол, вопратку і твары прысутных.

Сакратарка суда паклала на невялікім прыстаўным століку паперу, ручку і сядзела строгая, спакойная. Каля сцяны за высокім бар'ерам, згорбіўшыся, быццам застыў, на лаве падсудных сядзеў Андрэй Арэшка. У зале панаваў глухі, стрыманы гул.

— Устаць, суд ідзе! — загаварыла, бы падала каманду, сакратарка. Падсудны падхапіўся першы. А калі з дазволу суддзі ўсе селі, ён яшчэ больш выцягнуўся і стаяў бы па камандзе смірна. Яму ж усёроўна адразу ўставаць прыдзецца, дык навошта яшчэ садзіцца?

Сямён Пятровіч абвясціў аб пачатку судовага пасяджэння і толькі

пачаў удакладняць анкетныя даныя падсуднага, як у старожкай цішыні пачуў нейчае сіпенне:

— Пытае, быццам сам не ведае...

Суддзя разгублена паглядзеў у той бок. Што гэта, недавер'е, насмешка ці сапраўды наіўнае здзіўленне? Але адразу ж ён узяў сябе ў рукі, не спяшаючыся, растлумачыў падсуднаму яго правы. Пачуўшы ад суддзі, што падсудны мае права на адвод любога з суддзяў, Андрэй неяк торапка кінуў:

— Саставу суда давяраю.— І так выразна паглядзеў на Сямёна Пятровіча, што ад гэтага позірку суддзя крыху сумеўся. На нейкі момант яму здалося, што сядзіць ён не на сваім месцы. І ў тую мінуту пашкадаваў, чаму ён усё ж не рашыўся на самаадвод. А потым падумаў, што пасля такога самаадводу ўвесь час адчуваў бы сябе яшчэ горш.

Калі Сямён Пятровіч прапанаваў падсуднаму даць свае тлумачэнні па прад'яўленаму яму абвінавачванню, той абурыўся. У чым ён вінаваты? Нейкі злачынец абакраў краму, знайшлі сляды, а яго, крамніка, судзяць! Ніякай сімуляцыі кражы ён не ўчыняў...

Дзверы, што вялі з кабінета ў залу пасяджэнняў, пачалі павольна расчыняцца. Суддзя павярнуў галаву і ўбачыў Паўла Рыгоравіча. Пракурор не сцярпеў, таксама прышоў паслухаць.

— Следчы эксперымент паказаў, што пралезці праз разбітую шыбу і не патрывожыць пыл на раме акна — немагчыма. Дык як жа злачынец пралез і не чыркануўся нідзе? — вёў далей допыт суддзя.

— Мо' і ён сцёр, не ведаю...

— Вы падпісалі пратакол агляду месца здарэння. А там напісана, што пыл не крануты...

— Падсунулі дык і падпісаў,— буркнуў Арэшка.

Сямёну Пятровічу так і карцела павярнуцца да пракурора і кальнуць яго дакорлівым позіркам: «Памятаеш, у падрыхтоўчым пасяджэнні ты даводзіў, што Куксу нельга, а вось гэтаму можна верыць? І каму ты цяпер верыш, самому сабе ці гэтай сваёй даверанай асобе? Пратакол агляду месца злачынства, ты ж сам пісаў?» Але паглядзеў ён чамусьці не на пракурора, а на Веру, якая сядзела ў другім радзе каля акна побач з заплаканай жанчынай. Позіркі іхнія сустрэліся, і, быццам ад удару крэсіва, у Верыных раней такіх добрых, прамяністых вачах бліснулі пякучыя іскры.

— Колькі ў вас дзённая выручка ў сярэднім? — спытаў народны засядацель, бухгалтар па прафесіі, і, сціснуўшы сівыя калматыя бровы, зазірнуў у свой блакнот. Туды ён нешта занатоўваў, калі вывучаў справу перад пачаткам судовага пасяджэння.

— Паўтары — дзве тысячы.

— Апошнія дзесяць дзён перад кражаю вы здавалі ў касу па семсот — дзевяцьсот рублёў. Чаму так мала? — Засядацель дапытліва пазіраў на падсуднага, усё яшчэ трымаючы ў руцэ раскрыты блакнот.

Зала насцярожана прыціхла. Усе чакалі, што адкажа Арэшка. А ён, патупіўшыся, маўчаў і пазіраў у падлогу. Потым неяк натужліва, быццам непасільны цяжар, узняў галаву і прыжмураным позіркам уставіўся на засядацеля.

— Што вы гэтым хочаце сказаць? Што я ўкраў грошы? Дык дзе яны ў мяне? Пры вобыску перакалацілі ўсё — не знайшлі. Ніякія рэчы



я за гэты час не купіў. П'яным мяне таксама ніхто не бачыў. Дык што, праглынуў я іх, ці што?

«І сапраўды, калі грошы ўкраў падсудны, дык куды ж ён падзеў іх?» — падумаў Сямён Пятровіч.

Па просьбе падсуднага Сямён Пятровіч неўзабаве абвясціў перапынак на дзесяць мінут. Абое засядацелі выйшлі на двор пакурыць, а суддзя хадзіў па кабінеце, перабіраючы ў памяці кожную дробязь з матэрыялаў папярэдняга следства. Але не, ніякіх даных для таго, каб меркаваць, куды падсудны падзеў грошы, следчы не ўстанавіў. А што, калі і ў судзе не ўдасца гэтага зрабіць? Тады зноў дaследаванне? Сведкі за гэты час забудуць усё, што і ведалі...

Павел Рыгоравіч сядзеў на канапе, курыў і назіраў за суддзёй. А калі той узяў са стала справу, каб зноў пайсці ў залу, пракурор спыніў яго:

— Конюх Мацвей Бяляк ведае, дзе грошы. Калі ён тут, дапытай яго.

«І што за жарты»,— незадаволена падумаў Сямён Пятровіч, але нічога не адказаў, толькі глядзеў здзіўлена. Потым, слухаючы Куксу, які выступаў за сведку, адшукаў у зале вачыма Бяляка. Конюх выцягнуў доўгую шыю і сядзеў крыху бокам, наставіўшы адтапыранае вуха, каб лепей чуць. Але ў наступную мінуту суддзя пачуў ад Куксы такое, што прымусіла яго адразу забыцца і пра Мацвея, і пра загадкавыя словы пракурора. Сведка заявіў, што ў камеры папярэдняга зняволення, дзе ён адбываў арышт за ўчыненае ў дзень фестывалю хуліганства, нейкі рыжы кірпаносы хлопец прызнаўся яму па сакрэту, што абакраў засценскую краму. Але што яму было да таго? Што ён следчы ці міліцыянер? Ды, калі быць шчырым, і рашыў, што крамніку не пашкодзіць пасядзець за кратамі. Будзе ведаць, як на нявіннага чалавека вярнуць.

— А што вас цяпер прымусіла расказаць гэта? — запытаў суддзя.

— Сумленне,— і Кукса ўпершыню схаваў свой позірк, адвёў вочы.

Сямён Пятровіч заўважыў, як адразу пасвятлеў твар Веры. «Хтосьці, відаць, папрасіў Куксу. А хто? Няўжо яе работа?». Гэтая раптоўная думка была такая пакутлівая, што суддзя адчуў боль у галаве. «Не можа быць»,— намагаўся ён адагнаць ад сябе гэтае падазрэнне. І зноў супярэчлівая думка: «Мо' Кукса і праўду кажа. Што яму за інтарэс выгароджваць чалавека, які хацеў звярнуць усё на яго?» А ў Верыным позірку, здавалася, было: «Бачыш? Брат жа не вінаваты».

— А якую гэта паперку передала табе Андрэева жонка?

Суддзя не заўважыў, хто кінуў такую рэпліку, і шукаў таго чалавека. Кукса павольна павярнуўся і, пагрозліва бліскаючы бялкамі, працадзіў праз зубы:

— Хто ж гэта пільным такім аказаўся?

Не паспеў Мацвей Бяляк і слова вымавіць у адказ, як высокая хударлявая жанчына ўсхапілася з лаўкі і заверашчала натужлівым, сіплым голасам:

— Маўчы. Бачыў, не бачыў — маўчы. Навошта чалавека тапіць, ворагаў сабе нажываць?

— Не парушайце парадку, грамадзянка,— папярэдзіў жанчыну суддзя.

— Чула? — павярнуўся да жонкі Мацвей.— Гэта, брат, табе не дома...— І да суддзяў: — Я на свае вочы бачыў.

Суддзі параіліся і рашылі дапытаць Бяляка.

— Стаю на вуліцы я, гляджу — Андрэя вядуць,— пачаў расказваць Мацвей.— Жонка яго крыху воддаль ідзе. Бачу, нагнулася, падняла

нешта. Потым, калі разгарнула, я заўважыў, што гэта паперка. А Кукса на ганку стаяў. Тамара адазвала яго ўбок і перадала яе.

— Ён ілжэ, помсціць мне...— голасна пачаў апраўдвацца Андрэй.

— За што? — пацікавіўся народны засядацель.

— За тое, што радыёлу яму не прадаў...

— Як табе не сорамна, Андрэй. Дзе сумленне? — Голас Мацвея задрыжаў.

Кукса маўчаў і толькі неяк насцярожліва пазіраў то на аднаго, то на другога.

Суддзя выклікаў Тамару Арэшка. Падышла тая самая заплаканая жанчына, што сядзела побач з Верай. На пытанне суддзі, ці пацвярджае яна словы Беляка, жанчына нічога не адказала, толькі нервова кусала вусны.

— Язык у цябе адваліўся, ці што? Дык ты б хоць у Белячыхі пазычыла,— не сцярпеў Андрэй.

Але Тамара па-ранейшаму маўчала. Кукса недаўменна глядзеў на яе і думаў у гэты час: «Андрэй — яе муж. У іх ёсць дзеці. Дык чаго ж яна маўчыць, не выручае?» Так жанчына нічога і не сказала.

— Дапытай Беляка наконт аблігацый, Сямён Пятровіч,— раптам пачуўся з кабінета пракурораў бас.

«Пры чым тут аблігацыі?» — падумаў Сямён Пятровіч, але спытаў:

— Што вы, Бяляк, ведаеце пра аблігацыі?

— А што ведаю? Андрэй купляў іх у ашчадкасе. Я на свае вочы бачыў.— І Мацвей расказаў усё, пра што некалі паведаміў пракурору.

Пасля допыту Беляка судовае следства па сутнасці было ўжо скончана. Але Сямён Пятровіч разумеў, што эпізод з запіскай заставаўся яшчэ не высветлены як след. Што пісаў у той запісцы Арэшка — суду невядома. А як даведацца? Хто раскажа? Жонка падсуднага? Не, даказваць на мужа ў яе не хопіць адвагі. Мо' Кукса гэта зробіць? Не, на яго таксама надзея малая. Паспрабуй, зразумей гэтага чалавека!..

Як толькі Сямён Пятровіч паглядзеў на Куксу, той адразу ж адвёў ад яго свой позірк. Суддзя адразу ж зноў выклікаў Куксу.



— Суд спадзяецца, сведка, што вы ўсё ж скажаце праўду. Перадавала вам жонка падсуднага запіску, ці не?

Марцін то засоўваў руку ў кішэню, то зноў вымаў яе і маўчаў. А Сямён Пятровіч дапытваўся:

— Дык скажаце?

Кукса раптам павярнуўся, паглядзеў на Тамару, потым нервова выхапіў з кішэні руку і паклаў суддзі на стол шматок паперы. Суддзя разгарнуў запіску і, ледзь разбіраючы густы, дробны почырк, прачытаў: «Кукса, памажы. Заблытай як-небудзь справу. Пашкадуй не мяне, а маіх дзяцей».

А Кукса, пастаяўшы, павярнуўся





да Арэшкі і сцішаным голасам кінуў:

— Сумленне... Яно ж і ў мяне ёсць...

Відаць, гаварыў для аднаго падсуднага, а пачулі ўсе, бо ў зале было ціха-ціха. Сямёну Пятровічу здалося, што гэтымі простымі словамі Кукса горда заявіў на ўвесь голас: «Я таксама чалавек...»

Падсудны пазіраў не на Куксу, а кудысьці ў кут пакоя. Вочы яго то ўспыхвалі, то цямнелі, то зноў ліхаманкава загараліся.

Суд прызнаў вінаватым Андрэя. Як толькі суддзі выйшлі з дарадчага пакоя, па зале пранёсся глухі шорах: прысутныя зноў усталі. Суддзя абвёў позіркам залу і ўбачыў строгія твары. Прачытаўшы прыгавор, ён чамусьці адразу зірнуў не на падсуднага, а на Веру. Дзве буйныя слязы выкаціліся з вачэй і павольна цяклі па твары дзяўчыны.

— Дзякую, грамадзянін суддзя. А туды вам ужо можна і не пазіраць,— неяк насмешліва кінуў асуджаны. А ў наступны момант Сямён Пятровіч убачыў у яго такіх жа сініх, як і ў Веры, вачах столькі нянавісці, што міжвольна падумаў: «Так, у гэтым, бадай, твая праўда».

Павел Рыгоравіч быў у судзе да канца працэсу. Як толькі суддзя зайшоў у кабінет, ён чамусьці зняў акуляры і доўга праціраў іх насоўкай. Потым падышоў да Сямёна Пятровіча і моўчкі паціснуў яму руку. «Моцная яшчэ рука ў старога»,— падумаў Кузняцоў, як толькі пракурор выйшаў. Застаўшыся адзін, ён падышоў да акна, расчыніў яго. У пакой зноў заглянула ўсё тая ж, што і зімою, галінка ліпы. Толькі цяпер яна была ва ўбранні першай, кволай квецені і нестала на ёй тых двух снегіроў. І дзе яны цяпер? Мо' і яны разляцеліся ў розныя бакі?

Яго, як абручамі, сціснула цяжкая, пякучая туга.

Ён выйшаў на вуліцу. Абмытыя кароткім, але спорным дажджом, блішчалі дахі будынкаў і асфальт тратуараў. Непадалёку ад памяшкання суда, каля аўтобуснага прыпынку, стаяла некалькі чалавек. Сярод іх была і Вера. Кузняцоў з мінуту вагаўся, але, пераадолеўшы свае

сумненні, наважыўся падысці да яе. Няўжо ж яна не зразумее, што ён не мог інакш? А яна павярнулася і пайшла прэч. Значыць, усё. Разышліся іхнія шляхі-дарогі. Сямёну Пятровічу хацелася крыкнуць на ўсе грудзі: «Вярніся, куды ты?» Але Вера, прайшоўшы крыху, азірнулася адзін раз, другі і спынілася. Ці яна чакае каго? Але, чакае. Адышла ад староніх людзей і чакае. Цябе чакае, Сямён Пятровіч. Дык чаго ты стаіш? Ідзі да яе, ідзі...





Арсень Ліс нарадзіўся ў 1934 годзе на Смаргоншчыне, у сялянскай сям'і.

У 1956 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і выкладаў беларускую мову і літаратуру ў мястэчку Шаркаўшчына Маладзечанскай вобласці.

Цяпер працуе рэдактарам мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР.

Вершы А. Ліса друкуюцца ўпершыню.

**Арсень ЛІС**

# НАРОДЖАНЫ ПЕЦЬ І ЗМАГАЦЦА

**Памяці Валянціна Таўлая**



Жандарам крывіла вусны
Ва ўсмешцы амаль змяінай.
У ражку паношанай хусткі
Хавала маці слязіну.
«Не плачце... — Жаласць і чуласць
У голасе мяккім юначым. —
Не плачце, каб ворагі чулі...
Вы ж бачыце: я не плачу.»
...Да пастарунка блізка,
Ды доўжыцца шлях кароткі.
Камендантавы вочы ў спіску:
«А, камуніст з Кракоткі?!»
І брамы астрожнай грукат
Ззаду, як стрэлы ў спіну...
Наткнулася сэрца і рукі
На мур і крат павучыну.
Але трапятала песня
Ў грудзях, набрыняўшы крывёю,
І крыллі яе узнеслі
Вязня над роднай зямлёю.
Былі лятуценні, мары,
Вялі яны ў край дзяцінства,
Да ціхае рэчкі Шчары,

Бярозаў старых на гасцінцы.
Моц, што у сэрцы кіпела,
Не згасла ў скляпах турэмных,
У песні яна гучэла
Клічам к зямлі пад'ярэмнай.
... На тыдзень-другі — абшары,
І зноў этапы бясконца...
У краі пан гаспадарыць,
Ды блізка дзесь, блізка сонца.
Толькі муры адолець —
Пырсне праменнем у вочы.
— Воля, жаданая воля,
Табе я насустрач крочу. —
Сон пераходзіў у яву:
Рабочыя каля брамы.
Кароткай была расправа
З замкамі і халуямі.
Паэта віталі са святам.
Песня яго над калонай.
А маршам ішлі салдаты,
Браты пад сцягам чырвоным.

## ДАЖЫНАЧНАЯ ПЕСНЯ



Зжат сноп апошні, і на пожні
З расою разам песня пала.
Падкраўся вецер асцярожна
І ў лозе лёг. Зямля спявала.
Імкнула песня далей, далей,
За рэчку ды за сінь над борам,
Ўздымалася высокай хваляй,
Аколіцу злучала ў хоры:
Сягоння ў нас дажыначкі,
Усё поле зваявалі...
. . . . . . . . .
З апошнім промнем гаслі гукі.
Ад жней ты засталася ззаду.
Калоссем пахлі твае рукі,
П'янілі вусны пахам саду.



* * *



Гародчык сіні-сіні ўвесь ад бэзу,
І у яго шырока праз акно
Ліюцца, таюць гукі паланезу,
Павек нязгаслы сэрца ў іх агонь.
Праз сіні змрок мне мроіцца аблічча,
Дзявочы профіль, белая рука,
Што за аселіцу, кудысьці ў далеч кліча
Мяне, нібы сяброўка дружбака.
Нешта знаёмае у гэтых рысах твару...
Абрыс? Усмешка? Воч жывы прывет?
Зноў урываешся ты без дазволу ў мары,
На гэты раз за музыкай услед.

## ПРА ШАНДАРА ПЕТЭФІ



Прышла вясна ў Альфельдскі стэп,
Агні цюльпанаў запаліла,
Дзе волю бараніў паэт,
Дзе яго кроў зямлю расіла.
Не знойдзеш кургана яго —
Прайдзі ўсе над Дунаем далі...
Няма магілы у таго,
Каго ніколі не хавалі.

## ВЯСНОВЫ ПАРЫЎ



Сад белы, а ластавак шчэбет,
Як смех бесклапотны дзявочы.
Бы вочы каханай, неба,
І салаўіныя ночы.
Сэрца ў абшар парывае,
Рукі — да працы любімай...
Востра, як боль, адчуваю
Веліч, прыгожасць Радзімы.
Шляхі яе сквапна меру,
Стрэчных абняў бы, прывеціў.
Мацней яшчэ ў шчасце веру
Для простых людзей на свеце.



Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ

# МІНІЯТУРЫ

Мал. Ф. Бараноўскага.

## ПРАСЕКА

Мне восем-дзевяць гадоў. Мы садзім праз баразну на самым дальнім шнурочку бульбу. Я іду следам за маці і ўграбаю гной у баразну.

— Як думаеш, маці, ці не падсілкавацца і нам трохі? — пытае бацька, паставіўшы каня на адпачынак.

— Чаму ж, можна, толькі трэба было б свежай вады прынесці.

Маці вылівае з глячка рэшткі вады і пасылае мяне па крынічную.

— А дзе тая крыніца?— пытаюся я, беручы з матчыных рук пасудзіну.

— Ды вось жа на лініі, у Візнозе, насупраць Піліпавага шнурка,— паказала яна на лес, — з самага краёчку...

— Няхай сходзіць Волька, — перапыняе бацька. — Ён жа не быў там ні разу, заблудзіць яшчэ...

— Чаго ён заблудзіць,— адказвае маці і пасылае ўсё ж мяне.

Размахваючы глячком, бягу на лінію. Так называюць у нас лясныя квартальныя прасекі.

«А дзе ж тут тая крыніца?— думаю я і шукаю вачыма.— Мама казала з краёчку»... І раптам, што за дзіва? Я не магу адвесці вачэй ад лініі-прасекі.



Яна, мусіць, зачаравала мяне сваім хараством.

Далёка-далёка віднелася горка. Прасека ішла цераз яе. Я прыгнуўся, каб лепей разглядзець тую горку скрозь галіны купчастых дрэў.

«А што там за ёю?» — падумаў я і падаўся прасекай між пнёў.

Відаць, доўга стаяў на прасецы, любуючыся, бо не прайшоў і дваццаці крокаў ад горкі, як пачуў голас сястры:

— Але-есь!

Гэта бацька занепакоіўся, што мяне так доўга няма, і паслаў Вольку паглядзець, дзе я. Рэха данесла яе трывожны голас да маіх вушэй.

Я хуценька вярнуўся да крыніцы, набраў глячок вады і паімчаўся назад.

— Дзе ты столькі бавіўся? — папракнула маці. — Мы перакусілі даўно, а цябе няма і няма з вадою.

— Мамачка мая, каб вы толькі глянулі, якая там прыгожая лінія...

— Мама там сотню разоў была, а ты пасылаеш глянуць, — засмяялася сястра.



— Дык гэта ты і любаваўся ёю? — пытае бацька.— А мы думалі, заблудзіўся дзе.

— Я ж казала, што не заблудзіць, а ты ўсё баяўся,— уступаецца маці.

— Тата, а што там за тою горкаю? — карціць мне.

— Таксама лінія. Яна выходзіць аж на выган, — адказвае бацька.

Маці падае мне лустачку хлеба і скрылёк сала. Я ем, стоячы, і ўгаворваю маці схадзіць са мною паглядзець на лінію.

— Адчапіся ты сёння ад мамы, дай ёй часінку адпачыць, — уступаецца сястра.

Па сваёй дабраце маці не магла адмовіцца ад просьбы і пайшла разам са мною. Яна моўчкі стаяла некалькі хвілін, глядзела са мною на прасеку і потым сказала:

— Але ж, хораша!

Ці то сказала яна гэта знарок, каб не пакрыўдзіць мяне, ці сапраўды і ёй спадабалася прасека, цяжка сказаць мне і цяпер, праз столькі гадоў.

У той дзень я яшчэ некалькі разоў наведваў прасеку: бацька паставіць каня на адпачынак, а я бягом туды...

Пятнаццацігадовым хлопцам я прайшоў тую прасеку з канца ў канец. Памятаю, доўга любаваўся лясным хараством з горкі. Адсюль у адзін бок віднелася поле, у другі — выган. Яны вабілі сваім прасторам, невядомасцю.

Даўно памерла мая маці... І кожны раз, успомніўшы яе, я прыгадваю лясную прасеку ў Візнозе. Гэта яна, матуля мая, па-

слала мяне ўпершыню туды па крынічную ваду. І напэўна не ўяўляла, што гэтым разбудзіць у маім дзіцячым сэрцы любоў да хараства, да працавітага чалавека. Да таго чалавека, мазалямі рук якога працярэблены гэтыя прасекі скрозь цёмныя пушчы і нетры лясоў.

Нядаўна я зноў наведаў родныя мясціны. І зноў, як у дзяцінстве, напіўся крынічнае вады там, у прасецы. І здалося няпраўдай, што ўжо столькі пражыта і перажыта: нібы рукамі зняло ўвесь цяжар гадоў, я зноў адчуў сябе юнаком.

Мабыць, сама маладосць знаходзіцца ў той крынічнай вадзе. Прайшоўшы свой цяжкі шлях праз зямныя нетры, яна выносіць у сабе гарт і радасць жыцця. Праўду казала калісьці маці:

— Як бы ты ні быў стомлены, а напіся крынічнае вады — і адразу ажывеш...

# БУСЛЫ

У першую вясну пасля вайны мне давялося быць на Віцебшчыне. Спаленыя вёскі, руіны, ямы ад снарадаў і бомбаў, пакапаныя пад акопы палі — сведчылі пра мінулыя жахі і чалавечыя пакуты.

На горцы сярод некалькіх сасонак, пасечаных асколкамі і кулямі, стаяла разбураная мураваная камяніца — былы дом культуры. Уваход яе завалілі абломкі. Пакарабачаныя дзверы віселі ўпоперак на адной завесе.

На вуглах дзвюх тоўстых сцен аснаваліся буслы. Што прымусіла іх зрабіць на руінах гняздо — невядома. Паблізу рос гонкі алешнік і на адным з дрэў ляжала нават барана, але буслы аблюбавалі чамусьці руіны. Можа яны не давяралі больш дрэвам, бо ранейшае іх гняздо разбурыла бомбай, хто ведае...

Ад рання да позняга вечара буслы насілі галінкі, рознае цыбур'ё і акуратна ўкладвалі іх на муры. Вясна была ў разгары, ім трэба было спяшацца.

Аднойчы раніцай ціхае надвор'е змянілася ветрам. У такі час буслы лятālі па чарзе: адно наўздабыткі, другое заставалася вартаваць гняздо, каб вецер не сарваў яго. Бо нават ад невялічкага павеву неаблежаныя галінкі, здавалася, вось-вось паляцяць на дол.

Вецер штохвіліны мацнеў. Відаць было, як трывожыўся бусел: ён тупаў па краёчку з падветранага боку, прыціскаў галінкі да сцяны. І раптам наляцела бура, з сілай ударыла ў гняздо. Бусел падскочыў на месцы, міжвольна распасцёр крылы, але тут жа зноў падцяў іх, каб не ўзняцца з гнязда.

Пачалася жорсткая барацьба бусла з ветрам. Бусел упарта абараняў свой прытулак, а вецер скуголіў, раз'юшана завываў, пагражаў з-пад нізу падчапіць гняздо і скінуць яго разам з птушкай на зямлю. Іншы





раз яму ўдавалася падняць гняздо ад мура, але ў гэты час бусел прыціскаў яго сваім целам. Вецер тады ляцеў са свістам далей, а бусел трывожна азіраўся навакол, чакаючы дапамогі.

Прытрымліваючы за брыль шапку, я стаяў і назіраў за буслам. Мне было шкада яго, хацелася дапамагчы яму ў бядзе. Я разумеў яго становішча, бо ў жыцці мне самому давялося паспытаць тое самае. А хто адведаў няшчасце, той не можа быць абыякавы да бяды другога.

Памятаю, неяк улетку, пасля абеду, маці ўбегла з двара ў хату і, не зачыняючы дзвярэй, гукнула:

— Вецер хату раскрывае!

Я вылецеў куляй на двор і ўбачыў жахлівы малюнак. Увесь двор быў засыпаны кастрыцай, вецер кружыў салому, чапляў яе за голле саду. Сарваўшы кастрыцу з хіба, вецер адарваў паплеціну і раскрыў цэлы рад саломы. Марудзіць нельга было. Я хутка прыцягнуў з павеці драбіну, залез на самы верх страхі, учапіўся рукамі за лату і лёг на паплеціну з падветранага боку. Трэба было не даць раскрыць другі рад. Вецер злаваўся, завываў над вухам, але другой паплеціны адарваць не змог.

Маці стаяла на зямлі і раз-по-раз напаміналa:

— Трымайся, сынок, а то і цябе яшчэ разам з саломай сарве...

— Не сарве... — суцяшаў я маці, а сам мацней прыціскаў лату.

Гледзячы цяпер на змаганне бусла з ветрам, я таксама падахвочваў яго:

— Трымайся, дружа, трымайся!

Хутка на дапамогу буслу прыляцела бусліха. Яна ведала, як цяжка аднаму абараняць гняздо ў такі час, і спяшалася з усяе сілы. Ляцець ёй давялося супраць ветру. Ён адносіў яе ўбок, але бусліха не здавалася. Нарэшце, яна апусцілася на гняздо, закрануўшы крылом бусла.

Бусел злёгку заклекатаў, відаць, напомніўшы пра асцярожнасць, і падаўся на самы край. Бусліха таксама села з падветранага боку.

Цяпер ім дваім не страшны быў вецер.

# ДУБ І САСНА

Колькі гадоў таму дубу, ніхто з лукашоўцаў не памятае. Не адно пакаленне людзей ведала і ведае яго такім, як выглядае ён сёння. Стаіць дуб на правым беразе Нёмана і сваімі шатамі глядзіцца ў яго празрыстую ваду. Увосень лісце падае на халодныя хвалі і плыве далёка ўніз па цячэнню.

А па суседству з дубам, між кустоў чаромхі, прымасцілася сасонка. Старыя людзі памятаюць яе маленькай, на іхніх вачах яна вырасла ў гонкае дрэва, вышэй за дуб.

І напэўна не раз яна радавалася, што бачыць далей, чым яе сусед. Стары дуб не зайздросціў сасне. За свой век ён бачыў, як выраслі такія ж сосны і самі падалі на зямлю ад старасці. А дуб жыве сабе ды жыве, згубіўшы лік гадам.

У тую вясну, калі адбылося гэта здарэнне з дубам і сасною, была вялікая паводка. Вада падышла з вытокаў ракі, з лясоў і затапіла не толькі луг, але і агароды, а сям-там і хаты. Дзяды чухалі патыліцы, глядзелі на паводку і казалі, што ніколі не памяталі такой вады.

Нёман ператварыўся ў шырачэзную, як акінуць вокам, раку. Там, дзе ён бруіўся між высокіх берагоў, вада шумела, пенілася. Велізарныя крыгі лёду напаўзалі адна на адну і са страшэнным гулам крышыліся, разбіваліся на друзачкі...

Ужо шмат гадоў Нёман падмываў правы бераг, а левы ўсё ўразаўся і ўразаўся далей у раку. Паводка размывала пясок. І калі Нёман зноў уваходзіў у свае берагі, над ім сям-там канцамі навісалі тоўстыя ствалы дрэў, што тысячагоддзі назад былі зламаны ледніком і занесены тоўстым пластом зямлі. Зімою вясковыя сталяры адпілоўвалі кавалкі дуба і рабілі адмысловую мэблю. Крэслы былі чорныя, як пафарбаваныя.



Калісьці, яшчэ за далёкім прыгонам, Нёман падзяляў абшары двух паноў. Дзяды расказвалі нашым бацькам, а тыя расказвалі пасля нам такую легенду. Аднаго разу пан, што жыў на правым беразе, аблаяў за нешта свайго суседа з левага берага.

За абразу той вырашыў адпомсціць. Ён загадаў свайму цівуну сесці на човен і выпусціць у ваду каля берага свайго ворага бутэльку жывога срэбра.



— Калі не дачакаецца ён, то дачакаюцца ўнукі ці праўнукі, што Нёман падмые яго сядзібу,— цешыўся сусед з левага берага,— жывое срэбра — гэта сіла, пане мой, ой, сіла...

Але ні ўнукаў, ні праўнукаў Нёман не змыў, хоць і была сядзіба з вярсту ад берага. Іх напаткала іншая паводка — людская, што адным махам змыла ўсіх паноў і з правага і з левага берага. Некаторыя з іх вынырнулі аж за морам, а другія, хто пасмеў стаць супраць, налажылі галовамі.

А Нёман і цяпер усё падмывае і падмывае правы бераг.

Ужо некалькі гадоў назад паводкавая вада лізнула халоднымі хвалямі карэнні дуба. Ён трывожна здрыгануўся тады ад непрыемнага дотыку вады, зашумеў галінкамі і насцярожыўся.

Даўным-даўно, калі дуб быў яшчэ малады, перад ім, бліжэй да берага, стаяў такі ж, як ён цяпер, стары дуб. Аднае вясны дуба не стала, ён ляжаў на дне Нёмана і толькі некалькі галінак вытыркалася з вады. А праз некаторы час і яны зніклі.

Вось чаму на гэты раз, калі вада ледзь не зраўнялася з берагам, дуб задрыжаў не на жарты. Ён адчуваў, як халодная вада вымывала пясок і лізала яго карэнні, а шурпатыя крыгі абдзіралі з іх кволую кару. Не хацелася старому дубу паміраць. Буры ён не баяўся, бо не так лёгка было ў такім узросце асіліць яго ветру, але вада не давала спакою старому.

Калі ж сасна — яго суседка, такая маладая і вечназялёная, зашумела сваёй кронай і пляснулася ў ваду, дуб скалануўся ад сполаху і яшчэ мацней учапіўся за зямлю сваімі разгалістымі карэннямі, да якіх не даставала яшчэ вада.

Зямля! Яна столькі гадоў давала яму жыццёвыя сокі, няўжо на гэты раз здрадзіць, аддасць хвалям...

Падвечар вада зменшала і перасталі плёскацца хвалі аб яго карэнні. Дуб ківаў сваімі галінамі апошнім праменням чырванаватага сонца і спакойна сустрэў зорную веснавую ноч. Цяпер ён ужо выжыве...

Праз некалькі дзён, як Нёман увайшоў у свае берагі, лукашоўцы пайшлі наведаць раку. Яны здалёк заўважылі, што няма больш сасны каля дуба. А падышлі бліжэй — здзівіліся: іхні ўлюбёнец, сведка шмат якіх падзей, за маленькім астаўся жыць. Колькі разоў яны сядзелі пад яго ценем, наладжвалі гульні!

— Трэба ратаваць нашага дзядулю, — падаў голас малады хлопец.

І выратавалі. Зрабілі густы рад паляў, падсыпалі пад карэнні пяску, а бераг аблажылі дзірваном.

А пра сасну сказалі:

— Не магла яна ўтрымацца адным стрыжнем. Бачыш, бакавых карэнняў колечкі, ды і тыя тонкія.

Павел ВОРАНАЎ

# КАМЕНЬ



Пасівелы увесь,
ля шашы
Ён ляжыць на зялёным доле.
Яго люты пярун крышыў,
І пякла, і студзіла доля.

Адшліфоўваў яго ляднік,
І валун быў, як люстра, гладкі.
А цяпер ён з маёй радні:
На плячах —
вострых шрамаў складкі.

У каравых рубцах кругом,
Як у ранах,
валун шчарбаты.
Абдавалі яго свінцом,
Абчасалі гранатай каты.

...Зграя карных ішла ў сяло,
Захлыналіся дзеці з плачу.
За валун партызан залёг,
Стрэціў злыдняў агнём гарачым.

Мітусіўся фашысцкі зброд.
А ён гадаў касіў няспынна,
Пакуль
рукі і кулямёт
Адхапіла варожай мінай.

І тады ён на камень стаў,
Свае грудзі падставіў кулям...

З-за якога камня, куста
Гнеў наш ворагі не пачулі?..

Партызанскі, лясны куток,
Я тваімі хадзіў шляхамі...
Тут гісторыя —
кожны крок,
Тут легенда —
звычайны камень.



Барыс САЧАНКА

# ЛЯСНАЯ ДАРОГА

## Апавяданне

Мал. В. Рамейкі.

Ад школы, дзе вучыць Леанід Акімавіч, да Замхоўя крыху больш сямі кіламетраў. Гэта калі праз лес, ці, як кажуць, брадамі. Дубы і клёны, сярод якіх дзе-ні-дзе пракідаюцца танклявыя беластволыя бярозкі і кусты арэшніку, упіраюцца скрозь у самае неба. За парэпанымі, у два і ў тры абхваты камлямі парою нельга разгледзець малаўезджаную дарогу за дзесяць-дваццаць крокаў.

Дзе-кольвечы па дарозе можна сустрэць доўгія гнілыя брады з жабамі ў стаячай, цвілой вадзе. Затым — зноў лес. Дрэвы адно ў адно: тоўстыя, старыя, з барадамі сівога моху на ствалах. Яны заўсёды захоўваюць адвечныя лясныя змрокі.

Лес гэты не ведаў ні пілы, ні сякеры. Ён рос, старэў. На яго месцы неўпрыкмет з'яўляўся новы, і так ішлося спрадвеку. У адным месцы ля дарогі лес нібы рассоўваецца, даючы месца паляне. Яшчэ да вайны тут стаяла леснічоўка. Ад яе засталося толькі печышча. Усё ў быльняку і ажынніку, яно выпіраецца аж на самую дарогу.

Людзі па гэтай дарозе ходзяць рэдка. Сустракаючы тут Леаніда Акімавіча, сёй-той з аднавяскоўцаў часам пытаў:

— Чаго гэта, Акімавіч, брадамі ходзіце? Ёсць жа дарога праз сенажаць. Тудою куды прамей...



Настаўнік усміхаўся, хутчэй сабе, чым субяседніку, і задуменна казаў:

— Лес люблю... Ды і прывык хадзіць сюдою...

Аднойчы хацелі перавесці Леаніда Акімавіча ў Замхоўскую школу. Гэта ў сваю вёску, але ён, на здзіўленне ўсім, адмовіўся.

— Ды якое там далёка... Сем кіламетраў... Адпачыць пасля ўрокаў і то як след не паспееш...

Прывыклі людзі да такіх вандровак настаўніка, думаючы: хлопец усю вайну тут праваяваў у партызанах. Ці мала чаго можа напомніць яму глухая лясная дарога?

Ідзе Леанід Акімавіч, а з галавы не выходзіць мінулае — блізкае, дарагое сэрцу. І бесклапотнае, вясёлае юнацтва, праведзенае на ўлонні прыроды, і школа, сябры, настаўнікі... Яго першае і, відаць, апошняе каханне некалі блукала тут... Усплываюць тыя сінія, празрыстыя майскія вечары з духмяным настоем яблыневай квецені ў паветры... Ён хадзіў адзін каля канцавой хаты ў вёсцы. «Можа выйдзе Ніна? І тады вазьму ды скажу аб усім ёй...» — думаў Леанід. Але дзяўчына не выходзіла. Сядзела каля прыадчыненага акна і чытала.

Ніна... Ты нічога тады не ведала пра таго, хто не асмеліўся падысці да цябе ні на адным школьным вечары, не рашыўся нават пра ўсё напісаць. Не ведала тады, хто выкраў у цябе аднойчы з партфеля твой фотаздымак... Ці не ён загубіў усё на свеце — мару, каханне. А ён бярог яго. Ды і як было не берагчы... І ў цяжкіх баях пры адступленні, і ў школе, куды папаў неўзабаве пасля ранення, — усюды ён быў з ім, як напамінак аб ёй.

І вось радысту паведамілі, што яго самалётам пераправяць праз лінію фронта да партызан. Якраз у родныя мясціны.

З самалёта выпрыгнуў ноччу. Знаёмы лес сустрэў ціхім, задумлівым шэптам.

Схаваўшы пад выварацень рацыю, ён да самага ўсходу сонца прабіраўся да партызанскай зоны з думкамі пра заданне, пра маці, вёску. Пра яе, Ніну.

Раніца ў той дзень выдалася нейкая насцярожаная. Манатонна ціўкалі птушкі, спалохана лопалі крыллем, пырскаючыся халоднай расой, дзікія качкі. Дыміўся дзе-ні-дзе туман.

— Хэндэ хох!..

Голас з-за дуба выбіў яго з задумення і прымусіў нырнуць у гусцеж лесу, шукаючы паратунку.

Аўтаматная чарга ссекла на плячо некалькі галінак...

Леанід ведаў свой лес, брады, раку Віць... «Толькі б дабегчы да ракі, толькі б дабегчы...» — мільганула ў галаве. Ногі правальваліся ў месіва твані, спаўзалі з купін. Гразь плюхала ў ботах. Ён чуў, як трашчала голле, каўкала дрыгвяністая глеба. «Што ж не страляюць?» Крокаў праз колькі ён здагадаўся: «Хочуць узяць жывым».

«Трэба скінуць гімнасцёрку, — цюкнула яму, калі ён дабег да ракі.— Пакласці яе перад ботамі. Хай тады акружаюць парашутыста... А тым часам — у раку. На тым беразе — партызанская зона...»



Гадзіны праз дзве Леанід быў у партызанскім лагеры. І тут успомніў, што разам з гімнасцёркай трапіў у рукі ворагаў здымак.

Праз тыдзень, ліпеньскай ноччу, Леанід наведаў маці. Ад радасці тая не ведала, што рабіць. Стаўляла на стол то малако, то халодную бульбу, якая засталася ад вячэры, то прыносіла сала. І расказвала ўсё пра вясковыя і лясныя навіны.

Леанід доўга не рашаўся спытаць пра Ніну. Толькі перад самым світаннем, калі трэба было адыходзіць, ён не вытрымаў:

— Мама, а дзе цяпер Ніна Лучанка?

— Няма яе ўжо, сынок... Павесілі фашысты ўчора... Там, каля лесьнічоўкі... Кажуць, яна трымала сувязь з Масквою. Бо ў кішэні нейкага парашутыста знайшлі яе здымак. Відаць, да дзяўчыны пасылаўся чалавек... На допыце маўчала, кажуць. Нікога не выдала...

...Крочыць Леанід Акімавіч лясною дарогай...

Праходзіць лета, пачынае журботна курлыкаць жураўліная восень, затым снягі, а Леанід Акімавіч ходзіць і ходзіць гэтаю дарогай, па якой фашысты вялі на смерць яе, Ніну...





Генадзі Шмань нарадзіўся ў 1931 годзе ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці. Вучыўся ў Віцебскім медыцынскім інстытуце. Цяпер працуе ў рэдакцыі Віцебскай абласной газеты. Піша ён для дзяцей.

Вершы Г. Шманя друкаваліся ў «Полымі», «Бярозцы», «Вясёлцы». У мінулым годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў з друку яго зборнік «З добрым ранкам».

**Генадзі ШМАНЬ**

## КАСЦЁР НАД СУМЁТАМІ



Пагледзі,—
Крычыць Ягор. —
Над сумётамі
Касцёр...

Так агнём
І палыхае,
Як вясновая зара.
Пэўна,
Снег наўкол
Растаяў?

Мы бяжым
Туды
З двара.

Прыляцелі,
Пагледзелі,
Хорам крыкнулі:
— Ур-р-а!

Вокал
Посвіст снегірыны,
Грудкі птушак,
Як зара.

Вось рабіна —
Малайчына,
Гронкі звесіла
Над тынам.
Рукі грэйце ля кастра!



## ЛЮСЯ І ГУСІ



Люсі
Дома не сядзіцца.
У бальніцу
Люся мчыцца.
Просіць
Цётухну Марыну:
— Дайце аспірыну!
Захварэлі
Гусі...
Ой, памруць,
Баюся.
То ж не жартачкі,
Не смех:
Гусі елі
Сёння снег...

## ДУШ НА ВУЛІЦЫ



Смаліць сонца —
Усё скварэцца,
Спёка, пыл —
Куды падзецца?

Ліпы жоўкнуць
Ад знямогі.
Грузавік паўзе
Двухрогі:
З рог
Вада струменіцца,
На асфальце
Пеніцца.

Сто вясёлак
У ваччу,
Пад струменямі
Скачу...

Гэй,
Хутчэй
Сюды, рабяты,
Прынімайце
Душ без платы!

## ЦАЦКІ



У маім куточку —
Ўсе як ёсць звярочкі:
Зайчаняты,
Качаняты,
Ваўчаняты
І яшчэ —
Дадаць я мушу —
Ёсць вавёрка з плюшу.

Цацак розных
Повен кут,
Мне ж
Не да пацехі,
Бо вавёрачка мая
Не грызе арэхі.

## ЛІСТАПАД



На ўсе лады,
Рознагалоса
Вятры
Над лесам загулі.
Над ціхай вёскай,
Сінім плёсам
Ляцяць у вырай
Жураўлі.

Усюды
Кружацца,
Імчацца
Лісты,
Услаўшы сенажаць.
Таксама
Холаду баяцца
І ўслед за птушкамі
Ляцяць.



Фадзей Собаль нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Вялюнь Брэсцкай вобласці. Да 1939 года закончыў сельскую школу у вёсцы Збірагі Брэсцкага раёна. У 1940 годзе ўступіў у камсамол. У гады Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у партызанскім руху, у баях на 1-м і 2-м Беларускіх франтах. У 1945 годзе ўступіў у рады КПСС. Пасля дэмабілізацыі працаваў настаўнікам у Збірагоўскай сямігодцы, затым паступіў на гістарычны факультэт Мінскага педінстытута імя Горкага. Закончыўшы яго ў 1953 годзе, Фадзей Собаль працаваў у рэдакцыі «Настаўніцкай газеты». Зараз — адказны сакратар газеты «Піянер Беларусі». Апавяданні пачаў друкаваць у 1958 годзе.

**Фадзей СОБАЛЬ**

# ПЕРШАЕ ПРЫЗНАННЕ

**Апавяданне**

Мал. Б. Льдокава.

Мне пераваліла за трыццаць. Называюць мяне старым халасцяком. Усе знаёмыя пры сустрэчы толькі і пытаюцца:

— Калі ж паклічаш на вяселле?

Ну і надакучылі мне гэтыя допыты! Не буду ж я кожнаму расказваць пра сваё першае каханне і пра тое, як хацеў жаніцца і што з гэтага атрымалася. Я рашыў лепш напісаць. Няхай усе прачытаюць і перастануць дакучаць.

...Вось я за вясельным сталом. Вакол шмат гасцей: знаёмых усяго якая жменька, а астатніх дык першы раз бачу. Мяне ўсё цікавіць, ці ёсць тут дзяўчаты, ды і не абы-якія, а прыгожыя...

Я аднойчы быў і закахаўся ў прыгажуню... Але аб гэтым крыху пазней.

Мяне паклікалі сюды, на вяселле, кароткім пісьмом:

«Валодзя! Стрымліваю сваё слова. Запрашаю цябе на вяселле. Рая».

Я хуценька сабраўся ды і ў дарогу. І вось з поезда адразу за стол. Не паспеў нават са знаёмымі як след пагаварыць.

За сталом пазнаю некалькі былых студэнтак педагагічнага інстытута. Вось тая, што справа ад мяне, у кутку,— Галка. Яна таксама, як і некалі, галасна смяецца.

Мне чамусьці ўспомнілася, што на апошнім курсе ў яе быў хлопец, Віктар, працавіты, кемлівы, але крыху задзірысты. Сярод студэнтаў ішла размова, што яны абавязкова пажэняцца. Віктара не было побач з ёй, і я рознае меркаваў пра яго.

Пакуль я ўспамінаў мінулае, Галя ўсё больш захапляла гасцей. Мужчыны пачалі часцей пазіраць у яе бок, і кожны, напэўна як і я, думаў: чаму не побач з ім сядзіць гэтая весялуха?

Звінелі кілішкі, грымела музыка...

А чаго толькі не было на стале: віны, закуска розная... На вяселле з'ехаліся сябры маладых з розных гарадоў і вёсак рэспублікі, і кожны вёз нешта сваё, мясцовае.

Застолле жыве, гамоніць... Вось узнімаюць тост за шчаслівыя студэнцкія гады. І ўсе яго падтрымліваюць. Каму ж не прыемна ўспомніць маладосць, час крылатыхмараў і першага кахання.

І раптам да маіх вушэй данесліся словы:

«Горка! Горка!»

Я ведаў, што гэта для маладых, і хуценька павярнуўся ў той бок. Галава мая закружылася, а сэрца моцна-моцна ёкнула. Я не вытрымаў і ўстаў з месца. Захацелася падысці да той самай дзяўчыны, з якой зараз цалаваўся незнаёмы хлопец. Але прайсці было цяжка — за сталом сядзела шмат людзей. Я зноў сеў і доўга не зводзіў вачэй з маладых.

Малады быў высокага росту, кучаравы, з арліным носам. Гадамі маладзей за мяне.

Калі ўважліва прыгледзеўся да маладой, мне здалося, што яна зусім не змянілася. Такая ж стройная, прыгожая.

Яе звалі Рая. З ёю ў мяне — даўняе знаёмства.

Два гады расстання, здавалася, закрэслілі яго ў маёй памяці... Але аднойчы, даведаўшыся, у якой школе яна працуе, я напісаў ёй некалькі пісьмаў і толькі на адно атрымаў адказ:

«Валодзя, я сказала табе шчырую праўду. Я не здраджу свайму слову і сэрцу».

Потым, колькі я ні пісаў,— ніякай весткі. І вось цяпер, калі я ўбачыў Раю, у маім сэрцы адкрылася даўняя, глыбокая рана.

Праўду кажучы, я не магу нават прыпомніць, дзе быў пачатак нашага кахання. Неяк усё атрымалася на дзіва проста. Пачаў я вучыцца з Раяй у педінстытуце з першага курса. Мы сядзелі за адным сталом.

Лекцыі, сесіі, канікулы...

Трэці год вучобы нас яшчэ больш зблізіў. На адным з вечароў я прапанаваў Раі правесці яе дамоў.

— Дзякую за ўвагу... Ты спазніўся сёння,— адказала тады яна.

Мне глыбока запала ў памяць слова «сёння». Яно наводзіла на думку, што сёння можа я сапраўды спазніўся, а заўтра, паслязаўтра або ў трэці, чацвёрты ці пяты вечар абавязкова буду першым...

Аднойчы на інстытуцкім вечары я запрасіў Раю на вальс. Але і на гэты раз атрымаў той жа адказ:

— Дзякую, і сёння ты спазніўся...

Памятаю, тады ўвесь вечар я танцаваў з дзяўчатамі, і што ні танец, то ўсё з другой. Быў да позняй пары, пакуль Рая не стала збірацца дамоў. Тады я потайкам пачаў назіраць: «Хто яе будзе праводзіць?»

І, паверце, як я быў здзіўлены, калі Рая выходзіла з інстытута са сваёй сяброўкай.



«Яна, напэўна, дамовілася сустрэцца з кім-небудзь на вуліцы?» — падумаў я.

Вестыбюль інстытута пусцеў, усе выходзілі на вуліцу. І ў гэтым маладым тлуме я не заўважыў, куды знікла Рая.

Тая ноч была для мяне поўная душэўнага неспакою. Я доўга варочаўся з боку на бок, а заснуць ніяк не мог. У галаве былі розныя думкі. Успаміналася дзяцінства, бацькі, партызанскае і франтавое жыццё. Цяпер усё засталося за плячыма. Яно паступова сціралася ў памяці, на змену прыходзіла зусім новае.

У той час сярод студэнтаў ішлі гарачыя спрэчкі аб практыцы, экзаменах, будучай рабоце, жаніцьбе. Ну, а што мне тады было гаварыць? Я ж быў самы старэйшы ў групе. Гэтая думка ўсё часцей пачала турбаваць маё сэрца. Яно неяк само па сабе стала шукаць спагады і чалавечай цеплыні. У такія хвіліны на памяць заўсёды прыходзіла Рая. Ды з ёй у мяне не ішло на лад. Папрашу канспект — дае, запрашу танцаваць — танцуе, а захачу правесці дамоў — не згаджаецца.

Ішлі дні... Яны былі для мяне пакутлівымі. Тое, чаго я раней не ведаў, трывожыла мяне бесперастанку. Гэта было каханне.

Нечакана прышла вясна. Педагагічная практыка, якая набліжалася к канцу, была для мяне і радасцю, і горам. Радасцю таму, што Рая, як і раней, кожны дзень была побач са мною. Я чуў яе голас, а часам здавалася, што нават чую біццё яе сэрца. Ну а горам — тое, што Рая па-ранейшаму не заўважала мяне. Не раз я збіраўся сказаць ёй праўду, але заўсёды не хапала смеласці. І толькі аднойчы рашыў: «Вось прыду да яе ў клас, калі будзе правяраць сшыткі, і раскажу пра ўсё».



Але ў класе тады была гэта самая Галка, якая сёння гуляе на вяселлі. Яна прапанавала пайсці на інстытуцкі вечар...

На вуліцы было шматлюдна. Я з дазволу дзяўчат узяў іх пад рукі, і мы закрочылі па праспекце. Маёй радасці не было меж. Ды і як не радавацца — поруч са мной ішла дзяўчына, якую я ўпершыню пакахаў, без якой мне не было жыцця. Увесь свет здаваўся мне казачным.

Яшчэ большая радасць апанавала мяне, калі пасля першага танца Рая сказала:

— Згодна, сёння правядзеш мяне дамоў.

Мы вярталіся з танцаў а першай гадзіне ночы. Я хваляваўся.

«Сёння і толькі сёння я павінен ёй сказаць...» — ні на хвіліну не пакідала мяне думка.

Пакуль мы ішлі, я мо' на сто тэм пачынаў размову і ні адну не даводзіў да канца. Гаварыў пра кветкі, далёкія зоркі, успомніў Сакрата і Піфагора, а пра тое, што трэба было, не знаходзіў ні смеласці, ні слоў.

Да самага інтэрната не дайшлі. Рая ўзяла мяне за руку і затрымала на вуліцы. Я быў пакорлівы кожнаму яе руху і ў гэтую хвіліну, здаецца, мог зрабіць усё, што толькі б яна загадала.

Рая стаяла ад мяне воддаль, але руку яе я не выпускаў. Яна пазірала мне ў вочы, а я ёй. У нас цяпер ніяк не клеілася размова, і толькі пасля доўгіх, пакутлівых хвілін я ледзь вымавіў:

— Раечка, я хачу табе нешта сказаць. Ты будзеш мяне слухаць?

— Буду,— і потым, памаўчаўшы, дадала: — Толькі мне здаецца, што я здагадваюся, пра што ты хочаш гаварыць.

Голас яе гучаў неяк упэўнена і цвёрда. Адказ мне здаўся тым, чаго я так доўга чакаў,— узаемнасцю. І ў гэтую хвіліну я з сілай пацягнуў Раю да сябе, хацеў абхапіць яе рукой за шыю і пацалаваць. Але мая рука паслізнулася, і казырком кепкі я ткнуўся Раі ў лоб; вусны мае нават не крануліся яе твару. Рая, як перапалоханая птушка, ірванулася ад мяне і пабегла. Колькі я ні клікаў яе, яна нават не аглянулася.

На другі дзень мне сорамна было сустрэцца з Раяй. Доўга я думаў, што рабіць? І рашыў напісаць аб тым, што так даўно збіраўся сказаць.

«Дарагая Раечка! Прашу прабачэння, што так атрымалася. Я хачу расказаць табе шчырую праўду. Ты, Раечка, першая дзяўчына, якую я моцна-моцна пакахаў. Без цябе я не магу жыць. Ты для мяне ўсё. Людзі гавораць, што з нас будзе добрая пара. Самым вялікім маім шчасцем будзе, калі ты станеш маёй сяброўкай жыцця. Не за гарамі экзамены, а потым разам паедзем, куды толькі ты захочаш. Назаўсёды твой...»

Ну, а далей паўстала задача, як перадаць пісьмо, каб ніхто не бачыў. Калі празвінеў апошні званок і студэнты пачалі разыходзіцца, я першым выйшаў у калідор і паклікаў Раю. Яна падышла і стала ля акна. Я нахіліўся да яе і прашаптаў:

— Вось табе, Раечка, пісьмо.

— Ад каго?

— Ад мяне. Аб тым, што я табе не паспеў сказаць, напісаў. Вазьмі...

Рая крадком узяла пісьмо і паклала яго ў сумачку.

— Толькі не згубі і пры ўсіх умовах — нікому ні слова.

Рая ў знак згоды кіўнула галавою і пайшла ў адзін канец калідора, а я — у другі.

Пасля гэтага ў мяне зноў наступілі бяссонныя ночы.

Кожны дзень сустракаўся я з Раяй, вітаўся, чакаў адказу, а яго ўсё не было. Так мінуў тыдзень. А мне здавалася, што прайшоў цэлы год.

...Памятаю, гэта была нядзеля. Мы сядзелі ў бібліятэцы, рыхтаваліся да экзамена. Я за адным сталом, а Рая — за другім, з дзяўчатамі. Час-ад-часу я пазіраў у яе бок, яна — у мой. Як толькі яе сяброўкі выйшлі, я павольна ўстаў з-за стала. У мяне гарэў твар, моцна білася сэрца, звінела ў вушах. Я быў упэўнены, што пачую ад Раі жаданае



слова: «Так, я згодна».

Ціхенька падыходжу да яе, саджуся насупраць за стол. Адчуваю, што яна хвалюецца. Вочы яе неяк іскрацца, пальцы нервова гартаюць сшытак. Пачынаю размову першым. Пытаюся, колькі падрыхтавала білетаў, а сам думаю пра другое. Затым набіраюся смеласці, гляджу ёй у вочы і ціха пытаю:

— Ну, Раечка, які будзе твой адказ?

Яна некалькі хвілін маўчыць. Потым узнімае на мяне вочы і шэпча:

— Валодзя... Мы з табой чатыры гады былі добрымі сябрамі, паважалі адзін аднаго. Ты мне падабаешся, як сябар і таварыш. Ты чулы і добры чалавек... Але... — і тут Рая ледзь прамовіла,— у мяне ёсць другі чалавек, якога я даўно кахаю, дала яму слова і застануся верная свайму сэрцу. Ты не крыўдуй. Мы з табой назаўсёды застанемся сябрамі. Я хацела табе сказаць аб гэтым у той вечар, калі мы ішлі дадому, але ты паспяшаўся... Валодзя, ты знойдзеш сабе сяброўку лепшую, чым я... А на вяселле цябе паклічу... — усміхнулася яна, бы падбадзёрваючы мяне.

Я не памятаю, як вылез з-за стала і вобмацкам пайшоў на сваё месца.

...І вось яна стрымала сваё слова — паклікала на вяселле. Цяпер, за вясельным сталом, усплыла гісторыя майго першага прызнання. Я сядзеў п'яны больш ад мінулага, чым ад гарэлкі. Госці пачалі выходзіць з-за стала, танцаваць. Раптам пачуўся голас Раі:

— Жаночы вальс... Жанчыны запрашаюць...

Незнаёмая мне дзяўчына накіравалася да маладога і запрасіла яго. Гэта быў той самы хлопец, якога Рая чакала два гады, пакуль ён закончыў ваенную школу. А Рая паспешлівым крокам падышла да мяне. У танцы Рая зноў загаварыла са мной, як блізкая сяброўка і добрая знаёмая.

Вось чаму я да гэтага часу хаджу халасцяком. Усё спадзяваўся, што, можа, яе каханне да гэтага хлопца рассеецца і нашы дарогі сыйдуцца.

Але не такі яна чалавек...





Алесь Наўроцкі нарадзіўся ў 1937 годзе ў Даманавіцкім раёне ў сям'і вясковых настаўнікаў. Навучаўся ў Бабруйскай школе санфельчараў, пасля два гады працаваў фельчарам на Гродзеншчыне.

Цяпер займаецца на трэцім курсе Мінскага медыцынскага інстытута.

Вершы А. Наўроцкага друкаваліся ў часопісе «Полымя» і ў газеце «Літаратура і мастацтва».

**Алесь НАЎРОЦКІ**

## ЦАЛІННІК



Ты цягнуўся па пояс у размяклай зямлі —
След застаўся навечна.
Ціха падала пераспелае зерне на зямлю.
Яго ціхі стук раздаваўся ў сэрцы тваім
Выбухам.
Ты прымусіў выбухі змоўкнуць.
Ноччу ў палатку холад пранікаў,
Залазіў пад тваю падраную коўдру,
І ты спаў разам з холадам,
Саграваючы яго цяплом,
Ты — якому дзевятнаццаць год,
Якому сняцца ноччу чырвоныя макі,
Але не тыя, што цвітуць вясной на градзе,
А тыя, што зацвітаюць нават зімою
На твары каханай.
Раніцою ты паднімаўся.
Сонца таксама паднімалася высока ў неба.
Ты браўся за шуфель
І ўсё варочаў і варочаў шуфлем,
Пакуль не закідваў пшаніцай сонца.
Горы пшаніцы будуць стаяць
Навечна.



## ЧАТЫРОХГРАННАЯ ВАЗА



Чатырохгранная ваза — гэта прырода,
Дзе чатыры грані — поры года.

**Зіма.**

Зноў заснежыла. Можа ў раз соты.
У полі не ўбачыш душу ні адну.
Белыя скруткі калючага дроту
Кідае мяцеліца мне на спіну.
Дрыжыць аганёк. Няўжо там прыстану?
Сярод шалёнага стогну, енку, выцця
У неаглядна-белым акіяне
Змагаецца адзіная кропля жыцця.

**Вясна.**

Не мыльная пена зляцела з коней былінных —
Дзе-ні-дзе бялее набраклы вадою снег.
І не шабельны звон чуваць над раўнінай —
Ручаі звіняць, з узгорка ўзяўшы разбег.
Пазіраеш — і травы зямлю пакрылі,
І куды вачыма ні кінь,
Начапілі бярозы зялёныя крыллі
І ўзлятаюць пад неба сінь.

**Лета.**

Знаёмы малюнак, сэрцу блізкі.
Прападае сцежка ў прасторах палёў:
Жыта то нахіляецца нізка,
То выпрамляецца зноў;
Вунь хмарка плыве над лесу дзялянкай,
Грымоты ўсё бліжэй і бліжэй нараслі...
Эх, як жа пасля ўсмешак маланкі
Дыхаць лёгка зямлі!

**Восень.**

Лета, зматвай свае вудачкі!
Дрэвы выплаўляюць руду.
Вецер свістаў спачатку ў дудачку,
Потым у дудку, а ўжо затым у дуду.
Адзвінелі промняў сонечныя пырскі,
Адзвінеў дажджоў серабрысты апад,
Адзвінелі лісты і ляжаць залацістым пыскам...
Што прайшло, не вернеш назад.
Чатырохгранная ваза — гэта прырода,
Дзе чатыры грані — поры года.

# ЕЛКА



У злесак. Ігліца. Хвойны настой разліт.
Кінула елка вярхушку-кап'ё ў блакіт.
Елка, елка, навошта кап'ё
Ты кінула ў неба тваё і маё?
На каго крыўду маеш, хацеў бы пачуць?
Можа коршуна хочаш праткнуць?
Чакай, разумею: табе крыўду нанёс,
Той, хто ніколі не злазіць з нябёс.
Каго ўсе велічаюць Гром
І хто знае адно — піць паветра-ром.
Гэта яму валасатыя грудзі Вятры
Чэшуць ад ранку і да зары.
А пакуль я так думаў, неба пачарнела, як дзёгаць,
І маланкі пачалі сцёгаць.
Гром прачнуўся,
Гром пацягнуўся,
Ударыць намерыўся ў завод
І зваліўся мёртвы на громаадвод.
Гром забіты ляжыць. Навакол цішыня,
Жарыць сонца гарачага летняга дня,
А там, дзе ігліца і хвойны настой разліт,
Кінула елка вярхушку-кап'ё ў блакіт.



Ганна **САПРЫКА**

# ДАЧКА

**Апавяданне**

Мал. Г. Барэйкі.

Яўгеня Пілiпаўна, пажылая адзінокая настаўніца, прышоўшы са школы і наспех абтросшы снег з паліто, перш за ўсё агледзела паштовую скрынку: ці няма ліста ад Зосі. Але ў скрынцы і сёння нічога не было.

Фантастычнымі ўзорамі размаляваў мароз вокны ў пакоі; раз-пораз налятаў вецер, аж грукаў у шыбы. Хоць быў пачатак сакавіка, ды зіма трымалася. Тут, у пакоі, дыхалі цяплом батарэі. Светлая лямпачка пад абажурам і мяккае крэсла ля стала вабілі хатняй утульнасцю.

Яўгеня Піліпаўна прысела да стала, дастала з партфеля вучнёўскія сшыткі. Але сёння думкі яе чамусьці адразу перайшлі на дачку.

Здаецца зусім нядаўна Зося займалася ў гэтай самай школе, пісала такое ж сачыненне. Яўгеня Піліпаўна дастала з шуфляды стала стопку Зосіных школьных сшыткаў, якія старанна захоўвала. Пераглядзела іх, знайшла той, у якім было сачыненне на такую ж тэму, на якую пісалі сёння вучні ў яе дзесятым класе. Яўгеня Піліпаўна перагарнула старонкі, спісаныя знаёмым драбнаватым почыркам. У канцы работы яе ўласнай рукой была пастаўлена адзнака «4». За сачыненне можна было смела паставіць пяцёрку, але чамусьці да дачкі яна была заўсёды асабліва прыдзірлівай. І цяпер маці адчувала сябе нібы вінаватай перад ёй.

Позірк Яўгені Піліпаўны спыніўся на Зосінай фотакартцы, што стаяла на стале ў самаробнай рамачцы. Адтуль глядзела худзенькая

дзяўчынка з сур'ёзным тварам і крыху задуменным позіркам. Вакол галавы абвіта тоўстая каса. На форменным карычневым плацці белы каўнерык адцяняе кволую, амаль дзіцячую шыю.

Тады Зосі было семнаццаць, а цяпер — жарты сказаць! — дваццаць сем гадоў. Але для маці зусім няважна, колькі год мінула дачцы. Усёроўна, як і раней, гэта была яе Зося, яе любае адзінае дзіця, і матчына сэрца заўсёды, калі яна глядзела на фотаздымак, напаўнялася пяшчотай і любасцю.

Дачка яшчэ падлеткам ва ўсім выяўляла самастойнасць і сталасць. Скончыла школу яна з залатым медалем, і калі маці пачала раіць ёй, куды лепш пайсці вучыцца, Зося сказала, што даўно вырашыла паехаць у маскоўскі ўніверсітэт.

Хіба маці магла пярэчыць? Маці магла толькі марыць пра гэта. І таму не адгаворвала Зосю, хоць і трывожылася: ці паступіць хаця, ці пройдзе па конкурсу...

Зося паступіла на геалагічны факультэт. Маці і тут не перашкаджала яе выбару, хоць ведала, якой нялёгкай і складанай будзе праца. Другое зноў стала трывожыць яе: а ці вытрымае здароўе, з выгляду дзяўчынка была нейкай худзенькай і кволай...

Час ішоў. Зося скончыла ўніверсітэт. Як заўсёды, у кароткім лісце паведаміла маці, што накіраванне ўзяла ў адзін з невялікіх гарадкоў Татарскай АССР, што чакаюць іх там вялікія справы.

Больш падрабязна Зося напісала толькі тады, калі прыехала на месца працы — у той гасцінны зялёны гарадок на беразе паўнаводнай ракі, у якім некалі, у час Айчыннай вайны, яны з маці знайшлі свой прытулак.

Зося пісала часта, але скупа. З лістоў маці разумела, што дачка задаволена сваёй прафесіяй, што работа цікавая і захапляе яе.

Яўгеня Піліпаўна даведалася, што ў тых месцах, дзе працуе геолагам яе дачка, знойдзены велізарныя запасы нафты. Цяпер яна з цікавасцю стала сачыць за газетамі і часопісамі, дзе паведамлялася пра поспехі геолагаў у гэтым раёне, пра новыя вышкі, новыя буравыя месцы.

Зося працавала ўжо чатыры гады і была старшым інжынерам. Маці прывыкла чакаць ад яе ліста або таго часу, калі дачка возьме адпачынак і прыедзе да яе. І вось у апошнім лісце некалькі радкоў прымусілі Яўгеню Піліпаўну насцярожыцца і захвалявацца.

«Надакучыла самотнае жыццё па інтэрнатах. Як бы хацелася яго ўладкаваць па-іншаму...» Маці перачытвала гэтае месца мо' дзесяткі разоў. «Што б гэта азначала?» — не магла супакоіцца яна. Гэта піша яе Зося, якая ніколі не зважала на цяжкасці, якая, нібы пра самае звычайнае і нязначнае, расказвала пра «дробязі» ў жыцці і рабоце, ад якіх у маці халадзела ўнутры.

...Стэп. Гарачыня. Прыціхлі птушкі. Праз калючыя кусты прабіраецца Зося. Нарэшце скончаны шлях. Дзяўчына агледзелася: штаны і блузка — усё парвана на дробныя стужкі, а на руках драпіны і стрэмкі.

..То яе дзяўчынка — надта дасужая — з электрабатарэяй за плячыма плыве ў возеры, а ток шчыпле за спіну... — Маці аж зжахнулася ў крэсле, уяўляючы, як блізка была небяспека.





... Асенняя цёмная поўнач. Ля палаткі, дзе спяць стомленыя геолагі, з'явіліся фасфарычныя зеленаватыя агеньчыкі. Гэта небяспечны стэпавы звер. Каб не Сяргей Іванавіч, інжынер-бурыльшчык, трапны стралок-сібірак, дык Зося не ручаецца, што не было б бяды...

У мінулым годзе ў экспедыцыі геолагі жылі ў глухой татарскай вёсцы. Зося расказвала, як гаспадыня-татарка частавала яе чаем і гаварыла: «Пі, вада іртышная, чай кірпішны», а потым настойліва вучыла яе па-свойму маліцца богу. Зося са смехам адмахвалася ад намаганняў старой. Тая сердзілася і нешта сама сабе бурчала наконт кары боскай.

А потым улетку ў гаспадыні здарылася няшчасце: ледзь не ўтапіўся меншы сын, Мустафік. Калі Зося — якраз у яе быў абедзенны перапынак — прыбегла да рэчкі, імклівая плынь ракі ўжо глынула ахвяру.

Зося, не разважаючы, кінулася ў рэчку — яна добра плавала і нырала — і праз некалькі хвілін выцягнула дзіця. Збеглася амаль уся вёска. Сяргей Іванавіч на машыне паехаў на медпункт па фельчара. Старая гаспадыня спачатку крычала: «Выратуйце яго!» А потым раптам пачала пярэчыць, што так хоча бог.

Зося рашуча загадала адвесці амаль звар'яцелую старую. Больш за паўгадзіны білася дзяўчына над дзіцем, самую пакідалі сілы, але яна не адступала, адваёўваючы ў смерці гэтае маленькае, кволае жыццё.

І калі Мустафік, нарэшце, дыхнуў і ціхенька застагнаў, Зося перадала яго ў рукі фельчару, а сама ледзь паднялася, знясіленая. Старая татарка лавіла яе рукі, каб пацалаваць іх. Яна крычала і цяпер, толькі гэта ўжо быў крык радасці і падзякі:

— Бог хацеў забраць у мяне сына, а ты мне вярнула яго!..

— Каб ты ведала, мама, — расказвала Зося, — калі мы ад'язджалі ўвосень, як мяне праводзілі! Уся вёска...

Не, Зося ніколі не ныла ў любых абставінах, і Яўгеня Піліпаўна прыкідвала, што магло быць прычынай такіх радкоў у яе апошнім лісце. Можа тое, што дзяўчына ў гадах і таму больш востра адчувае неўладкаванасць асабістага жыцця. Маці ведала, што дачка добрая характарам, сціплая, але гэтыя якасці неяк былі схаваны дзесьці глыбока. Маці таксама ведала, што дачка вельмі строгая ў сардэчных справах

і што яна не так хутка можа знайсці сабе хлопца... Усё гэта пачынала непакоіць маці, асабліва, што сама дачка ставілася да гэтага пытання даволі дзіўна.

Калі маці часам заводзіла пра гэта гаворку, Зося аднеквалася. «Ат, не падабаецца ніхто. Мае равеснікі даўно ўсе пажаніліся, а маладзейшага не хачу. Нядобра, калі жонка старэйшая за мужа».

— Дачушка; ты не ведаеш, як потым сумна жыць аднаму, без сям'і... — спрабавала даводзіць маці.

— Ну, адзінокая я не буду. Але калі і пайду замуж, дык толькі за такога, хто спадабаецца.

Чамусьці Зося часта ўспамінала Сяргея Іванавіча. Ён і смелы і чулы ў адносінах да людзей.

У маці закрадвалася думка, што гэты чалавек падабаецца Зосі. Аднойчы нават яна запыталася ў дачкі. Але Зося толькі паціснула плячамі: «Ён жанаты...»

Шмат думала над пісьмом Яўгеня Піліпаўна, і вось тут у яе ўзнікла думка: Зося павінна быць пры ёй. Кватэра ж вялікая, — настаўніца цяпер абвяла вачыма вялікі светлы пакой. Зося можа працаваць у рэспубліканскім геалагічным упраўленні і ездзіць у мясцовыя экспедыцыі. Работы і тут непачаты край... Зрэшты, і маці на шостым дзесятку мае права, каб яе дачка была пры ёй. Напісаўшы пра ўсё гэта, Яўгеня Піліпаўна прыспешвала, каб, покуль не выехалі з пачаткам вясны ў экспедыцыю, Зося пераводзілася сюды. І вось цяпер з нецярпеннем чакала адказу.

Яўгеня Піліпаўна прайшлася па пакоі, адчыніла фортку. У пакой уварваўся марозны вецер і звычайны шум вуліцы. Кварталы дамоў былі заліты рознакаляровымі агнямі. Яна любіла гэты малады, новы горад.

«Гэта, мабыць, апошнія завеі перад вясной», — падумала Яўгеня Піліпаўна і тут жа ўключыла радыё, каб пачуць, якое ж надвор'е там, дзе Зося.

У пярэднім грукнулі дзверы, прышла суседка. Чуваць, як яна тупае ў калідоры, абтрасае снег; потым зазірае ў пакой да настаўніцы.

— Вам ліст, Яўгеня Піліпаўна. Удзень прынеслі, ды вас не было. Я паклала на століку ў кухні, але вы не заўважылі, мусіць...

Яўгеня Піліпаўна падхапілася, хацела падбегчы і раптам адчула, што ногі зрабіліся цяжкія, непаслухмяныя... Мусіць, ад хвалявання.

І вось некалькі старонак, спісаных знаёмым почыркам. Яўгеня Піліпаўна папраўіла акуляры і ўпілася вачыма ў радкі.

«Даражэнькая матуля, — як заўсёды, пісала Зося. — Вельмі здзівіла мяне твая трывога і яшчэ больш твая прапанова. Я не магу цябе пазнаць. Ты, бывала, расказвала мне, што калі сама на парозе сталасці паехала настаўнічаць у далёкі, глухі раён, то, не зважаючы ні на што, гэта былі лепшыя гады тваёго жыцця. Чаму ж цябе палохае глуш, дзе я працую? Зрэшты, гэта ўжо не глуш, а дзе пройдзем мы, там услед вырастаюць нафтавыя вышкі і рабочыя пасёлкі нафтавікоў. А памятаеш, калі я была яшчэ малая ў вайну, ты пакінула мяне ў дзіцячым доме, а сама пайшла на фронт. Ты казала потым не раз, што за мяне была тады спакойная...

Дык чаму ж, матуля, ты цяпер хвалюешся, калі я жыва-здарова і называюць мяне не іначай, як «гаспадыняй нетраў і гор».

Дык вось, даражэнькая, адносна пераезду да цябе не можа быць і гутаркі. Ты ж ведаеш, што я шчыра палюбіла свой занятак, прывыкла да тутэйшых мясцін і ўсё мне тут люба і дорага.

Цяпер адносна тых радкоў у маім лісце, якія так цябе напалохалі. Гэта зусім законнае імкненне пазбавіцца адзіноты, прасцей кажучы, мець сям'ю. Можа гэта ў мяне ішло не так хутка і не так гладка, як бы хацелася, але сёння я табе магу напісаць, што і ў маім жыцці адбыліся змены: я выйшла замуж».

Яўгеня Піліпаўна перавяла дух і падсунула бліжэй лямпачку.

«Чаму я кажу, што гэтая справа ішла ў мяне не гладка. Сяргея Іванавіча — пра яго я шмат табе расказвала — я ведаю амаль чатыры гады. Спадабаўся ён мне. Але ў Іркуцку ў яго заставалася жонка. З жанатым не хацелася мець справы. Праўда, Сяргей Іванавіч усё казаў, што жонка наадрэз адмовілася ехаць сюды, на нафтавы промысел, але я ўсё адмахвалася: хто вас там разбярэ.

Часта мы з Сяргеем Іванавічам працавалі разам, а часам у розных месцах — бо я ж геолаг-разведчык, а ён мае справу з турбабурамі. Калі мы падоўгу не бачыліся, то моцна сумавалі адно без другога...

І цяпер, мне здаецца, што я спаткала таго, каго чакала.

Дык вось, матуля, ты можаш уявіць сабе сваю дачку шчаслівай...

У нас пачалася вясна. Геолагі збіраюцца выязджаць у новыя месцы з экспедыцыямі. Выязджаем і мы.

Я ведаю, мама, табе там сумна адной. Сяргей, калі прачытаў твой ліст, адразу вырашыў: «Ведаеш, Зося, — ён так і называе мяне Зосяй, бо яму падабаецца гэтае беларускае імя, — давай напішам маме, каб пераязджала да нас». Дык вось, дарагая, пераязджай да нас, і мы будзем разам».

Яўгеня Піліпаўна не магла стрываць і заплакала. Але гэта былі слёзы ўзрушэння і радасці.

Яна схіліла галаву на грудзі, а вусны шапталі:

— Прабач мне, дачка, за маю слабасць. Я ж прыеду да цябе, абавязкова прыеду...

Сучасны нямецкі пісьменнік Эрвін Штрытматэр нарадзіўся ў 1912 годзе. Першы раман «Пагоншчык валоў» ён напісаў у 1950 годзе і адразу ж заваяваў вялікую папулярнасць. Пражыўшы дзяцінства і юнацтва ў вёсцы, Штрытматэр добра вывучыў жыццё селяніна. Таму не дзіва, што ў Германіі ён вядомы як «сялянскі пісьменнік». Тэме сялянства Штрытматэр прысвячае ўсе свае творы. У 1954 годзе ён напісаў раман «Тынко», у 1957 годзе — раман «Цудадзейнік», які вылучыў аўтара ў рады лепшых пісьменнікаў Германіі. Гэты раман таксама прысвечаны паказу жыцця нямецкай вёскі.

Заслугі Штрытматэра ў развіцці літаратуры двойчы адзначаны нацыянальнай прэміяй Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

**Эрвін ШТРЫТМАТЭР**

# З КНІГІ АСАБОВЫХ РАХУНКАЎ

Мал. К. Ціхановіча.



Я, зрэшты, не бог ведае які вучоны. І не з гэтай прычыны апісваю цяпер год за годам тое, што адбываецца навакол мяне, і якія думкі часта мітусяцца і снуюць у маёй галаве. А раблю гэта, каб самому ўбачыць, якім дурнем я быў раней. Мне проста прыемна канстатаваць гэта.

Сёння якраз той дзень, калі я стаў тым, кім быў у сваіх запаветных думках ужо даўным-даўно. Нават у большасці сваіх начных летуценняў я ўзнімаўся іменна да гэтага стану.

Вы, мае дарагія ўнукі і праўнукі, калі вам давядзецца некалі прачытаць мае крамзолі, вы проста дзіву дасцеся: мяне ашчаслівіла тое, што для вас будзе самай звычайнай рэччу. Сваё шчасце вы ўбачыце ў большым. Мне дастаўляе радасць выдаць вам на катаванне яшчэ пару радкоў, каб у вас была магчымасць дакорліва паківаць галавою, падзівіцца з вашага прыдуркаватага продка.

Аднойчы, было гэта яшчэ ў дзяцінстве, я выслужыў у свайго настаўніка маленькую запісную кніжку. Ён даў мне яе за тое, што я заўсёды першым бачыў шпакоў. Я сядзеў у класе каля акна і мог адразу ж угледзець іх, як толькі яны залятalі на яго вішні.



— Якія прарокі найважнейшыя ў Старым Завеце?

— Шпакі, пан настаўнік! — крычаў я.

Ён браў сваю дубальтоўку, якая ў «вішнёвы час» заўсёды стаяла напагатове ў кутку кафедры, зараджаная шротам, і адразу ж забываў і пра нас, і пра прарокаў. Ба-бах! Вось такім чынам я і прыдбаў сабе ўласную запісную кніжку. Яна была ад першага да апошняга лістка маёй неад'емнай уласнасцю, я мог у ёй ставіць кляксы і маляваць чалавечкаў. Пры гэтым я аддаваў перавагу выключна мужчынам і маляваў іх толькі ў паліто. Я рабіў гэта і тады, калі на маіх малюнках было выразна відно сонца з тоўстымі свінцовымі праменнямі. З мужчынамі ў паліто менш клопатаў. Калі мужчына быў без паліто, дык звычайна я прысаджваў яму ногі то занадта высока, то занадта нізка. А гэта абражала маё эстэтычнае пачуццё, і я быў незадаволены сабою. Адным словам, я мог рабіць са сваёй кніжкай, што хацеў, не пытаючыся нават у бацькі.

Часам я запісваў у гэтую кніжку такое, пра што ні ў якім разе не мог гаварыць з другімі. Там была, напрыклад, гісторыя пра святара, які адправіўся шукаць радасці і ўцехі. Адправіўся ён з хаты суседа Кубашка. Раніцаю ён пахрысціў маленькага Кіто Кубашка і пакрапіў яго вадою. Вядома, на хрэсьбінах святар і сам няблага нахрысціўся. Змяркалася. Парашыўшы скараціць дарогу да сваёй парафіі, ён рушыў проста цераз луг. А я ў гэты час гнаў дахаты казу. Ён ішоў і спяваў: «Вырывайся, маё сэрца, радасці шукай...» і пры гэтым падміргваў першым зоркам. А тыя таксама падміргвалі. Балазе, было яшчэ даволі светла. Святара, відаць, агарнула такая радасць, што ён перастаў зважаць на канавы з жабамі, якіх было вельмі багата на лузе. У адну такую і трапіў наш благачынны. Толькі, значыцца, дайшоў ён да радка аб «дарах гасподніх», як раптам — боўць! Жабы ўраз сціхлі. Не кожны ж дзень здараецца ў іх такое. Я не ведаў, ці можна смяяцца, калі такі святы чалавек плюхнецца ў канаву з жабамі. Святар неяк выкарабкаўся з твані. Мая каза ўсхваляваная пацепала куксай хваста, падняла галаву і спагадліва бэкнула. Пры гэтым яе барада неяк смешна затрэслася. Выказаўшы сваё шчырае спачуванне, яна хутчэй задала лататы. Я за ёю.

Тады я запісваў усё, што бачыў, і аздабляў запісы сваімі ўласнымі думкамі. Кніжку я хаваў пад крокавамі. Аднаго дня пачалі перакрываць страху бацькоўскага дома. Я проста не мог трываць, сочачы за людзьмі на страсе. І ўсё ж не дагледзеў: маю кніжку з гісторыяй святара знайшлі.

Бацька мне за гэта даў аплявуху, і ўвечары мне прыйшлося легчы спаць, не павячэраўшы. Я не думаю, што гэта здарылася толькі таму, што абодва мужчыны, якія крылі страху, вельмі часта працягвалі рукі да талеркі з бульбай і да міскі з мучной падліўкай.

Я схаваў свой сшытак з гісторыяй святара ў пустую галубятню. І калі мне хацелася пачытаць, я лез туды. Часам я запісваў у кніжку і сёе-тое новае. Увесь той доўгі час, пакуль капалі бульбу, мне не было калі думаць пра сваю кніжку. А між тым, адна маладая парачка галубоў паспела ўжо абсталявацца ў старой скрынцы на сталае жыхарства. Галубка паклала яйкі, а неўзабаве вылупіліся і маленькія. Калі выдаўся зручны момант і я палез у галубятню, каб пачытаць свой сшытак з гісторыямі, птушаняты мяне сустрэлі піскам; яны глядзелі на мяне

сваімі крынічнымі вачанятамі і выцягвалі жоўтыя дзюбкі. Сшытак быў увесь запэцканы і растрэсены.

Прышлося чакаць да «конскага кірмашу». У дзень кірмашу я налавіў аваднёў. Цэлую скрыначку для жывёлапрамыслоўца Юрышкі. Яны яму былі патрэбны для гандлю коньмі. Варта было сунуць тлустага авадня каню пад хвост або ў касматае вуха, і самая старая дыхляціна ажывала і, падбрыкваючы, неслася галопам цэлую мілю. За аваднi я атрымаў пятак. А на яго купіў у вясковай краме новы сшытак. Праўда, не за ўвесь пятак: сшытак быў трошкі запэцканы жавальным тытунём, і мы пагадзіліся на трох пфенігах. У гэты сшытак я запісваў новыя гісторыі і намаляваў новых чалавечкаў у паліто.

Цяпер я падводжу сваім цяслярскім алоўкам тлустую сінюю рысу пад усім тым, што я даверыў старонкам першае кнігі асабовых рахункаў. Кніга дасталася мне ў спадчыну ад старога вязальшчыка венікаў Ціма. А яму прынеслі яе з фінансавага ведамства. Цім павінен быў запісваць у яе ўсе свае дэбеты і крэдыты. У Ціма ж не было ні дэбетаў, ні крэдытаў. Праўда! Не ўстаць мне з гэтага месца, калі маню. Цім прыносіў з лесу свае венікі і абменьваў іх на хлеб у пекара, на кавалак сала ў сялян, у шынкара — на чарку гарэлкі. Акрамя таго, ён і пісаць не ўмеў. Пакуль Цім не памёр, чыноўнікам з фінансавага ведамства была адна горкая пакута з ім. За тры дні да яго смерці я збіў яму з дошак, ададраных у сенцах яго лясной халупы, дамавіну. Цім быў наравісты і настояў т'кі на гэтым. «Я не хачу, каб мая смерць задала ім лішняй цеганіны», — сказаў ён. Я зрабіў усё, што ён прасіў, і загадзя, яшчэ з жывога, зняў аршынам мерку для труны.

Калі сёння я перагортваю старонкі гэтай кнігі, мне здаецца, быццам я ступаю ў скарбніцу сваіх перажыванняў. Замусоленая вокладка, нібы сапраўдныя дзверы. Для дзвярэй гэтых не патрэбна ніякага ключа. Часы, калі мой бацька па нейкіх там фінансавых прычынах цікавіўся маёй пісанінай, даўно мінулі. А кніга такая тоўстая, што калі б каму захацелася трэснуць ёю мяне па лабаціне, я б месяц хадзіў з велізарным гузам, не ўлічваючы ўжо сардэчнай раны і крыўды.

Сёння нядзельны вечар. Я папыхваю сваёй кароткай люлькай і пускаю ў паветра кольцы дыму. Праз маленькае акенца пад самай страхою я магу спакойна глядзець у твар восені. Яна ідзе па кляновай алеі, і дзе яе бурая туманная спадніца кранецца лісця, яно жоўкне і каляровымі кляксамі ападае на дарогу.

Што датычыцца цяслярскага алоўка, якім я падвёў тлустую сінюю рысу пад усім перажытым, дык ён таксама мае сваё мінулае. Ён вандраваў па жыцці разам са мною. Аднаго разу ён пісаў тэатральную афішу і абвяшчаў мяне самога «Дурным Аўгустам». Другі раз я ад нудоты маляваў ім на сценах маёй турэмнай камеры. А віноўнікам абгрызенага кончыка з'яўляюцца мае шалёныя зубы. І здарылася гэта тады, калі я пісаў развітальны ліст Катрын. Яна, як ведзьма, мела поўную ўладу нада мною і сваёй зманлівасцю вабіла мяне, цягнула мяне праз усе землі і краіны.

Праз многа год я спаткаў яе ў адным шынку на каленях нейкага мужчыны. Яна пазнала мяне. Яе вочы на момант заблішчэлі. Але яна адразу ж пагасіла гэтую ўспышку англійскім «Шэры». Я таксама.

Цяпер я мушу гаварыць усё напрасцяк. Мяне кідае ў дрыжыкі, калі я перачытваю, што напісана ў гэтай паперы.

Я атрымаў зямлю. Зямля за акном, на якую ранняя восень цярушыць





першае пажоўклае лісце, цяпер належыць мне. Кольцы дыму з маёй люлькі робяцца большымі і нібыта трошкі ўзбуджанымі, калі я запісваю гэта. Мне хочацца з поўным смакам разваліцца ў крэсле і з асалодай, як я рабіў гэта ўжо разоў з пяць, акінуць зрокам з акна маёй халупы ўсю панараму маіх уладанняў. Але ў мяне няма крэсла са спінкай, я сяджу проста на зэдліку, а на ім не надта развалішся. І маладзец гэты зэдлік — не дае надзімацца і фанабэрыцца! Нездарма ж мне сорак год. І гэтыя сорак год я не праваландаў, як шарманшчык, які круціць свой інструмент тым жвавей, чым больш медзякоў сыплецца ў яго шапку. Вось яно як; я ўжо davolі стары, каб ведаць: аднаму зямля не належыць. Ты толькі часовая з'ява на гэтым свеце, ты павінен гаспадарыць і апрацоўваць зямлю так, каб яна давала плён для ўсіх.

Я ведаю, што адна толькі рыса ў дзённіку, накрэсленая цяслярскім алоўкам, яшчэ нічога не гаворыць, бо ўсё вынікае адно з другога. Дурань той, хто думае, што можна падвесці рысу пад цэлым перыядам жыцця, раздзяляльную рысу, хоць пэўна ж, што ты не быў бы тым, кім ты ёсць, калі б не было тваіго мінулага. Не, жыццё не ведае ніякіх адрэзкаў, на якія яго можна было б раздзяліць тлустымі сінімі рысамі цяслярскага алоўка. Яго нельга і скласці з чырвоных дат календара.

«Зямля! Ралля!» — Як гэта гучыць! Так сыта! Але якая ж прыемнасць сядзець і з году ў год пазіраць з акенца на чужую зямлю. І з гэтых штодзённых пазіранняў ты ведаеш кожны корчык бульбы, кожную сцяблінку жыта. Часам у цябе проста рукі свярбяць, так і рупіць выйсці ў поле і павыдзіраць з цёмна-зялёнага аўса зайздросна жоўтую свірэпу. Той, каму належыць зямля перад тваім акном, мае яе занадта многа, а рукі яго да працы занадта далікатныя. У цябе ж зямлі няма, а мазолістых рук цэлых дзве. Ты яшчэ нават не ведаеш, што, каб прывесці ўсё ў адпаведны лад, табе трэба б было моцна лупануць сваімі мазолістымі рукамі па мяккіх руках гультая і дармаеда. Ды дзе там, ты лепей сціснеш кулакі, схаваеш іх у кішэні і чакаеш. А чаго, каб цябе спытаў?

Чакаеш, чакаеш — часам і здохнеш не дачакаўшыся,— пакуль, нарэшце, прыдуць здалёк твае сябры, каб паказаць табе, як гэта робіцца, як трэба прыводзіць усё ў адпаведны лад.

Учора ўвечары мы сабраліся разам. Усе, чые вочы згаладаліся па зямлі, усе, чые рукі знудзіліся па рыдлёўцы. Так, здаецца, сядзелі, збіўшыся ў гурток, пастухі на лузе, калі ім абяцалі «святую зямлю». Некаторыя з нас сядзелі, разявіўшы раты, як быццам праз тры дзіркі ў галаве яны маглі лепей учуць.

Раней дзеля такой святочнай падзеі мы б, магчыма, дасталі з шафаў нядзельныя касцюмы і белыя накрухмаленыя сарочкі. Але ўчора мы не маглі зрабіць гэтага. Вайна праглынула нашу святочную адзежу. Мы проста сядзелі ў гуртку, як хэўра абадранцаў-жабракоў. Ды і сам ландрат *, які прышоў паведаміць нам, што мы сталі нойбаўэрамі **, грукаў сваімі сандалетамі на драўлянай падэшве, ходзячы ўзад-уперад па класным пакоі вясковай школы.

— Як добра, што я збярог свае брыльянты! — хітравата заўважыў Мац, калі ландрат спыніўся перад ім.

— Брыльянты? — перапытаў ландрат і здзіўлена паглядзеў на Маца. Той паказаў свае кулакі.

— А што ж, ландрат, хіба гэта не брыльянты?

Ну, каму ж, як не Мацу, ведаць гэта. Адно сваё вока яшчэ ў час першай сусветнай вайны ён страціў у Францыі. Пасля, на вячорках, ён часта расказваў, як ён цалюткую божую ноч шукаў гэтае вока. Ды дзе там! Так і засталася левая палавіна твару пустою, і толькі бровы разрасліся, заарэндавалі ўсё свабоднае месца ледзь не да самых павек.

Калі мы выйшлі з цёмнага класа на вуліцу, Мац дастаў з кішэні вялікую чырвоную хусцінку і выцер са свайго адзінага вока слёзы. Яно слязілася, відавочна, не толькі ад аднаго напружанага чытання дакумента! Мы круцілі ў руках паперы і не ведалі, каму сказаць «вялікае дзякуй» за тое, што так раптоўна звалілася на нас. Калі б была гарэлка і піва, мы б, трэба меркаваць, патрапілі абмыць нашу збянтэжанасць і хваляванне, а так толькі моўчкі пасунуліся далей, мінуўшы шынок. Толькі адзін з нас, сказаўшы «дабранач» знік за дзвярыма піўнушкі. Селянін пачынае свой год не адразу з гарэлкі, піва або з кірмаша. Спачатку зямля павінна адчуць моц нашай сялянскай арміі, а пасля ўжо яна спазнае, што нашыя ногі прыдатны да ўсякага танца.

Хоць сёння і нядзеля, але ўсюды відны постаці: усе, папыхваючы люлькамі, выйшлі на агляд палеткаў. Ніхто не складае рук на грудзях, як у свята, рукам сёння хапае працы. Адзін нагнецца і выскубне нешта, другі апусціцца на калені і старанна перасыпае між пальцаў жменю зямлі. З некаторымі выйшлі нават жанчыны і дзеці, і іхнія рукі таксама нешта паказваюць, мільгаюць у паветры. Нарэшце, бачыш, не, сапраўды, нарэшце т'кі ізноў бачыш вясёлыя твары.

Я не думаю, што доўга ўседжу на сваім зэдліку, калі ўжо высыпала палова вёскі і шпацыруе туды-сюды па полі. Прынадна разлеглася ралля, якую з гэтага часу буду апрацоўваць я, вунь яна, за маім акном, але я яшчэ не агледзеў лесу, які атрымаў учора. Магчыма, у ім ёсць і некалькі бярозак з гладка-шаўкавістымі камлямі. Бярозкі я люблю з маленства, і калі яны трапляюцца мне на вочы, падыходжу і пяшчотна гладжу іх.

* Ландрат — акруговы начальнік у Германіі.
** Нойбаўэр — селянін, які атрымаў зямлю па аграрнай рэформе, праведзенай у ГДР.



Я сяджу вось і пішу і на'т не ведаю, якія дрэвы ў маім лесе. Гэта ж ганьба!

Мая кніга асабовых рахункаў запісана да канца. Я пішу на палях. Заўтра пачну новую. Вось яна і ляжыць тут жа. Першая старонка спісана почыркам, якога я не магу разабраць. Вы ж, унукі мае, напэўна, зможаце. Літары і радкі трошкі распыліліся, быццам пабыўшы на імжыстым дажджы.

Я магу толькі сказаць вам, што азначаюць кляксы ўнізе старонкі. Гэта Пётр тлумачыў мне, як яно павінна было б быць, калі б на свеце ўсё ішло па справядлівасці. Як яно бывае, калі тлустая клякса стаіць над многімі маленькімі, так што тым прыходзіцца касабочыцца і згінацца, каб знайсці месца для сябе, я ведаю сам, бо сам перажыў гэта. Цяпер жа я перажываю якраз той момант, калі маленькія кляксы, як вялікі рой, схавалі пад сабой адну тлустую — так мне растлумачыў Пётр па другім малюнку. Некаторы час ён жыў са сваім капіталам у маёй халупе. Калі ў яго выпадала вольная гадзіна, ён заўсёды дапамагаў мне капаць катлавіну пад падмурак майго новага дома. А пасля працы мы часта падоўгу прыемна гутарылі, седзячы ля печы. Ад'язджаючы на сваю радзіму, ён падарыў мне гэтую кнігу. На наступную я ўжо, будзьце ўпэўнены, зараблю сабе сам. Прысягаю!

*Пераклаў з нямецкай мовы*
*Васіль СЁМУХА.*



Эдуард ЮШКЕВІЧ

# ПЯЦЁРА ДРУЖНЫХ

**Нарыс**

I

Рознымі дарогамі і ў розны час прыбывалі яны ў Гуслішчанскую МТС. Дабраўшыся на новае месца, яны заходзілі ў кабінет дырэктара, нясмела рэкамендаваліся:

— З Мар'іна-Горскага сельскагаспадарчага тэхнікума...

— З Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі...

— З Заатэхнічнага тэхнікума...

— З бухгалтарскіх курсаў...

— З інстытута народнай гаспадаркі.

Уладкаваўшыся на работу, знаёміліся адзін з адным.

— А ці чуў ты, што калгасы гэтай зоны — самыя адстаючыя ў вобласці? — неяк насцярожана, нібы чагосьці баючыся, пытае Саша Лебедзеў у Валодзі Азаранкі.

— Як не чуць... — ледзь прыкметна ўсміхаецца той. — Чуў!..

І зноў поціск рук. Поціск на сяброўства.

Саша, Валодзя, Сяргей, Рая, Дзіма. Учарашнія студэнты. Зялёная моладзь. Самаму старэйшаму — дваццаць пяць, малодшай — Раі Куляшовай — і дваццаці няма. Ва ўсіх — камсамольскія значкі на грудзях ды гарачая руповасць на шчоках.

Старыя механізатары не надта ветліва стрэлі маладых спецыялістаў.

— Молада-зелена. Ім яшчэ больш гулі ў галаве, чым работа.

А моладзь, між тым, не гуляла. Навічкі ўнеслі жывінку ў камсамольскія справы. Уладзімір Азаранка стаў сакратаром камсамольскай арганізацыі. Яго шчырыя сябры — заатэхнік Раіса Куляшова, бухгалтар Сяргей Шэндзераў, аграном-планавік Аляксандр Лебедзеў і бухгалтар-інструктар Дзмітрый Матлахоў — узялі на сябе адказныя ўчасткі, і камсамольскае жыццё забурліла.

Памаладзела старая Гуслішчанская МТС. Усё менш «скланялі» яе на сходах і нарадах як адстаючую.

У хуткім часе адбыліся падзеі, якія перайначылі жыццё механізатараў. Партыя прыняла гістарычную пастанову аб далейшым развіцці калгаснага ладу і рэарганізацыі МТС.



— Дадому! Дадому! — не стрымліваючы сваёй радасці, гаварылі трактарысты.

Успаміналі свае родныя мясціны і сябры-навічкі. Зашчымела сэрца ў Сашы Лебедзева, павільгатнелі вочы ў Раі Куляшовай. А Валодзя Азаранка выказаў сваю думку ўголас:

— Эх, не пашанцавала нам у дружбе!

— Чаму? — спакойна ўставіў Лебедзеў. — Дружба толькі пачынаецца, — і таямніча прыжмурыў вочы: — Паедзем, хлопцы, разам у які-небудзь калгас?

— Гэта ідэя!.. — усклікнулі сябры.

На камсамольскім сходзе хлопцы заявілі, што рашылі паехаць у самы адстаючы калгас, каб да 40-годдзя БССР вывесці яго ў перадавыя.

Многіх механізатараў узрушылі гэтыя словы. Нават тыя, хто не хацеў ехаць у слабыя калгасы, баючыся за свае заработкі, гаварылі, што і яны згодны на такое.

Неўзабаве ў Магілёўскі райком партыі прыйшло пяць заяў аднолькавага зместу. Услед за заявамі з'явіліся і іх аўтары — вядомыя нам пяцёра камсамольцаў.

Сакратар райкома Эдуард Францавіч Паўлюц з рашэннем не спяшаўся. Задача была цяжкая. Даверыць калгас яшчэ бязвусым юнакам? Можа гэта ў іх — імгненнае жаданне і першыя ж цяжкасці ахаладзяць гэты парыў? Гутарка была доўгая і шчырая. Камсамольцы настаялі на сваім. І сакратар райкома сказаў:

— Паедзеце ў калгас «Светлы прамень»...

Гутарка адбывалася раніцай. А на наступны дзень у калгасе «Светлы прамень» быў выбраны новы старшыня — Саша Лебедзеў. Яго сябры таксама пачалі працаваць тут жа: Сяргей Шэндзераў — галоўным бухгалтарам, Уладзімір Азаранка — аграномам, Рая Куляшова — заатэхнікам, а Дзмітры Матлахоў — рахункаводам.

Гэта было напрадвесні 1958 года.

II

Кожны вечар яны збіраліся ў праўленні. У гэтай невялікай хаціне знаходзілі яны спакой ад клопатаў дня. Калі вёска заціхала, сюды адзін за адным прыходзілі вясковыя хлопцы.

Сёння Лебедзеў прыйшоў пазней. Шпурнуў у кут мокрую шапку і стомлена апусціўся на лаўку. За першыя тры дні свайго старшынёўства ён яшчэ ні хвіліны не ведаў спачыну — ні днём, ні ўночы. Сяўба, а на поле не вывезен гной, не ачышчана насенне. Вось і рабі, што хочаш!

Лебедзеў, нягледзячы на стомленасць, заўважыў, што Сяргей моцна ўсхваляваны, што і Рая ледзь стрымлівае словы. Толькі Азаранка быў больш-менш спакойны. Старшыня не мог заўважыць выраз твару ў аднаго толькі Матлахова, які стаяў ля акна і нешта вадзіў пальцам па шкле.

— Нам трэба пагаварыць, — пачаў галоўны бухгалтар Сяргей Шэндзераў і паклаў на стол стус уліковых кніг. — Ты мяне слухаеш, Саша? Гэта вельмі важна.

Старшыня кіўнуў галавой.

— Паглядзіце, куды сплывалі калгасныя грошы! — ледзь стрымліваў сябе Сяргей. Тут больш дзесятка дакументаў на тысячы рублёў. І ўсё — фальшывыя...

Сяргей сухімі вачыма абвёў вакол і працягваў:

— Толькі апошнія два старшыні — Бабіновіч і Кудзін — пабудавалі сабе па дому. Гэта дваццаць тысяч рублёў...

І ён моцна стукнуў костачкамі лічыльнікаў. Лебедзеў стараўся дайсці да сэнсу слоў бухгалтара, але вочы яго зліпаліся, салодкая дрымота скоўвала цела. А той усё ляскаў і ляскаў на лічыльніках, называў лічбы, прозвішчы.

— Жулікі! — грымнуў кулаком па стале бухгалтар, а потым

абхапіў галаву рукамі. Гэта падзейнічала на Лебедзева.

— Падлічы, колькі і каму мы вінаваты...

— Слухай, братка, і дзівіся, — зноў падхапіўся Сяргей. — Па доўгатэрміновых пазыках дзяржаве — 450 тысяч рублёў, будаўнічым арганізацыям — каля 50 тысяч, цагельным заводам амаль столькі ж... Сёння заходзіў у банк, дык крэдыторы ледзь не збілі мяне!

— Не кідайся ў паніку, Сярожа, — коратка сказаў Лебедзеў і звярнуўся да заатэхніка: — А ў цябе, Рая, як справы?

Рая, відаць, таксама збіралася распачаць доўгую гаворку, але паглядзела, які змучаны выгляд у Аляксандра і коратка прагаварыла:

— Трэба замяніць на ферме некалькі чалавек.

— Замяніць? — усхапіўся старшыня. — Кім замяніць? А ці ведаеш ты, што за цэлы дзень ва ўсёй брыгадзе я не знайшоў і дзесяці чалавек, каб папарадкавалі ля свірна?

Рая памаўчала з хвіліну і прадаўжала:

— Кармы скончыліся...

— Што ж рабіць? — нявесела прагаварыў старшыня. — Хіба пайду да каго з калгаснікаў, можа сена здабуду колькі пудоў.

— Цяпер? Сярод ночы? — здзівілася Рая і дадала: — Пачакай, разам пойдзем!..

Сяргей, унурыўшыся ў кнігі, нешта хутка вылічваў. Уладзімір падышоў да яго і паклаў руку на плячо.

— Ведаеш, Сярожа, сёння, брат, у мяне перамога: чалавек трыццаць выйшлі на вывазку гною. А заўтра і трактар падключыцца, будзем траляваць торф!..

У кожным яго слове была нястрымаяная радасць чалавека, якому ўдалося зрабіць нешта значнае, вялікае.

.. Яшчэ нядаўна ружовыя, нібы наліўны яблык, шчокі Валодзі Азаранкі ўчарнелі, паўпадалі. За якіх-небудзь дзён дзесяць ён абследаваў усе землі, вызначыў, што і дзе трэба сеяць, зрабіў разбіўку палёў у севазваротах. Пехатою, з брыгады ў брыгаду, з поля на поле хадзіў ён, бо коні ўсе былі ў рабоце. На ноч выпраўляўся ў Магілёў, каб ужо раніцой прывезці тону-другую мінеральных угнаенняў ці абмяняць дзе-небудзь цэнтнер насення. Забеспячэнцы ўпікалі: а дзе раней быў! І ўсё ж тое-сёе прыдбаць удавалася.

Горш было з транспартам. Адзіная калгасная машына з'яўлялася поўнай уласнасцю шафёра Васіля Харытонава. Гэты хлапец па ранейшай звычцы ўхітраўся кожную раніцу насадзіць поўны кузаў кірмашнікаў і адвозіць іх у Магілёў. А замяніць Васіля не было кім. Адчуўшы сваю сілу, хабарнік заявіў:

— Не хачу рабіць на працадні. Плаціце грошы.

Пакуль што іншага выйсця не было. І плацілі.

А Валодзя кідаўся ў пошуках машын, думаючы, што яшчэ разлічыцца з гэтым шафёрам-лайдаком.

Неўзабаве з МТС прыгналі тры трактары, і на полі з'явіліся штабялі ўгнаенняў.

... Прыцемкам сабраліся ўсе члены праўлення, брыгадзіры. На парадку дня — план веснавой сяўбы. Склад праўлення застаўся ранейшым, хоць некаторыя яго члены далёка не задавальнялі ні Лебедзева, ні Азаранку. Гаспадарку яны прывыклі весці па-старынцы, абы з рук.

Аграном выступіў першы.

— Сеяць будзем у першую чаргу — кукурузу, — рашуча заявіў ён. — Пяцьдзесят гектараў, на гародах.

У некаторых твары спахмурнелі.

— Пачакай, хлопец, — падхапіўся Міхаіл Сакавец. — Якую кукурузу? Чатыры гады сеем яе, а больш як па дзесяць цэнтнераў не вырастала.

Але аграном спакойна працягваў:

— Думаю, што самае лепшае



месца паўз дарогу, на загумені. — І ён пазногцем шаргануў па карце, якую разгарнуў перад сабою. — Цяпер гарод. Будзем вырошчваць сёлета гуркі, памідоры і капусту. А таксама возьмемся за лён. Для пачатку прапаную 64 гектары!..

— Старшыня! — крыкнуў Іван Канавальчык, адзін з брыгадзіраў. — Навошта ён марочыць нам галовы? Дзе ён людзей возьме, каб прапалоць хоць тры гектары гароду? Адразу кажу: я супраць. Супраць таго, што сказаў аграном, і супраць таго, што ён скажа яшчэ.

— Чаму ён ды ён? — усміхнуўся старшыня. — Не ён, а ўсе мы і вы таксама. Увогуле, гаспадары тут вы. Рашайце, як ведаеце.

— Наш калгас прыгарадны, — тым часам гаварыў аграном. — І свежая гародніна — гэта ж чыстыя грошы! На наступны год, думаю, пад гародніну мы адвядзем не менш ста гектараў.

На гэтыя словы рэагавалі па-рознаму. Адных захапілі смелыя планы агранома, другія сядзелі, панурыўшы галовы. Гордасць за сябра і таварыша была напісана на твары Сашы Лебедзева.

— Мужчыны! — узняў дзве рукі ўгору Іван Канавальчык. — Дык дзе ж людзей возьмем? Зацвердзіць такі план — гэта ж застацца без хлеба!..

— А хіба няма людзей? — горача крыкнула Галя Мацвеева, маладая калгасніца. — Іх у нас тысячы!..

— Няўжо гэтых спекулянтаў думаеце вывесці ў поле? — рагатаў Канавальчык.

— Выведзем! Выведзем! — пачуліся галасы. — Галасуй за план!

План быў зацверджаны.

### III

На гэты раз у праўленні сабраліся не толькі пяцёра камсамольцаў, але і тыя, на каго можна было аперціся: Галя Мацвеева, брыгадзір Старавойтаў і яшчэ некалькі чалавек, якія гатовы былі дапамагчы новаму кіраўніцтву ў любую мінуту. Нечакана зайшоў і Іван Канавальчык — па натуры чалавек шчыры і энергічны. З парога кінуў да старшыні.

— Можа, вам ужо стары Канавальчык не патрэбен? Калі я пагарачыўся на праўленні, дык што я, вораг? Вось што я скажу вам, хлопчыкі: хоць плечы ў вас маладыя і дужыя, але адны вы нічога не зробіце!

Відаць было, што вельмі пакрыўдзіўся брыгадзір за недавер, і тое, што не запрасілі на нараду. Аграном, памятаючы ўпіканні брыгадзіра на праўленні, хацеў было нешта запярэчыць, але ўстаў Лебедзеў, падышоў да брыгадзіра, паклаў руку на плячо.

— Прабач, Фёдаравіч. Сядай, калі ласка.

— Ну, што там «прабач», — расчуліўся стары, зняўшы шапку. — Аб чым гаварыць будзем?

— Заўтра сеяць пачынаем, — сказаў старшыня. — Ад таго, як правядзем сяўбу, будзе залежаць усё: ці застанемся на месцы, ці выйдзем наперад. Дык што рабіць будзем, гавары ты, Азаранка!

Аграном збянтэжыўся.

— Трэба авансаваць калгаснікаў на сяўбе...

— На рахунку няма грошай, — заўважыў Шэндзераў. — Гэта прапанова адпадае.

— Тады трэба прыгразіць, што прысядзібныя ўчасткі абрэжам!

— Ну, гэта ты ўжо, браце, загнуў, — уставіў стары Канавальчык. — З людзьмі трэба пагутарыць. Па душы пагутарыць!..

— Я таксама гэтак думаю, — заключыў старшыня. — І гэта мы павінны зрабіць сёння. Зараз жа. Дзякуй за параду, Іван Фёдаравіч.

Пайшлі ў вёскі, па дварах.

Калгасніца Агаф'я Новікава вельмі здзівілася, убачыўшы ў сваім доме старшыню.

— За дапамогай да цябе, Агаф'я Сямёнаўна.

Жанчына замітусілася, хуцень-

ка выскачыла ў сенцы і вярнулася з цёмнай бутэлькай, заткнутай пакуллем.

— Сядайце, Аляксандр Ціханавіч, калі ласка, за стол!..

— Не трэба гэтага, Агаф'я Сямёнаўна, — старшыня адсунуў бутэльку. — Вось адсеемся, тады і вып'ем.

Жанчына не на жарт здзівілася: «Старшыня і не п'е...»

— Трэба кукурузу пасадзіць, Агаф'я Сямёнаўна, выручы...

Жанчыне спадабалася далікатнасць новага старшыні. Звычайна яе толькі лаялі, на чым свет стаіць, а тут — такая абыходлівасць.

— Ды ўжо ж, памагу, — расчулілася жанчына і сарамліва ўзяла са стала бутэльку. — Заходзьце часцей.

— Абавязкова, Агаф'я Сямёнаўна.

Сяргею Шэндзераву дасталіся больш цяжкія двары — зацятыя кірмашнікі. Спачатку зайшоў да маладой дзяўчыны, якая не выпрацавала ў калгасе ніводнага працадня. Паправіў шапку, абцягнуў пінжак.

— Як жывеш, Марыя?.. — прывітаўся Сяргей.

— Памаленьку, — стрымана адказала дзяўчына, не разумеючы, куды хіліць новы бухгалтар.

— Чаму на вечарынкі не прыходзіш?

— Ды вось у заработкі хаджу.

— Эх, Маруся, і добрая ты дзяўчына, а калгас падводзіш.

Марыя ведала і чула пра пецярых камсамольцаў, якія прыйшлі ў калгас, яны ёй падабаліся. І яна, загадкава ўсміхнуўшыся, сказала:

— Ніхто ж не запрашае.

— А я цябе запрашаю, Маруся. Станавіся заўтра на сеялку. Добра?

— Дык неяк боязна... Я ж не калгасніца.

— Нічога. Падавай заяву, прымем. Толькі выходзь спачатку на працу.

— Канешне, прыду, — ціха прагаварыла дзяўчына і цёплым позіркам праводзіла гэтага ўвішнага і прыгожага хлопца-бухгалтара.

А стары Канавальчык дзейнічаў інакш. Адразу сабраў чалавек сорак калгаснікаў.

— Слухайце, мужчыны. Вы мяне выбіралі ў брыгадзіры?

— Ага, — адказалі людзі.

— Дык вось, заўтра сяўба. Я даў слова праўленню, што мая брыгада дружна выйдзе на работу. Хто не пойдзе, гавары цяпер!..

Усе маўчалі.

— Ну вось. Я ведаў, што нашы не падвядуць свайго старога брыгадзіра, — сказаў Канавальчык. — А ведаеце, новае кіраўніцтва моцнае!..

Меншы поспех выпаў у гэтым памятным падворным абходзе на долю Раі Куляшовай. Першы, з кім сутыкнулася яна, быў Іван Карсакоў, дэмабілізаваны старшына-пехацінец.

— Захачу — выйду на работу, захачу — не, — адрэзаў старшына. — Ты б да сваіх кароў лепш ішла, таварыш заатэхнік...

— Эх, у арміі служыў, а не паразумнеў ні кропелькі, — пагарачылася Рая. — Тут сяўба, фронт сапраўдны, а ты — у кусты!..

— Ты арміі не чапай, — прайшоўся сюды-туды старшына. — Ведаю, што такое фронт, а што — тыл.

— Дык выйдзеш?

— А ты як думала? — усміхнуўся хлопец. — Маладзец, дзяўчына!..

— Прыходзь, нам вагаўшчык патрэбен ля свірна.

— Ладна, ладна... — былы старшына пачырванеў ад задавальнення.

Сяўба была скончана за тыдзень — як ніколі ў мінулыя гады. Калгас «Светлы прамень» адсеяўся першы ў раёне.

— Вось што азначае шчырасць да чалавека, — многазначна потым гаварыў Іван Канавальчык, скоса пазіраючы на агранома. — А ты — участкі абразацы!..



У час сяўбы вызначылася сапраўднае, здаровае ядро калгаснікаў. З іх і былі створаны ўдарныя адзінкі ў барацьбе за ўраджай — звенні. Звенні па ільну і кукурузе ўзначалілі камуністы, а гарод узялі пад сваё шэфства камсамольцы.

## IV

Уладзімір Азаранка мог ганарыцца: пад лён, кукурузу, гародніну і бульбу ўдалося вывезці па 20 тон гною на кожны гектар — па столькі тут ніколі не клалі.

Заатэхнік Рая Куляшова была вельмі незадаволена сваёй працай. І на гэта была прычына. Настала лета — пара вялікага малака. А дзе ж тут быць таму малаку, калі няма каму аб ім як належыць клапаціцца? Пастухі — пабочныя, наёмныя людзі, яны зусім не думаюць пра надоі. Даяркі таксама працуюць, абы дзень да вечара. І загадчык фермы Мікола Максімаў чалавек такі, на якога не дзейнічала ні крытыка, ні ўшчуванні. Максімаў крыў калгасныя кармы, мог тыднямі не выходзіць на работу, бо лічыў сябе незамянімым на ферме. Заатэхніка ён проста не заўважаў. Калі Рая Куляшова надакучала яму з якой-небудзь просьбай, Максімаў доўга і пільна глядзеў на дзяўчыну, сумна ківаў галавой і адыходзіў. Гэта была хітра задуманая здзеклівасць. Яна даводзіла заатэхніка да абурэння.

— Не, ты ўсё ж загаворыш! — гаварыла Раіса і тузала за рукаў загадчыка.

— Грамадзянка, што ты чэпішся да людзей? — азіраючыся па баках, крычаў Максімаў, стараючыся хутчэй шмыгануць куды-небудзь.

Цяпер увесь сэнс свайго жыцця Раіса бачыла ў тым, каб дапячы чым-небудзь гэтага злыдня. Але Максімава нічога не кранала. Так, прынамсі, думала дзяўчына. На самай справе, загадчык быў не такі дзівак. З прыходам заатэхніка яму стала крута на ферме. І ён гарэў не меншым жаданнем пазбавіцца ад дзяўчыны.

Ацёлы тады яшчэ не закончыліся, і Раіса настойвала, каб наладзіць начное дзяжурства даярак. Распараджэнне павінен быў даць загадчык, але ён не спяшаўся. Раіса магла паскардзіцца старшыні і ўсё было б уладжана, але яна рашыла дамагчыся свайго сама.

Тым часам дні ішлі, а справа з дзяжурствам не краталася. Сама заатэхнік не магла быць і дзень і ноч на ферме. І загадчык, як заўважыла Рая, чагосьці чакаў, на штосьці разлічваў, але нічога не здаралася. Хутка ўсё выявілася.

Захварэла адна карова. Каб на першым часе хапіліся, усё было б добра, але раніцай ужо было позна. Загадчык мітусіўся каля няшчаснай жывёліны і крычаў, паказваючы на Раісу:

— Твая заслуга! Можаш ганарыцца. Даслужылася! Цяпер, напэўна, ты зразумела, што табе не заатэхнікам быць, а падмятайлам на ферме?

З няменшым запалам, але рашуча, гаварыў Максімаў аб тым, што здарылася, старшыні.

— Яна або я.

— І ты, і яна, — спакойна сказаў Лебедзеў, які нічога не ведаў пра адносіны паміж загадчыкам фермы і заатэхнікам.

Гэтага толькі і чакаў Максімаў. Палічыўшы, што старшыня — «чалавек свой», загадчык пагрузіў прырэзаную карову на машыну, на якой працаваў той жа Васіль Харытонаў, і паехаў у Магілёў.

На работу не з'яўляліся тры дні — ні загадчык, ні шафёр. Калі ж вярнуліся, бухгалтар патрабаваў, каб яны здалі ў касу грошы. Максімаў развёў рукамі:

— Якія грошы?

— За карову.

— Людцы добрыя! За якую карову? Яе ж заатэхнік прадавала.

Хітры намер не ўдаўся, і жулік быў зняты з пасады.

Цяпер справы пачалі наладжвацца. Крыху лепей сталі адносіцца да работы даяркі. Але многіх трэба было мяняць, і Раіса ўсё пільней прыглядалася да некаторых юнакоў і дзяўчат, якіх можна было б накіраваць для работы на ферму. Раіса задумала пагаварыць з Марыяй Зуськовай, дужай дзяўчынай, якая дагэтуль цэлымі днямі праседжвала на базары з грыбамі.

— Ты, напэўна, жартуеш, — здзівілася Марыя, калі Рая прапанавала ёй уступіць у калгас і пайсці на ферму даяркай.

— Ніколькі, Маня, не жартую. Ну, ты днямі таўчэшся, як апантаная, а што ты маеш?

— Што маю? — перапытала Марыя і адчыніла шафу. — Глядзі, колькі суненак, хустак!..

Рая спахмурнела.

— А ты думаеш, я не мела б столькі! — пасля некаторага маўчання кінула Раіса. — Ты ж ведаеш, я заатэхнік і многа грошай магу зарабіць. Але тут, у калгасе, пакуль што я нічога не атрымліваю і не магу сабе купіць штонебудзь... Сама ведаеш, які працадзень у нас.

— Вось-вось, — падхапілася Марыя, спачувальна аглядаючы пацёртую сукенку Раісы.

— Слухай, Маня. Як ты думаеш, чаму я ў гэты калгас прышла? Мяне ж ніхто не прымушаў.

Марыя крыху збянтэжылася, сумелася.

— Як не разумець... Разумею. Усе разумеюць. Але ж вы — вучоныя людзі... А я радавая дзяўчына, звычайная. Мне б апрануцца лепш, каб не сорамна было на свята паказацца.

— І мы такія ж радавыя і такія ж звычайныя. Можа толькі крыху далей бачым. Але ж павер, Манечка, пойдзеш у калгас — не раскаешся. І шчасце будзе, і грошы, і сукенкі!..

Марыя ўспыхнула і, не слухаючы далей, таропка загаварыла:

— Адкажы, Раечка, і таксама шчыра адкажы: ці выйдзе толк у вас? Ці верыш ты ў гэта?

— Як не верыць... калі ў калгасе такія дзяўчаты, як ты, Маня, — усміхнулася Рая і абняла новую сяброўку за плечы.

— Няхай будзе па-твойму.

Развіталіся сяброўкамі. Назаўтра Лебедзеў з велізарным задавальненнем трымаў заяву, з якою ў калгасную сям'ю ішоў новы чалавек. Гэта была другая заява. Аўтарам першай была ўжо знаёмая нам Марыя. Яна стала жывёлаводам, пайшла пасвіць цялят.

На працягу ўсяго лета заатэхнік больш нагадвала агітатара. І гэта дапамагло. Усё менш станавілася такіх, хто любіў пакарыстацца за кошт калгаса, іх замянілі сапраўдныя энтузіясты, якіх знаходзіла Раіса Куляшова. Пайшлі ўгору надоі, а ў калгасную касу прышлі першыя прыбыткі.

## VI

Гэты дзень назаўсёды застанецца ў памяці Аляксандра Лебедзева і яго сяброў.

Яшчэ з раніцы брыгадзіры Іван Канавальчык і Васіль Старавойтаў прыслалі ў праўленне вестку, што ўборка поўнасцю закончана. збожжа засыпана ў свірны, а салома звезена ў гумны. З Магілёва вярнуўся Сяргей Шэндзераў і паказаў старшыні квітанцыі: ад продажу збожжа дзяржаве выручана каля 100 тысяч рублёў, за гародніну — каля 50 тысяч; даўгоў зменшылася амаль на 200 тысяч рублёў.

Калгаснікі атрымалі грашовы аванс.

Але гэта было не ўсё. Сёння маладых калгасных кіраўнікоў мясцовая партыйная арганізацыя павінна прыняць у партыю. Рознае спадзяваліся яны пачуць ад камуністаў. Якімі яны былі камсамольцамі? Ці апраўдалі давер'е партыі, якая паслала іх, зусім маладых і нявопытных, на пярэдні край?

Камуніст Васіль Дземянкоў гаварыў, што даход калгаса з 200 тысяч рублёў у 1957 годзе склаў каля мільёна ў 1958 годзе. У гэтым мільёне часцінка гарачага сэрца Лебедзева. Камуніст паручаўся, што Лебедзеў заваяваў права быць кандыдатам у члены партыі.



Рэкамендацыяй для Уладзіміра Азаранкі паслужыў добры ўраджай кукурузы, збожжавых і гародніны, бульбы і ільну. У заслугу Раі Куляшовай паставілі палягпшэнне работы на ферме. За ўвесь 1957 год дзяржава атрымала ад калгаса толькі 93 тоны малака, а ў першы год гаспадарання маладых пасланцоў — у тры разы больш. Новыя, здольныя кадры на фермах — таксама справа рук камсамолкі.

Што ж датычыць бухгалтэрыі, то хоць Сяргея Шэндзерава больш бачылі ў полі, сярод калгаснікаў, чым за бухгалтарскімі кнігамі, але за яго прагаласавалі камуністы з вялікай ахвотай. Гэты дваццацігадовы хлопец усіх здзіўляў сваёй працавітасцю, крыштальнай сумленнасцю і нястомнасцю.

Быццам крылы выраслі ў маладых сяброў. Іншымі вачыма паглядзелі яны вакол сябе. Не ўсё зроблена, не ўсе цяжкасці перадолены. Але хто можа сумнявацца, што гэтыя крылы не данясуць іх на вяршыню перамогі!

*Гары, камсамольскі аганёк!*

# ЖЫЦЬ ПА-КАМУНІСТЫЧНАМУ

Грандыёзныя і велічныя планы нашай светлай камуністычнай будучыні паўстаюць перад вачамі, калі чытаеш тэзісы даклада Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на XXI з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Удумваючыся ў лічбы наступнай сямігодкі, яскрава ўяўляеш, які гіганцкі крок наперад зробіць наша прамысловасць, сельская гаспадарка, навука і культура.

У тэзісах даклада таварыша Хрушчова велізарная ўвага ўдзяляецца пытанню аўтаматызацыі і механізацыі вытворчых працэсаў. Кантрольнымі лічбамі, напрыклад, намячаецца выпуск не менш 1300 аўтаматычных ліній, прадугледжваецца шырокае развіццё вытворчасці спецыяльных пазіцыйных станкоў і станкоў з аўтаматычным праграмным кіраваннем.

Наш завод аўтаматычных ліній і спецыяльных агрэгатных станкоў якраз і з'яўляецца адным з такіх прадпрыемстваў, дзе ствараецца матэрыяльна-тэхнічная база недалёкага камуністычнага будучага.

Ужо зараз наш завод выпускае высокапрадукцыйныя шматпазіцыйныя станкі. Іх праектыроўкай і канструяваннем займаецца спецыяльнае канструктарскае бюро завода, у якім працуе 260 інжынераў і тэхнікаў. У недалёкім будучым у нас будзе 550—600 канструктараў — вялікі атрад інжынерна-тэхнічных работнікаў, якія ў садружнасці з рабочымі будуць вырашаць задачы, пастаўленыя роднай партыяй.

У нас ужо ёсць перспектыўны план завода на сямігоддзе. Да канца 1965 года мы зможам выпускаць 90—100 аўтаматычных ліній у год. Каб уявіць сабе, якая гэта для нас грандыёзная задача, варта заўважыць, што ў 1956 годзе ва ўсёй нашай прамысловасці працавала 90 аўтаматычных ліній, збудаваных айчыннымі заводамі, а Маскоўскі завод імя Арджанікідзе, які спецыялізуецца на гэтай вытворчасці, выпускаў 12 аўтаматычных ліній у год.

На нашым заводзе праектуецца 19 аўтаматычных ліній. Сярод іх лініі па апрацоўцы карэнных падшыпнікаў для Уладзімірскага трактарнага завода, па выпрацоўцы радыятараў для Сталінградскага трактарнага завода і інш. Работа гэтая ўжо ідзе поўным ходам.

З вялікай радасцю і гордасцю ўспрынялі нашы камсамольцы, усе юнакі і дзяўчаты завода вестку аб новым патрыятычным руху ў краіне — нараджэнні брыгад камуністычнай працы. Гэта радасная, хвалюючая вестка выклікала



ва ўсіх нашых машынабудаўнікоў новы, небывалы працоўны энтузіязм і прыліў творчага натхнення.

Калі камсамольска-маладзёжны сход, прысвечаны абмеркаванню тэзісаў, падыходзіў к канцу, слова папрасіў брыгадзір слесараў-лякальшчыкаў камсамолец Мікола Галавач.

— Параіўшыся са сваімі сябрамі, членамі брыгады, — сказаў Мікола, — мы рашылі ўключыцца ў спаборніцтва за права насіць высокае званне брыгады камуністычнай працы. Запэўняю ад імя сваіх сяброў усіх камсамольцаў, нашых старэйшых таварышаў-камуністаў, што з гонарам стрымаем дадзенае абяцанне. Мы будзем жыць і працаваць па-камуністычнаму!

Тут жа Мікола Галавач зачытаў абавязацельства, узятае яго брыгадай, якое выклікала ва ўсіх прысутных гарачае, шчырае адабрэнне. У гэтай брыгадзе чатыры чалавекі. Усе яны старанна працуюць, усе вучацца. Хлопцы рашылі дапамагаць адзін аднаму, каб кожны атрымаў спецыяльнасць тэхніка. Камсамольцы Мікола Галавач і Валянцін Марчанка — студэнты трэцяга курса вячэрняга політэхнікума. Яны рашылі дапамагчы і Івану Дзятко, які перапыніў вучобу па ўважлівай прычыне, зноў паступіць у тэхнікум, каб не адстаць ад сяброў. Самы малодшы член гэтай брыгады Сямён Пудовік вучыцца ў пятым класе вячэрняй школы. Таварышы абавязаліся дапамагчы яму набыць кваліфікацыю слесара і атрымаць сярэднюю адукацыю.

На тым жа памятным камсамольскім сходзе выступіў брыгадзір лепшай на заводзе камсамольска-маладзёжнай брыгады мадэльшчыкаў Уладзімір Сурмачэўскі і брыгадзір слесараў-рамонтнікаў Ігар Масуноў. Яны таксама выказалі шчырае жаданне сваіх таварышаў, з якімі працуюць, уключыцца ў спаборніцтва за званне брыгад камуністычнай працы. У аснову сваіх абавязацельстваў маладыя патрыёты паклалі дэвіз — працаваць высокапрадукцыйна, арганізавана, эканомна; настойліва ўкараняць новую тэхніку і тэхналогію, змагацца за ўсё новае, прагрэсіўнае; нястомна ўдасканальваць сваю вытворчую кваліфікацыю, авалодваць марксісцка-ленінскай тэорыяй, павышаць свой агульнаадукацыйны і культурны ўзровень; выхоўваць у сабе лепшыя якасці чалавека новага грамадства — быць усебакова духоўна і фізічна развітым, прыкладным у быту, паводзінах, у адносінах да грамадскіх абавязкаў.

У цэху, у брыгадах разгарнулася баявое, дзейснае спаборніцтва. Ужо бачны вынікі работы па-новаму, па-камуністычнаму.

Паміж людзьмі складваюцца моцныя, таварыскія адносіны. Узяць, да прыкладу, тую ж брыгаду Міколы Галавача. Калі раней кожны чалавек імкнуўся зрабіць сваё, асабістае заданне і хутчэй пайсці з цэха ці пасядзець дзе-небудзь у зацішку, то цяпер разам, супольна вырашаюцца пытанні, звязаныя з працай, вучобай і жыццём брыгады і цэхавага калектыву. Самы малады член брыгады Сямён Пудовік адставаў па матэматыцы. У школу, дзе вучыцца Сямён, паехаў Іван Дзятко, і там выявілася, што хлопец мае заўвагі і па дысцыпліне. Назаўтра сябры па-таварыску, але сурова пакрытыкавалі Сямёна, прапанаваўшы яму сваю дапамогу. З ім па матэматыцы пачаў займацца Валянцін Марчанка.

Слесары-лякальшчыкі цяпер выконваюць зменнае заданне не за восем гадзін, як раней, а за сем — сем з паловай. У нерабочыя часы хлопцы зрабілі тры індыкатарныя галоўкі з ліку інструменту, які быў спісаны.

Нядаўна ў камітэт камсамола прыбег Валодзя Сурмачэўскі і з запалам прагаварыў:

— У свае абавязацельствы мы рашылі дадаць яшчэ два пункты...

— Якія?

— Мы рашылі заданне першага месяца новага года — студзеня —

выканаць за дваццаць дзён, — гэта першае. А другое — апошні месяц — снежань — працаваць на сэканомленым матэрыяле!..

Што можна сказаць пра такіх хлопцаў? Малайцы! Каго ні вазьмі з брыгады Сурмачэўскага — Пятра Івановіча, Сямёна Райхліна ці Пятра Міхалькевіча, — усе яны дружна змагаюцца за тое, каб выканаць любое заданне Радзімы, хутчэй наблізіць светлую будучыню чалавецтва.

Кожны дзень прыносіць радасныя навіны, хвалюючыя весткі. Неяк я зайшоў у інструментальны цэх. Быў якраз абедзенны перапынак. У цэхавай майстэрні сабраліся хлопцы з брыгады Ігара Масунова. Абступіўшы свайго брыгадзіра, яны ажыўлена гаварылі, спрачаліся. Аказалася, Ігар падаў даволі цікавую думку — зрабіць спецыяльнае прыстасаванне для прамыўкі шасцярончатых каробак да станкоў. Працэс прамыўкі быў дагэтуль вельмі працаёмкім. Калі мы разам падлічылі, выявілася, што новае прыстасаванне дазволіць сэканоміць больш паловы часу, які затрачваўся раней на гэтую аперацыю. Ігар Масуноў вучыцца ў політэхнічным інстытуце. Ён дапамагае падрыхтавацца ў інстытут і свайму таварышу па рабоце Юрыю Скарадзілу.

У нас сёння сем брыгад камуністычнай працы. Іх колькасць будзе расці. У шарэнгі перадавікоў, якія сумяшчаюць высокапрадукцыйную працу з вучобай, з актыўнай грамадска-карыснай дзейнасцю, становяцца ўсё новыя маладыя людзі, змагары за набліжэнне нашай светлай камуністычнай будучыні. На іх будуць раўняцца, з іх будуць браць прыклад шырокія масы маладых машынабудаўнікоў у авалоданні новымі вышынямі камуністычнай тэхнікі і арганізацыі вытворчасці.

**Васіль ІВІНСКІ,**
**сакратар камітэта камсамола Мінскага завода аўтаматычных ліній.**

# ПРАЦУЕМ І ВУЧЫМСЯ

На занятк палітгуртка ўжо другі раз не прыйшла неразлучная тройка: Надзежда Зушчык, Таццяна Зайкава і Зінаіда Папко. Тэма вельмі важная — стварэнне Ленінскага камсамола. Здавалася б, каго, як не камсамольцаў, павінны цікавіць такія пытанні.

Назаўтра раніцай я адразу ж накіраваўся ў механічны цэх. Дзяўчаты стаялі за такарнымі станкамі, пільна, як і заўсёды, былі заняты работаю. Убачыўшы мяне, Тацяна Зайкава неяк сарамліва апусціла вочы.

— Ведаеш, Георгі, — пачала яна, здагадваючыся, чаго я прыйшоў. — Надзя білеты якраз узяла ў кіно — не прапускаць жа цікавы фільм.

— А вучобу, выходзіць, можна прапускаць, — абурыўся я. — І ў мінулы раз вы таксама хадзілі ў кіно?

— Не, не хадзілі, — адказала за сяброўку Надзя Зушчык і ўжо больш рэзка кінула: — Проста не хацелі ісці на заняткі, вось і ўсё.

Я зразумеў, што яны наогул не цікавяцца вучобай, і гэта мяне вельмі абурыла. Доўга гутарыў з імі, пераконваў і, нарэшце, зразумеў, што дзяўчаты несур'ёзна ставяцца да палітвучобы.

Адразу ж накіраваўся да сакратара камсамольскага бюро цэха Тамары Астапкавай, расказаў ёй аб усім гэтым і папрасіў:

— Трэба заслухаць іх на пасяджэнні бюро, пагаварыць па шчырасці.

— Давай так і зробім, — згадзілася яна.

На бюро дзяўчат, як кажуць, узялі «ў абарот», ім прыйшлося пачырванець і, магчыма, зразумець сваю памылку. Але гэты выпадак прымусіў і мяне задумацца — напэўна, заняткі праходзяць нецікава, а я гэтага і не заўважаю. Праўда, гуртком па вывучэнню гісторыі Ленінскага камсамола я кірую ўпершыню, педагагічнай адукацыі не маю, працую зменным майстрам і, магчыма, дапускаю промахі. З гэтай думкай я і прыйшоў у кабінет сакратара партыйнай арганізацыі завода Аляксандра Іванавіча Ціхамірава. Выклаў яму ўсё, што думаў.

— Гэта добра, Георгі, што хвалюешся, — пачаў ён, выслухаўшы мяне. — А заняткі і сапраўды патрэбна было б праводзіць жывей. Скажам, вы вывучаеце такі перыяд — камсамол у гады грамадзянскай вайны. Літаратуры па гэтай тэме ёсць многа, але патрэбна выбраць самае галоўнае, самыя яркія факты і расказаць аб гэтым так, каб перад слухачамі паўстаў жывы вобраз камсамольца тых незабыўных год. Тады на твае заняткі будуць прыходзіць ахвотней.

Што і казаць, многае дала мне гэтая шчырая сяброўская гутарка. Іншы раз мы сапраўды праводзілі заняткі суха, як кажуць, па гатоваму, пісанаму, не звязвалі, не супастаўлялі мінулае з сучасным.

Я пачаў часцей заходзіць у бібліятэку, праглядваў многія кнігі. Так, напрыклад, мы рыхтаваліся да вывучэння тэмы «Удзел камсамола ў аднаўленні народнай гаспадаркі». Тэма сур'ёзная. Камсамол у тыя гады, як і заўсёды, быў надзейным памочнікам Камуністычнай партыі ў здзяйсненні вялікіх задач аднаўлення разбуранай гаспадаркі краіны. І вывучыць гэтую тэму трэба было глыбока, па-сур'ёзнаму.

Апрача асноўнай літаратуры, якую рэкамендавалі нам на семінары ў ЦК ЛКСМБ, я прагледзеў яшчэ некалькі кніг па гісторыі камсамола — зборнік дакументаў, нарысаў і ўспамінаў «Слаўныя традыцыі», брашуру М. Шкляра «Камсамол Беларусі ў аднаўленні народнай гаспадаркі» ды шмат іншых і знайшоў там многа цікавых фактаў.

Сваім гуртковцам я сказаў, каб кожны з іх абавязкова ўважліва прачытаў да пачатку заняткаў па гэтай тэме прамову У. І. Леніна на III Усерасійскім з'ездзе РКСМ — «Задачы саюзаў моладзі», прамову М. С. Хрушчова на XIII з'ездзе камсамола, а таксама прагледзеў некаторыя зборнікі па гісторыі ВЛКСМ.

Заняткі адразу пайшлі цікавей. Справа ў тым, што многія добра падрыхтаваліся да іх і маглі ўжо дапоўніць адзін другога, паспрачацца. Зусім іншым быў і мой расказ. Многія факты, такія, як гераізм сакратара камсамольскай ячэйкі Горка-Паўлаўскай фабрыкі Паўла Камінскага, які мужна змагаўся з правакатарамі і быў забіты імі, як подзвіг «жалезнай камсамолкі» Жэні Раманько, арганізатара першай камсамольска-маладзёжнай брыгады бетоншчыкаў на Днепрабудзе, і многія іншыя, захапілі слухачоў. Я бачыў, як пасур'ёзнелі іх твары, з якой уважлівасцю слухалі яны мой расказ. Нават Таццяна Зайкава са сваімі сяброўкамі задавалі пытанні, а затым прапанавалі, каб, вывучаючы той ці іншы перыяд гісторыі ВЛКСМ, наладжваць экскурсіі ў Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а таксама прагляд мастацкіх кінафільмаў на гэтую тэму. Думка гэтая спадабалася ўсім. Праўда, мы яе яшчэ не ажыццявілі, але думаю, што нам удасца наладзіць гэта ў бліжэйшы час.

З кожным разам наша вучоба паляпшаецца. Заўсёды ў панядзелак у чытальную залу бібліятэкі завода роўна ў вызначаны час

прыходзіць уся група — 15 слесараў, фрэзероўшчыкаў, токараў... Іх прыцягвае сюды гарачае імкненне вывучыць слаўную гісторыю камсамола, ведаць гераічныя подзвігі сваіх аднагодкаў, каб раўняцца па іх у вялікіх справах сённяшніх дзён.

Нядаўна мы разбіралі важнае пытанне. — «Ленін аб непарыўным адзінстве адукацыі з вытворчай працай». І якраз у гэты час у газетах былі надрукаваны тэзісы ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб умацаванні сувязі школы з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы народнай адукацыі ў краіне». Мы разам прачыталі гэты важны дакумент, а потым разгарэлася гарачае абмеркаванне яго. І адразу ж кожны паглядзеў на сябе, на сваю адукацыю і здольнасці.

— Працуем мы, можна сказаць, выдатна — паўтары-дзве нормы за змену даем, — выступіў токар Эдуард Шабуня. — Але вось у многіх з нас з адукацыяй слабавата, ведаў нехапае.

Я падтрымаў Эдуарда. Падтрымалі яго і многія іншыя.

Паглядзеўшы на Мікалая Анціповіча, маладога слесара, які толькі год працуе на нашым заводзе, я сказаў яму проста, па-сяброўску:

— Вось ты, Мікола, здольны рабочы, кемлівы, а вучыцца чамусьці не хочаш. Скончыў сем класаў і думаеш, што ўжо ўсё — адукаваны.

— Адкуль ты ўзяў, што я не хачу вучыцца, — запярэчыў юнак. — Буду!

Было бачна, што пасля такой гутаркі многія з нашых рабочых будуць выдатна працаваць і настойліва вучыцца.

Вывучэнне тэмы аб удзеле камсамола ў сацыялістычнай індустрыялізацыі мы цесна звязалі з тэзісамі даклада М. С. Хрушчова на XXI з'ездзе КПСС, каб ярчэй уявіць, якой была наша краіна ў першыя гады савецкай улады і якой яна будзе пасля ажыццяўлення грандыёзных планаў, намечаных партыяй. Кожны з гурткоўцаў гаварыў аб тым, што ў вырашэнні гэтай адказнай задачы вялікае месца адводзіцца і камсамолу.

— Цяпер, як ніколі, — гаварыў адзін з лепшых слесараў механічнага цэха Уладзімір Багданаў, — мы павінны працаваць не пакладаючы рук, жыць і вучыцца так, як вучыць наша партыя — па-камуністычнаму.

Невялічкі наш гурток па вывучэнню гісторыі камсамола, але цяпер ён дружны, згуртаваны ў адзіную сям'ю. І імкненне кожнага члена гуртка — выдатна працаваць, вучыцца, быць заўсёды наперадзе тых вялікіх падзей, якія адбываюцца ў нашай краіне.

**Георгі АНТОНАЎ,**
**кіраўнік гуртка па вывучэнню гісторыі камсамола Мінскага завода «Ударнік».**

# БЕЛАРУСКІ АЎТАМАБІЛЬНЫ

Хто з нас не бачыў і не любаваўся аўтамабілямі з эмблемай зубра? Маленькая бліскучая фігурка ўладара Белавежскай пушчы як бы ўвасабляе сілу і моц гэтых выдатных машын, якія выпускае Мінскі аўтамабільны завод. Гружаныя металам і вугалем, лесам і будаўнічымі матэрыяламі, прадуктамі харчавання і прамысловымі таварамі, імкліва імчацца яны па неабсяжных прасторах нашай Радзімы. Беларускія аўтамабілі можна сустрэць на цалінных землях Казахстана і Алтая, на будаўніцтве Брацкай ГЭС і Полацкага нафтаперапрацоўчага завода, на будаўніцтве газа- і нафтаправодаў. Добрую славу заваявалі яны ў Народным Кітаі і іншых краінах сацыялістычнага лагеру, у многіх іншых зарубежных дзяржавах. І, бадай, лепш за ўсё аб міжнародным прызнанні нашых МАЗаў сведчыць прысуджэнне калектыву Мінскага аўтамабільнага завода вялікага прыза «Гран Пры» Брусельскай сусветнай выстаўкі за стварэнне самага магутнага ў Еўропе — 40-тоннага самазвала «МАЗ-530».

З кожным годам расце выпуск магутных машын. Але яшчэ хутчэй узрастае патрэба ў іх. Гэта і зразумела, бо краіна наша ўступіла ў першую сямігодку, ажыццяўляе велічныя планы камуністычнага будаўніцтва. Асабліва вялікая патрэба ў вялікагрузных аўтамабілях адчуваецца там, дзе ідзе здабыча прагрэсіўным адкрытым спосабам жалезнай руды і каменнага вугалю. Вось чаму кантрольнымі лічбамі сямігадовага плана прадугледжваецца павялічыць вытворчасць 25-тонных самазвалаў у некалькі разоў, а таксама наладзіць выраб яшчэ больш магутных машын — 40-тонных самазвалаў.

Якім чынам хутчэй вырашыць гэтую задачу? Пабудаваць новыя карпусы на Мінскім заводзе або ўзвесці новае прадпрыемства? Але на гэта патрэбны вялікія сродкі, а самае галоўнае — многа часу. Ці нельга знайсці іншы шлях, які б даў магчымасць пры невялікіх затратах хутка распачаць выпуск аўтамабіляў?

І такі шлях быў знойдзен. Савет народнай гаспадаркі вынес рашэнне — спецыялізаваць на выраб 25- і 40-тонных самазвалаў Жодзінскі завод дарожных і меліяратыўных машын. Прадпрыемства атрымала новае імя — Беларускі аўтамабільны завод. Ганаровае імя. За ім хаваецца самаадданая, сапраўды гераічная праца будаўнікоў і мантажнікаў, слесараў і токараў, сталявараў і канструктараў, майстроў і тэхно-



Мінскі завод аўтаматычных ліній. Тут шырока разгортваецца рух за камуністычнае спаборніцтва. На здымку: члены камсамольскай брыгады лякальшчыкаў Мікалая Галавача, якая першай уступіла ў камуністычнае спаборніцтва.

Фота А. Дзітлава.



На сцэне карэйскага Тэатра оперы і балету з поспехам ідзе бессмяротны балет П. Чайкоўскага «Лебядзінае возера». На здымку: танец чатырох лебедзяў.



**Раніца над Мінскам.** На пярэднім плане — **Дом-музей I з'езда РСДРП.**
Фота А. Дзітлава.



**Моладзь новага Беларускага аўтазавода (г. п. Жодзіна) за падрыхтоўкай цэха галоўнага канвеера зборкі 25-тонных самазвалаў.**
На першым плане — **слесар камсамолец Міхаіл Каленік.**
Фота А. Дзітлава.



Справы ў цэху ідуць добра. Лепш за ўсё гэта відаць зверху кранаўшчыцы Н. Румпель.

лагаў не толькі Жодзінскага, але і Мінскага заводаў.

Калі глядзіш на велізарны зборачны цэх, галоўны канвеер, навейшае высокапрадукцыйнае абсталяванне — здзіўляюць велізарны размах работ і асабліва тэмпы. Сапраўды, прайшло нямногім больш паўгода, а колькі зроблена!

Хутчэй пераабсталяваць завод, пачаць выпуск аўтамабіляў на новым прадпрыемстве, — з такой думкай працавалі рабочыя і майстры, інжынеры і тэхнікі. Асабліва ўдарная праца разгарнулася напярэдадні знамянальных падзей — 40-годдзя Савецкай Беларусі і XXI з'езда КПСС. І як заўсёды, уперадзе ішлі камуністы і камсамольцы.

... Мы гутарым з Віктарам Чэчкам, — сакратаром камітэта камсамола Беларускага аўтазавода. Гэты хударлявы, сярэдняга росту хлопец на першы погляд здаецца ціхім і нясмелым. А спытайце ў любога камсамольца, у кіраўнікоў цэхаў, сакратара партыйнага бюро і кожны скажа:

— Малайчына. І сам працаваў выдатна і людзей за сабою вёў. Умее хлапец і словам, і справай запаліць іншых.

Віктар — электраманцёр. А электрыкам асабліва многа прышлося папрацаваць пры мантажы галоўнага канвеера.

...На галоўным канвееры амаль усё было гатова. Трэба было закончыць мантаж пад'ёмна-транспартнага абсталявання. Заданне адказнае, а часу заставалася мала — кожнаму хацелася да свята Вялікага Кастрычніка не толькі завяршыць мантаж, але і выпусціць першую машыну.

— За справу ўзяліся камсамольцы, — успамінае Віктар Чэчка. — Цэлую ноч не спалі, а ўсю работу зрабілі. Асабліва вызначыліся Пётр Гарбузаў і Павел Лізуноў. І гэта не адзіны выпадак. Працавалі і ў выхадныя дні. Адных нядзельнікаў чатыры правялі. А колькі металалому сабралі, смецця вывезлі!..

У дні падрыхтоўкі галоўнага канвеера камітэт камсамола стварыў на заводзе камсамольскі штаб. Узначаліў яго свідравальшчык Уладзімір Лыскавец. Дзесяткі «маланак» выпусцілі члены штаба ў гарачыя дні мантажу галоўнага канвеера. Даставалася і гультаям, і тым, хто своечасова не забяспечваў ударную будоўлю матэрыяламі. Са словамі гарачага прывітання звярнуўся штаб да тых, хто працаваў па-ўдарнаму, па-камсамольску.

І вось ён, урачысты дзень, настаў. Каля велізарнай машыны, якая толькі што сышла з канвеера, сабраліся зборшчыкі, майстры, тэхнолагі, тыя, хто ўдзельнічаў у яе стварэнні. Усе радасна ўсхваляваны. Асабліва хвалюецца начальнік галоўнага канвеера Іван Раманавіч Сідаровіч, старшы майстар Мікалай Мацвеевіч Усанькоў, слесары-зборшчыкі. І ёсць ад чаго хвалявацца — не кожны дзень такая падзея: у свет выйшаў першы аўтамабіль з маркай Беларускага аўтамабільнага завода «БелАЗ».



Начальнік цэха і майстар уважліва, прыдзірліва аглядаюць кожны вузел, кожны вінцік, кожную дэталь. І хоць ім, як і ўсім прысутным, не церпіцца, яны не спяшаюцца. Нарэшце, усё агледжана, падагнана, праверана. І пад бурныя апладысменты прысутных першая машына выходзіць з варот Беларускага аўтамабільнага завода. Гэта была перамога, сапраўдны працоўны подзвіг калектыву, свята ўсяго беларускага народа.

Сабраць першы аўтамабіль выпаў гонар камсамольска-маладзёжнай брыгадзе, якую ўзначальвае старшы майстар Мікалай Усанькоў. Усе члены брыгады — маладыя хлопцы, камсамольцы. На Жодзінскім заводзе працавалі добра, умела збіралі дарожныя машыны. Але аўтамабіль — гэта зусім іншая справа. Тут не толькі спрыт, але і веды патрэбны. Ды і боязна неяк было падступіцца — адно кола амаль у рост чалавека...

А людзі розныя — адны прыйшлі на завод з рамесных вучылішчаў, сёй-той з атэстатам сталасці, а Пётр Гарбузаў, Барыс Смірноў, Уладзімір Бліндзераў закончылі Магілёўскі машынабудаўнічы тэхнікум.

— Трэба вучыць хлопцаў, — рашыў начальнік галоўнага канвеера Сідаровіч.

— Мне здаецца, што лепш за ўсё накіраваць іх у Мінск, на аўтазавод, — падаў думку галоўны тэхнолаг Старыковіч, які раней працаваў начальнікам тэхнічнай часткі ў цэху цяжкіх машын Мінскага аўтазавода.

Гэтую прапанову падтрымаў дырэктар прадпрыемства Дзеравянка.

Месяц вучобы прайшоў хутка і неяк непрыкметна. Тэрмін кароткі, але калі ў цябе ёсць жаданне хутчэй авалодаць складанай справай, калі ты добра ўсведамляеш важнасць даручанай справы — тады і цяжкасці не страшны.

Вялікую дапамогу свайму ма-

Група ўдзельнікаў зборкі першых аўтамабіляў з маркай «БелАЗ». Злева направа: слесар-зборшчык Пётр Гарбузаў, начальнік галоўнага канвеера І. Сідаровіч, слесары-зборшчыкі У. Мяркушэвіч, У. Бліндзераў, начальнік тэхнічнай часткі Л. Левін і слесар-зборшчык Е. Васілеўскі.





Слесары В. Некрашэвіч (злева) і Ф. Сіліч рыхтуюць рухавік для устаноўкі на магутны самазвал.

Фота А. Дзітлава.

лодшаму брату аказваюць мінскія аўтазаводцы. Яны накіравалі ў Жодзіна вядучых спецыялістаў, дапамаглі зманціраваць галоўны канвеер. Сярод прыехаўшых з Мінскага аўтазавода — дырэктар прадпрыемства М. Дзеравянка, галоўны тэхнолаг В. Старыковіч, начальнік цэха І. Сідаровіч, старшы майстар М. Усанькоў і многія іншыя. У далейшым гэта дапамога яшчэ больш узрасце, бо належыць зрабіць яшчэ вельмі многае — прыстасаваць механічныя цэхі для апрацоўкі дэталей да аўтамабіляў, расшырыць і рэканструяваць іншыя цэхі і г. д.

Мінскія аўтазаводцы, а таксама калектывы трактарнага і завода запасных частак будуць пастаўляць Беларускаму аўтазаводу стальное ліццё, пакоўкі, інструменты і прыстасаванні. Гэта дасць магчымасць пазбегнуць вялікіх капітальных затрат, лепш выкарыстаць наяўныя вытворчыя плошчы.

Беларускі аўтамабільны завод нарадзіўся, ён ужо выпускае магутныя аўтамабілі. Гэта — выдатны падарунак беларускага народа XXI з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

**Я. ДУБРОВІН.**



Гэта вышка, з якой ідзе бурэнне замаражваючых шчылін на месцы праходкі ствала першай шахты. Адной з перадавых на гэтай рабоце з'яўляецца брыгада Васіля Шаўцова.

# САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ

Рэпартаж з камсамольскіх будоўляў нельга весці ў цяперашнім часе. Нельга сказаць: «Сёння, непадалёк ад таго месца, дзе закладзена першая шахта, для гарнякоў пачата будаўніцтва яшчэ аднаго жылога дома». Пакуль блакнот з запісамі едзе да рэдакцыі, кладка фундамента можа быць закончана. Калі тэкст заметкі трапіць у рукі наборшчыка, сцены дома акажуцца вышэй чалавечага росту. А да дня выхаду часопіса з друкарні ў гэтым «яшчэ адным жылым доме» ўжо будуць спраўляць наваселле.

Так, ва ўсякім разе, ідуць справы паблізу вёскі Чыжэвічы.

Скромная назва гэтага, раней непрыкметнага пасёлка на Старобіншчыне, абышла ўсю краіну. Цяжкае для іншаземцаў вымаўленне гэтага слова не перашкодзіла яму пераляцець цераз граніцу.

Пад Чыжэвічамі ў вялікіх колькасцях ляжаць солі. Галоўная з іх — калійная, тая, што з'яўляецца адным з найбольш каштоўных угнаенняў. Яе спадарожнік — спажыўная соль — мае не толькі харчовае значэнне. Гэта зыходны матэрыял для вытворчасці соды. Сода ж — аснова асноў сучаснай хіміі.

Старобінскія земляробы, якія вечна марылі аб высокіх ураджаях, і ведаць не ведалі, што ключ да багацця ляжыць у іх пад нагамі. Цяпер тут будуецца буйнейшы камбінат. І не дзіўна, што імення мясцовая моладзь знаходзіцца ў ліку самых актыўных яго стваральнікаў.

Краіна прыслала ў Чыжэвічы спецыялістаў будаўнічай і горнай справы, забяспечыла іх самай сучаснай тэхнікай. Праслаўленыя на ўвесь свет савецкія турбабуры прасвідроўваюць цяпер шчыліны на тым месцы, дзе



Карэнны жыхар Старобіншчыны камсамолец Мікола Татур стаў кваліфікаваным бетоншчыкам.

Фота аўтара.

будуць шахты. Прызначэнне гэтых шчылін — прамарозіць таўшчыню грунтаў, багатых падземнымі водамі, для таго каб можна было праз іх пракласці шахтны ствол. На гэтых работах заняты вопытныя інжынеры, а разам з імі і Люба Васюковіч, якая нарадзілася і вырасла ў Чыжэвічах і тут толькі пачала працоўны шлях.

Дзяцінства Міколы Татура прайшло ў суседняй з Чыжэвічамі вёсцы Прусы. Пасля заканчэння школы ён служыў у арміі. А цяпер працуе тут жа, — рыхтуе бетон для апор маразільнай станцыі. Ён таксама пачаў кіраваць камсамольскай арганізацыяй бетоншчыкаў, марыць, як і многія іншыя, аб тэхнічнай адукацыі і бачыць ужо сябе на рабоце ў цэхах узбагачальнай фабрыкі, хоць праект яе яшчэ не закончан.

Па другі бок Чыжэвіч будуецца новы горад. У адзінаццатым нумары нашага часопіса быў змешчаны фотаздымак першых двух жылых будынкаў Нова-Старобінска. Тады на іх былі пастаўлены толькі кроквы. Вакол дамоў ляжала іржышча. Праз месяц гэтыя дамы ўжо было цяжка знайсці сярод многіх гэтакіх жа новых дамоў. Каля аднаго з іх, у рост чалавека, чырванелі цагляныя сцены гарадскога клуба. Муляр Андрэй Вайтовіч і яго сябры запэўнялі, што да канца студзеня, калі ў Нова-Старобінск прыдзе першы нумар «Маладосці» за 1959 год, яны змогуць прачытаць яго ў цёплай чытальнай зале клуба перад пачаткам кінасеанса.

— Калі толькі не падвядуць забеспячэнцы, — агаварыўся нехта з іх, страсаючы з сябе пясок. — Калі будуць такія затрымкі, як з шыферам або ацяпляльным абсталяваннем, не хутка ажыве наш горад!..

— Не будзе гэтага! — адказаў яму звонкі дзявочы голас. — Цяпер мы навучаны. Наш штаб загадзя правярае наяўнасць матэрыялаў. Не дазволім зрывацца планам! Да дваццаць першага з'езда партыі Нова-Старобінск будзе жыць! Напішыце ў часопісе, — запрашаем чытачоў на наваселле. Прыязджайце, калі ласка!

**А. ДЗІТЛАЎ.**



Зіма на Старобіншчыне. Пасёлак гарнякоў непадалёку ад вёскі Чыжэвічы, пабудаваны мінулай восенню.

---

**Міхась СКРЫПКА**

# БЫЛО ГЭТА Ў СМОЛАЎЦЫ

Вёска Смолаўка Бярэзінскага раёна раней жыла небагата. Маленькія падслепаватыя хаткі, неўрадлівая, нішчымная зямля не магла пракарміць шматлікіх смолаўцаў. Толькі млынар Сасонкін ды кулакі Белячонкі не адчувалі нястачы.

З першых год савецкай улады смолаўцы ўпэўнена сталі на шлях новага жыцця. Вестунамі і зачыншчыкамі новага былі маладыя хлопцы, такія, як Мікола Рыбачонак. Ён першым уступіў у камсамол і ў хуткім часе стаў самым аўтарытэтным чалавекам сярод сялян.

Сям'я Рыбачонкаў, якая складалася з васьмі душ, была вельмі дружная, працавітая. Нягледзячы на свае маладыя гады, Мікола быў душой ва ўсёй сваёй сям'і.

Старыя аднасяльчане часта папікалі сваіх дзяцей:

— Вучыся, лайдак, вунь у Рыбачонкавага Міколы, як старэйшых паважаць: пры сустрэчы заўсёды дзень добры дасць і шапку здыме...

Асабліва любіў Міколу настаўнік Антон Амбросімавіч Скаруцкі, які быў для яго і дарадчыкам і сябрам. Часта, седзячы ў яго на кватэры, хлопец з затоеным дыханнем слухаў расказы аб вялікіх людзях, якія, не шкадуючы жыцця, служылі свайму народу, Радзіме. А ідучы апоўначы дадому, ён уяўляў побач з тымі вялікімі людзьмі і свайго любімага настаўніка, які таксама служыў свайму народу. І недзе там, сярод перадавых людзей, ён бачыў і сябе, і сваіх сяброў-аднавяскоўцаў. Але што ён, Мікола, можа зрабіць гераічнае. У Смолаўцы ж няма ні цара, ні жандараў. Быў адзін пан, дык і той уцёк з белапалякамі.

Веснавой ноччу на начлезе Мікола прыгадвае словы сакратара Багушэвіцкай партыйнай арганізацыі Карпікава: «Кожны камсамолец павінен нешта карыснае зрабіць».

«Эх, каб у мяне былі такія здольнасці, як у Кругліка Грышы з Багушэвіч, — разважае сам з сабою Мікола. — Я б гурток у Смолаўцы арганізаваў. За мной пайшлі б усе хлопцы і дзяўчаты...»

Хутка быў вечар і ў Смолаўцы. У невялікім класным пакоі сабраліся і малыя і старыя. У першай дзеі Мікола выйшаў на сцэну,

загрыміраваны пад папа. На медным ланцужку вісеў зроблены з бляхі крыж, даўгія валасы звісалі па пояс.

Нехта зарагатаў на ўсю залу.

— Глядзіце, ды гэта ж багушэвіцкі бацюшка Кваткоўскі! Хоць ты яго на амбон вядзі.

Калі ж Мікола пачаў нейкую казань, дзед Антон, хаваючы ў кішэню люльку, таўхануў суседа:

— Хоць і бязбожнік, сукін сын, а маладзец!

Потым прадстаўлялі кулака. У зале ўсе прыціхлі: як гэта Мікола асмеліўся загрыміравацца пад мясцовага кулака Ігната Белячонка: усе крошкі пабраў, ну, выкапаны Ігнат. Толькі ззаду нейкі хлопец крыкнуў:

— Гэй, таварыш кулак, барада адклеілася!

А Мікола падышоў да стала, за якім сядзелі такія ж, як і ён, хлопцы, і тупнуў ботам:

— Я гаспадар тут! У баранні рог усіх сагну!..

З тыдзень у сяле толькі і гаворкі было, што пра артыстаў. Адразу прыбавіліся жадаючыя ўдзельнічаць у самадзейнасці.

Калі аднойчы Мікола з сябрамі вяртаўся з рэпетыцыі, цёмнай ноччу з-за вугла грымнуў стрэл. У суботу на рэпетыцыю замест 15 чалавек прышло толькі шэсць.

— Эх, палахліўцы,— сказаў Мікола пра адсутных.— Стрэлу спужаліся.

Не зважаючы на кулацкія пагрозы, праз два тыдні зноў адбыўся вечар. Мікола на гэты раз выступаў так, што, як казалі некаторыя, «усіх са смеху лажыў». Калі артысты сталі пераапранацца, каб патанцаваць разам з усімі, Мікола ўбачыў прыгожы букет вяргінь, загорнуты ў яго сарочку. Хутка схапіў кветкі і прыцінуў іх да грудзей. Толькі цяпер заўважыў у букеце паперку, разгарнуў яе і прачытаў: «Мілы Коля, прымі гэтыя кветкі ад дзяўчыны, якая цябе любіць усім сэрцам». На адвароце было напісана ўжо другім почыркам: «Ведайце, таварышы, вы не адны, мы з вамі. Не бойцеся нікога». На адным і на другім баку не было подпісу.

Мікола быў на сцэне, а сэрца ўвесь час пыталася: «Хто? Хто прынёс букет?» І перад ім паўстаў вобраз любімай дзяўчыны Мані са свайго сяла.

Сышоўшы са сцэны, Мікола шукаў вачыма Маню. Яна сядзела з сяброўкай на лаве, камячыла ў руках хусцінку. Толькі ступіў ён крок, каб запрасіць яе на вальс, як пачуў шум у кутку і кінуўся туды: Белячонак Іван тузаў за рукаў дзяўчыну, якая адмовілася ісці з ім у танец.

— Вон адсюль!

Ён яшчэ раз замахнуўся, каб ударыць дзяўчыну.

— Не маеш права біць яе! — крыкнуў Мікола і схапіў Івана за руку. А той зароў што сілы і, вырваўшы руку, пайшоў на Міколу.

— А ты хто мне такі, галадранец! Ты ведаеш, хто яна мне, ведаеш? Баба яна ўжо!..

— Бессаромнік ты. Кончыўся ваш час!

— Гэта твой кончыўся час,— закрычаў Белячонак і выхапіў з-за халявы кінжал.

Мікола злаўчыўся, схапіў нягодніка за руку і што сілы тузануў; кінжал выпаў на падлогу. Яго дружкі паднялі свайго «атамана» і павялі на двор. На парозе Белячонак затрымаўся і, абярнуўшыся, сказаў:

— Аддай нож!

— Заўтра возьмеш у сельсавеце.

— Запомні, Мікола, сённяшні вечар!

— І табе не варта яго забываць,— спакойна адказаў Мікола.



Праз два месяцы Міколу Рыбачонка абралі членам сельскага Савета. Ні адзін чалавек не падняў сваёй рукі супраць яго. А падкулачнікі, хаўруснікі Белячонкаў, каб не выдаць сябе, не пайшлі на сход.

Камсамолец усёй душой аддаўся грамадскай працы. Нягледзячы на свае дзевятнаццаць год, ён паспяваў усюды: і ўдзельнічаў у дзяліцьбе зямлі, і чытаў кніжкі сялянам. Заўсёды яго дарадчыкамі былі сакратар партарганізацыі Карпікаў і настаўнік Скаруцкі. Яны вучылі хлопца, стрымлівалі ад празмернай гарачнасці.

У хуткім часе Міколу ўзялі ў Чырвоную Армію. Камандзіры адразу заўважылі ў маладым чырвонаармейцу здольнага арганізатара. Там ён узмужнеў і быў у ліку лепшых байцоў. Як толькі вярнуўся з вайсковай службы, адразу завітаў да сакратара партыйнай арганізацыі таварыша Карпікава.

— Адслужыўся, значыць? — спытаў у Міколы таварыш Карпікаў.

— Так. Адслужыўся!

— Што думаеш цяпер рабіць?

— Работы дома — хоць наймай.

— Яно і то праўда. А ведаеш, што мы рашылі. Ты ж камсамолец і добра ведаеш, што такое ленінскі кааператыўны план. Гэта — вялікая справа па ўцягненню сялянства ў кааператыўнае жыццё.

— Так, ведаю,— адказаў Рыбачонак.— Нам аб гэтым казалі ў арміі.

— Дык вось, мы рашылі ў Смолаўцы адкрыць кааператыў і ўзначальваць гэтую справу будзеш ты. Як, справішся?

— Раз партыйная арганізацыя давярае — спраўлюся.

Працуючы крамнікам, Мікола не забываўся і пра работу з моладдзю.

Людзі здзіўляліся, адкуль гэта ў хлопца столькі спрыту і здольнасці. Гаспадары часамі, сышоўшыся ў каго-небудзь на прызбе, гаварылі пра Міколу Рыбачонка:

— Ну, брат, маладзец Карпікаў, па свайму характару падабраў чалавека. Стараецца, каб усё было ў людзей. Раней чуць што, дык едзь у Ігумень да гандляроўнэпманаў. А тыя тры скуры здзяруць за ўсякую дробязь. А цяпер і жалеза, і серп, і каса ёсць у нашай краме...

Насталі халодныя асеннія дні. Мікола закружыўся, як у коле. То дома па гаспадарцы, то з самадзейнасцю чуць не кожны вечар. Ды і асноўная работа займала багата часу. Хлопец меў ужо шмат памочнікаў, якія старанна яму дапамагалі. Нават Іван Белячонак зусім змяніўся. Ён часта заходзіў да яго ў краму, браў гарэлку і запрашаў яго разам выпіць. Але той адмаўляўся.

— Ты дарэмна на мяне, братка, гневаешся. Глупства было. Зайздросціў табе, што ўся моладзь пайшла за табой. Ну, і раўнаваў. А бацька мой тут ні пры чым. Слухай, дружа, вазьмі і мяне да сябе ў гурток: кулакоў буду іграць.

Мікола з чыстым сэрцам памірыўся з Белячонкам. Нават маці аб гэтым пахваліўся. Тая, уважліва выслухаўшы сына, сказала:

— Ой, сынок, глядзі, каб ён цябе не падвёў...

На каляды па сяле пайшлі чуткі, што ў ваколіцах аб'явіўся бандыт Драгун.

— Мы яго з табой злавілі б,— падміргнуўшы Міколе ў краме, сказаў Іван Белячонак.

— Голымі рукамі яго не возьмеш, — адказаў Мікола.

— А ў мяне наган ёсць. Толькі закапаны. Адшукаць трэба.

— Ну, дык адшукай...

— Давай удваіх, — сказаў Іван Белячонак.

Мікола згадзіўся, сам не падазраючы, што гэта кулацкі сын ладзіць пастку.

Адпусціўшы апошняга пакупніка, Мікола шпарка пайшоў праз агароды да ўмоўленага месца. Наплывала марозная ноч. Пад нагамі была скаваная марозам зямля, і крокі Міколы далёка аддаваліся ў цемры.

— Ты, Коля? — пачуўся ад гумна насустрач яму Іванаў голас.

— Я. Крыху затрымаўся.

— А мы тут удваіх, памерзлі, чакаючы. Я і цёзку захапіў. Ну, хадзем у гумно, адкапаем.

Рыпнулі вароты.

— Цішэй ты, — сказаў Іван. — Запалкі ёсць?

— Ёсць.

— Свяці сюды, ён тут схаваны недзе пад каменем.

Чыркнула запалка і асвяціла навокал.

— Вось пад гэтым каменем, — і Белячонак нагнуўся, каб перавярнуць камень, але запалка патухла.

— Дай сюды запалкі, я буду свяціць, — сказаў Белячонкаў памочнік.

Узяўшы карабок, ён чыркануў запалку. Іван і Мікола сіліліся перавярнуць вялікі камень. У гэты час Белячонак разагнуўся, і страшэнны ўдар па галаве аглушыў Міколу — той упаў тварам на камень. Ён яшчэ ў гарачцы падхапіўся і, ліхаманкава схапіўшы Івана за валасы, прахрыпеў:

— Эх, кулацкі вырадак... Здраднік!

Забойцы палажылі Міколу на пасцілку і панеслі праз агароды ў раку, але нехта ім перашкодзіў, і яны ўцяклі, кінуўшы забітага.

Назаўтра толькі пад вечар сябры знайшлі забітага Міколу на агародзе. Прыбегла і маці. Сабралася ўсё сяло. Маці, заліваючыся слязьмі, прамовіла людзям:

— З'еў воўк майго хлопчыка...

У вёсцы «ваўкамі» называлі Белячонкаў.

Вяскоўцы на чале з старшынёй сельсавета Блізнюком пайшлі, каб арыштаваць Івана, але таго ўжо і след прастыў. Знік і яго падручны.

Пахавалі Міколу ў мястэчку Багушэвічы з пашанай. Дамавіна яго была ўстаноўлена ў камсамольскім клубе. Кожныя дзесяць хвілін мянялася ганаровая варта. На пахаванне сышліся і з'ехаліся з усіх навакольных вёсак. На шматтысячным мітынгу людзі патрабавалі расстрэлу забойцаў.

У адказ на кулацкую вылазку звыш сарака юнакоў і дзяўчат уступілі ў камсамол. Грамадскасць, сваякі і таварышы паставілі Міколу Рыбачонку помнік. Да самай вайны не зарастала сцежка да магілы першага камсамольца з Смолаўкі.

Праз год забойцы былі злоўлены і расстраляны.

Вайной быў знішчаны помнік, зруйнавана магілка. Але не забылі людзі Міколавай магілы. Летам гэтага года на ёй зноў устаў новы блакітны помнік.

З таго часу, як загінуў Мікола Рыбачонак, прайшло 34 гады. Але памяць аб ім жыве.

*На антырэлігійныя тэмы*

С. БОБАЎ

# ДРУГАЯ ПРЫРОДА

У нашы дні, калі навука і тэхніка здольны вырашаць праблемы, якія яшчэ ў недалёкім мінулым здаваліся фантастычнымі, успамінаюцца прарочыя словы М. Горкага пра чалавека, розум і воля якога ствараюць «другую прыроду». Пад «другой прыродай» Горкі разумеў усё, што стварае чалавек, удасканальваючы планету.

Бясконца разнастайная акаляючая чалавека прырода. Яна глыбока хавае ад яго таямніцы свайго жыцця і няспынна мяняе свае адносіны да людзей. То прырода, як клапатлівая маці, шчодра раздае ім свае невычэрпныя дары, пасылае цеплыню і святло, то абрушваецца на людзей ураганамі і землетрасеннямі, бязлітасна знішчаючы плён вялікай працы чалавека.

За многа тысячагоддзяў няспыннай барацьбы з прыродай чалавек атрымаў шмат выдатных перамог. Ён прымусіў служыць сабе сілы прыроды, яго розум глыбока пранік у самыя патаемныя куткі яе складанага жыцця. Перад чалавекам раскрыўся цудоўны свет атамаў і малекул, яму сталі вядомы законы развіцця жывёл і раслін.

Узброены навукай, чалавек увесь час мяняе прыроду ў сваіх інтарэсах, каб жыццё людзей станавілася лепшым. Чалавека не могуць задаволіць дары прыроды, ён не чакае ад яе літасці. Чалавек стварае новыя атамы і малекулы, невядомыя прыродзе, з іх ён вырабляе новыя матэрыялы з цудоўнымі ўласцівасцямі, якіх не магла стварыць сама прырода. Свае поспехі ў змяненні свету атамаў і малекул ён накіроўвае на змяненне жывой прыроды — раслін і жывёл. Пазнаючы і змяняючы прыроду, чалавек стварыў складаны свет машын, якія паступова вызваляюць яго ад вялікіх затрат фізічнай і разумовай працы.

## АТАМЫ

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці вучоныя рабілі спробы растлумачыць будову цел бясконца разнастайнага свету. На пытанне аб тым, з чаго складаюцца ўсе целы прыроды, спрабавалі яшчэ каля 3 500 год таму назад адказаць вучоныя старажытнага Кітая і Індыі. У Кітаі шырока распаўсюджвалася вучэнне аб тым, што ўсё ў прыродзе складаецца з дрэва, металу, вады, агню і зямлі. На думку вучоных Індыі — усё жывое і не-

жывое ўтвараецца прыродай у выніку злучэння паветра, агню, вады і зямлі.

Пазней новую, вельмі смелую здагадку аб будове цел прыроды выказалі старажытныя грэкі. Паводле іх уяўленняў, будова цел прыроды падобная на сыпучы пясок, які складаецца з мноства часцінак. Усе целы пабудаваны з непадзельных часцінак атамаў. Старажытны філосаф і паэт Лукрэцый назваў атамы — «першапачаткам усіх рэчаў». Бясконцае мноства атамаў складае акаляючы чалавека матэрыяльны свет. Атамы вельмі разнастайныя: адны з іх утвараюць зямлю, другія ваду, паветра, агонь і ўсе іншыя целы прыроды.

Пададзенае ў якасці здагадкі вучэнне аб атамах паступова развівалася навукай. Царква праследавала вучоных, прыхільнікаў атамізма. Служкі рэлігіі абвясцілі яго «ерэтычным», нежаданым богу. Але нягледзячы на праследаванне царквы, вучэнне аб атамах працягвала развівацца і стала адным з асноўных палажэнняў сучаснай навукі пры вытлумачэнні пытання аб будове і ўласцівасцях усіх цел прыроды. Вялікі ўклад у развіццё атамізма два стагоддзі таму назад унёс вялікі рускі вучоны М. В. Ламаносаў. У яго працах уяўленні старажытных вучоных аб атамах развіваюцца ў зусім яснае і зразумелае людзям вучэнне аб атамнай будове ўсіх цел прыроды.

Існаванне атамаў было пацверджана, але іх будова ўсё яшчэ заставалася загадкай для навукі. І толькі на рубяжы дваццатага стагоддзя вучоныя здолелі разгадаць тайну складанай будовы атамаў. Вырашаючы гэтую цяжкую задачу, фізікі зрабілі яшчэ адну вельмі смелую здагадку, якая мяжуе з фантазіяй. Поспехі астраноміі падказалі ім думку параўнаць будову атамаў з бясконцымі сонечнымі сістэмамі, якія ўтвараюць Сусвет. Падобна сонечнай сістэме, кожны атам пабудаваны з цэнтральнага цела — ядра, у якім заключаецца амаль уся маса атама і вялікі запас энергіі. Ядро акружаюць вельмі лёгкія часцінкі матэрыі — электроны. Планетарная будова атамаў вельмі хутка атрымала ўсеагульнае прызнанне.

Зараз навука ведае 102 хімічныя элементы і каля паўтары тысячы непадобных адзін на другі атамаў. Амаль усе хімічныя элементы, якія ўтвараюць целы прыроды, маюць шэраг разнавіднасцей атамаў. Яны атрымалі назву ізатопаў. Усе ізатопы аднаго і таго ж элемента маюць аднолькавыя хімічныя ўласцівасці, але адрозніваюцца па масе ядраў атамаў і некаторых фізічных уласцівасцях. Так, самы лёгкі ў прыродзе элемент вадарод мае тры ізатопы: лёгкі — з масай ядра ў адну адзінку, цяжкі — дзейтры з масай у дзве адзінкі і самы цяжкі — трыцій з масай у тры адзінкі. Адзін з найбольш цяжкіх элементаў уран існуе ў прыродзе ў выглядзе ізатопаў з масамі 238, 235 і 234 адзінкі.

Каля тысячы з усіх ізатопаў радыёактыўныя: яны могуць самаадвольна пераўтварацца ў атамы другіх хімічных элементаў з зусім новымі хімічнымі і фізічнымі ўласцівасцямі. Так, атам металу радыю пераўтвараецца ў два атамы газаў радыю і гелію. Пры пераўтварэнні атамаў з іх ядраў выдзяляецца энергія ў асноўным у выглядзе цеплыні. Адкрыццё радыёактыўнасці атамаў паказала чалавеку наяўнасць невычэрпных запасаў энергіі, якія захаваны ў ядрах усіх атамаў. Навука знайшла спосабы вызвалення і выкарыстання для практычных мэт энергіі атамаў — унутрыядзернай энергіі.

Глыбока пранікнуўшы ў таямніцу будовы атамаў, чалавек не толькі падпарадкаваў сваёй волі магутную сілу, схаваную ў атамнай энергіі, але і знайшоў шляхі змянення свету атамаў. Сілай свайго розуму ён стварыў атамы новых, раней невядомых яму ў прыродзе хімічных элементаў і шмат ізатопаў ужо вядомых элементаў.

У сярэдневяковое алхімікі спрабавалі ператварацъ адны рэчывы ў другія, асабліва прыцягвала іх ператварэнне свінцу або ртуці ў золата і срэбра, што абяцала незлічоныя багацці. Ажыццяўленне сваёй мары яны бачылі ў знаходжанні філасофскага каменя, які здольны выклікаць пераўтварэнне атамаў. З развіццём хіміі беспадстаўнасць такіх спроб стала ўсім зразумелай, і доследы алхімікаў забыліся.



Але ў дваццатым стагоддзі фізікі здолелі ажыццявіць мару алхімікаў, яны знайшлі «філасофскі камень». Ім аказаўся розум чалавека. У 1919 годзе вядомы англійскі фізік Рэзерфорд, абстрэльваючы атамы альфа-часцінкамі, — ядрамі атамаў гелію, — ператварыў азот у кісларод, алюміній у крэмній і іншыя атамы. Сваімі доследамі ён адкрыў першыя старонкі сучаснай «алхіміі» — пераўтварэнне чалавекам хімічных элементаў пры дапамозе «атамнай артылерыі». Ядзерная фізіка нашых дзён ведае тысячы розных штучных пераўтварэнняў атамаў, сярод іх вядомы і спосабы атрымання золата з ртуці.

Амаль 90 год назад наш вялікі суайчыннік Д. І. Мендзелееў адкрыў перыядычны закон хімічных элементаў, які стаў асновай усёй сучаснай ядзернай фізікі ў праблемах пераўтварэння атамаў і асваення ядзернай энергіі. Вядомыя тады 63 хімічныя элементы Мендзелееў размеркаваў па 92 клетках перыядычнай сістэмы, ён пакінуў шмат пустых месц для невядомых яшчэ атамаў. Пошукі атамаў новых элементаў ішлі паспяхова, іх знаходзілі не толькі на Зямлі, але і на іншых нябесных целах. Так, элемент гелій быў вынайдзены ўпершыню на Сонцы. Удалося запоўніць многія пустыя месцы ў перыядычнай табліцы, але чатыры клеткі заставаліся белымі: пошукі элементаў, якім яны належаць, аказаліся без вынікаў. Не знайшоўшы гэтых элементаў у прыродзе, вучоныя атрымалі іх штучна з іншых элементаў. Так былі створаны атамы чатырох новых хімічных элементаў. Раскрыўшы таямніцу пустых клетак перыядычнай табліцы, вучоныя пачалі наступленне за прадаўжэнне табліцы далей, за стварэнне новых атамаў, размешчаных пасля урану, якім доўгі час заканчвалася табліца Мендзелеева.

Атамы першага зауранавага элемента ўдалося сінтэзаваць з урану ў 1940 годзе, ён атрымаў назву нептуній. За планетай Уран у сонечнай сістэме далей знаходзіцца планета Нептун. Вось чаму так назвалі новы элемент. Стварэнне новых элементаў ішло паспяхова, і ў 1957 годзе ўдалося атрымаць 102-і элемент. Усяго толькі за 18 год вучоныя ўзбагацілі свет атамаў дзесяццю новымі хімічнымі элементамі, сярод якіх некаторыя атрымалі ўжо важнае практычнае прымяненне. Элемент, які заняў 101-е месца, атрымаў назву мендзелевій у гонар стваральніка перыядычнага закону Мендзелеева.

У 1934 годзе была дасягнута яшчэ адна вялікая перамога чалавечага розуму над светам атамаў, якая намнога пашырыла ўладу людзей над прыродай. Вядомы ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву змагар за мір і мірнае выкарыстанне атамнай энергіі французскі фізік Фрэдэрык Жоліо-Кюры адкрыў штучную радыёактыўнасць лёгкіх хімічных элементаў. У сваіх доследах ён заўважыў утварэнне радыёактыўных атамаў пры абстрэле атамнымі «снарадамі» нерадыёактыўных атамаў. Утвораныя такім спосабам ізатопы атрымалі назву штучна радыёактыўных. Раней яны не былі вядомыя ў прыродзе. Пасля адкрыцця Жоліо-Кюры колькасць радыёактыўных рэчываў, якія знаходзяцца ў руках чалавецтва, колькасна ўзрасла, вельмі пашырылася іх прымяненне. Цяпер радыёактыўныя ізатопы ўсіх элементаў атрымліваюцца ў патрэбных чалавеку колькасцях пры абстрэле атамнымі «снарадамі» — нейтронамі, ядрамі гелію, пратонамі і іншымі часцінкамі ўстойлівых нерадыёактыўных ізатопаў. Стварыўшы ў свеце атамаў больш 700 радыёактыўных ізато-

паў, чалавек паставіў іх сабе на службу.

Адкрыццё Жоліо-Кюры дало магчымасць шырокаму выкарыстанню атамнай энергіі ў мірных мэтах. Навука і тэхніка атрымалі новы, надзвычай адчувальны метад даследаванняў — «мечаныя атамы». Вылучэнне радыёактыўных ізатопаў знайшло разнастайнае прымяненне ў прамысловасці, медыцыне і сельскай гаспадарцы. Радыёактыўныя ізатопы садзейнічаюць карэннаму палепшанню тэхналагічных працэсаў такіх вядучых галін прамысловасці, як металургія, здабыча вугалю і нафты, машынабудаванне. Яны забяспечваюць павышэнне якасці прадукцыі, эканомію каштоўнай сыравіны і рост прадукцыйнасці працы.

Жыццё радыёактыўных ізатопаў абмежавана. Рана ці позна кожны радыёактыўны атам павінен загінуць—ператварыцца ў другі атам. У момант гібелі атам дае сігнал, вылучаючы ядзерную энергію. Вылучэнне энергіі выдзяляе радыёактыўныя атамы ў «натоўпе» любых іншых атамаў, яго сталі разглядаць як «метку» атама. — Адгэтуль і пайшла назва радыёактыўных ізатопаў — «мечаныя атамы». У вельмі невялікіх колькасцях мечаныя атамы знаходзяцца ва ўсіх целах прыроды і ва ўсіх жывых арганізмах, у тым ліку, вядома, і ў целе чалавека. Але іх колькасць можна намнога павялічыць, напрыклад, уводзячы мечаныя атамы ў арганізм са стравай або падкормкай раслін. Тады распад атамаў будзе адбывацца ва ўмовах іх удзелу ў жыцці жывога арганізма чалавека, жывёлы або расліны. Фізікі знайшлі параўнаўча простыя метады нагляданняў за распадам атамаў у жывым арганізме, якія можна прымяняць у вытворчых умовах. За мечанымі атамамі можна сачыць пры дапамозе прыбораў-лічыльнікаў або шляхам фатаграфавання.

Да прымянення мечаных атамаў работнікі сельскай гаспадаркі не заўсёды ведалі, у якіх іменна ўгнаеннях мае патрэбу расліна ў розныя перыяды росту і паспявання ўраджаю. Часта ўгнаенні ўносіліся ў глебу без уліку іх фактычнай патрэбы раслінамі. Думка аб вынаходжанні навуковага метаду вывучэння патрэб раслін у падкормцы была пададзена яшчэ выдатнымі рускімі вучонымі Ціміразевым і Пранішнікавым. Яны ўказвалі на неабходнасць «спытаць думку самой расліны», у чым яна мае патрэбу. Падобныя цяжкасці ўзнікалі і перад жывёлаводамі. Не ведаючы дастаткова поўна, як адбываецца абмен рэчываў у арганізме, яны не маглі цалкам вырашыць пытанняў вывядзення ў кароткія тэрміны новых парод жывёл і падбору рацыёну кармоў, неабходных для павышэння іх прадуктыўнасці.

Вывучэнне самых складаных працэсаў свету раслін і жывёл метадам мечаных атамаў адбываецца ў натуральных умовах, на жывым арганізме, без парушэння нармальнай дзейнасці арганізма, без яго пашкоджанняў. Метка пчол дапаможа пчалярам правільна выбраць месца для пчальніка, больш глыбока вывучыць працоўную дзейнасць пчол і іх удзел у апладненні раслін. Памеціўшы насякомых шкоднікаў, можна выбраць больш эфектыўны спосаб іх масавага знішчэння, зберагаючы значную частку ўраджаю раслін і пладоў, якія знішчаліся шкоднікамі. Мечаныя атамы на многа расшырылі межы пазнання чалавекам жывой прыроды. Яны ўзброілі яго неабходнымі ведамі для больш поўнага кіравання светам раслін і жывёл, для свядомага змянення жывой прыроды на нашай планеце.

У сельскай гаспадарцы існуе вялікая армія вучоных і практыкаў селекцыянераў. Яны ўпарта працуюць над вывядзеннем новых парод жывёл і гатункаў раслін, якія валодаюць неабходнымі для чалавека якасцямі. На дапамогу селекцыянерам прыйшлі створаныя штучна радыёактыўныя ізатопы. Пад уздзеяннем радыёактыўнага вылучэння на расліны і насенне селекцыянерам удалося выклікаць накіраванае, карыснае чалавеку змяненне спадчынных уласцівасцей



раслін. Пры абпраменьванні збожжавых можна атрымаць новыя тыпы раслін з павышанай ураджайнасцю, больш раннім паспяваннем, трывалай саломай (непалягаючыя збожжавыя лепш прыстасаваныя да машыннай уборкі). Радыёактыўнае абпраменьванне аблягчае вывядзенне гатункаў раслін, устойлівых супраць многіх сур'ёзных захворванняў. Так, удалося атрымаць пшаніцу і авёс, якія не хварэюць іржой, таматы і іншыя гароднія расліны, якія добра супраціўляюцца мазаічнай хваробе. Новыя гатункі раслін, створаныя пры дапамозе радыёактыўных атамаў, дазваляюць развіваць земляробства ў раёнах з кароткім халодным летам і ў пустынях.

Пачаўшы за апошнія два дзесяцігоддзі шырокае пераўтварэнне свету атамаў, чалавек ужо выкарыстоўвае ў практыцы свае першыя поспехі. Пры дапамозе створаных ім новых атамаў, раней невядомых у прыродзе радыёактыўных ізатопаў розных хімічных элементаў ён на многа аблегчыў барацьбу за больш хуткае змяненне ўсёй акаляючай яго жывой прыроды.

## МАЛЕКУЛЫ

Поспехі ядзернай хіміі паставілі на службу чалавеку магутную энергію атамаў, і дваццатае стагоддзе стала стагоддзем атама. Але поспехі другой навукі — хіміі — даюць дваццатаму стагоддзю не менш справядлівую назву стагоддзя хіміі, штучных матэрыялаў, якія служаць чалавеку ва ўсіх галінах яго жыцця.

Хімія адносіцца да старажытных навук, яе нарадзіла патрэба чалавека ў розных матэрыялах. Цяжка сказаць, калі зарадзіліся асновы хіміі шкла, сакрэты вытворчасці якога былі знойдзены не менш як некалькі тысяч год таму назад. Магутнасць хіміі расце з незвычайнай хуткасцю. Калі сто год назад хімікі ў асноўным займаліся вывучэннем прыродных рэчываў і выдзяленнем з іх карысных частак, дык у нашыя дні сусветная хімічная прамысловасць выпускае каля 20 тысяч разнастайных прадуктаў. К пачатку дваццатага стагоддзя штучнае атрыманне — сінтэз — новых рэчываў з простых і распаўсюджаных у прыродзе злучэнняў вырасла ў магутную галіну навуковых ведаў і тэхнікі.

Поспехі сінтэзу тысяч новых матэрыялаў аказаліся магчымымі на аснове знойдзенага навукай спосабу карэннага змянення свету малекул, штучнай пабудовы велізарных малекул-гігантаў. У развіцці хіміі і тэхнікі сінтэтычных матэрыялаў вялікае значэнне мелі работы рускага вучонага А. М. Бутлерава, які стварыў асновы тэорыі хімічнай будовы рэчыва. Бутлераў паказаў магчымасць штучнага атрымання высокамалекулярных рэчываў шляхам злучэння разам соцень і тысяч невялікіх малекул, якія складаюцца з некалькіх атамаў.

Такі працэс пабудовы малекул-гігантаў называецца полімерызацыяй. З газападобнага або вадкага рэчыва шляхам полімерызацыі атрымліваюцца цвёрдыя, шклопадобныя або эластычныя палімерныя матэрыялы-пластмасы. Пластмасы і сінтэтычныя матэрыялы вядомы даўно. Першыя штучныя пластмасы былі створаны хімікамі каля ста год назад. Гэта былі эбаніт і цэлулоід. У прыродзе правобразам пластычных мас з'яўляюцца гліны, асбест, кварц, выкапнёвая смала-бітум, а таксама шэраг смол розных раслін. У трыццатых гадах прамысловасць сінтэтычных матэрыялаў шырока разгарнулася ў нашай краіне. Па спосабу акадэміка С. В. Лебедзева ўпершыню ў свеце пачаўся прамысловы выраб сінтэтычнага каучуку, на дзесяць год раней, чым у ЗША.

Параўнаўча да нядаўняга часу сінтэтычныя матэрыялы прызначаліся ў асноўным для замены каляровых металаў, натуральнага шоўку, каштоўных гатункаў дрэва, такой рэдкай сыравіны, як слановая косць, кітовы вус і г. д. Часта іх нават называлі замяняльнікамі, фальсіфікатарамі каштоўных матэрыялаў. Карэнныя змяненні ролі пластмас і сінтэтычных матэрыя-

лаў адбыліся нядаўна. Іх сталі разглядаць як новыя матэрыялы, якія маюць самастойную каштоўнасць. Роля пластмас у развіцці народнай гаспадаркі небывала ўзрасла. Ні адзін з матэрыялаў: металы, дрэва, камень і іншыя, якія чалавек атрымаў ад прыроды, не маюць такога шырокага прымянення як пластмасы. Пластмасы — гэта новы від матэрыялаў, створаны самім чалавекам. Яны з'яўляюцца адным з вынікаў расшырэння ўлады чалавечага розуму над сіламі прыроды, вынікам змянення прыроды чалавекам. Значэнне пластмас у тэхнічным прагрэсе прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці нашай краіны, у павышэнні матэрыяльнага дабрабыту працоўных раскрыты ў пастанове майскага Пленума ЦК КПСС і ў дакладзе М. С. Хрушчова.

Яшчэ нядаўна слова «пластмасы» для многіх было новым, амаль незнаёмым. Цяпер мы ўсюды сустракаем рэчывы, зробленыя з гэтых цудоўных матэрыялаў, якія валодаюць цэлым шэрагам вельмі каштоўных уласцівасцей. У пластмасах могуць адначасова спалучацца ўласцівасці газападобных, вадкіх і цвёрдых цел. Яны маюць малую вагу, пластычнасць, празрыстасць і трываласць, якая пераўзыходзіць лепшую сталь. Пластмасы не гніюць, не разбураюцца іржой і вельмі лёгка апрацоўваюцца.

У наш час нялёгка здзівіць людзей цудамі навукі і тэхнікі — пасля стварэння першай атамнай электрастанцыі, паветраных рэактыўных караблёў-гігантаў і запуску буйных савецкіх штучных спадарожнікаў Зямлі. І ўсё ж нельга не здзіўляцца цудам хіміі, калі з нафты атрымліваюцца сотні каштоўных прадуктаў — каучук, выдатнае рэчыва поліэтылен, валокны, мыла, спірты, капрон. Дасягненні сучаснай хіміі па сваіх выніках пераўзыходзяць любы з рэлігійных «цудаў» пераўтварэння рэчываў па волі боскай, легенд, пра якія пішуць у бібліі, каране, талмудзе і ўсіх іншых «свяшчэнных кнігах».

Як чараўніца ў цікавых казках, сучасная хімія пераўтварае ў прыродзе адно рэчыва ў другое. У вялікіх колькасцях прырода накапіла адзін з прасцейшых газаў этылен. Яго малекулы складаюцца з двух атамаў вугляроду і чатырох атамаў вадароду. Калі бясколерны, амаль без паху этылен пройдзе праз складаную апаратуру хімічнага завода, сціснецца пад ціскам да паўтары тысячы атмасфер, ён ператворыцца ў новае рэчыва — поліэтылен.

Невялікія малекулы этылену злучаюцца разам у ланцужкі, утвараючы малекулы полімера — поліэтылену. Уласцівасці поліэтылену вельмі разнастайныя, яны залежаць ад таго, колькі малекул разам злучаць хімікі ў адну доўгую малекулу-ланцужок. Поліэтылен з кароткімі, усяго ў 20 звенняў ланцужкамі — гэта вадкасць, якая з'яўляецца добрай змазкай. Злучыўшы разам паўтары-дзве тысячы малекул, атрымліваюць ужо цвёрды, адначасова гнуткі пластычны матэрыял. Пабудаваўшы малекулы поліэтылену ў пяцьшэсць тысяч звенняў, мы маем цвёрды, вельмі трывалы матэрыял, які можа замяніць металы. Упершыню поліэтылен быў выпушчаны з заводаў у 1941 годзе, але праз пятнаццаць год ужо яго сусветная вытворчасць перавысіла 300 тысяч тон.

З поліэтылену вырабляюць цудоўныя празрыстыя плёнкі. Імі можна пакрыць цэлыя палі і, як у велізарных аранжарэях, вырошчваць высокія ўраджаі гуркоў, памідораў, клубнікі, капусты і іншай гародніны. Цяпліцы з поліэтылену танныя, лёгкія, у іх празрыстыя не толькі дах, але і ўсе сценкі. Поліэтыленавая плёнка, замяняючы сценкі, добра прапускае ультрафіялетавыя прамені, неабходныя жывёле і раслінам. Пакрыццё поліэтыленавай плёнкай дна каналаў змяншае страты вады ў арашальных сістэмах, а дарогі добра абараняе ад размывання вадою.

Многія вырабы з поліэтылену можна рабіць непасрэдна на месцы іх выкарыстання, абмінаючы заводы і фабрыкі. Уявім сабе такую карціну. Ідзе канавакапальнік, забяспечаны прыстасаваннем для выціскання труб. У бункер засыпаюцца камячкі поліэтыленавай сыравіны, і ў канаве кладзецца бясконцая труба, якая не патрабуе зваркі і дадатковай апрацоўкі. Такая труба не баіцца хімічных уздзеянняў, па ёй можна перакачваць ваду, нафтапрадукты і нават малако. З поліэтылену вырабляюць трывалыя ніткі, посуд, розныя літыя вырабы.



Шырокія перспектывы ў навуцы і тэхніцы адкрылі высокамалекулярныя іёнаабменныя смолы-іяніты. Прыродныя воды ўсіх крыніц у якасці прымесей утрымліваюць розныя солі. Іх асабліва многа ў грунтавых і азёрных водах. «Цвёрдая» вада можа быць непрыгоднай для піцця, яна дае накіп у паравых катлах, радыятарах аўтамашын, непрыгодная для многіх галін вытворчасці. Ачыстка вады ад солей звязана з вялікімі цяжкасцямі. Нядаўна ўдалося вырашыць гэтую задачу пры дапамозе цудоўных плёнак з іянітаў. Ачыстка вады робіцца іяніітавымі плёнкамі-фільтрамі па спосабу, распрацаванаму савецкімі вучонымі.

Іяніітавыя плёнкі прымяняюцца не толькі для апраснення вады, яны здабываюць з руд каштоўныя металы, якія ўтрымліваюцца там у невялікіх колькасцях, улоўліваюць срэбра ў сточных водах з прадпрыемстваў, якія зноў выкарыстоўваюць гэты метал. Дзесяткі тысяч тон цукру даюць дадаткова нашай краіне іяніты за кошт ачысткі асадкаў цукровых заводаў. Пры дапамозе іянітаў атрымліваюць з раслін каштоўныя лекавыя рэчывы, ачышчаюць вітаміны, забяспечваюць апрасненне вадкасцей. Прымяненне цудоўных іяніітавых плёнак можна назваць амаль неабмежаваным.

Хімія, змяняючы будову малекул, можа надзяляць смолы многімі здзіўляючымі ўласцівасцямі. У залежнасці ад іх гушчыні і колькасці дадаых зацвярджальнікаў, смолы ператвараюцца ў клей небывалай трываласці, які здольны застываць у любых формах. Нанесеныя тонкім слоем, падобна фарбам, такія смолы надзейна захоўваюць металы ад іржы і разбурэння кіслотамі. Клеем са смол можна злучаць металы, шкло і фарфар. У некаторых галінах машынабудавання ўжо цяпер замена зваркі і клёпкі металічных трубаправодаў склейваннем смалой дае мільёны рублёў эканоміі.

У Чэхаславакіі пабудаваны металічны мост без прымянення зваркі і без адзінай заклёпкі. Усе яго часткі злучаны клеем са смол. Мост аказаўся вельмі трывалым: ён здольны вытрымаць нагрузку ў паўтоны на квадратны сантыметр.

Пластмасы становяцца асноўным будаўнічым матэрыялам. Ні адзін з матэрыялаў, якія шырока прымяняюцца будаўнікамі, нельга лічыць аднолькава прыгодным для ўсіх частак будынка. Інакш вырашаецца пытанне з пластмасамі. Будаўнікам яны абяцаюць вялікія перспектывы. Шклопадобныя пластмасы лёгкія, нібы сухое дрэва, і трывалыя, як сталь. Яны не гніюць, не гараць і стойкія супраць непагоды. Па вазе такія пластмасы ў 30 разоў лягчэйшыя за цагляную сцяну, вельмі дрэнна праводзяць цяпло і гук, што дазваляе будаваць дамы з тонкімі сценамі. Плёнкі з поліэтылену паспяхова могуць замяняць жалеза на дахах будынкаў, якое вельмі хутка ржавее. Яны таксама добра ізалююць будынкі ад грунтавых вод. Абліцоўка пластмасавымі пліткамі знадворку і знутры заменіць каштоўныя мармуры, гатункі дрэва, тынкоўку і шпалеры.

Пластмасы лёгка апрацоўваюцца, фарбуюцца і склейваюцца. Магчыма прымяненне пластмас для пабудовы цалкам жылых дамоў. На спецыяльных заводах з пластмас вырабляюцца ўсе часткі будынка, дакладна паводле неабходных памераў. Зборка аднапавярховага дома плошчаю 80 — 100 квадратных метраў займае да 8 гадзін. Пластмасавыя дамы ў 5 разоў лягчэй каменнага або цаглянага. Знадворку і ўнутры пластмасы лёгка фарбуюцца ў розныя

колеры пад дрэва або камень. У такім доме заўсёды цёпла, няма сырасці і пылу. Пластмасавыя дамы розных канструкцый будуюцца для розных кліматычных умоў — ад паўднёвых раёнаў да крайняй поўначы. У спякотны час дах пластмасавага дома можна паліваць вадою, што забяспечыць прахалоду ўнутры дома. Дамы для халоднага клімату выпрацоўваюцца з лёгкавагавых пластмас, якія вельмі трывалыя і дрэнна праводзяць цяпло. Прымяненне пластмас дазволіць сэканоміць вялікую колькасць будаўнічых матэрыялаў, паскорыць і падзешавіць будаўніцтва жылля, асабліва ў сельскай мясцовасці.

Пластмасы і полімеры прыцягнулі да сябе ўвагу і арміі ўрачоў. У медыцыне паявіліся новыя матэрыялы і прэпараты — «лячэбныя полімеры». У сучаснай хірургіі пры дапамозе пластмас выконваюцца складаныя аперацыі, звязаныя з заменай пашкоджаных касцей, артэрый, клапанаў сэрца, почак штучнымі. Амаль усе складаныя хірургічныя аперацыі звязаны з пераліваннем крыві. Недахоп донарскай крыві прымушае шукаць яе замяняльнікі. Савецкімі вучонымі распрацаваны спосаб атрымання новага кровезамяняльніка, па сваіх фізіка-хімічных уласцівасцях блізкага да крыві чалавека. Ён з'яўляецца эфектыўным замяняльнікам крыві і прымяняецца пры вострай страце крыві, аперацыйным шоку, пры дыфтэрыі, сепсісу і іншых цяжкіх захворваннях. Новы прэпарат цвёрды на выгляд, лёгка раствараецца ў спірце або вадзе і можа доўга захоўвацца.

З пластмас вырабляюцца і многія медыцынскія інструменты. Цяпер памылка хірурга, які забыў у ране кавалачак марлі, ужо не пагражае хвораму. Марля-полімер часта знарок пакідаецца ў ране: яна затрымлівае кровецячэнне, а потым бясследна знікае.

Маскоўская трыкатажная фабрыка «Чырвоная зара» вырабляе для продажу бялізну з сінтэтычнага хларынавага валакна, якое мае каштоўныя лячэбныя ўласцівасці. Нашэнне такой бялізны ўрачы рэкамендуюць пры шэрагу цяжкіх захворванняў з моцнымі болевымі з'явамі: поліартрытаў, ішыясу, радыкуліту і пры многіх іншых захворваннях. Лячэбныя ўласцівасці хларыну тлумачацца электрызацыяй, якая ўзнікае пры трэнні бялізны аб скуру чалавека. Па знешняму выгляду бялізна не адрозніваецца ад звычайнага трыкатажу. Нашэнне яе дае станоўчыя вынікі і можа вызваліць хворых ад неабходнасці працяглага лячэння на спецыяльных курортах.

Прыродныя полімеры шырока распаўсюджаны ў жывых арганізмах. Іх вывучэнне прывяло да адкрыцця ў раслінах рэчываў, пры дапамозе якіх можна весці паспяховую барацьбу з віруснымі захворваннямі. У арганізме раслін знойдзены новыя віды надзвычай эфектыўных стымулятараў росту раслін — гіберлінаў. Пры іх дапамозе можна скарачаць тэрмін вырошчвання ўраджаяў з некалькіх месяцаў да тыдняў. Такое паскарэнне росту раслін дазволіць атрымліваць па некалькі ўраджаяў за адно лета ў многіх раёнах нашай краіны, паспяхова вырошчваць паўднёвыя расліны за кароткае паўночнае лета. Земляробства стане магчымым на крайняй поўначы і ў спякотных засушлівых раёнах. Гіберліны могуць выклікаць глыбокія карэнныя змены ў жыцці і уласцівасцях раслін. Савецкімі вучонымі знойдзены спосаб атрымання штучных гіберлінаў, якія не адрозніваюцца па свайму дзеянню ад прыродных.

Хімія пластмас і сінтэтычных матэрыялаў шырокай плынню ўліваецца ва ўсе галіны жыцця і практычнай дзейнасці чалавека. Яна нясе чалавецтву матэрыяльныя багацці, неабходныя для стварэння шчаслівага жыцця ўсім народам Зямлі. Спаборніцтва чалавека з прыродай па разнастайнасці і багаццю створаных матэрыялаў можна лічыць выйграным. Улада хіміі над светам малекул становіцца амаль неабмежаванай.

Век полімераў пачаўся. Майскі Пленум ЦК КПСС паставіў новую



ўсенародную задачу — у бліжэйшыя гады стварыць магутную прамысловасць пластычных мас, штучных валокнаў і іншых сінтэтычных матэрыялаў у нашай краіне.

* * *

Многавяковая бітва чалавека з прыродай выйграна пакуль што толькі на некаторых, можна сказаць, найбольш важных участках. Наперадзе яшчэ напружаная барацьба за далейшае, больш глыбокае пранікненне ў таямніцы прыроды і пакарэнне яе сіл на карысць чалавека. Барацьба з прыродай патрабуе ад будучых пакаленняў геройчных намаганняў і смелых творчых пошукаў. Жыццё няспынна ставіць перад чалавецтвам новыя неадкладныя задачы. Вырашаць гэтыя задачы, паспяхова ствараць «другую прыроду» змогуць толькі людзі, узброеныя перадавой навукай і складанай тэхнікай.

*Давайце пагаворым...*

Б. ВІШКАРОЎ

# ВЫХАВАННЕ ПРЫГОЖАГА

«Сацыялізм адкрыў неабмежаваны прастор для росту матэрыяльных і духоўных багаццяў грамадства, для ўсебаковага развіцця асветы. Усе дасягненні савецкай культуры пры сацыялізме становяцца здабыткам мас», — гэта словы з тэксту тэзісаў ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР па пытаннях перабудовы народнай асветы ў нашай краіне. Яны чотка вызначаюць ганаровую мэту нашых імкненняў і пераўтварэнняў.

Мы думаем пра гарманічна развітага чалавека нашага грамадства — пра грамадзяніна, працаўніка, мысліцеля і мастака — і шукаем шляхі, каб найбольш поўна раскрыць у ім гэтыя якасці.

Абмеркаванне тэзісаў было сапраўды грандыёзным, усенародным. У агульным патоку прапаноў і думак узнімаліся і пытанні эстэтычнага выхавання моладзі.

Мне хочацца ў сувязі з гэтым выказаць свае меркаванні.

Не так даўно ў тэатральным інстытуце праводзіліся чарговыя прыёмныя экзамены. Перад намі прайшло каля двухсот юнакоў і дзяўчат, і я думаю, што большасць з іх марыла аб складанай прафесіі драматычнага артыста яшчэ на школьнай парце. Прыёмныя экзамены ў нас адбываюцца штогод, і кожны раз назіраеш адзін і той жа малюнак. Скажам, у 1947 годзе ці ў 1952 годзе нам даводзілася слухаць, як чыталі «Варону і Лісіцу» І. Крылова, «Жабу ў каляіне» К. Крапівы і г. д. — творы цудоўныя, але іх вывучаюць у школе, іх ведаюць напамяць. І таму яны нічога не могуць сказаць аб індывідуальным гусце паступаючага, аб яго захапленні паэзіяй. тэатрам — аб яго кругаглядзе. Ды гэта ж можа прачытаць кожны дзесяцікласнік!

Чым жа тады вызначаецца чалавек, які наважыў стаць мастаком, драматургам? Вядома, ніхто не думае, каб на прыёмных экзаменах сустрэць ужо гатовага мастака, мысліцеля. Гаворка не аб гэтым! Пакуль што мы павінны ўсё гэта толькі ўгадаць, адчуць — выявіць неабходныя для гэтага прыкметы. А яны ў наяўнасці фантазіі, захаплення, нацыянальнасці, любві да слова, павышанай цікавасці да літаратуры, музыкі, жывапісу, тэатра...

Скажам, калі для выяўлення музычнага слыху мы просім паступаючага праспяваць якую-небудзь мелодыю, то вельмі рэдка можна пачуць добрую песню ці некалькі слоў раманса... Часцей за ўсё гучаць мелодыі, якія добра вядомы па выступленнях спевакоў эстрады і размножаныя ў тыражах пласцінак. Вочы спяваючага мутнеюць, твар набывае бясколатпна-абыякавы выраз: адчуваеш, што гэтая музыка не кранае яго глыбокіх душэўных струн.

Такіх прыкладаў можна прывесці шмат і падмацаваць іх назіраннямі з любога асяроддзя. Тэатральны інстытут — гэта толькі прычына для размовы, але ва ўсіх выпадках вывад напрош-



ваецца адзін: вялікая частка нашай моладзі атрымлівае слабае эстэтычнае выхаванне; *адна з багацейшых галін чалавечай дзейнасці — галіна мастацтва — яшчэ недастаткова выкарыстоўваецца намі ў культурным будаўніцтве.*

Мы часта гаворым пра чалавека камуністычнага грамадства. Мы бачым яго, рэальна ўяўляем сабе яго аблічча: ён усебакова і гарманічна развіты; гэта чалавек вялікіх думак, глыбокіх пачуццяў; яму даступныя вышыні сусветнай культуры, і ён не толькі беражліва ахоўвае, але і няспынна ўзбагачае яе ў працы і ў мастацтве новымі творамі, якія сведчаць аб веліччы і прыгажосці жыцця.

Хочацца зноў звярнуцца да прыкладаў тэатральнай адукацыі, і не таму, што гэта галіна мне найбольш знаёмая, а толькі з тае прычыны, што, мабыць, гэта адзіны тып навучальных устаноў, дзе з чыста прафесіянальных меркаванняў студэнт атрымлівае найбольш рознабаковае практычнае і тэарэтычнае выхаванне.

На самай справе, забудзем на час, што мы рыхтуем спецыяліста сцэны. Студэнту чытаюць курс лекцый па гісторыі ўсеагульнай літаратуры, выяўленчага мастацтва, тэатра, кіно, ён вывучае грамадскія і філасофскія дысцыпліны; слухае творы музыкі, наведвае і абмяркоўвае спектаклі; з ім займаюцца фізкультурай, танцам, рытмікай; вучаць, каб ён умеў добра трымаць сябе, сочаць за яго мовай, прывучаюць разумець і адчуваць сэнс, значэнне і прыгажосць літаратурных твораў; навучаюць уменню быць сканцэнтраваным, здольным валодаць сабою перад вялікай аўдыторыяй і г. д. І вось, гледзячы на заняткі нашых студэнтаў, часта думаеш: як неабходна было б гэта ўсё *маладому чалавеку любой спецыяльнасці.* Вядома, не ў такім вялікім аб'ёме. Я ўжо не кажу пра настаўнікаў, юрыстаў, агітатараў і прапагандыстаў, якім трэба самім данесці да мас жывое, выхаваўчае слова.

У наш час савецкі чалавек вядзе вялікую, кіпучую дзейнасць — ён часта выходзіць на трыбуну, сутыкаецца з людзьмі іншых спецыяльнасцей, з прадстаўнікамі іншых народаў. Ці варта напамінаць пра тое, з якой пільнай увагай глядзяць ва ўсім свеце не толькі на жыццё нашай дзяржавы, але і на самога савецкага чалавека. Сцвярджаючы праўду нашых ідэй, мы разам з усімі людзьмі добрай волі змагаемся і абараняем правы народаў на мірнае жыццё і шчасце; мы глыбока пераконаны ў канчатковай перамозе камунізма — гэта наш светлы ідэал, — але мы хочам, каб і сам чалавек будучага быў дастойны прынесеных у імя яго ахвяр.

Нам вядомы гістарычныя эпохі, якія нарадзілі тып гарманічнага чалавека. Мы гаворым пра чалавека антычнасці, пра чалавека Адраджэння, але мы ніколі не забываем, што гэтыя яркія з'явы *суседнічалі з рабствам, з эксплуатацыяй, галечай і невуцтвам.* Права на адчуванне прыгажосці і паўнаты жыцця належала толькі выбраным. Але нават карыстаючыся іх вопытам, мы бачым, якое велізарнае значэнне ў тыя перыяды набыло мастацтва, якога яно дасягнула росквіту.

Чалавек сацыялістычнай эпохі — гэта не «выключная з'ява», не «выбраная натура». Гэта радавы член нашага грамадства, якому нараўне з усімі даступны і зразумелы ўсе скарбы чалавечай культуры. *Яго запатрабаванні* мы ўгадваем па тысячных тыражах кніг класікаў сусветнай літаратуры, па чаргах ля тэатральных і канцэртных кас, па масавай вытворчасці тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў, па велізарным попыце на рэпрадукцыі карцін выдатных мастакоў.

Аднак нельга заплюшчваць вочы і на тое, што існуюць яшчэ і «забягалаўкі», на рынках прадаюцца безгустоўныя *карціны і статуэткі, чуецца лаянка, па* вечарах на вуліцах і ў парках можна сустрэць «стыляг», хлопцаў і дзяўчат, здаровых і прыгожых, але з сонным інтэлектам. Ёсць яшчэ і «мядзведжыя куткі», дзе цяжка набыць добрую кнігу, куды рэдка заглядае лектар, *дзе ніхто не займаецца развіццём заўсёды прагнай да ведаў моладзі.*

Наша школа, якая, між іншым, шмат зрабіла і робіць для ўсебаковага развіцця падрастаючага пакалення, прымае актыўны ўдзел толькі ў пачатковым фарміраванні характару, светапогляду і густаў моладзі; школа толькі «рыхліць глебу» і «кідае насенне», а вось хто ж даглядае яго потым, у часе росту і паспявання?

У гэтай важнай і патрэбнай рабоце відная роля належыць газеце, радыё, кіно — яны пранікаюць усюды, яны даступныя кожнаму. Але перш за ўсё і больш за ўсё могуць зрабіць жывыя *людзі: сям'я, таварышы* па вучобе і працы, настаўнікі, работнікі мастацтва, літаратуры, камсамольскія актывісты. А для гэтага ім самім трэба вучыцца, удзяляць большую ўвагу эстэтычнаму выхаванню, культуры мовы, нормам паводзін.

Эстэтычнае выхаванне — не асобна існуючая галіна, якая ізалявана ад іншых праяў жыцця. Пад уплывам ма-

стацтва і літаратуры чалавек развіваецца ўсебакова, у яго складваюцца не толькі мастацкія, але і грамадскія ідэалы, выпрацоўваецца свой маральны кодэкс.

Фармаванне духоўнага аблічча чалавека — працэс надзвычай складаны і шматгранны, адбываецца ён у канкрэтна-існуючых умовах, і натуральна, што культура і развіццё людзей, сярод якіх жыве чалавек, акажуць на яго істотны ўплыў. Гэта лішні раз гаворыць аб адказнасці кожнага члена нашага грамадства за культурны рост падрастаючага пакалення.

У нашым сацыялістычным грамадстве асаблівае значэнне набывае працоўная дзейнасць чалавека. Не трэба даказваць, што нашы выдатныя дасягненні ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы сталі магчымыя дзякуючы ўзросшай культуры савецкіх людзей і сацыялістычным умовам працы. Але жыццё высоўвае ўсё новыя і новыя патрабаванні, праца рабочых і калгаснікаў набліжаецца да працы інжынераў, тэхнікаў, аграномаў, у цэхах і на палях часта вырашаюцца задачы вялікага навуковага значэння. Усё гэта патрабуе высокай агульнай культуры чалавека.

У нас назаўсёды знішчана беспрацоўе. Дзяржава ахоўвае адпачынак працоўных, да паслуг кожнага — усе духоўныя багацці, набытыя чалавецтвам за стагоддзі. Але як карыстацца гэтымі багаццямі? Можна прачытаць многа кніг, патраціць шмат часу на тэатры, канцэрты, музеі, але (пры некаторай карысці!) так і не зразумець самага асноўнага, галоўнага. Шмат якія галіны мастацтва і, вядома, літаратуры патрабуюць адпаведнай падрыхтоўкі, калі хочаце, — нават звычкі, якая можа і павінна перайсці ў неабходнасць.

Вось тут і патрэбна кваліфікаваная дапамога, парада. Вырашаючы праблему эстэтычнага выхавання, патрэбна, на мой погляд, у першую чаргу вучыць людзей разуменню мастацтва.

Магчыма, ужо цяпер варта ставіць пытанне яшчэ шырэй і думаць аб стварэнні пастаянных лекторыяў і нават навучальных устаноў, дзе наша моладзь у вольны ад работы час магла б вывучаць мастацтва, жывапіс, музыку, гуманітарныя навукі.

Эстэтычнае выхаванне — гэта развіццё агульнай культуры і добрага густу, уменне адрозніваць як у мастацтве, так і ў жыцці праўдзівае, глыбокае, прыгожае ад пошлага, павярхоўнага, бяздушнага; гэта развіццё вобразнага мыслення і фантазіі, любоў да чоткай і дасканалай формы; і, нарэшце, — самастойная ацэнка з'яў, уменне фарміраваць свой пункт погляду, абагульняць, рабіць вывады... Усё разам узятае, не кажучы ўжо аб культуры паводзін, мовы і быту, садзейнічае развіццю змястоўнай і гарманічнай чалавечай індывідуальнасці.

Як бы добра чалавек ні разбіраўся ва ўсіх відах і творах мастацтва, ён не можа адносіцца да ўсяго аднолькава, ён заўсёды вылучае нешта найбольш блізкае для сябе, сугучнае свайму ўнутранаму ладу. Аднаго глыбока хвалюе музыка Чайкоўскага і мала кранае творчасць Баха; другі больш за ўсё любіць пастаноўкі п'ес Шэкспіра ці Горкага; трэці захапляецца жывапісам і з усіх мастакоў аддае перавагу Левітану... Густы чалавека могуць быць сталымі, але могуць і мяняцца ў залежнасці ад часу, узросту, ведаў, жыццёвага вопыту і нават настрою.

Прыгадайце, як, прачытаўшы кнігу, вы прадаўжаеце жыць разам з яе героямі, часта ўспамінаеце выказаныя ў ёй думкі, асобныя малюнкі... Ці паяўляецца кінафільм, у ім — цудоўныя песні. Іх спяваюць усе, усюды, усе захапляюцца імі, і вы таксама. Іншы ж раз бывае і так, што кніга, карціна, музычны твор ці спектакль настолькі глыбока закрануць вас, што становяцца дарагімі і патрэбнымі на доўгія гады, на ўсё жыццё.

Чым сур'ёзней і глыбей твор мастацтва, тым ён даўжэй жыве (вы кожны раз адкрываеце ў ім новыя якасці) і тым мацнейшая ваша прыхільнасць да яго і да аўтара. Такія творы вытрымліваюць выпрабаванне часу і здаюцца вечна маладымі і вечна цудоўнымі.

Вы, напэўна, ведаеце, як старацелі здабываюць золата: струменем вады яны прамываюць руду, дзе ёсць каштоўны метал. У гэтым патоку золата асядае, а ўсё астатняе — лёгкае і непатрэбнае — змываецца. Цяпер уявіце маладога чалавека, які чытае пераважна «шпіёнскую» ці дэтэктыўную літаратуру, наведвае толькі джазавыя канцэрты. Ён нічога сур'ёзнага, глыбокага там не пачэрпне, яму не будзе над чым глыбока задумацца, паразважаць. Інакш кажучы, у душы такога чалавека ніякіх крупінак каштоўнага не асядзе...

Канешне, не трэба ўпадаць у крайнасць. Ніхто не гаворыць, што, сустракаючыся на вечарынках, моладзь павінна спяваць хорам «Средь шумного бала»... ці танцаваць пад музыку Ліста або Бетховена. На ўсё — свой час. Трэба ўмець і жартаваць і весяліцца, але не траціць пачуцця меры. Тады жарт не пяройдзе ў грубасць, сустрэча сяброў не ператворыцца ў п'янку, а чалавек заўсёды захавае права на агульную павагу.

Стаць культурным чалавекам можа кожны і не толькі можа, а павінен. Тут справа не столькі ў здольнасцях, колькі ў асабістым імкненні і жаданні. І здольнасці пры настойлівасці і ўпартай працы заўсёды разаўюцца. Строга кажучы, кожны чалавек па-свойму таленавіты, трэба толькі «адгадаць» той бок дзейнасці, дзе найбольш поўна праяўляюцца яго здольнасці. Для гэтага неабходна «разбудзіць» яго індывідуальнасць, узварушыць яго творчыя сілы.

У гэтай, я сказаў бы, дзяржаўнай рабоце велізарную дапамогу можа аказаць мастацтва.



# ДУМКІ АБ СЯМ'І І ШЛЮБЕ

У нашым часопісе (№ 4 за 1958 г.) быў надрукаваны дыскусійны артыкул Н. Юркевіча «Думкі аб сям'і і шлюбе», у якім аўтар, член камісіі па падрыхтоўцы праекта новага шлюбна-сямейнага кодэкса БССР, выказаўся па найбольш важных і спрэчных пытаннях гэтага кодэкса.

Па даручэнню Міністра юстыцыі БССР тав. Ветрава І. Д. артыкул быў абмеркаваны на нарадах пры Брэсцкім, Віцебскім, Гомельскім, Гродзенскім і Маладзечанскім абласных судах з удзелам народных суддзяў. Некаторыя з гэтых судоў прыслалі заўвагі адносна артыкула Н. Юркевіча ў абагуленым выглядзе ад імя адпаведнай нарады, другія — у выглядзе пратаколаў. Рэдакцыя мела ў сваім распараджэнні таксама ліст нарсуддзі 2-га ўчастка Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці тав. Гарэленкі і матэрыялы апытання, якое аўтар правёў у канцы 1957 — пачатку 1958 гг. сярод дэпутатаў гарадскога і раённых Саветаў г. Мінска.

«У цэлым усё напісанае ў артыкуле тав. Юркевіча з'яўляецца правільным»,—сказаў намеснік старшыні Брэсцкага абласнога суда тав. Пятрушын.

Трэба адзначыць, што і астатнія, як правіла, пярэчылі не супраць усяго артыкула, а толькі супраць асобных яго палажэнняў. Ніжэй друкуецца агляд выказаных заўваг па кожнаму з закранутых пытанняў.

1. Толькі нарада пры Маладзечанскім абласным судзе выказала пажаданне цалкам захаваць цяперашні парадак разводу. Усе астатнія лічаць, што яго трэба спрасціць.

Таварышы Пляханава і Пласконная (Гродзенская вобласць) заўважаюць, што ў выпадках разводу з псіхічнахворымі, асуджанымі на працяглы тэрмін зняволення і асобамі, якія прапалі без вестак, «трэба зрабіць так, каб істец ішоў не ў суд, а адразу ў ЗАГС і атрымліваў там пасведчанне аб скасаванні шлюбу». Гэта адпавядае пазіцыі аўтара.*

Тав. Пятрушын (Брэсцкая вобласць) прапануе адразу звяртацца ў ЗАГС і ў тых выпадках, калі муж і жонка згодны на развод. Прыклад, які, на думку Юркевіча, павінен даказаць адваротнае, ён лічыць нетыповым і непераканаўчым. Але другія таварышы яго не падтрымалі. Наадварот, тав. Рошчын (Гродзенская вобласць) мяркуе, што «гэта можа прывесці да абходу закону, які накіраваны на ўмацаванне сям'і».

Рэдакцыя мае 121 адказ дэпутатаў гарадскога і раённага Саветаў г. Мінска на пытанне, да кампетэнцыі якога органа трэба аднесці развод пры ўзаемнай згодзе супругаў. 95 з іх лічаць, што тут кампетэнтным павінен быць суд, і толькі 26 — што ЗАГС.

Нарада пры Віцебскім абласным судзе прышла да вываду, што судовы парадак разгляду спраў аб разводзе патрэбен нават у тых выпадках, калі ў аднаго з супругаў ёсць дзеці ад фактычнага шлюбу з другой асобай.

Таварышы, якія выказаліся за судовы парадак разводу, амаль адзінадушна лічылі, што няма патрэбы разглядаць справы аб скасаванні шлюбу і ў народ-

* Гл. яго артыкул «За укрепление советской семьи» ў газеце «Советская Белоруссия» ад 9 красавіка 1958 г.

ным і ў абласным судзе. Але адносна таго, у якім адным судзе іх разглядаць, згоды не было. Радзіён і Рошчын (Гродзенская вобласць) мяркуюць, што скасаванне шлюбу трэба цалкам аднесці да кампетэнцыі абласнога суда. Наадварот, нарада пры Гомельскім абласным судзе прышла да вываду, што разгляд спраў гэтай катэгорыі мэтазгодна цалкам сканцэнтраваць у народным судзе. Такой самай думкі прытрымліваецца і тав. Пласконная (Гродзенская вобласць) і тав. Гарэленка (Ветка). Акрамя таго, з Гомеля паведамляюць: «Для выпадкаў, калі распад сям'і з'яўляецца відавочным, а прыняццё мер да прымірэння супругаў — бязмэтным, трэба прадугледзець больш спрошчаны парадак скасавання шлюбу ў народным судзе. У прыватнасці, трэба адмяніць абавязковую яўку ў суд супруга, які падаў заяву, ліквідаваць стадыю прымірэння і аплату судовых утрыманняў». Тут маюцца на ўвазе выпадкі, калі, напрыклад, муж пакінуў жонку некалькі год назад, жыве на Сахаліне і мае там ужо другую сям'ю, а жонка ў Беларусі таксама фактычна выйшла замуж за другога.

Нарада пры Маладзечанскім абласным судзе выказала пажаданне, каб закон устанавіў, што муж не можа звярнуцца ў суд з іскам аб скасаванні шлюбу ў перыяд цяжарнасці жонкі і на працягу года пасля нараджэння дзіцяці ( у мэтах стварэння спакойных абставін для маці).

Усе згодны з прапановай аўтара, каб судовыя ўтрыманні цалкам спаганяліся толькі з вінаватага ў распадзе сям'і. Пры абмеркаванні было адзначана, што паколькі ў момант прыёму іскавой заявы суддзя не можа ведаць, хто вінаваты ў распадзе сям'і, няхай першую пошліну і аб'яву ў газеце аплачвае ісцец, а ужо суд сваім рашэннем аб разводзе спагоніць гэтыя расходы з адказчыка, калі вінаватым акажацца ён, і верне іх істцу. У гэтым сэнсе непасрэдна выказаліся таварышы Кацівец, Радзіён і Рошчын (Гродзенская вобласць), Гарэленка (Ветка), а таксама нарады пры Віцебскім і Гомельскім абласных судах.

2. Усе таксама згодны з тым, што трэба ўстанавіць нейкі больш-менш працяглы тэрмін паміж падачай заявы аб рэгістрацыі шлюбу і самім рэгістраваннем. «Аналіз прычын узнікнення спраў аб разводзе, якія разглядаліся абласным судом, — адзначыла нарада ў Віцебску, — сведчыць, што ў значнай колькасці выпадкаў маладыя людзі ствараюць сям'ю надта паспешліва, беручы шлюб цераз 1—15 дзён пасля першай сустрэчы». А тав. Гарэленка прыводзіць выпадак, калі грамадзянка Г. 21 лістапада 1957 года зарэгістравала шлюб у Нова-Грамыцкім сельсавеце Веткаўскага раёна з адным, а цераз тыдзень у Хальчанскім сельсавеце — з другім.

Некаторыя рознагалоссі ўзнікалі толькі адносна канкрэтнага тэрміну. Таварышы Семянкоў, Шалемаў, Пласконная і Рошчын (Гродзенская вобласць) лічаць, што гэты тэрмін, як і ў аўтара артыкула, павінен быць роўны 3—4 тыдням. Другія гродзенскія таварышы (Кацівец, Сыцько, Пляханава), а таксама нарада пры Гомельскім абласным судзе падтрымліваюць аўтара ў больш агульных выразах, не называючы канкрэтнага тэрміну. Нарада членаў абласнога суда і суддзяў Маладзечанскай вобласці лічыць, што гэты тэрмін павінен быць не меншы, чым 10 дзён, а нарада пры Віцебскім абласным судзе выказалася за тэрмін не меншы, чым 2 месяцы. На думку віцебскіх таварышаў, 3—4-тыднёвы тэрмін нагадвае працягласць чарговага водпуску і таму з'яўляецца недастаткова ым. Пры памянёным вышэй апытанні было атрымана 123 адказы. Канкрэтныя тэрміны называліся розныя: ад 3 дзён да 3 месяцаў. Але сярэдняя арыфметычная ўсіх адказаў роўна прыблізна 21 дню.

«Пры гэтым,— адзначыла нарада ў Віцебску,— аб падачы заявы і акце афармлення шлюбу павінна ведаць як мага большае кола людзей. Таму варта было б ліквідаваць друкаванне ў газетах аб'яў аб разводах, а замест гэтага было б, магчыма, лепш друкаваць за невысокую плату аб'явы аб рэгістраванні шлюбаў.

Прачытаўшы такую аб'яву, кожны, хто ведае заручаных, змог бы даць ім добрую параду, паведаміць аднаму з іх аб важных фактах, якія другі трымае ў сакрэце, і г. д. Словам, больш шырокае кола грамадскасці прымала б удзел у стварэнні сям'і.

Калі нельга друкаваць аб'явы ў газеце, можна выкарыстаць дошку аб'яў, спецыяльна абсталяваную на вуліцы ля будынка ЗАГСа, або месцы для аб'яў тых прадпрыемстваў, дзяржаўных або навучальных устаноў, дзе працуюць ці вучацца асобы, якія бяруць шлюб».

Пры абмеркаванні не выклікала таксама пярэчання прапанова аўтара аб некаторых зменах у самім парадку рэгістравання шлюбаў. «Калі людзі бяруць шлюб,— сказаў тав. Кацівец (Гродзенская вобласць),— то трэба, каб гэта мела ўрачысты выгляд. Папярэджанне аб адказнасці, аплата пошліны за рэгістраванне шлюбу,— усё гэта трэба рабіць у момант падачы заявы, а не ў момант рэгістравання шлюбу». Таксама думаюць Сыцько, Семянкоў, Шалемаў, Гарэленка і іншыя.



Таварышы Пятрушын і Літвінаў (Брэст) дадаюць да гэтага, што трэба навесці парадак у рабоце органаў запісу актаў грамадзянскага стану. У прыватнасці, яны лічаць, што права на рэгістраванне шлюбаў павінны мець адны ЗАГСы, бо ў сельсавеце няма ні належнай абстаноўкі, ні людзей, з якіх можна было б патрабаваць адказнасці за гэту сур'ёзную справу. Ёсць выпадкі рэгістравання шлюбаў без папярэдняй падачы заявы, калі маладыя знаходзяцца ў нецвярозым стане, а потым звяртаюцца ў суд за разводам. З'ездзіць жа па такой важнай справе ў раённы цэнтр няцяжка.

Таварышы Кацівец і Бажко (Гродзенская вобласць) пярэчылі супраць забароны шлюбаў хворым, калі хвароба ставарае сур'ёзную небяспеку для другога боку або для патомства ад шлюбу. Кацівец тлумачыць свой погляд тым, што «няма такіх інфекцыйных хвароб, якія нельга было-б вылечыць і якія пераходзяць на патомства».

Таварыш Літвінаў (Брэсцкая вобласць) лічыць, што трэба забараніць шлюбы толькі з хворымі на венерычныя хваробы.

3. Самым важным і складаным з'яўляецца пытанне аб устанаўленні бацькоўства няшлюбных дзяцей і спагнанні аліментаў на іх утрыманне. Таму не дзіўна, што іменна па гэтаму пытанню выказалася найбольшая колькасць таварышаў і намецілася некалькі пунктаў гледжання.

Нарада пры Маладзечанскім абласным судзе выказала пажаданне, каб заканадаўства, якое дзейнічае цяпер, засталося ў гэтай частцы без змен. Таварышы Буланаў (Брэст) і Сыцько (Гродна) прытрымліваюцца такой самай пазіцыі. Яны мяркуюць, што спагнанне аліментаў на няшлюбнае дзіця з фактычнага бацькі пры любых умовах «не будзе накіравана на ўмацаванне сям'і».

Таварышы Кацівец, Гарэлік і Мілько (Гродзенская вобласць) лічаць мэтазгодным з правіла, якое існуе, зрабіць адно выключэнне. «Калі ад фактычнага шлюбу нарадзіліся дзеці, бацькі прызнаюць іх сваімі і жадаюць запісаць іх на сябе ў ЗАГСе, перашкаджаць ім у гэтым нявартa. А калі такая рэгістрацыя адбылася, з бацькі можна спаганяць і аліменты».

Усе астатнія ідуць далей і лічаць, як і аўтар, што аліменты на няшлюбнае дзіця павінны спаганяцца не толькі ў тых выпадках, калі бацька сам зарэгістраваў яго на сваё прозвішча, але і тады, калі гэтае дзіця нарадзілася ад бацькоў, якія жывуць у фактычным шлюбе. Так думаюць Якубоўскі, Пляханава, Семянкоў, Шалемаў, Сівуха, Радзіён, Давыдзюк, Рошчын (Гродзенская вобласць). Але некаторыя з памянёных таварышаў,—у прыватнасці, Давыдзюк,— патрабуюць, каб бацькі разам з дзецьмі жылі адной сям'ёй «працяглы тэрмін», а Рошчын дадае: «трэба канкрэтна азначыць гэты тэрмін у 1 або 3 гады». Тав. Гарэленка, наадварот, лічыць, што калі бацькі жылі адной сям'ёй, то трэба спаганяць аліменты і на дзіця, якое нарадзілася пасля таго, як яны разышліся.

Нарады пры Віцебскім і Гомельскім абласных судах цалкам згодны з аўтарам. Нарада ў Гомелі, у прыватнасці, прызнала: «Слушна ставіцца пытанне аб праве маці на іск аб устанаўленні бацькоўства і спагнанні аліментаў у тых выпадках, калі шлюб яе з адказчыкам хоць і не быў зарэгістраваны, аднак бацькоўства адказчыка з'яўляецца відавочным; у тых жа выпадках, калі бацькоўства выклікае сумненне», калі «дзіця нарадзілася ад выпадковай сувязі»,— трэба захаваць закон, які дзейнічае цяпер.

Пры апытанні былі атрыманы адказы ад 118 дэпутатаў. З іх 87 лічылі, што спагнанне аліментаў на няшлюбнае дзіця магчыма толькі пры фактычным шлюбе бацькоў або другіх такіх відавочных доказах. 25 дэпутатаў меркавалі, што можна выкарыстаць любыя доказы, і 6 адстойвалі той парадак, які існуе.

Нарада пры Віцебскім абласным судзе прышла да вываду, што маці павінна мець права на запіс бацькі ў метрыку незалежна ад таго, ці можна з яго спаганяць аліменты. Нарада лічыць гэта неабходным для таго, каб няшлюбнае дзіця «мела магчымасць ведаць свайго бацьку, падтрымліваць з ім кантакт». Але разлік на добразычлівы кантакт дзіцяці ад выпадковай сувязі з бацькам, які не прызнае яго сваім, з'яўляецца нерэальным. Якубоўскі (Гродзенская вобласць) пратэстуе супраць такога права на запіс бацькі ў метрыку. Астатнія (у тым ліку нарады пры Гомельскім, Брэсцкім і Маладзечанскім абласных судах) не мелі нічога супраць прапановы аўтара па гэтаму пытанню.

4. Розніца ў поглядах выявілася і пры абмеркаванні пытання аб тым, як найбольш слушна вызначаць памер аліментаў на ўтрыманне дзяцей. Нарады пры Маладзечанскім і Гомельскім абласных судах лічылі, што змены ў заканадаўстве тут не патрэбны. На думку гамельчан «спагнанне аліментаў ў цвёрдай грашовай суме прывядзе да самаволля ў судовай практыцы». Акрамя таго, нарада пры Гомельскім абласным судзе не згодна з увядзеннем мінімуму і максімуму аліментаў, хоць у артыкуле Н. Юркевіча аб гэтым не гаворыцца. Такая прапанова ёсць у лісце тав. Гарэленкі.

«Трэба было б, — кажа ён,— побач з нормай у 1/4, 1/3 і 1/2 зарплаты адказчыка ўвесці нейкі мінімум і максімум. Напрыклад, 1/4, але не менш 100—150 р. і не больш 400—500 р. Бываюць выпадкі, каліісціца на дзіця атрымлівае ад 10 да 50 рублёў ў месяц, і бываюць, калі ісціца атрымлівае ад 1500 да 4000 рублёў. Высокі заработак — гэта за працу высокай кваліфікацыі. А асоба, на якую выплачваюцца аліменты, такой ацэнкі ад грамадства не заслужыла».

У Гродзенскай вобласці пярэчыў супраць змены існуючага заканадаўства адносна вызначэння памеру аліментаў на дзяцей Якубоўскі. Некаторыя іншыя таварышы не былі згодны, каб суд улічваў не фактычны заработак аліментшчыка, а той, які ён змог бы мець, калі б сумленна працаваў у адпаведнасці з сваёй кваліфікацыяй (Радзіён, Давыдзюк). Яны гавораць, што гэта выкліча валакіту і спрэчкі ў працэсе выканання.

Нарада пры Брэсцкім абласным судзе не мела нічога супраць гэтых прапаноў. У значнай меры згодна з аўтарам і нарада пры Віцебскім абласным судзе. Вось да якога вываду яна прышла:

«Змену таго парадку спагнання аліментаў, які існуе, бясспрэчна, варта прадугледзець для выпадкаў, калі ў адказчыка ў новай сям'і маюцца дзеці, улічваючы інтарэсы апошніх.

Мэтазгодна таксама ліквідаваць некаторае ўтрыманцтва тых маці, якія на дзіця (або двое дзяцей) атрымліваюць столькі аліментаў, што яны перавышаюць патрэбнасці дзяцей.

У гэтых выпадках, і зноў жа ў інтарэсах дзяцей, варта было б устанавіць вызначаны максімум сумы, якую неабходна перадаваць непасрэдна маці, а рэштку класці ў ашчадную касу на імя дзяцей. Так будзе больш справядліва».

На пытанне аб тым, ці трэба даць суду права вызначаць памер аліментаў на дзяцей з улікам фактычных абставін справы адказала 115 дэпутатаў. 103 з іх далі станоўчы адказ і 12 — адмоўны.

Законам прадугледжан пералік маёмасці грамадзян, з якой не дапускаецца спагнанне па рашэнню суда. Нарада пры Гомельскім абласным судзе лічыць, што гэты пералік не павінен мець сілы для выпадкаў спагнання запазычанасці па аліментах.

Давыдзюк (Гродзенская вобласць) мяркуе, што ў пашпартах асоб, якія павінны плаціць аліменты на дзяцей, трэба ставіць адпаведныя штампы. Гэта будзе сур'ёзнай перашкодай для ўхілення ад уплаты аліментаў. З 36 апытаных дэпутатаў Сталінскага раённага Савета г. Мінска 32 лічылі, што ставіць такія штампы мэтазгодна.

5. Нарэшце трэба адзначыць, што былі розныя меркаванні і адносна прапановы аб устанаўленні апекі над асобамі, якія церпяць ад хранічнага алкагалізму. Супраць выказаліся: нарада пры Гомельскім абласным судзе і таварышы Буланаў (Брэст), Якубоўскі, Семянкоў, Шалемаў, Радзіён (Гродзенская вобласць). Пры гэтым нарада ў Гомелі спасылалася на тое, што ў падобных выпадках «трэба прымяняць меры грамадскага ўздзеяння». Тав. Радзіён лічыў, што з папячыцельствам над алкаголікам нельга згадзіцца, бо яно «прывяло б, у канчатковым выніку, да распаду сям'і». Тав. Буланаў, наадварот, лічыў, што выйсце са становішча для свядомай савецкай жанчыны, муж якой стаў непапраўным алкаголікам, заключаецца не ў апецы, а ў разводзе. Астатнія таварышы, а таксама нарады ў Маладзечна і Віцебску супраць гэтай прапановы аўтара нічога не мелі.

## З блакнота падарожніка

Ул. СТЭЛЬМАХ

# ПА ЧЭХАСЛАВАКІІ

Мяне выклікалі ў ЦК ЛКСМБ і прапанавалі паехаць разам з групай моладзі ў Чэхаславацкую рэспубліку. Што і гаварыць, прапанова спадабалася. Каму з нас у 50 год не хочацца памаладзець, пабыць «камсамольцам» хоць бы 20 дзён... Ды яшчэ ў такім падарожжы!

Наш цягнік Масква—Чыерня імчыцца на захад.

Спадарожнікі па вагону аказаліся вясёлымі. Нехта заспяваў песню. Яго падтрымалі іншыя. Так неўзабаве ўзнік імправізаваны хор. Спевакі нашы сабраліся з розных раёнаў Беларусі. Знайшоўся выкладчык музыкі — Васіль Паўлаў. Ён і ўзначаліў нованароджаны «ансамбль». Васілю дапамагаў юны гарманіст Алесь, выхаванец Бабруйскага дзетдома, вучань 5 класа. Ён таксама ехаў у Чэхаславакію — у міжнародны піянерскі лагер «Татры». Разам з Алесем яго сябры — піянеры з Астрахані, Кустаная, Таліна, з В'етнама і Кітая.

Да нашага ансамбля далучаліся ўсё новыя і новыя выканаўцы. Сярод іх два браты — Генрых і Любамір Суботка з Чэхаславакіі. Генрых займаецца ў Харкаўскім політэхнічным інстытуце, а Любамір працуе стажорам у Львоўскім тэатры оперы і балету. Браты едуць на радзіму, да сваёй маці на «чорную каву, якую яна ўмее гатаваць лепш за ўсіх». Праўда, Любамір аддае перавагу не чорнай каве, а чорнаму піву і запрашае мяне ў кавярню «Чашы», куды «заходзіў сам Швейк»...

Хутка мы даехалі да станцыі Чоп — апошняй на савецкай тэрыторыі.

### Дзень добры, сябры!

На першай чэхаславацкай станцыі Чыерня нас сустрэла моладзь. Песні, кветкі!.. У прывітальным слове прадстаўнік ЦК Саюза чэхаславацкай моладзі — Юра, як ён сябе адрэкамендаваў, — сказаў: «Добры дзень, дарагія сябры! Мы рады бачыць і вітаць вас на нашай чэхаславацкай зямлі. Няхай з гэтай мінуты зямля наша і для вас будзе роднай. Адчувайце сябе тут, як дома — у Маскве, Ленінградзе, Мінску...»

Кароткая сустрэча закончылася

вальсам дружбы, у якім закружыліся ўсе, хто быў на пероне. Мы перaселі ў маленькія вагончыкі чэхаславацкага цягніка. Яны нагадваюць нашу дзіцячую чыгунку. Цягнік рушыў у невядомы нам шлях...

З вокнаў вагона мы любуемся неабсяжнымі палямі няскошанага яшчэ аўса і ячменю, сланечнікамі, якія вітаюць нас залацістымі галоўкамі. А вось і кукуруза. І колькі яе тут! Высокая, стройная, у поўнай красе свайго ўбрання, стаіць яна, як уладарніца над усімі палямі...

— Усёроўна, як у нас... — не вытрымаў нехта.

І сапраўды, калі прыязджаеш у другую краіну, то ўсё, што бачыш, чуеш, мімаволі параўноўваеш з сваім родным, савецкім.

Наш экспрэс мінуў ужо высокія снежныя вяршыні Татраў і праз тунель выйшаў на раўніну. І, нібыта спаборнічаючы з горнай ракой Бак, паімчаўся з ёй навыперадкі.

На шырокіх абочынах дарог усё часцей і часцей трапляюцца яблыні, грушы. Пад цяжарам яблык і груш яны нізка схілілі свае галовы да зямлі. А вось і плантацыя вінаградніку. Значыць, хутка Браціслава...

### Стэфан — беларускі партызан

У Браціславу мы прыбылі ў 7 гадзін. На пероне шумна і весела. Ужо з вокан вагона мы ўбачылі загарэлыя твары жыхароў сталіцы Славакіі, радасныя ўсмешкі юнакоў і дзяўчат. Асабліва актыўна на нас «наступалі» дзеці. Яны працягвалі нам значкі і прасілі ў абмен нашы сувеніры.

Раптам я прыкмеціў, як праз натоўп людзей да нас прабіўся нейкі чалавек у шэрым капелюшы з невялічкім партфельчыкам. Выканаўшы сваю нялёгкую задачу, чалавек выцер хустачкай пот і нечакана запытаў:

— Ці ёсць тут хто з Мінска альбо Барысава?

— Ёсць! — адказаў я.

Вочы чалавека заззялі, твар засвяціўся радаснай усмешкай, ён працягнуў мне руку і ўсхвалявана сказаў:

— Я Стэфан — беларускі партызан з-пад Мінска.

Мяне гэта вельмі зацікавіла. Пачалася сяброўская размова. У часе вайны Стэфан служыў у славацкім корпусе каля Мінска. Знаходзячыся ў засадзе, ён перайшоў да партызан. Гэта было ў ліпені 1943 года. З таго дня Стэфан разам са сваімі сябрамі беларускімі партызанамі біў фашыстаў. За мужную барацьбу Стэфан узнагароджаны медалем партызана. Зараз Стэфан працуе электраманцёрам.

Браціслава — адзін з прыгажэйшых гарадоў Еўропы. Размяшчаецца ён па левым беразе Дуная на схілах ніжніх Карпатаў. Над горадам узвышаецца старажытны крэмль і крэпасць вышынёй у 85 метраў. Стаіць яна, як нязменны вартаўнік свайго горада.



Піянерскі лагер пад Браціславай.



Для старой Браціславы характэрны будынкі ў стылі готыкі і класіцызму: памяшканне нацыянальнага славацкага Савета, медыцынскі інстытут, царква Троіцы і Елізаветы. На правым беразе Дуная — маляўнічыя прадмесці горада.

У горадзе шмат фабрык і заводаў, многія з іх пачалі сваё існаванне пасля вызвалення горада ад гітлераўскіх акупантаў. Хутка развіваецца і культура. У Браціславе паспяхова працуе славацкая Акадэмія навук, Акадэмія мастацтва, універсітэт, шэраг інстытутаў, у якіх займаецца 23 тысячы студэнтаў. З 23 славацкіх прафесійных тэатраў — 7 знаходзіцца ў Браціславе.

Знаёмячыся з горадам, мы на кожным кроку адчувалі гасціннасць яго жыхароў. Усюды нас прымаюць шчыра, ветліва, шырока расчыняючы дзверы заводаў, музеяў, палацаў культуры. Кожны браціслававец, даведаўшыся, што мы з Савецкага Саюза, хацеў зрабіць для нас што-небудзь прыемнае. Я не магу не ўспомніць такі выпадак: ехалі мы ў тралейбусе. І вось, пачуўшы рускую мову, старэнькая бабулька ўстала і прапанавала сваё месца адной з нашых дзяўчат. Шмат нам прыйшлося ўгаворваць бабульку, каб яна села ізноў на сваё месца.

### Дзеці

Савецкаму чалавеку, які прыехаў у Чэхаславакію, многае зразумела і знаёма. Гэта мае дачыненне ў першую чаргу да жыцця людзей, да іх працы і асабліва да клопатаў аб дзецях. Тут, як і ў нас, асабліва шчыра, па-бацькоўску клапоцяцца аб дзецях, не шкадуюць ні сродкаў, ні сіл для выхавання юных будаўнікоў сацыялізма. Гэта мы бачылі ў школах, у палацах піянераў, дзіцячых садах, «матэрскіх школах» і наогул усюды, дзе толькі ёсць дзеці.

З жыццём, вучобай і адпачынкам браціслаўскіх дзяцей нам дапамагала пазнаёміцца настаўніца Марыя Будзік — стройная бялявая жанчына з яснымі, добрымі вачыма. Марыя Будзік — дачка рабочага чыгункі. Апрача яе, у бацькоў яшчэ сем дачок, якія працуюць і вучацца. Марыя скончыла рускі факультэт славацкага універсітэта. Зараз яна выкладае рускую мову ў старэйшых класах і кіруе гуртком рускай мовы ў палацы піянераў.

Сярэдняя школа ў Чэхаславакіі мае 11 класаў. Прымаюцца ў школу дзеці з шасці год. Вялікую ўвагу школа аддае працоўнаму выхаванню дзяцей. Любоўю да працы прасякнута ўся школьная праграма. У кожнай школе вы можаце ўбачыць цудоўныя лабараторыі, добра абсталяваныя тэхнічныя майстэрні, пазнаёміцца з выстаўкай працоўнай творчасці дзяцей, выстаўкай мастацкай самадзейнасці і дамаводства.

...Перад намі — зробленыя рукамі вучняў мэбля, варштаты, граблі, бароны, косы, мадэлі аўтамашын, трактараў, самалётаў. А вось і мастацкая творчасць — скульптуры Леніна, Готвальда, Яна Гуса, лялькі для школьнага тэатра.

Вучні старэйшых класаў летам працуюць на будаўніцтве заводаў, фабрык, стадыёнаў, а таксама і ў сельскагаспадарчых кааператывах. Аб гэтым расказала нам Ітка Боўтня — вучаніца 11 класа, якая толькі што вярнулася з сельскага кааператыва, дзе працавала на ўборцы ўраджаю. За сваю працу яна атрымала прэмію — 600 крон і зараз збіраецца ехаць у Прагу на экскурсію.

Шмат робіць для выхавання дзяцей Браціслаўскі палац піянераў. Яму перададзены адзін з самых прыгожых будынкаў горада. Палац піянераў стаў любімым месцам адпачынку браціслаўскай дзетвары. Тут усё для дзяцей: пакой гульняў, фізкультурная зала, бібліятэка, кабінет геаграфіі, пакой музыкі, фотастудыя, тэатр лялек, гурток мічурынцаў, піянерскі ансамбль. За тыдзень палац наведвае 4 500 піянераў і школьнікаў. Кожную нядзелю тут наладжваюцца сустрэчы з выдатнымі людзьмі — рабочымі і інжынерамі заводаў, дзеячамі мастацтва і куль-

туры. Частыя госці ў Палацы — Старшыня Савета Міністраў Вільям Шырокі, народны мастак Фране Краль, кампазітар Яўген Сухань. Тут ёсць свае пісьменнікі, карэспандэнты і журналісты, якія выдаюць уласны часопіс «Весткі палаца піянераў». Самі ж яго набіраюць і друкуюць. У канцы года Палац піянераў праводзіць традыцыйныя піянерскія фестывалі, на якіх падагульняе вынікі сваёй працы. На гэтых фестывалях выступаюць юныя артысты, тэхнікі, спартсмены.

Паспяхова працуе ў Палацы і тэатр лялек, які карыстаецца заслужаным поспехам у юных гледачоў.

Браціслаўскі палац піянераў імя Готвальда падтрымлівае сувязь з піянерамі Масквы, Кіева, Кітая, Францыі.

### Вечар на параходзе «Браціслава»

Непрыкметна праляцелі тры дні, якія мы правялі ў Браціславе. Заўтра раніцай мы павінны выехаць у Брно. Моладзь прадзільнай фабрыкі запрасіла нас да сябе на развітальны вечар. Вечар адбыўся на параходзе «Браціслава». Гэта самы буйны параход у Чэхаславакіі. Наш незвычайны вечар пачаўся пагулянкай на хвалях блакітнага Дуная. Левы бераг Дуная ўпрыгожвае Браціслава, правы — маляўнічыя схілы Карпат, сады і вінаграднікі. Пад залацістымі праменнямі вячэрняга сонца воды Дуная зззяюць цудоўнымі агнямі. Многа песень і легенд складзена аб Дунаі. На берагах яго вякамі не сціхала барацьба славян за сваю свабоду і незалежнасць. Шмат разоў прыходзілі сюды ворагі і акраплялі крывёю дунайскія хвалі. «Сёння на тваіх берагах квітнее новае жыццё... Чэсць працы табе, Дунай! — гавораць славакі,— Цяпер ты прыносіш нам не гора і слёзы, а радасць, мір і дружбу...»

Дружба!

Гэта цудоўнае слова з любоўю вымаўлялі на нашым развітальным вечары. Велічна і ўрачыста гучала яно ў шырокіх, як дунайскія воды, песнях на славацкай, рускай, беларускай мовах...

Было ўжо за поўнач, калі мы вярталіся ў горад.

На другі дзень мы ад'язджалі ў Брно. Сярод шматлікіх сяброў, якія нас праводзілі, я ўбачыў знаёмую постаць Стэфана. Мы сустрэліся, як старыя знаёмыя.

— Чаму так хутка ад'язджаеце? — нібы з дакорам, запытаў Стэфан.

— Нічога, мы яшчэ сустрэнемся, сустрэнемся ў Мінску, — адказаў я.

— Так, спаткаемся,— усхвалявана гаварыў Стэфан. — Я падаў ужо заяву на пуцёўку ў Савецкі Саюз. Мне хочацца пахадзіць па старых партызанскіх дарогах, паглядзець на новы Мінск...

На развітанне я перадаў Стэфану фотаальбом Мінска. Ён уважліва разглядаў кожны здымак, як самую дарагую для яго рэліквію.

Гудок паравоза абарваў размову.

### «Наш Ленінград»

Мы — у Брно. З горадам нас знаёміць адзін з старэйшых яго жыхароў Рудольф Кінчл, які жыве на Мінскай вуліцы. Ён ведае не толькі старажытныя помнікі свайго горада, але і кожную яго вуліцу і завулак, многіх жыхароў. Кінчл — член Таварыства чэхаславацка-савецкай дружбы. Адзін з старэйшых камуністаў горада, ён прайшоў падполле, фашысцкія турмы, не раз глядзеў смерці ў вочы. Цяпер Кінчлу 59 год, але ён яшчэ бадзёры і жыццерадасны. Рудольф натхнёна расказвае нам аб сваім горадзе...

Гісторыя Брно непарыўна звязана з крэпасцю Шпільберг, якая ўзвышаецца над усім горадам. Уладары яе заўсёды былі гаспадарамі горада. У часе нямецкай акупацыі гітлераўцы бязлітасна распраўляліся ў яе казематах з патрыётамі Чэхаславакіі. У гэтай крэпасці сядзеў і сам Рудольф Кінчл. І толькі дзякуючы Савецкай Арміі ён застаўся ў жывых.





Вуліца Міру ў Брно.

Савецкая Армія ўпершыню ў гісторыі Брно авалодала крэпасцю Шпільберг. Не на жыццё, а на смерць ішла бязлітасная барацьба за крэпасць. Многа салдат і афіцэраў Савецкай арміі аддалі сваё жыццё за вызваленне крэпасці і горада Брно. Героям, слаўным вызваліцелям, жыхары горада ўстанавілі велічны помнік на плошчы Чырвонай Арміі. Разбураны горад пасля вызвалення поўнасцю аднавілі, зараз у Брно жыве 350 тысяч жыхароў і працуе больш 300 фабрык і заводаў, прамысловых прадпрыемстваў. У Брно ёсць акадэмія навук, акадэмія музыкі, універсітэт, політэхнічны, настаўніцкі і даследчы інстытуты, якія вядомы сваімі навуковымі поспехамі на ўсю краіну. У горадзе 6 дзяржаўных тэатраў, філармонія, дзесяткі кінатэатраў, палацаў, рабочых клубаў. Нездарма свой горад жыхары Брно з гонарам называюць — «Наш Ленінград».

На другі дзень мы пабывалі на адным з буйнейшых прадпрыемстваў Чэхаславакіі — трактарным заводзе «Зотэр». Завод шырока раскінуўся на ўскраіне горада, тэрыторыя яго нагадвае малады сад, любоўна высаджаны рукамі сваіх гаспадароў. Ля ўваходу — дзесяткі машын розных марак і колеру. Завод пастаўляе сваю прадукцыю ў 65 краін свету.

На тэрыторыі завода нас сустрэлі — інжынер Здэнка Папыжова, сакратар камітэта ЧСМ Рудольф Чэльда і вядомы нам ужо Рудольф Кінчл, які працуе тут з дня заснавання завода.

Гасцінныя гаспадары знаёмілі нас з працай свайго завода, абсталяванага па апошняму слову тэхнікі. На многіх машынах і станках можна прачытаць марку «Ленінград». Нашы ленінградскія таварышы з асаблівай цікавасцю распытвалі, як працуюць «землякі».

Мы ідзём па зборачнаму цэху, праз вялікія вокны якога ўрываюцца праменні яркага сонца, асвятляючы твары рабочых. Праца тут механізавана. Гэта самы «жывы» цэх на заводзе. Нельга не любавацца дакладнасцю работы механізмаў канвеера: з'явіўшыся з аднаго боку, голая рама трактара паступова «апранаецца», і з другога боку выходзіць гатовы трактар. Гэтымі цудадзейнымі механізмамі кіруюць маладыя — юнакі і дзяўчаты. Наогул на заводзе працуе шмат моладзі. Аб ёй тут гавораць з пашанай.

Нам асабліва прыемна было ўбачыць куток, прысвечаны Мінскаму трактарнаму заводу.

— З мінскімі трактарыстамі ў нас асабліва шчырая дружба,— гаворыць Здэнка Папыжова. — Не так даўно нашы інжынеры былі ў гасцях у мінскіх трактаразаводцаў, знаёміліся з вопытам іх працы, тэхнічнымі дасягненнямі і вынаходніцтвамі. Гэта прынесла нам вялікую карысць.

### У кааператыве «Шляпанцы»

Мы ідзём па полі кааператыва «Шляпанцы», па месцах гістарычнай бітвы пад Аустэрліцам. У маляўнічай даліне, абкружанай курганамі, раскінуўся пасёлак. Усе

будынкі — цагляныя з чарапічнымі дахамі. Многія дамы двухпавярховыя, ля кожнай сядзібы сад. Садовымі дрэвамі абсаджаны і палі, і дарогі. Здалёк «Шляпанцы» здаюцца вялізным зялёным вянком.

Старшыня кааператыва Карэл Вален і яго сябры — брыгадзір Уладзімір Балан, дэпутат нацыянальнага савета Ганна Малкова і сакратар ЧСМ Ягел Угер — знаёмяць нас са сваёй гаспадаркай.

Кааператыў «Шляпанцы» належыць да самага высокага тыпу кааператыўнай гаспадаркі.

У Чэхаславакіі існуе чатыры тыпы кааператываў. У кааператыў першага тыпу сяляне толькі часова аб'ядноўваюцца для правядзення сельскагаспадарчых работ, а ўраджай атрымліваюць асобна з сваёй зямлі.

У кааператыве другога тыпу — знішчаюцца ўжо межы, але ўраджай усё ж дзеліцца адпаведна той зямлі, якая перададзена кааператыву кожным членам.

У трэцім тыпе кааператыва — абагулены асноўныя сродкі вытворчасці, размеркаванне даходаў ідзе па працаднях і толькі нязначнай часткі — па колькасці зямлі, перададзенай кааператыву.

І, нарэшце, кааператыў вышэйшага тыпу, дзе ўсе даходы размяркоўваюцца па працаднях (у залежнасці ад якасці і колькасці працы).

Мы цікавіліся і культурным жыццём кааператыва. У «Шляпанцах» працуе 8-гадовая школа, маецца 2-гадовая сельскагаспадарчая школа, музычная школа, дзіцячы сад. Ёсць і кінатэатр. Многія юнакі і дзяўчаты ўдзельнічаюць у самадзейным ансамблі.

На развітанне члены кааператыва запрасілі нас да сябе на чашку чорнай кавы. Мы зайшлі ў дом члена кааператыва — конюха Яраслава Шамшуры. Жыве ён у кватэры з 5 пакояў; асобныя пакоі для дзяцей, для старой маці, гасціная, спальня і кухня. У доме паравое ацяпленне і газ. Сям'я Шамшуры ў поўным дастатку. Гаспадыня працуе даяркай, дзеці вучацца. Яраслаў паказаў нам і сваю ўласную «Татру», на якой ён збіраецца зрабіць падарожжа разам са сваёй сям'ёй у Маскву на сельскагаспадарчую выстаўку.

### На канцэрце «Радасць»

Чэхі і славакі асабліва любяць музыку. «Песня — душа нашага народа»,— гавораць яны. З глыбіні далёкіх часоў бярэ свае вытокі народная чэхаславацкая песня. З песняй на вуснах памiралі за свабоду свайго народа гусіты і слаўныя воіны Жыжкі. З песняй у сэрцы змагаліся слаўныя сыны чэхаславацкага народа на барыкадах Браціславы і Прагі ў 1944 годзе супраць фашысцкіх акупантаў.

У Новай Чэхаславакіі асабліва любяць песню, свабодную і радасную. Аб гэтым яскрава гаворыць і росквіт музычнай самадзейнасці. У адной толькі Славакіі налічваецца каля 4 000 ансамбляў песні і танца. Пачэснае месца сярод іх займае маладзёжны ансамбль «Радасць», на канцэрце якога нам давялося пабываць у Брно. Большасць яго ўдзельнікаў — маладыя рабочыя, студэнты і настаўнікі, актывісты Чэхаславацкага саюза моладзі. Усяго ансамбль налічвае 140 чалавек. Да тых, хто жадае паступіць у ансамбль,— строгія патрабаванні: апрача музычных і вакальных здольнасцей, трэба быць яшчэ і перадавіком вытворчасці або выдатнікам вучобы. Кіруе гэтым таленавітым маладым калектывам студэнт музычнай Акадэміі Здэнэк Маца.

Ансамбль «Радасць» карыстаецца папулярнасцю не толькі ў слухачоў Брно, але і ў Браціславе і Празе, дзе ён не раз выступаў са сваімі канцэртамі на фестывалях моладзі. У гэтым мы пераканаліся самі, пазнаёміўшыся з яго праграмай. Артысты «Радасці» з выключным натхненнем выканалі народныя мараўскія песні, суботнюю песню моладзі (створаную самім калектывам), песню аб роднай зямлі і шчаслівай мірнай працы, песню, прысвечаную чэхаславацка-савецкай дружбе. Па-майстэрску выконваюць удзельнікі ансамбля народныя і сучасныя танцы.



Песні і танцы ансамбля «Радасць» адлюстроўваюць імкненні і мары чэхаславацкага народа, яго барацьбу за шчасце і свабоду. Тут і гісторыя народа, і этнаграфічныя асаблівасці яго побыту. Меладычная музыка славацкіх і чэшскіх танцаў захапляе сваёй іскрыстасцю, тэмпераментам і лірызмам. Іншы раз танец пераплятаецца з словамі песні, пераплятаецца арганічна, непасрэдна. Ансамбль «Радасць» з'яўляецца самадзейным калектывам, але па выканаўчаму майстэрству не ўступае прафесійным.

Пасля канцэрта я пацікавіўся творчай працай ансамбля. Артыст Яраслаў Станэк, ён жа сакратар райкома ЧСМ г. Брно, з ахвотай пачаў расказваць аб тым, як ён разам з таварышамі працуе над павышэннем свайго выканаўчага майстэрства.

Нашу гутарку абарваў танец «кача», які цяпер ужо танцавалі не на сцэне, а ў зале. У кола далучаліся ўсё новыя і новыя ўдзельнікі — масквічы, ленінградцы, беларусы...



**Канцэртная зала імя Сметаны ў Празе.**

### Злата Прага

Прага! Колькі аб табе мы чулі цудоўных слоў, казак і песень... Чулі на кожным кроку, як толькі пераехалі граніцу. Не было на нашым шляху амаль ніводнага чалавека, які б не ўспамінаў аб Празе... Кожная размова пачыналася або канчалася словамі:

— Вы не былі яшчэ ў Празе?

— Абавязкова пабывайце.

— Гэта адзін з прыгажэйшых гарадоў Еўропы.

— Ды што Еўропы,— не згаджаўся другі,— свету!

Мы пад'язджаем да Прагі вечарам. За дзесяткі кіламетраў яна свяцілася сваімі рознакаляровымі агнямі, якія з кожнай хвілінай набліжаліся да нас.. На пероне вакзала адбылася традыцыйная сустрэча. Тут яна была асабліва ўрачыстай. Сустракала нас моладзь чэхаславацкай сталіцы. Ізноў песні, жарты, кветкі, пытанні аб дарозе, Маскве. Знайшліся і агульныя знаёмыя па фестывалю.

Было позна, і гаспадары адразу ж прапанавалі нам ехаць адпачываць. Жыць мы будзем у каледжы гістарычнага Карлавага ўніверсітэта, аб якім нам не раз гаварыў наш Юра.

— А гэта далёка? — запытаў нехта.

— Кіламетры тры — чатыры.

— Тады пойдзем пехатой,— пачуўся голас неспакойнага Мішы Лапоця. Яго падтрымалі ўсе. І мы пайшлі па вуліцах Прагі — па плошчы Вацлава, Максіма Горкага. Цяжка знайсці словы, каб перадаць вячэрнія малюнкі Прагі. Цудоўныя яе архітэктурныя збудаванні, палацы, паркі, тэатры... Можна гадзінамі стаяць і любавацца адным толькі будынкам нацыянальнага музея, які ззяе рознакаляровымі агнямі.

Захапіўшыся горадам, мы зусім забыліся на стому, хацелася хадзіць па вуліцах і плошчах да раніцы. Але вось мы ўжо «дома». Перад намі інтэрнат Карлавага

універсітэта. Вузенькія калідоры і маленькія вокны нагадваюць нейкі сярэдневяковы замак.

...Жыццё сваё чэхаславацкая сталіца пачынае а 6 гадзіне раніцы. З 7 гадзін працуюць установы, магазіны, прадпрыемствы. Пульс жыцця чоткі і рытмічны. Цяпер Прага больш спакойная і стрыманая, чым увечары.

Каму ўдалося раніцай прайсці па Карлаваму масту — цуду архітэктуры XIV стагоддзя, любавацца срабрыстымі водамі Влтавы, у якой, як у люстэрку, адбіваецца Пражскі нацыянальны тэатр, той назаўсёды захавае ў памяці гэтыя непаўторныя па прыгажосці малюнкі. А хіба можна забыць Старамесцкую ратушу з яе казачнымі курантамі! Тут, на гэтым месцы, выступаў у грозны час 1948 года Клемент Готвальд, даваў прысягу на вернасць свайму народу. З гэтай плошчы ад помніка Яна Гуса кожны год накіроўваецца традыцыйная эстафета дружбы і міру ў Савецкі Саюз.



Плошча турыстаў у Празе.

Мы ўзнімаемся на Жыжкаву гару, якая атрымала назву ў гонар перамогі над крыжаносцамі. Тут жа ўстаноўлены і манумент Яну Жыжку, легендарнаму герою чэхаславацкага народа. Манумент адкрывае ўваход у маўзалей Клемента Готвальда, гранітныя глыбы якога нібы з'яўляюцца шапкай Жыжкавай гары. У гэтым пантэоне славы ляжаць вечныя героі, любімыя сыны чэхаславацкага народа, якія аддалі сваё жыццё за новую сацыялістычную Чэхаславакію.

Мы наведалі самыя дарагія мясціны для савецкага чалавека — брацкія магілкі, на якіх пахавана каля 500 савецкіх салдат і афіцэраў, што загінулі ў бітве за вызваленне Прагі ад фашысцкіх акупантаў. Тут і генералы, і афіцэры, і невядомыя салдаты. На кожнай магілцы — гранітны помнік. Усе магілкі абсаджаны кветкамі.

З хваляваннем пераступілі мы парог Пражскага музея У. І. Леніна. Ля ўваходу — скульптура любімага Ільіча. Па гэтай лесвіцы ўваходзіў ён у скромны пакой, сядзеў за гэтым сталом...

У гэтым пакоі праходзіла вядомая Пражская канферэнцыя, на якой бальшавікі па прапанове Леніна з палітычнай групы аформіліся ў партыю, якая смела павяла рабочых Расіі на барыкады Кастрычніка. Цяпер тут юныя піянеры Прагі даюць клятву быць дастойнымі светлага імя вялікага правадыра і настаўніка працоўных усяго свету Уладзіміра Ільіча Леніна.

## Тэатры

Нялёгкім быў у мінулым шлях чэхаславацкай культуры і мастацтва. Стогадовая дыктатура аўстрыйскіх манархаў рабіла ўсё, каб пагасіць творчы агонь таленавітага чэшскага і славацкага народаў. Асабліва цяжкі быў лёс дзеячоў культуры і мастацтва Чэхаславакіі ў гады фашысцкай акупацыі. Гітлераўскія інквізітары палілі на кастрах кнігі чэшскіх вучоных і пісьменнікаў, знішчалі помнікі



мастацтва, зачынялі тэатры, універсітэты і школы...

Толькі новая, сацыялістычная рэспубліка выклікала да жыцця невычэрпную крыніцу народных талентаў, шырока адкрыла ім дзверы ў мастацтва і навуку.

Небывала расквітнела ў рэспубліцы і тэатральнае мастацтва, поўным голасам загаварылі на сцэне славацкіх тэатраў артысты, драматургі, рэжысёры і кампазітары. У тэатр пайшоў новы глядач — гаспадар свайго жыцця. Ён патрабаваў не толькі новых спектакляў, але і новых тэатраў. Настойлівая праца па выхаванню мастацкай інтэлігенцыі дала свае бліскучыя вынікі. Зараз у Чэхаславакіі працуе 70 оперных, драматычных і лялькавых тэатраў. У адной толькі Празе на 1 мільён жыхароў налічваецца 17 прафесійных тэатраў — нацыянальны тэатр оперы (змяшчае ў сабе тры калектывы: оперны, балетны і драматычны), музычная камедыя і аперэта, рэалістычны тэатр імя Здэнэка Неедлы, тэатр Чэхаславацкай Арміі, драматычны тэатр імя Нэймана, маладзёжны тэатр, сатырычны тэатр АБС і іншыя.

Багаты і разнастайны рэпертуар пражскіх тэатраў. Тут побач з творамі нацыянальнай класікі — Сметаны, Дворжака, Тыла, Халупкі, Ірасека, — п'есы сучасных пісьменнікаў і драматургаў: «Устануць новыя байцы» Запатоцкага, «Балеслаў першы» Ярыша, «Духоўскі мост» Цэха, «Брыгада шліфавальшчыка Карачана» Камі, «Такое каханне» Кагоута і інш. На сцэне чэхаславацкіх тэатраў ставяцца і творы сусветнай класікі — Шэкспіра, Мальера, Шылера, Вердзі, Расіні, Бізэ. Пачэснае месца займае тут і руская класіка — Чайкоўскі, Барадзін, Глінка, Астроўскі, Горкі, Талстой, Чэхаў, Маякоўскі, а таксама сучасная савецкая драматургія.

Адсутнічаюць пакуль што ў Чэхаславакіі тэатры юнага гледача, праўда, іх ролю часткова выконваюць маладзёжныя тэатры і тэатры лялек.

Усе прафесійныя тэатры рэспублікі атрымоўваюць дзяржаўную дапамогу, якая поўнасцю забяспечвае іх творчую дзейнасць.



Пражскі нацыянальны тэатр.

Чэхаславацкія тэатры карыстаюцца вялікай папулярнасцю за межамі рэспублікі. Амаль кожны год гастраліруюць яны ў краінах народнай дэмакратыі, а таксама ў Францыі, Італіі.

З вялікім поспехам прайшлі гастролі Пражскага нацыянальнага тэатра ў 1955 годзе ў Маскве. Сёлета сімфанічны аркестр Пражскай філармоніі ажыццяўляе гастрольную паездку па краінах Еўропы і Амерыкі.

Творчыя працаўнікі мастацтва Чэхаславакіі ідуць па шляху рэалістычнага мастацтва, высока несучы сцяг сваёй нацыянальнай самабытнай тэатральнай культуры.

Гледзячы спектакль «Скандал у Лісабоне» на сцэне Пражскага тэатра музкамедыі, міжвольна прыгадваеш словы вялікага рускага артыста Ф. Шаляпіна, які гаварыў: «Можна па-рознаму разумець, што такое прыгожыя спевы, але аб тым, што такое праўда пачуцця, спрачацца нельга. Адзіным правільным шляхам да прыгажосці я лічу праўду».

Упэўнена і тэмпераментна вядзе спектакль дырыжор Далібор Бразда. Відаць, не мала папрацаваў ён над музыкальным раскрыццём партытуры. Гэта адчуваецца ў першую чаргу ў гучанні аркестра, хору і ўсяго рытму спектакля.

Спектакль «Скандал у Лісабоне» багата насычаны танцамі ў пастаноўцы балетмайстра Бедрыка Фусагера. Танцы ў спектаклі яркія і дынамічныя.

Нельга не адзначыць мастацкае афармленне спектакля, вельмі каларытнае. Скупымі, але яркімі фарбамі яно перадае атмасферу дзеі.

Пражскі тэатр музкамедыі адзін з маладых у Чэхаславакіі, ён створаны 5 год таму назад па ініцыятыве Антаніна Запатоцкага. Асноўны склад тэатра — выпускнікі музычнай Акадэміі па класу Юліуса Лебла, а таксама асобныя артысты з другіх тэатраў. У складзе тэатра 380 чалавек: аркестр — 68, хор — 40, балет — 50, салістаў — 36. Тэатр рыхтуе ў год 5 прэм'ер і паказвае 380 спектакляў. Сярэдні кошт білета 4—5 крон, колькасць месц — 1600. Тэатр знаходзіцца поўнасцю на дзяржаўнай датацыі, на спектакль выдаткуе 200—250 тысяч крон. У рэпертуары 12 спектакляў. Тут і музычныя творы чэшскай класікі, класічныя аперэты і творы заходніх сучасных кампазітараў. Значнае месца займае і савецкі рэпертуар, які карыстаецца вялікім поспехам у чэхаславацкіх гледачоў: «Трэмбіта», «Вяселле ў Малінаўцы», «Белая акацыя».

Зараз калектыў тэатра паспяхова працуе над новым спектаклем, сучаснай камедыяй «Лізістрата», прысвечанай барацьбе за мір.



Тэатр Сметаны ў Празе.

Пасля спектакля нас запрасілі на сустрэчу з калектывам тэатра. Сустрэча была надзвычай шчырай і сардэчнай. Мяне пыталіся аб працы беларускіх тэатраў, працы мастацкага савета, аб тым, як размяркоўваюцца ролі, якая педагагічная праца вядзецца з моладдзю, ці ёсць студыі пры тэатрах, як улічваецца творчы рост артыстаў. Я падрабязна расказаў аб творчай працы беларускіх тэатраў, аб працы самага юнага тэатра Беларусі — тэатра юнага гледача. Асаблівую цікавасць выклікалі ў нашых сяброў дэкады тэатраў у Маскве, праца тэатраў з драматургамі, творчыя справаздачы акцёраў перад гледачамі.

Гэты сезон у тэатры Пражскай музкамедыі асабліва адказны, яго калектыў рыхтуецца да гастроляў у СССР.

## У Готвальдаве

Апошнім горадам нашага падарожжа па Чэхаславакіі быў Готвальдаў. Здавалася б, чым можа здзівіць гэты горад пасля Прагі?

І ўсё ж і тут мы ўбачылі шмат цікавага і неспадзяванага. Перш за ўсё нам спадабаўся сам горад, сапраўдны горад-сад. Ён нагадвае крыху нашы паўднёвыя курортныя гарады.

Кожны горад мае сваю гісторыю, якая звычайна пачынаецца з архітэктурных помнікаў. У Готвальдаве гэтым помнікам з'яўляецца шаснаццаціпавярховы корпус абутковага камбіната «СВІТ», з якога і пачынаецца гісторыя горада. Гэта гісторыя апісана чэхаславацкім пісьменнікам Турэкам Святаплукам у яго вядомым рамане пра «абутковага караля» Бацю, які на рабочых касцях збудаваў гіганцкія карпусы сваёй фабрыкі. Цяпер фабрыкай кіруюць самі рабочыя — гаспадары горада. На камбінаце зараз працуе каля 20 тысяч рабочых і выпускаюць яны 75 мільёнаў пар абутку ў год, у 6 разоў больш, чым пры Баці. Прадукцыя камбіната славіцца сваёй прыгажосцю і практычнасцю на ўвесь свет, купляюць яе 66 краін. Вытворчы працэс камбіната высока механізаваны, пачынаючы ад загатовак да ўпакоўкі.



Гэтая механізацыя адчуваецца нават у выплаце зарплаты. Мне запомніўся такі малюнак. На стале майстра цэха, дзе працуе каля 1 000 рабочых, стаіць скрыначка з канвертамі... Кожны рабочы ў зручны для яго момант падыходзіць да стала і бярэ свой пакет без усялякай распіскі і касіра...

Готвальдаўцы вельмі любяць мастацтва. Кожны год адбываюцца тут абласныя фестывалі. Як расказаў нам сакратар абкома ЧСМ Юзэф Іпатоўскі, у апошнім фестывалі прымала ўдзел 836 харавых ансамбляў, 1 000 чытальнікаў-паэтаў, дзесяткі мастакоў. У вобласці няма ніводнай вёскі, дзе б не было свайго ансамбля. У Готвальдаве працуе кінастудыя, філармонія, абласны драматычны тэатр і вандроўны тэатр.

Вечарам я паглядзеў у рабочым тэатры спектакль «Такое каханне».

Ігра акцёраў Готвальдаўскага тэатра — своеасаблівая. Сутнасць яе ў спалучэнні пачуцця праўды з цудоўнай тэхнікай, валоданнем дыялагам, дыкцыяй, рухамі.

Тут, гаворачы словамі Станіслаўскага, мастацтва «перажывання» ўступае месца мастацтву «прадстаўлення» і на першы план выступае знешні малюнак ролі.

Рэжысёры і артысты готвальдаўскага тэатра цікавіліся рэпертуарам і п'есамі беларускіх тэатраў. Я перадаў сваім новым сябрам творы беларускіх драматургаў — Я. Коласа, К. Крапівы, «Папараць-кветку» І. Козела, а готвальдаўцы перадалі мне п'есы з свайго рэпертуара. Мы дамовіліся, што гэты абмен будзе пачаткам далейшай творчай дружбы.



Сцэна са спектакля «Утаймаванне свавольніцы» ў готвальдаўскім рабочым тэатры.

## Там, дзе праходзіў Ільіч

Татры! Тыя самыя Татры, аб сустрэчы з якімі мы так марылі. Вось яны перад намі. Ламніцкая верхавіна, Рысы, на якую ўзыходзіў У. І. Ленін. Нібы прабіваючыся праз лясы і хмары, яны велічна ўзвышаюцца над усім горным хрыбтом. Асабліва прыгожыя Татры ў сонечны дзень. Праўда, такіх дзён тут не багата, але нам, як кажуць, пашанцавала.

Размясціліся мы ў альпінісцкім лагеры «Інтэрнацыянал», які знаходзіцца на вышыні 1 200 метраў. Усяго мы прабудзем у Татрах тры дні. Гэта вельмі мала. Таму мы пажадалі ў першую чаргу пабываць у тых мясцінах, дзе калісьці Ільіч хадзіў на прагулкі, «займаўся горнай акрабатыкай».

Якія дзівосныя тут горныя азёры! Самае вялікае з іх — Штрбскае — знаходзіцца на вышыні 2 100 метраў, з усіх бакоў абкружанае дрэвамі. Пад праменнямі сонца цёмна-сіняя вада яго пераліваецца рознакаляровымі фарбамі, захапляе кожнага спадарожніка сваёй чароўнай прыгажосцю.

На заканчэнне нашага «актыўнага адпачынку» мы ўзняліся на пік Ламніцкага (2 646 метраў вышыні). Гэты паход быў асабліва

цікавы... Пяць гадзін ішлі мы па крутых горных дарогах. І вось нарэшце верхавіна піка. Пад намі плывуць хмары. Прыемна стаяць над імі і дыхаць на поўныя грудзі. Здаецца, каб крылы, так і паляцеў бы, як птах, над гэтымі сінімі горнымі аграмадзінамі.

Але раптам наш рамантычны настрой пачаў псавацца. Аднекуль наляцеў моцны парывісты вецер, які абяцаў хуткі дождж. І нам прышлося не на крыллях, а на сваіх нагах хутчэй спускацца ўніз! Пік Ламніцкага, на якім мы толькі што стаялі і любаваліся праменнямі заходзячага сонца, пакрыўся чорнымі хмарамі. На хвіліну наступіла нейкая незвычайная цішыня, яна гаварыла аб блізкай навальніцы. І вось маланка разрэзала цемру, а за ёй задрыжалі горы ад аглушальнага грому. Паліў дождж, як з вядра. Што рабіць? Заставацца ў гарах непрыемна і спускацца ўніз у такі момант таксама небяспечна. І ўсё ж вырашылі ісці. Стыхія так разбушавалася, што нават цяжка было падумаць, што 30 хвілін таму назад мы яшчэ любаваліся казачнымі вяршынямі Татраў. Ішлі мы ў цемры, насустрач ветру і дажджу, які гатовы быў на сваім шляху ўсё змыць. Час-ад-часу пад ззяннем бліскавіцы асвятляўся пік Ламніцкага, якому ўсё было не ў знак — і гром, і дождж, і маланка... У такі момант горш за ўсё разгубіцца. Гэта ўсе мы разумелі і спускаліся ўніз з песнямі, жартамі, не звяртаючы ўвагі на навальніцу. Праўда, па дарозе некаторыя з дзяўчат пачалі кульгаць. Была прапанова адправіць «параненых» з бліжэйшай станцыі фунікулёрам да лагера... Але гэтую прапанову ніхто не падтрымаў. Усе раптам выздаравелі. Нікому не хацелася ў такія хвіліны расставацца з калектывам. Дружба альпіністаў — гэта сапраўдная дружба! Мы гэта асабліва адчулі пры пераходзе праз горную раку, праходзячы ў цемры пад дажджом па вузкай кладцы. Пераход быў вельмі небяспечны. І вось знайшліся смельчакі, якія, прымасціўшыся на каменнях скалістага берага, страхавалі праходзячых таварышаў.



Помнік Вацлаву на плошчы Вацлава ў Празе.

У 11 гадзін ночы мы дабраліся да свайго лагера. І хоць усе былі вельмі стомленыя і прамоклыя, на сэрцы было неяк асабліва радасна і прыемна. У лагеры нас сустракалі сардэчна. Начальнік лагера «за перамогу над стыхіяй» абвясціў нашай групе падзяку. Пачалася ўрачыстая развітальная вячэра, на якой прысутнічалі альпіністы і турысты з Польшчы і ГДР.

Гэты вечар быў апошні перад нашым ад'ездам на радзіму.

Усюды, дзе мы ні знаходзіліся — ці то ў сонечнай Браціславе, ці кіпучым Брно, Златай Празе, ці слаўным Готвальдаве, — нас сустракалі як самых дарагіх братоў-пасланцоў вялікага савецкага народа. Сустракалі з выключнай сардэчнасцю і любоўю. Мы гэта адчувалі ўсім сваім сэрцам. Так, гэтая дружба навечна, бо яна акроплена сумеснай крывёю ў барацьбе з ворагамі, у барацьбе за вялікую справу сацыялізма.

Ю. МАНІН

# ІНДЫЯ СЁННЯ

## ДА ВОСЬМАЙ ГАДАВІНЫ ЎТВАРЭННЯ ІНДЫЙСКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Фота аўтара.

Некалькі тысячагоддзяў налічвае гісторыя Індыі. Задоўга да таго, як у Заходняй Еўропе з'явіліся першыя зачаткі цывілізацыі, у Індыі ўжо існавала дзяржава з вялікай культурай. Індыйскія вучоныя даследуюць матэрыялы раскопак у Махенджо-Дора, якія сведчаць, што там пяць з паловай тысяч гадоў таму назад існаваў горад з развітай культураю. Сусветна вядомы скальныя храмы ў Аджанце і Элоры ў штаце Бамбей — вынік шматвяковай працы таленавітых індыйскіх майстроў. Амаль тысячагоддзе, з II стагоддзя да нашай эры і па VII стагоддзе нашай эры, высякалі працавітыя індыйскія майстры ў скалах гэтыя храмы. Найбольш вядомыя з гэтых скальных храмаў — храмы Аджанты — былі своеасаблівым манастыром-універсітэтам, дзе жылі і навучаліся будыйскія манахі. Аджанта была месцам паломніцтва не толькі для індыйцаў, але і для будыстаў іншых краін. Прыкладна ў сёмым стагоддзі апошні будыйскі манах пакінуў Аджанту і на працягу 12 стагоддзяў свет нічога не ведаў пра яе. Яе пячоры былі зноў адкрыты толькі ў XIX стагоддзі.

У цёмнай глыбіні пячор Аджанты знаходзяцца велізарныя скульптуры Будды і цудоўныя фрэскі, многія з якіх уяўляюць сабою вяршыню з дайшоўшых да нас узораў жывапісу старажытнасці. Святло магутных пражэктараў да-



«Вароты Індыі».



Скульптура ў скальным храме ў штаце Бамбей.

зваляе цяпер наведвальнікам разгледзець вельмі тонкія роспісы, якія пакрываюць столь і сцены пячор. Фігуры людзей, кветкі і птушкі, звяры і расліны зроблены з вялікім майстэрствам. І здзіўляешся, як у цемры пячор, размешчаных у глыбіні скал, маглі быць створаны такія шэдэўры. Мяркуюць, што пячоры ў часе работы майстроў асвятляліся пры дапамозе сістэмы люстэркаў, што перадавалі сонечнае святло ў глыбіню скалы.

А ў пачатку XIII стагоддзя была пабудавана пяціпавярховая 77-метровая вежа Кутб-мінар у гонар правіцеля Дэлійскага султаната Кутб-эддына Айбека. Падняўшыся па 378 сходках на вяршыню вежы, мы бачым незвычайна прыгожыя краявіды вакол Дэлі. Побач з вежаю на нашым здымку — жалезны слуп. Яму паўтары тысячы год. Згодна індыйскага падання, усякі, хто прыхіліцца да гэтага слупа, будзе шчаслівы.

Вежа Кутб-мінар.

Цудоўныя і архітэктурныя помнікі эпохі вялікіх Маголаў, якія належаць да сярэдзіны XVII стагоддзя. Чырвоны форт і Джама Масджыд у Дэлі, вядомейшы Тадж Магал у Агры. Вось ужо некалькі стагоддзяў спаборнічаюць паміж сабою індыйскія паэты ў праслаўленні прыгажосці Тадж Магала. «Паэмаю ў камені», «мараю ў мармуры, задуманай тытанамі і закончанай ювелірамі», — называлі яны гэта цудоўнае збудаванне.

Магольская дзяржава пала пад націскам англійскіх заваёўнікаў. Дзесяцігоддзі англійскага панавання не пакінулі помнікаў матэрыяльнай культуры, якія б можна было параўнаць з тымі, што стварыў індыйскі народ у мінулыя стагоддзі. Статуі заваёўнікаў, аркі ў іх гонар — вось што пакінулі на ўспамін аб сабе англійскія каланізатары.

Брама ў Бамбеі была ўзведзена ў гонар прыезду прынца Уэльскага. Але вядомай яна зрабілася пазней, пасля таго, як праз яе 15 жніўня 1947 года Індыю пакінуў апошні англійскі салдат. Цяпер яна носіць гордую назву «Вароты Індыі».

Побач з «Варотамі Індыі» бачна гасцініца «Тадж Магал» — яшчэ адно збудаванне эпохі панавання англічан. Мірза Турсун-Задэ пісаў пра англічан, якія пабудавалі гэтую гасцініцу:

«Они пришли, бездушны  
и лукавы,  
Из ненасытной островной  
державы  
И, хвастая набитым кошельком,  
Построили на берегу морском



Гостиницу по собственному  
вкусу  
И, наглые, плюя в лицо индусу  
(Им, вероятно, Раджа  
помогал),  
Они ей дали имя Тадж Магал».

Ці ж можна параўнаць гэтае англійскае збудаванне з вянцом індыйскай архітэктуры — цудоўнейшым Тадж Магалам?

Індыйскі народ ніколі не скараўся перад іншаземнымі захопнікамі. Сінайскае паўстанне 1857—1858 гадоў, хваля нацыянальна-вызваленчага руху ў Індыі ў пачатку XX стагоддзя, новы ўздым барацьбы пасля першай сусветнай вайны і перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі, барацьба пад лозунгамі гандзізму — яркія старонкі ў гісторыі свабодалюбівага індыйскага народа. У 1947 годзе Індыя нарэшце дамаглася прызнання сваёй нацыянальнай незалежнасці. Выключную ролю ў гэтай перамозе адыграў нацыянальны герой Індыі Гандзі, названы індыйскім народам Махатмой, што значыць «Вялікай душой». Праз паўгода пасля абвяшчэння незалежнасці Гандзі быў забіты членам крайняй рэакцыйнай партыі Хінду Махасабха. Месца, дзе былі спалены астанкі Гандзі — Радж Гхот на беразе ракі Джамны ў Дэлі — любоўна ўшаноўваецца індусамі.



Спадчына англійскіх каланізатараў — індыйскі жабрак.

Напалоханыя нацыянальна-вызваленчым рухам індыйскага народа, англічане вымушаны былі пакінуць Індыю. Цяжкую спадчыну пакінулі яны пасля сябе: галечу і адсталасць. У буйных гарадах, напрыклад, такіх, як Бамбей, яшчэ і цяпер можна ўбачыць жабракоў. Нямала спатрэбіцца часу, каб ліквідаваць вынікі англійскага гаспадарання.

Але індыйскі народ не палохаецца цяжкасцей. Новая Індыя самааддана працуе, імкнучыся ў карацейшы тэрмін ліквідаваць эканамічную адсталасць краіны, падняць жыццёвы ўзровень народа, пазбыцца адсталасці пераважнай большасці насельніцтва. Новабудоўлі ўздымаюцца ў многіх раёнах краіны. Асабліва ганарацца індыйцы будаўніцтвам Бхакра-Нангальскай сістэмы на поўначы Індыі ў перадгор'ях Гімалаеў. Тут будуецца комплекс гідраэлектрастанцый магутнасцю ў мільён кілават і арашальныя збудаванні, якія здольны абвадніць плошчу ў 1,5 мільёна гектараў і палепшыць ірыгацыю на плошчы ў


У Індыі каровы лічацца свяшчэннымі жывёламі. Яны бесперашкодна ходзяць па вуліцах нават самых вялікіх гарадоў.

Індыйскія сяляне апрацоўваюць зямлю, як тры тысячагоддзі таму назад. У век атамнай энергіі і электронных вылічальных машын драўляны плуг, які цягнуць пара валоў, усё яшчэ застаецца асноўнай сельскагаспадарчай прыладай. Але на палях Індыі пачынаюць з'яўляцца і трактары. Па апублікаваных дадзеных, у Індыі налічваецца 30 тысяч трактараў. Гэта прагрэс! Яшчэ ў 1951 годзе іх было ўсяго толькі 8 тысяч. Але што такое 30 тысяч трактараў на трохсотмільённае сялянскае насельніцтва краіны? Гэта — адзін трактар на дзесяць тысяч сельскіх жыхароў!

Эканамічны ўздым Індыі немагчымы без ажыццяўлення індустрыялізацыі ў краіне. У час нашага знаходжання ў Індыі Неру ў адной з сваіх прамоў у Канпуры асаблівы ўпор зрабіў на недаста-

2,5 мільёна гектараў. Галоўная плаціна збудавання мае вышыню ў 225 метраў. Гэта самая высокая плаціна ў свеце.

Там жа на поўначы Індыі будуецца горад Чандыгарх — новая сталіца аднаго з 14 штатаў Індыі, штата Пенджаб. Патрэба ў новай сталіцы штата ўзнікла ў сувязі з тым, што старая сталіца Пенджаба — буйны горад Лахор — пасля раздзелу Індыі ў 1947 годзе адышоў да Пакістана. Праект агульнай планіроўкі горада і праекты асноўных будынкаў належаць вядомаму французскаму архітэктару Л. Карбюзье, лідэру так званай «новай архітэктуры» — канструктывізму. Па запрашэнню індыйскага ўрада сямідзесяцігадовы французскі архітэктар на працягу некалькіх год жыў у раёне гэтага грандыёзнага будаўніцтва. Цяпер будаўніцтва горада яшчэ ў самым пачатку. Будучая тэрыторыя горада падзелена на вялікія квадраты. Пабудаваны шэраг адміністрацыйных будынкаў, адзін з якіх вы бачыце на фотаздымку. Чандыгарх, таксама як і забудаванне Бхакра-Нангала, увасабляе, па думцы індыйцаў, будучую Індыю.





чу ў краіне людзей з тэхнічнай адукацыяй. Індыі неабходна мець 500 тысяч інжынераў. Тэхнічныя спецыялісты рыхтуюцца ў Індыі не толькі ў інстытутах. Цудоўнай школай для інжынераў з'яўляюцца і вялікія будоўлі. Ствараючы новыя прамысловыя гіганты, людзі без адрыву ад вытворчасці набываюць тэхнічныя веды. Адну з такіх «школ» у раёне Бхакра-Нангальскай сістэмы можна бачыць на нашым здымку.

Немалыя дасягненні маюцца ў краіне і ў галіне развіцця агульнай адукацыі. Праўда, яшчэ не ўсе індыйскія дзеці могуць хадзіць у школу. Як заявіў Неру ў студзені 1958 года, калі б па ўсёй краіне адкрыць пачатковыя школы, трэба было б выдаткаваць на гэта ўвесь нацыянальны бюджэт. Але ўсё ж прыкладна палавіна дзяцей ва ўзросце ад 6 да 11 год ужо вучыцца. І на вуліцах гарадоў можна часта сустрэць зусім маленькіх дзяцей, якія вяртаюцца са школы з грыфельнымі дошкамі ў руках.

Выхаванню дзяцей у Індыі ўдзяляецца вялікая ўвага. У дні нашага прабывання ў Індыі, адкрываючы ў Мадрасе першы ў Індыі дзіцячы тэатр, Неру заклікаў грамадскія арганізацыі не забываць лозунга: «Перш за ўсё — думаць пра дзяцей». Ён з захапленнем гаварыў аб тым, як выхоўваюць дзяцей у Савецкім Саюзе.


Сёння на палях працуе і трактар.

Нам давялося быць у Дэлі ў дзень нараджэння Джавахарлала Неру, калі па ўсёй краіне адзначаўся «Дзень дзяцей». Ужо з раніцы на вуліцах — надзвычайнае ажыўленне, многа дзетвары, апранутай у свае лепшыя ўбранні. Мы былі на дзіцячым святкаванні на Нацыянальным стадыёне ў Дэлі. На свяце выступаў Неру, які пажадаў дзецям здароўя, поспехаў у вучобе. Потым адбыліся фізкультурныя выступленні дзяцей і выступленні дзіцячых харавых і танцавальных калектываў.

Працоўныя Індыі праяўляюць вялікую цікавасць да нашай краіны. Аб гэтым гаварылі шматлікія факты, з якімі мы сутыкаліся лі-


Рабочыя Бхакра-Нангала набываюць тэхнічныя веды.



Адзін з будынкаў Чандыгарха — новай сталіцы штата Пенджаб.

таральна на кожным кроку. Мы бачылі кніжкі-малюнкі ў вулічных гандляроў, у якіх побач з партрэтамі Гандзі былі і фатаграфіі кіраўнікоў нашай краіны. У магазінах новай кнігі прадаюцца творы Леніна і Сталіна і кнігі аб Савецкім Саюзе на англійскай мове і на мовах народаў Індыі. Савецкія часопісы «Пытанні гісторыі», «Поспехі фізічных навук», выдадзеныя ў СССР манаграфіі на рускай мове і мовах народаў Сярэдняй Азіі мы бачылі ў бібліятэцы Бенарэскага ўніверсітэта. Давялося нам прысутнічаць і на здымках фільма па раману Ф. М. Дастаеўскага «Злачынства і пакаранне».

Паехалі мы з Індыі перакана765ныя ў гарачым імкненні індыйскага народа да развіцця сяброўскіх адносін з нашай краінай. Гэтага ж жадае і савецкі народ і ўсе народы сацыялістычных краін.

## *Пісьмы нашых сяброў*

«З вялікай радасцю атрымалі ад Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай Ваш часопіс «Маладосць» № 7 за 1958 год, у якім змешчаны артыкул «Пак Ен і музычная культура Карэі».

Таварыства карэйска-савецкай дружбы лічыць сваёй задачай умацоўваць і пашыраць традыцыйную дружбу і салідарнасць паміж Карэяй і Савецкім Саюзам, азнаямляць, з аднаго боку, наш народ з поспехамі і вопытам савецкага народа як у барацьбе за пабудову камунізма, за трывалы мір ва ўсім свеце, так і ў галіне навукі, культуры і мастацтва, а з другога боку, азнаямляць савецкі народ з жыццём нашага народа. Мы вельмі рады, што знайшлі выпадак паслаць Вам артыкул балетмайстара Ю Ен Гына «Савецкія танцы на карэйскай сцэне». Спадзяемся, што гэты артыкул і фота зацікавяць Вас.

Жадаем Вам вялікіх поспехаў у Вашай пачэснай працы.

З глыбокай павагаю.

**Нам. старшыні ЦП Таварыства карэйска-савецкай дружбы ПАК ЕН СЕН».**

**Ю Ен Гын**

# САВЕЦКІЯ ТАНЦЫ НА КАРЭЙСКАЙ СЦЭНЕ

Дзякуючы клопатам Працоўнай партыі, небывалага росквіту дасягнула нацыянальнае мастацтва ў Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспубліцы. Толькі ў Пхеньяне цяпер працуюць чатыры нацыянальныя мастацкія тэатры. Шырока разгарнулася прафесійнае і самадзейнае мастацтва ў розных раёнах краіны. Так, напрыклад, толькі за апошнія гады на сцэнах правінцыяльных тэатраў паказана каля ста балетных спектакляў.

У рэпертуары нашых тэатраў значнае месца займаюць творы савецкага мастацтва. Асабліва вялікай папулярнасцю ў гледача карыстаецца рускі балет.

Сцэна з балету «Лебядзінае возера».



Савецкія балетныя майстры часта прыязджалі ў Карэю і выступалі са сваімі танцамі. Работнікі нашага балетнага мастацтва ў часе паездкі ў Савецкі Саюз непасрэдна пазнаёміліся з балетнай групай Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра СССР і з групай нацыянальных танцаў пад кіраўніцтвам Ігара Майсеева.

За апошні час на карэйскай сцэне пастаўлены другі акт балету «Лебядзінае возера» (балетмайстар Ю Ен Гын), опера «Яўгені Анегін» (балетмайстры Ю Ен Гын і Кім Дзен Хва), опера «Іван Сусанін» (балетмайстар Цё Сен Чан), «Маладая гвардыя» і іншыя. Акрамя гэтага, выкананы канцэртныя нумары: дуэт «Маскоўскі вальс», дуэт «Жураўліная песня», «Вальс моладзі», «Іспанскі танец» (з «Лебядзінага возера») і масавыя рускія, украінскія, татарскія, башкірскія, армянскія, азербайджанскія, грузінскія танцы. Савецкае мастацтва карыстаецца нязменным поспехам у карэйскага гледача.

Калі ў 1956 годзе ў горадзе Пхеньяне Дзяржаўны мастацкі тэатр ставіў другі акт «Лебядзінага возера», зала была перапоўнена. Пасля спектакля гледачы выказалі пажаданне, каб тэатр паставіў увесь балет «Лебядзінае возера».

Не толькі «Лебядзінае возера», але і нацыянальныя танцы народаў СССР спадабаліся карэйскім гледачам.

Цяпер карэйскія балетмайстры старанна вывучаюць савецкія танцы, каб у бліжэйшы час паказаць іх на сцэне.

Было б памылкай лічыць, што вывучэнне савецкіх танцаў абмяжоўваецца толькі вывучэннем тэхнікі танца.

Вучачыся ў савецкіх балетмайстраў, работнікі нашага мастацтва асвойваюць іх багацейшы вопыт у барацьбе за ідэйную чысціню, за сцвярджанне прынцыпаў сацыялістычнага рэалізма.

Цяпер, калі ў нашай краіне паспяхова ідзе сацыялістычнае будаўніцтва, творы, якія паказваюць жыццё гераічнага рабочага класа і калгаснікаў Савецкага Саюза, аказваюць вялікую дапамогу ў ажыццяўленні палітыкі Працоўнай партыі Карэі ў галіне мастацтва.

Таму карэйскія работнікі балетнага мастацтва з асаблівай увагай вывучаюць савецкія балеты на сучасную тэму — «Святлана», «Дзве ружы» і іншыя. Яны творча асвойваюць мастацкія прынцыпы савецкага балету, які мае багаты вопыт рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці.

Работнікі балетнага мастацтва Карэі прасякнуты жаданнем вучыцца ў такіх вядомых савецкіх майстроў балету, як Уланава, Лепяшынская, Чабукіяні, Дудзінская, Габовіч і іншыя.

Мы рыхтуемся да пастаноўкі на нашай сцэне лепшых савецкіх балетных спектакляў. Хутка нашы гледачы ўбачаць «Лебядзінае возера», «Эсмеральду» і «Бахчысарайскі фантан».

Перад карэйскімі балетмайстрамі стаяць вялікія задачы стварэння новых балетных спектакляў, якія адлюстроўвалі б жыццё народа, яго барацьбу за пабудову сацыялізма ў нашай краіне. У выкананні гэтай задачы важнае значэнне мае дапамога, якую аказваюць нашым дзеячам мастацтва савецкія сябры. Гэтая дапамога з'яўляецца таксама адным з яркіх доказаў усё больш мацнеючай дружбы паміж савецкім і карэйскім народамі.

# Бібліяграфія

## «ГУДОК КЛІЧА»

### Галасы аўтазаводцаў

Усё часцей у нашым перыядычным друку можна сустрэць радасныя паведамленні аб стварэнні новых літаратурных аб'яднанняў. Некаторыя з іх існуюць даўно, набралі сілы, і ўдзельнікі іх выступаюць са справаздачай перад шырокім чытачом. Такія, як Гродзенскае, Магілёўскае, Маладзечанскае аб'яднанні рэгулярна друкуюць у абласных газетах літаратурныя старонкі, выдаюць альманахі.

Нядаўна мы пазнаёміліся з літаратурнай працай пачынаючых аўтараў, якія аб'ядналіся вакол газеты «Аўтазаводзец». Знаёмства гэтае тым больш цікавае, што ў зборніку «Гудок кліча» выступаюць маладыя прадстаўнікі рабочых прамысловага волата рэспублікі.

Пры ўсёй тэматычнай разнастайнасці вершаў, замалёвак, апавяданняў пачынаючых аўтараў ёсць адно асноўнае, што іх аб'ядноўвае.

Кожны з гэтых аўтараў імкнецца адлюстраваць працоўныя будні завода, перадаць веліч працы, багаты ўнутраны свет чалавека-стваральніка.

Светлым пачуццём радасці прасякнуты верш К. Гляйхенгауса «Ты помнишь, дружище», якім адкрываецца літаратурны дадатак. Лірычны герой маладога паэта — удзельнік будаўніцтва роднага завода. Гляйхенгаус малюе карціну, як узнікаў завод, як нялёгкая праца яднала, радніла людзей, якія мужнелі сэрцам. Цікавыя вершы «Встреча» і «Практикант» таго самага аўтара. Калі малады паэт у канцы верша «Встреча» дзеліцца сваёй радасцю ад сустрэчы з мінскім самазвалам на Каўказе, то чытач верыць аўтару, хоць слова «приятно» ў гэтым выпадку — недастаткова ёмістае:

Приятно увидеть на горном шоссе
Такого родного зубрёнка.

Верш «Практикант» больш свежы па вырашэнню. У ім аўтар не без поспеху імкнецца даць псіхалагічны партрэт будучага спецыяліста, які праходзіць на заводзе вытворчую практыку.

Шчырай любоўю да роднага завода, яго навакольных мясцін з іх цудоўным сасновым борам, пачуццём юнацкага кахання прасякнуты лірычны верш А. Рэнькоўскага «С добрым утром». Для верша «Новогоднее» таго ж аўтара характэрна гарачае захапленне дасягненнямі краіны, роздум-развага над тым,

Чем он только не был замечателен—
Год сорокового Октября!..

Вытрыманы ў мастацкіх адносінах верш Д. Мацкевіча «Бушлат», які ўваскрашае ў нашай памяці суровыя дні Вялікай Айчыннай вайны і абуджае нянавісць да натхняльнікаў новых войнаў.

Звяртаючыся да маленькага сына, Д. Мацкевіч у вершы «Сыну» паказаў адносіны простага савецкага чалавека да працы, да завода.

Аднак гэтаму вершу, як і большасці змешчаных у зборніку, шкодзіць шматслоўе, няўменне стварыць мастацкі вобраз штрыхамі, праз дэталі. Недахоп майстэрства не даў магчымасці С. Казлачковай паспяхова ўвасобіць у мастацкую форму вельмі добрую задуму (верш «Подруге»). Верш гучыць як сентэнцыя, голас аўтара не пераканаўчы. Маладой паэтэсе не ўдалося знайсці такія словы і вобразы, якія прымусілі б чытача адчуць аўтарскую нянавісць да чалавека, што пагарджае спяцоўкай рабочага. Больш удаўся С. Казлачковай верш «О красоте», дзе яна разважае аб харастве ўнутраным і вонкавым.

Сатырычны і гумарыстычны жанр прадстаўлены ў зборніку творамі А. Сямёнава, А. Радзіёнава і К. Гляйхенгауса.

Варта коратка спыніцца на апавяданнях і замалёўках, змешчаных у літаратурным дадатку «Гудок кліча». У аснове апавядання «Чертово болото» А. Дашкевіча ляжыць эпізод з барацьбы народных мсціўцаў. Паказваючы партызан у самай складанай сітуацыі, у момант выпрабавання, малады аўтар малюе вобраз камандзіра, які не разгубіўся ў хвіліну найбольшага напружання і знайшоў правільнае выйсце са становішча: ён выратоўвае атрад, хоць гіне сам.

Аднак апавяданне «Чертово болото» мае ўсе тыя недахопы, якія ўласцівы пачынаючым. Адчуваецца скаванасць аўтара пры паказе адносін людзей, неразуменне, неадчуванне пластыкі фразы. У самым пачатку Дашкевіч, даючы малюнак месца дзеяння, гаворыць:

«Все знали, что два года назад это болото засосало лесника, а в прошлом году не вернулись с него два пастуха... Потому и прозвали его «Чертовым болотом».

Відаць, балота стала топкім не два гады назад, калі яно такое непраходнае, і назвалі яго чортавым даўно.

Някепскую замалёўку з жыцця моладзі завода напісала І. Кавалеўская — «Общественная нагрузка».

Большая ўпэўненасць у абыходжанні з падаваемым матэрыялам адчуваецца ў апавяданні Г. Грыгаровіч «Ненастоящая». (Назва патрабуе замены для таго, каб пазбегнуць прымітыўнасці.) Грыгаровіч знаходзіць пэўныя мастацкія мазкі, каб досыць адчувальна падаць сваіх герояў, у аснову кладзе не пазбаўлены дынамічнасці, хоць і не новы сюжэт.

Уменне назіраць узаемаадносіны людзей, заўважыць цікавае ў гэтых узаемаадносінах засведчыў сваім апавяданнем «Выговор» В. Цішкоў. Рэч яго напісана ў псіхалагічным плане. У ёй цікавы канфлікт. Толькі аўтару не трэба было бабульку рабіць маці намесніка начальніка цэха. Ад гэтага, магчыма, крыху страцілася б вастрыня канфлікту, але тым самым была б знята наўмыснасць. Апавяданню шкодзяць ужытыя жаргоны, накшталт слова «милок». Дарэчы, некаторыя пачынаючыя аўтары зборніка злоўжываюць спецыяльнымі тэрмінамі. Гэтага трэба пазбягаць.

Хочацца спыніцца на апавяданні Ю. Канэ «Текущий момент». Калі яно ў некаторых адносінах выклікае пярэчанне (нягладкі, крыху зацягнуты пачатак), то цалкам апавяданне пакідае прыемнае ўражанне. Ю. Канэ ў вельмі натуральнай форме перадае сустрэчу маладога агітатара Ніны з выбаршчыкамі. Даволі ўдала зроблены дыялаг, праз які падаюцца вобразы сям'і рабочага Гайсёнка і самой Ніны, а таксама расказ Ніны пра Карпаты. Аўтару ўдаецца знайсці словы патрэбнага адцення і пабудаваць з мастацкім чуццём фразу.

Хочацца пажадаць пачынаючым аўтарам аўтазаводскага літаб'яднання плённых поспехаў у працы і творчых пошуках.

**Г. НАРАЧАНСКІ.**

# ДОБРЫ ПАЧАТАК

У гераічным лёсе людзей Кастрычніка ўвасоблены лепшыя рысы і традыцыі савецкага народа, яго слаўнай Камуністычнай партыі. Гэтыя традыцыі трэба ведаць. Таму вельмі важна пісаць пра гэты перыяд у гісторыі нашага народа ў любым жанры — ад рамана-эпапеі да маленькай навелы. Такія кнігі наш чытач, асабліва моладзь, сустракае заўсёды з вялікай цікавасцю і ўвагай. Гэтыя творы будуць заўсёды сучаснымі, бо вечна жывыя ў нашай свядомасці вобразы людзей найвялікшай рэвалюцыі, бо няма прыкладаў, больш вартых пераймання.

У памяці беларускага народа назаўсёды засталіся вобразы і справы тых, хто самаахвярна змагаўся за ўстанаўленне савецкай улады ў нашай рэспубліцы.

Мяснікоў, Берсан, Апанскі, Дауман... Іх слаўнымі імёнамі названы шматлікія прадпрыемствы, вуліцы нашых гарадоў.

Але, нажаль, матэрыялы аб жыцці і дзейнасці герояў Кастрычніка на Беларусі яшчэ па-сапраўднаму не распрацаваны ні гісторыкамі, ні пісьменнікамі. Гэтым, як відаць, і тлумачыцца той факт, што многія нашы маладыя сучаснікі яшчэ мала ведаюць пра сваіх выдатных папярэднікаў, бальшавікоў-ленінцаў, простых, сціплых людзей, якія цалкам аддалі сябе справе рэвалюцыі.

Таму варта вітаць ініцыятыву Дзяржаўнага выдавецтва БССР, якое своечасова выпусціла кнігу Ул. Мехава «Сцяг над рэўкомам» *.



У невялікай гістарычнай аповесці «Камісар Берсан», якая ўключана ў кнігу, малады пісьменнік паставіў перад сабою складаную і высакародную задачу — узнавіць вобраз аднаго з прадстаўнікоў польскіх рэвалюцыянераў-бальшавікоў, актыўнага барацьбіта за савецкую ўладу на Беларусі Станіслава Берсана.

Карыстаючыся дакументальным і фактычным матэрыялам, малады аўтар не проста белетрызаваў біяграфію Берсана, а ў некаторых выпадках смела выйшаў за межы біяграфіі і напісаў мастацкі твор.

Звычайна, кнігі, прысвечаныя людзям рэвалюцыі, адрасуюцца дзецям. Гэта пераважна аповесці пра маленства або юнацтва бальшавікоў, якія яшчэ толькі выходзяць на шлях рэвалюцыйнай барацьбы.

Аповесць Ул. Мехава таксама адрасавана дзецям, але ў даным выпадку аўтар выбраў іншы шлях. Пра мінулае героя, пра яго маленства і юнацтва сказана ў аповесці вельмі мала і бегла. Па-сутнасці, чытач не ведае, чаму сын польскага банкіра парваў са сваёй сям'ёй і выбраў шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Наша знаёмства з Берсанам адбываецца ў Мінску ў лютым 1917 года. Перад намі ўжо сталы, вопытны, нягледзячы на свой 25-гадовы ўзрост, загартаваны ў агні класавых баёў рэвалюцыянер.

Гэты высокі, стройны, са жвавымі вачыма чалавек з першых жа старонак аповесці прыкоўвае да сябе ўвагу чытача. Малады, энергічны, у нязменнай скуранцы, народны камісар Берсан знаходзіцца ў самай гушчы рэвалюцыйных падзей, звязаных з устанаўленнем савецкай улады ў Беларусі. Бязлітасны да ворагаў рэвалюцыі, Станіслаў Ігнатавіч у той жа час душэўны, просты і выключна сціплы чалавек, уважлівы да людзей, клапатлівы сем'янін. Галоўнае, што характарызуе Берсана, — і аўтар здолеў гэта пераканальна падкрэсліць, — гэта палымяная любоў да жыцця і ў той жа час здольнасць адмовіцца ад яго ў імя рэвалюцыі. Вось чаму яго трагічная пагібель успрымаецца намі як урачыстасць жыцця, урачыстасць ідэй камунізма, у імя якіх гераічна загінуў Станіслаў Берсан. І мы любім героя аповесці не толькі таму, што ён носіць гэтае слаўнае імя, а таму, што малады пісьменнік стварыў яркі вобраз рэвалюцыянера і чалавека. Такім ён і застаецца ў нашай памяці — няўхільны, імклівы, з прыгожа адкінутай назад галавой.

Калі думаеш пра тое, як скупа адмераў лёс жыццё такім людзям, як Берсан, міжволі здзіўляешся, якую сапраўды тытанічную, насычаную нечалавечай напружанасцю працу давялося ім выконваць! І ў гэтым сэнсе нельга не кінуць папрок Ул. Мехаву, які вельмі няпоўна паказаў гэтую кіпучую і шматгранную працу народнага камісара Берсана, шматлікія факты якой, дарэчы, былі апублікаваны аўтарам у свой час у перыядычным друку.

Акцэнтуючы ўвагу чытача на паказе таго, як быў па-здрадніцку выдадзены і гераічна загінуў Берсан, будуючы на гэтым усю аповесць, аўтар свядома звузіў рамкі твора. Гэтым, бадай, можна тлумачыць і той факт, што вобраз Аляксандра Фёдаравіча Мяснікова, аднаго з выдатных арганізатараў савецкай улады ў Беларусі, саратнікам і вучнем якога з'яўляўся Берсан, атрымаўся, нажаль, мала выразным, ілюстрацыйным.

Цікава намечаны аўтарам і вобраз Шуркі Блізняца. Сустрэча з камісарам Берсанам перавярнула ўсё жыццё беспрытульнага хлапчука, памагла яму стаць актыўным барацьбітом за народную справу. Але ў далейшай трактоўцы гэтага вобраза аўтар, на наш погляд, відаць, пралічыўся. Разам з Берсанам быў па-здрадніцку схоплены і Шурка Блізнец. Задаўшыся адзінай мэтай у што б там ні стала выратаваць народнага камісара, Шурка не знайшоў нічога лепшага, як тэлеграмай выклікаць у лагер брата Станіслава Ігнатавіча — Арнольда Берсана, буйнага польскага банкіра. Упаўне дапушчальна, што гэты юнак яшчэ не разумее розніцы паміж бальшавіком Берсанам і варшаўскім капіталістам Берсанам, наіўна мяркуючы, што браты, якія па сутнасці з'яўляюцца класавымі ворагамі, знойдуць агульную мову. Але калі гэта дапушчальна для юнака Шуркі, дык ужо зусім недаравальна для супрацоўніка Наркамата знешняга гандлю камуніста Аляксандра Станіслававіча Блізняца, які праз дзесяць год пасля гэтага сустрэўся з Арнольдам Берсанам у Варшаве. Парадаксальна гучыць яго папрок напышліваму капіталісту: «І вы нічога не зрабілі, каб выратаваць брата?»

Непаслядоўны аўтар і ў абмалёўцы адмоўнага персанажа аповесці — ма-

* Ул. Мехаў. «Сцяг над рэўкомам». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, рэдакцыя дзіцячай і юнацкай літаратуры, Мінск, 1958.

ленькага чыноўніка, нацыяналіста Адамчыка. Гэты нікчэмны чалавечак ненавідзіць камісара Берсана, які з'яўляецца для яго ўвасабленнем савецкай улады. Таму зусім заканамерна, што нацыяналіст згаджаецца забіць народнага камісара. Але ў далейшым, па зусім незразумелых прычынах, Адамчык адмаўляецца ад гэтага і здраджвае Берсану толькі пад прымусам агентаў польскай контрразведкі.

Гэтыя папрокі ў адрас маладога пісьменніка ні ў якай меры не змяншаюць вартасці аповесці. Аўтар умела пераносіць чытача ў атмасферу гістарычных падзей, пераканаўча апісвае дзеянні сваіх герояў, падае псіхалагічныя дэталі. Аб уменні аўтара выкарыстоўваць матэрыял сведчыць і кампазіцыйная стройнасць твора, праўдзівасць многіх сюжэтных сітуацый, партрэтныя замалёўкі асобных персанажаў.

У кнігу ўключаны таксама два апавяданні, якія працягваюць тэму рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. У аснову апавядання «Легенда Замкавай гары» пакладзены гістарычны факт увекавечання памяці вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча Навагрудскім рэўкомам. Нас падкупляе самаадданая любоў польскага настаўніка Вацлава Жыгоцкага да творчасці Адама Міцкевіча. Чытачу зразумелы яго боль і перажыванні, калі па загаду ваенкома Лебедзева, выпадковага на гэтай пасадзе чалавека, шкурніка і невука, рэквізуецца мэбля з доміка Міцкевіча. Але ранейшыя варожыя адносіны Жыгоцкага да савецкай улады рассеяліся, як міраж, з прызначэннем новага старшыні рэўкома Мешчаракова, рукою якога быў падпісаны загад аб увекавечанні памяці вялікага паэта. Стары польскі інтэлігент усвядоміў, адчуў сэрцам, што менавіта савецкая ўлада, бальшавікі з'яўляюцца носьбітамі высокага гуманізму, сапраўднай чалавечай культуры. Старшыня рэўкома схоплены легіянерамі Пілсудскага і расстраляны на Замкавай гары, услаўленай Адамам Міцкевічам. І стары настаўнік, рызыкуючы ўласным жыццём, клапатліва абкапаў яго магілу і паставіў на ёй фанерны шчыток са словамі Міцкевіча: «Хай аб табе спяваюць людзі песні...»

Апавяданне гэта па-сапраўднаму хвалюе.

Кніга заканчваецца добра напісанай навелай «Стары фатограф». Яе сюжэт, напэўна, навеяны аўтару прыездам у Мінск вядомага майстра савецкай фатаграфіі Пятра Адольфавіча Оцупа. У гэтай, здавалася б, зусім маленькай навеле пісьменнік паказаў тыя гіганцкія зрухі, якія адбыліся ў нашай краіне за гады савецкай улады. Навела нібы звязвае ў адно герoіку рэвалюцыі з гeроікай нашых дзён.

Першая кніга аўтара пакідае добрае ўражанне. Хочацца пажадаць маладому пісьменніку больш паглыбленай працы над чалавечымі характарамі, над духоўным светам сваіх будучых герояў.

**У. ІДЭЛЬСОН.**

## ДРУГІ ЗБОРНІК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

На старонках крупскай раённай газеты «Голас калгасніка» нярэдка змяшчаюцца вершы і апавяданні Івана Шуцько, адрасаваныя дзецям.

Іван Шуцько вядомы не толькі чытачам Крупскага раёна. Яго імя ведаюць маленькія чытачы нашай рэспублікі, бо, пачынаючы з 1950 года, творы для дзяцей, напісаныя ім, часта змяшчаюцца на старонках рэспубліканскіх дзіцячых і маладзёжных газет і часопісаў. Некалькі лепшых вершаў Івана Шуцько змешчаны ў беларускіх чытанках для пачатковых класаў. У мінулым годзе Іван Шуцько быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР.

Шэсць год назад была выдадзена першая кніжка вершаў І. Шуцько пад назвай «Мой мяч». Зборнік зацікавіў чытача.

Карысную справу зрабіла Дзяржаўнае выдавецтва БССР, якое нядаўна парадавала дзяцей новай кніжкай Івана Шуцько. У зборніку «Чужая хатка» змешчана 11 казак.

Кніжка адкрываецца цікавай па тэме казкай «Дружная сям'я».

Блізкая да яе па ідэйнай задуме і казка «Труцень і пчолкі». У ёй апавядаецца пра бесклапотнае жыццё Трутня з пчалінай сям'і. Працавітыя пчолы жорстка распраўляюцца з абібокам, выкінуўшы дармаеда з вулля.

Адметнай асаблівасцю гэтага твора, як і некаторых іншых казак Івана Шуцько, з'яўляецца гарманічнае перапляценне казачнага з рэальнымі абставінамі жыцця, што надае казцы



надзвычайную цікавасць і пераканальнасць.

Несумненна, выхаваўчае ўздзеянне на дзяцей зробяць казкі «Чужая хатка», «Ганарлівы ручай», «Упартыя галкі», у якіх на яркіх, запамінальных эпізодах даводзіцца чытачу, што нельга квапіцца на чужое, трэба прыслухоўвацца да парад калектыву, не фанабэрыцца сваімі поспехамі.

Асобна хочацца сказаць пра казку «Верныя таварышы». У ёй апавядаецца пра тое, як вучань трапіў пад уплыў Ляноты, за якой нязменна ішлі Падказка і Двойка. Ад іх хлапчук ніяк не мог адчапіцца. Але дрэннай вучобай аднакласніка зацікавіўся вучнёўскі калектыў, які дапамог вучню пазбавіцца Ляноты, Падказкі і Двойкі. У казцы даволі стройны сюжэт, цікавая кампазіцыйная пабудова.

У такім жа плане напісана і казка «Шчасце». Прачытаўшы яе, дзеці зразумеюць, што трэба шанаваць і паважаць лес, пазнаюць, якую карысць ён прыносіць чалавеку.

Другі зборнік Івана Шуцько гаворыць аб росце пісьменніцкага майстэрства аўтара. У беларускую літаратуру ідзе здольны пісьменнік, у якога вырысоўваецца свая манера пісьма, — прастата сюжэта, лаканізм апісання, жыццёва-праўдзівыя сітуацыі і абставіны, уменне падаць казачны змест у блізкіх да жыцця эпізодах.

**І. РАБКОЎ.**

**Абчугская сярэдняя школа
Крупскага раёна
Мінскай вобласці.**

# У свеце мастацтва



Удзельніца мастацкай самадзейнасці Гомельскага клуба Аблпрамсавета Г. Мітраховіч выступае з чытаннем байкі М. Лужаніна «Тата памагаты».

## СВЯТА НАРОДНАГА МАСТАЦТВА

Небывала значным і яркім выступленнем закончылі юбілейны год калектывы мастацкай самадзейнасці рэспублікі. Упершыню ў гісторыі Беларусі была праведзена Дэкада самадзейнага мастацтва. Больш трох тысяч лепшых з лепшых народных музыкаў, спевакоў, танцораў, дэкламатараў і іншых прадстаўнікоў сцэнічнага майстэрства сабраліся ў сталіцу. Для паказу іх творчасці былі гасцінна расчынены дзверы лепшых тэатральных залаў і клубаў Мінска. Усе шматлікія канцэрты і спектаклі прайшлі пры выключнай цікавасці гледачоў, якіх заўсёды аказвалася больш, чым месц у зале. Некалькі перадач з Дэкады арганізавала Мінская студыя тэлебачання, што дало магчымасць «пабыць» на канцэртах яшчэ сотням



Харавая капела калгаса «Сцяг Саветаў» Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці выступіла на Дэкадзе з выкананнем песні самадзейнага кампазітара П. Радаліцкага «Мы дзяляцікія людзі». Дырыжыраваў аўтар.





Танцавальны калектыў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі выконвае народны танец «Бульба».

Фота А. Дзітлава.

тысяч гледачоў. Такім чынам, Дэкада прайшла пры ўдзеле самых шырокіх мас працоўных Мінска.

У шматлікіх водгуках на выступленні самадзейных артыстаў адзначаўся перш за ўсё іх сапраўды народны характар. Надзеленыя светлым талентам, людзі з сёлаў і гарадоў выконвалі песні, словы і музыку для якіх напісалі самі. Танцавальныя калектывы таксама паказвалі сваё высокае майстэрства. Хвалюючай навіной на самадзейнай сцэне аказаліся сімфанічныя аркестры. Нямала яркіх выступленняў было падрыхтавана воінамі Савецкай Арміі.

Ішлі дні за днямі. І ў тых, каму пашанцавала пабыць на некалькіх канцэртах, захапленню майстэрствам выканаўцаў не было граніц. Іншы раз у праграмах розных абласцей нумары паўтараліся. Але паўтараліся толькі ў назвах. Творчая выдумка, здольнасці выканаўцаў, душэўная афарбоўка былі непаўторнымі. Вельмі радасным вынікам Дэкады быў факт, што самадзейныя артысты імкнуцца не пераймаць прафесійных работнікаў мастацтва, не капіраваць іх (як гэта было ў мінулыя гады), а быць самімі сабой. Вучачыся майстэрству ў прафесійна адукаваных людзей, калгаснікі, тынкоўшчыкі, паравозныя машыністы, рахункаводы, студэнты, токары, настаўнікі імкнуцца смела сказаць сваё слова ў мастацтве.

Вельмі добра сказаў аб гэтым, вітаючы ўдзельнікаў Дэкады, народны артыст БССР Г. І. Цітовіч. Усё, што ёсць лепшага ў прафесійным мастацтве, абапіраецца на мастацтва народнае. Кампазітары ганарацца магчымасцю ўзбагаціць сваю творчасць народнай мелодыяй. Лепшыя нашы калектывы, такія, як Акадэмічная капела, Народны хор і іншыя, створаны з людзей, якія пачалі з самадзейнасці.

Дэкада паказала, што наша народнае мастацтва імкліва развіваецца. Яно расце разам з усім лепшым, чым можа ганарыцца наша вялікая савецкая Радзіма. Яно нястомна славіць працу народа і любімую партыю, якая вядзе краіну да вышыняў камунізма.

**К. АНІКЕЕЎ.**

# НАРАДЖЭННЕ АРКЕСТРА

Ідэя стварыць у Мінску самадзейны сімфанічны аркестр была выклікана самім жыццём — небывалым ростам прафесійнага і самадзейнага мастацтва, які асабліва быў адчувальны сёлета, у год падрыхтоўкі да вялікага нацыянальнага свята — саракагоддзя БССР. У рэспубліцы выхавана цэлая армія аматараў музыкі розных жанраў, у тым ліку і сімфанічнай. Вось чаму ініцыятарам стварэння самадзейнага сімфанічнага аркестра маладому дырыжору Леаніду Саламоніку і загадчыку аддзела мастацкай самадзейнасці Палаца культуры Міхалаю Іванавічу Алімаву доўга не прышлося думаць, ці знойдуцца ахвотнікі працаваць у такім калектыве.

І сапраўды, як толькі быў абвешчаны набор у самадзейны сімфанічны аркестр, літаральна дзесяткамі прыходзілі штодзень у Палац аматары, якія выказвалі жаданне ўдзельнічаць у аркестры.

Цяпер ініцыятарам арганізацыі аркестра прышлося сур'ёзна над многім падумаць. Перш за ўсё, як быць з інструментамі? Можна было разлічваць, што знойдуцца скрыпачы, віяланчалісты, трубачы, якія маюць уласныя інструменты. Але ці прыдуць у аркестр аматары з уласнымі кантрабасам, трубой або літаўрамі? Калі ж стварыць аркестр не поўнага складу, дык што яму выконваць? Ці будуць пісаць для яго спецыяльную музыку?

Вялікія цяжкасці ўзнікалі і ў сувязі з тым, што запісваліся ў аркестр людзі з розных прадпрыемстваў, у кожнага з якіх розны рэжым працоўнага дня. Для правядзення ж групавых і агульных рэпетыцый патрэбен пастаянны, агульны для ўсіх час.

Пералік цяжкасцей, якія ўзніклі перад новым самадзейным калектывам, можна было б яшчэ працягваць...

І тым не менш, новы аркестр загучаў. Дырэкцыя Палаца культуры прафсаюзаў за кошт скарачэння выдаткаў на іншыя патрэбы асігнавала ўжо на першым часе звыш 30 тысяч рублёў на набыццё тых інструментаў, без якіх аркестр не мог пачаць работу.

З дапамогай партыйных і грамадскіх арганізацый быў забяспечаны адзіны рэжым працоўнага дня для ўсіх удзельнікаў аркестра па месцах іх работы. Нават колькасць камандзіровак на рабоце для іх скарацілі на перыяд камплектавання калектыву.

Пайшло насустрач музыкам-аматарам і Міністэрства культуры: беларускім кампазітарам былі заказаны для сімфанічнага аркестра арыгінальныя творы і новыя аркестроўкі ўжо існуючых п'ес.

Цяпер у новым аркестры іграе каля 50 чалавек. Праўда, у ім ёсць не ўсе партыі. Так, напрыклад, няма альтоў, усяго толькі дзве валторны, адзін чалавек іграе на ўдарных, мала віяланчэляў. Усе музыкі — гэта людзі розных узростаў, прафесій і жыццёвага вопыту. Так, скрыпач С. Жыў — пенсіянер па ўзросту, у мінулым іграў у прафесійных аркестрах, а скрыпачка Ларыса Вайнер яшчэ вучыцца ў 8-м класе сярэдняй школы; віяланчалістка М. Розава працуе тэхнікам у праектнай установе, а трамбаніст Яўгені Гаварушка— дэмабілізаваны воін Савецкай Арміі. Іграе ў аркестры і інжынер па тэхнагляду фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік» В. Быкаў, і токар А. Перчык, і майстар па гадзінніках Г. Глезер, і студэнтка IV курса медыцынскага інстытута Таня Ашэйчык.

Самадзейны сімфанічны аркестр Палаца культуры зараз жыве напружаным творчым жыццём. Калектыў паспяхова ўдзельнічаў у Дэкадзе самадзейнага мастацтва, прысвечанай саракагоддзю Беларускай ССР. Артысты самадзейнага сімфанічнага аркестра ўдзельнічалі ў канцэртах у дні святкавання 40-годдзя. Цяпер рэгулярна, кожны тыдзень, праводзіцца па дзве групавыя і па дзве агульныя рэпетыцыі. Акрамя гэтага, удзельнікі аркестра бяруць з сабою дадому ноты для самастойнага развучвання партый.

Аркестр падрыхтаваў цікавую, жанрава-разнастайную праграму. У яе ўваходзяць «Вальс-фантазія» Глінкі, танцы з оперы «Марынка» Пукста, арыі з опер Цікоцкага і Багатырова. Яшчэ больш складаную праграму намячае аркестр на будучае. У яе, у прыватнасці, увойдуць сімфаньета Аладава, першы канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Бетховена і кантата «Памяці Канстанціна Заслонава», якую напісаў малады беларускі кампазітар Ю. Семяняка.

**І. НІСНЕВІЧ.**

Самадзейны сімфанічны аркестр Мінскага палаца культуры прафсаюзаў.





# «ПЕСНЯ МУЗЫКІ»

«Беларускай моладзі
Сваю паэму прысвячае
Аўтар», — гэтыя радкі стаяць перад пачаткам выдатнага паэтычнага твора народнага паэта Беларусі Якуба Коласа «Сымон Музыка»; яны ўзяты і ўступным тытрам да новай тэлевізійнай пастаноўкі «Песня Музыкі», створанай па матывах гэтай вядомай паэмы. У пастаноўцы, як і ў паэме, паказаны цяжкі шлях таленавітага музыкі-самавучкі з народа, яго нянавісць да марнатраўцаў і прыгнятальнікаў, яго барацьба за права служыць сваім майстэрствам радзіме, роднаму народу. Сцэнічнае ўвасабленне «Сымона Музыкі» робіцца ўпершыню. Аўтары інсцэніроўкі — С. Пятровіч і заслужаны артыст БССР В. Пацехін —



Сцэна з тэлевізійнага спектакля «Песня Музыкі». Аркестранты князя насміхаюцца над музыкай-самавукам Сымонам (артыст П. Дубашынскі).

многа і старанна папрацавалі над тым, каб беражліва захаваць у драматургічным пералажэнні асноўныя лініі дзеяння, паэтычныя асаблівасці і атмасферу твора Якуба Коласа. З прычыны таго, што інсцэніроўка першапачаткова прызначалася для тэатра, у далейшай рабоце рэжысёру прыйшлося ўнесці ў яе значныя карэктывы з мэтай максімальнага набліжэння да тэлевізійнай спецыфікі (літаратурныя рэдактары С. Александровіч і Н. Кедалава). У пастаноўку, у прыватнасці, уключана шмат кінаўставак (аператары М. Юрэвіч, В. Прань-ко, Г. Бугаенка), знятых непасрэдна на маляўнічай натуры, а таксама ў старажытным Мірскім замку. Асобныя куткі гэтага цудоўнага помніка беларускай старажытнасці былі спецыяльна адноўлены для кіназдымак (мастакі М. Карпук і В. Корчык, бутафор Г. Смірноў). Жыхары пасёлка Мір праяўлялі вялікую цікавасць да работы здымачнай групы.

Складаным і цікавым эксперыментам з'явяцца кінематаграфічныя ўвасабленні аўтарскіх лірычных адступленняў, якімі змяняюцца карціны спектакля («Шляхі-дарогі», «Слова аб Беларусі» і інш.). У тэлепастаноўцы шмат музыкі (кампазітары Р. Пукст, Я. Цікоцкі і іншыя). Скрыпічная партыя (дубліраванне акцёра-выканаўцы ролі Сымона) запісана ў выкананні маладога таленавітага беларускага скрыпача Льва Гарэліка.

У спектаклі заняты ўвесь калектыў тэатральнай групы Беларускага радыё і тэлебачання, а таксама артысты мінскіх тэатраў.

Ролю Сымона ў дзяцінстве выконвае школьнік Валодзя Макараў, у астатніх карцінах — артыст П. Дубашынскі, Ганны — артыстка Л. Старадумава, лесніка Данілы — народны артыст БССР С. Бірыла, князя — артыст І. Суднік, маці Ганны — артыстка Н. Сарокіна, жабрака — заслужаны артыст БССР А. Трэпель.

Сваю першую вялікую і адказную работу—тэлевізійны спектакль «Песня Музыкі» — пастановачны калектыў студыі прысвяціў слаўнаму 40-годдзю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі.

**У. КУХТА,**
**рэжысёр-пастаноўшчык спектакля.**

# «СЯБРЫ»

Пад гэтай назвай ідзе новы спектакль у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Створаны гэты спектакль па п'есе маладых беларускіх драматургаў — Юрыя Багушэвіча і Валянціна Зуба.

Калі неўзабаве пасля прэм'еры адбылася творчая сустрэча стваральнікаў пастаноўкі «Сябры» з вучнямі 50-й сярэдняй школы Мінска, выступаўшыя на гэтай сустрэчы дзеці гаварылі аб двух усхваляваўшых іх вобразах: аб беларускім хлопчыку Андрэйку і аб яго сябру, карэйскім хлопчыку па імені Кан.

На баку Андрэйкі і Кана ўсе сімпатыі аўтараў і на іх жа баку — сімпатыі юнага гледача. І няхай некалькі ўмоўнай выглядае тая хуткасць, з якой Андрэйка авалодаў карэйскай, а Кан беларускай мовам, — юны глядач даруе, а мабыць і не заўважае гэтай умоўнасці і цалкам аддаецца ўладзе сцэны, на якой разгортваюцца цікавыя, захапляючыя падзеі. Гледачы — аднагодкі герояў п'есы добра адчуваюць, што аб'ядноўвае, зближае і робіць сябрамі савецкага і карэйскага хлопчыкаў. І тады за лёс трапіўшага ў бяду Андрэйкі, якога ўкралі гангстэры з амерыканскай разведкі, пачынаюць хвалявацца не толькі яго сябар Кан, не толькі бацькі Андрэйкі і прадстаўнікі карэйскіх улад. Разам з імі за лёс дзесяцігадовага савецкага героя хвалюецца ўся глядзельная зала.

А лёс дзесяцігадовага Андрэйкі сапраўды звязан з вялікай небяспекай. Варта Андрэйку павесці сябе не так, як прадугледжана амерыканскімі шпіёнамі—і ён загіне. Але Андрэйка зразумеў, у якую пастку ён трапіў, і трымае сябе асцярожна. Ён, калі можна так сказаць, разумна хітруе, зрываючы планы тых, хто намерваўся зрабіць яго сваёй шпіёнскай здабычай.

Барацьба за выратаванне савецкага хлопчыка становіцца асноўнай падзеяй п'есы і спектакля. І разгорт-





Сцэна са спектакля «Сябры».

ваецца гэтая барацьба дынамічна, у добрым сцэнічным рытме.

Не ўсё, вядома, дасканала і ў самой п'есе, і ў спектаклі. Але цвёрдая мэтанакіраванасць у выяўленні асноўнай думкі, добры, сцэнічна апраўданы элемент дэтэктыва, удала знойдзеныя вострыя сцэнічныя дэталі робяць спектакль выразным і хвалюючым.

Спектакль «Сябры» пастаўлены рэжысёрам К. Г. Пельтцэрам. Кіраўнік пастаноўкі — заслужаны дзеяч мастацтва БССР Л. І. Мазалеўская, афармленне мастака В. А. Кляшчэўскага.

Паспяхова выступаюць у спектаклі маладыя артысты Тэатра юнага гледача: Э. Аўчыннікава (Андрэйка) і Н. Краявая (Кан). Запамінаецца вобраз старога карэйца (артыст Л. Міхайлаў). У пастаноўцы заняты таксама артысты Г. Ручымскі, які іграе амерыканскага шпіёна Вільяма, артыст І. Ганусевіч — выканаўца ролі работніка дзяржбяспекі Гека Сона і іншыя.

Пастаноўкай п'есы Ю. Багушэвіча і В. Зуба «Сябры» Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача прадоўжыў сваю добрую традыцыю стварэння спектакляў па п'есах маладых беларускіх драматургаў.

**А. ГУТКОВІЧ.**

# «ДАЛЬНЯЯ ДАРОГА»

Вось так, як вы бачыце на гэтым здымку, і селі побач камсамольцы-будаўнікі першай лініі маскоўскага метро, праводзячы аднаго з сваіх таварышаў у дальнюю дарогу. Так і бачаць іх гледачы, наведвальнікі Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Розніца толькі ў тым, што на



На здымку (злева направа): **рэжысёр спектакля І. П. Лакштанаў, Лёшка (артыстка М. Ключнікава), Топсік (артыстка З. Асмолава), Максім Самадзельны (артыст Р. Янкоўскі), Антон (артыст Ю. Сідараў), Ілья Солнышкін (артыст А. Кашкер) і Ліля Брагман (артыстка П. Раксанава).**

Фота А. Дзітлава.

сцэне дзейнічаюць шэсць чалавек, а на здымку прысутнічае сёмы — рэжысёр спектакля «Дальняя дарога» Іосіф Пятровіч Лакштанаў.

Вядомая п'еса А. Арбузава, дзеянне якой адбываецца ў 1935 годзе, перапрацавана аўтарам і гучыць цяпер як жывая размова «старых камсамольцаў» з наследнікамі іх традыцый, — з ленінцамі сённяшняга дня. Паставіўшы гэты спектакль да 40-годдзя Ленінскага камсамола, маленькі творчы калектыў яго зрабіў вялікую справу. Рамантычная, хвалюючая гісторыя, што адбылася ў брыгадзе метрабудаўнікоў, якую ўзначальвае валявая дзяўчына Елена Ляшэнка, або проста Лёшка, выклікае ў гледача шмат асацыяцый. Расказ аб тым, як у калектыўнай працы выкоўваюцца лепшыя якасці савецкай моладзі, нягледзячы на сваю больш чым дваццацігадовую даўнасць, вельмі і вельмі сучасны. І ад'езд на Далёкі Усход удалага хлопца, праходчыка тунеля Максіма Самадзельнага, насуперак волі гледача, успрыймаецца як часцінка легендарнага подзвігу моладзі нашых год, якая пакарае цалінныя землі Сібіры, узводзіць плаціны на Ангары, пракладвае сталёвыя шляхі скрозь непраходную тайгу.

Маладыя выканаўцы спектакля стварылі яркую галерэю вобразаў. На сцэне дзейнічаюць шасцёра, але за імі адчуваюцца шматлікія атрады юнакоў і дзяўчат, каму выпаў шчаслівы лёс будаваць камунізм.

Многія з гледачоў, тыя, чые скроні пасівелі, нібы пазнаюць у акцёрах саміх сябе. Ім успамінаецца, што яны перажылі ў жыцці нешта падобнае...

У напамінку аб тым, што і самы звычайны дзень наш — рамантычны, самая большая заслуга тэатра, які паказвае нам «Дальнюю дарогу».

**Д. СЯРГЕЕЎ.**

# «ЯСНАЕ СВІТАННЕ»

«Новая беларуская опера», — пад такой назвай у адным з апошніх нумароў нашага часопіса за 1957 год мы пісалі аб нараджэнні оперы «Яснае світанне» заслужанага дзеяча мастацтва БССР А. Е. Туранкова на лібрэта Алеся Бачылы.

І вось — прэм'ера оперы. Пастаўлена яна на сцэне Беларускага дзяржаўнага ордэна Леніна Вялікага тэатра оперы і балету (дырыжор Л. Любімаў, рэжысёр Л. Александроўская, хормайстар М. Прысёлкаў, балетмайстар К. Мулер і мастак П. Масленікаў).

Новы спектакль вабіць шчырымі мелодыямі, цікавымі харавымі эпізодамі, прастатой і даступнасцю музычнай мовы твора. З вялікім хваляваннем сочыць глядач за эпізодам вызвалення арыштаваных з польскай дэфензівы, сцэнай балю ў пана Гадлеўскага. Захапленне выклікаюць цудоўныя беларускія пейзажы, на фоне якіх разгортваюцца падзеі спектакля.



«Яснае світанне». Марына — заслужаная артыстка рэспублікі Л. Галушкіна, Мікола — Н. Нікольскі і Сцяпан — Л. Генералаў.

У новым спектаклі з поспехам выступіў шэраг маладых салістаў беларускага опернага тэатра. Так, прывабны ворбаз сяброўкі Марыны стварыла артыстка Л. Ганестава. Бліскуча іграе ролю пана Мільчыка артыст В. Бруй. Па-майстэрску выконвае партыю Сцяпана саліст Б. Казанцаў.

У спектаклі занята група добра вядомых салістаў тэатра. Тут трэба адзначыць артыстку Л. Галушкіну, якая стварыла вобраз Марыны. Вельмі ўдала спявае партыю дзеда-жабрака артыст Уладзімір Лубяны.

З артыстам У. Глазавым нам часцей даводзілася сустракацца як з выканаўцам партый адмоўных герояў у розных спектаклях. У «Ясным світанні» таленавіты акцёр стварае вобраз польскага рэвалюцыянера-падпольшчыка Лагоўскага. І тут яго сцэнічны малюнак таксама яркі і запамінальны.

Ролю пана Гадлеўскага ў спектаклі выконвае адзін з майстроў тэатра М. Зюванаў. Ён удала стварае яркі сцэнічны вобраз хітрага і жорсткага памешчыка.

Нельга не адзначыць вялікі поспех таленавітай артысткі Т. Шымко ў партыі Юзэфы, дачкі пана Гадлеўскага.

Новы беларускі спектакль цёпла прыняты гледачом.

**І. ІНІЧ.**



«Яснае світанне». Заключная сцэна.
Фота І. Аронкера і Л. Остшэга.

# Так яны жывуць



## ПАЧЫНАЮЧЫ НОВЫ РАМАН

Франсуаза Саган, модная французская пісьменніца, перад тым, як прыступіць да работы над новым раманам, вырашыла сабраць сяброў на вячэру ў рэстаране. Ці то гэта павінна было забяспечыць ёй прылiў творчай энергii, ці стварыць рэкламу, ці проста з'явілася вынікам парушэння дзейнасці галаўнога мозгу — мяркуйце самі. Умовы для гасцей былі выпрацаваны наступныя. Усе без выключэння мужчыны і жанчыны павінны з'явіцца... босымі, у купальных касцюмах. Парушальнікаў «этыкету» ля ўваходу ў залу будзе затрымліваць вартаўнік, апрануты ў сабачую скуру. Яму ж прапанавалася кідаць са стала абгрызеныя косткі.

## ПАПУЛЯРНАСЦЬ КІНАЗОРКІ

Вядома, што папулярнасць — справа нажыўная. Кожны дабіваецца яе па-свойму. Пры гэтым, многія стараюцца трымаць у сакрэце спосаб, пры дапамозе якога можна авалодаць сэрцамі паклоннікаў. Але вось Джэйн Мэнсфілд, вядомая кіназорка Злучаных Штатаў Амерыкі,— чалавек адкрытай душы. Яна сама так растлумачыла прычыны сваёй папулярнасці:

— Калі, напрыклад, журналіст пытаецца ў мяне, хто напісаў «Атэла», я адказваю, не задумваючыся:—«Людовік шаснаццаты». Або — «Эйзенхауэр». Журналіст адразу ж піша на гэтую тэму артыкул на цэлую старонку. Натуральна, калі б, у адпаведнасці з сапраўднасцю, я адказала, што «Атэла» напісаў Дзікенс, — не было б ніякага эфекту!

## БОГ І ТЭЛЕБАЧАННЕ

У Англіі ёсць горад Ліверпуль. У Ліверпулі — кафедральны сабор. У саборы — веруючыя. Іх з кожным годам меншае.

І вось настаяцель сабора вырашыў выкарыстаць апошнія дасягненні навукі для таго, каб больш паспяхова абдурваць сваю паству. Нядаўна было абвешчана, што ў храме будзе ўстаноўлена тэлевізійная апаратура. «Такім чынам,— сказаў настаяцель, — тыя, хто моліцца ў бакавых прыдзелах, змогуць бачыць тое, што робіцца ў алтары».

## ДЗЕСЯЦЬ ПАЦУЧЫНЫХ ХВАСТОЎ

Калі ў тэатры або ў кіно не застаецца вольных месц, адміністрацыя вывешвае ля касы таблічку: «Усе білеты прададзены» Гэта называецца аншлагам. Але вось у сталіцы Філіпін, Маніле, аншлагі іншага выгляду. Аб тым, што кінатэатр перапоўнены, там паведамляюць так: «Сёння пацучыныя хвасты не прымаем!»

Чаму?.. Як паведаміла гамбургская газета «Дзі цэйт», у Маніле развялася велізарная колькасць пацукоў. Гарадскія ўлады, змагаючыся з гэтым бедствам, увялі правіла, паводле якога «кожны, хто здасць у касу кінатэатра дзесяць пацучыных хвастоў, атрымлівае права бясплатнага прагляду фільма». «Дзі цэйт» паведамляе, што з дня паяўлення гэтага правіла, насельніцтва Манілы пачало вельмі цікавіцца кіно. Усе сеансы ідуць з аншлагам.

## «ПАМЫЛКОВАЕ» ЗАБОЙСТВА

Газета «Дэйлі ньюс» паведаміла: «Памылка ў нацыянальнасці каштавала кубінцу жыцця». Так лёгка былі «вытлумачаны» прычыны зверскай расправы, якую група расістаў учыняла над беспрацоўным юнаком.

Справа была так. З вострава Куба ў Нью-Йорк прыехаў Джуліо Рамо — шукаць работу. На другім тыдні пасля прыезду малады кубінец са сваёй сяброўкай Эміліяй Рывера сядзеў на лаўцы ў адным з гарадскіх паркаў. Яго смуглявая скура прыцягнула ўвагу шасцярых «чыстакроўных» белых амерыканскіх хлопцаў. У адно імгненне лёс Рамо быў вырашаны.

— Пуэртарыканец?! Правучым яго!

З гэтымі крыкамі «чыстакроўныя» накінуліся на кубінца і сталі яго біць. У ход пайшлі цяжкія палкі, вялікая бутэлька, драцяны кошык для смецця. А калі Рамо страціў прытомнасць і ўпаў, варвары пачалі таптаць яго нагамі.

На наступны дзень Джуліо Рамо памёр. Памёр «з прычыны памылкі»,— так заключыла «Дэйлі ньюс». Хлопцы ж не ведалі, што ён кубінец, палічылі яго за пуэртарыканца. А людзям з каляровай скурай у гэтым месцы парку з'яўляцца не дазволена. Дарэчы, пра самы парк. Ён носіць імя амерыканскага асветніка Томаса Джэферсона, якому належаць словы: «Усе людзі нараджаюцца роўнымі!»

## ПАДАРУНАЧАК

Ваенная місія ЗША, якая знаходзіцца ў Іярданіі, падаравала іярданскай арміі вялікую партыю хлыстоў. Адметнай уласцівасцю гэтага бясцэннага дару з'яўляецца тое, што хлысты зроблены з нейлону. Уручаючы падарунак, адзін з членаў амерыканскай місіі падкрэсліў, што хлысты «мадэлі 1959 года» прычыняюць мацнейшы боль, чым звычайныя хлысты, але пакідаюць на целе тых, каго б'юць, вельмі мала слядоў.

Паводле паведамлення газеты «Ан-Нур» заакіянскія хлысты размеркаваны сярод ваенных паліцэйскіх. Большую частку іх атрымала ваенная турма ў Калат-эз-Зерка.

## У ДАПАМОГУ БАЛЕЛЬШЧЫКАМ

Многія спартыўныя сустрэчы на стадыёнах ЗША суправаджаюцца бойкамі. Гракі, паліцэйскія і балельшчыкі часта ўступаюць у бойкі, утвараючы надзейнае папаўненне для мясцовых бальніц. Відавочна, гэтае праяўленне «амерыканскага ўкладу жыцця» атрымлівае ўсё большае развіццё. Нядаўна ў ЗША выпушчана вялікім тыражом брашура, у якой апісваюцца прыёмы аказання першай дапамогі ў часе спартыўных сустрэч. На адной з старонак гэтага даведніка ёсць наступнае папярэджанне: «Памятайце, што ўкусы чалавека настолькі ж небяспечныя, як і ўкусы звяроў».

Гэта з'яўляецца несумненным сведчаннем таго, што амерыканскія балельшчыкі падчас гатовы літаральна «вырваць перамогу зубамі»!

## ХТО СВЯТЫ?

У Англіі існуе шырокая сетка клубаў, якія аб'ядноўваюць людзей па іх інтарэсах. Ёсць клубы аматараўматылькоў, клубы халасцякоў, клубы рассеяных і г. д. Вельмі арыгінальны клуб існуе ў горадзе Дорчэсцеры. Ён называецца «Святы і грэшнік». Яго членамі з'яўляюцца вядомыя ахоўнікі закону і асобы, якія прыцягваліся да крымінальнай адказнасці, але апраўданы з-за недахопу доказаў. Сярод апошніх — нямала былых паліцэйскіх.

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ЗДАНЬ?

У ліку шматлікіх аб'яў, якія змяшчаюцца англійскай газетай «Дэйлі тэлеграф», прамільгнула такая:

«Прадаецца замак XVI стагоддзя са стыльнай мэбляю і спакойнай ціхаю зданню. Цана 5 000 фунтаў».

Пытаемся — якая частка гэтай сумы прыпадае на долю здані?

## АНКЕТА ЕПІСКАПА

У адзін з атэляў г. Мінеаполіса (ЗША) увайшоў прыезджы—епіскап Фултон Дж. Шэн і папрасіў сабе нумар. Яму прапанавалі запоўніць звычайную кароткую анкету для прыезджых. Сярод іншых пытанняў адміністрацыя пыталася: «Чый вы прадстаўнік?» Епіскап адказаў на гэта падзелавому: «Вялікага творцы энд кампані».

## КРЫК МОДЫ

У Злучаных Штатах Амерыкі ў штаце Каліфорнія адбылося незвычайнае здарэнне. Сярод багатых гультаёў там шырока распаўсюдзілася мода лётаць на ўласных верталётах. Своеасаблівай ахвярай гэтай моды і з'явіўся фермер У. Фівелд з мястэчка Броулі. Ён працаваў на сваім агародзе, калі раптам пачуў над галавою шум матора. У той жа момант на гарод апусціўся верталёт, з якога выскачыў малады чалавек. Ён хутка сарваў тры самыя буйныя кавуны і зноў узняўся ў паветра.

— Няўжо ў чалавека, які мае ўласны верталёт, нехапае некалькі цэнтаў, каб купіць кавуны? — з горыччу спытаў фермер. І сам жа адказаў:— Хутчэй за ўсё, у яго нехапае сумлення.

# Шахматы

Пад рэдакцыяй майстра спорту

А. СУЭЦІНА

## АТАКУЕ МІХАІЛ ТАЛЬ

Шахматная гісторыя як раней, так і цяпер ведае нямала выдатных шахматыстаў-практыкаў—пераможцаў буйнейшых спаборніцтваў, майстроў і гросмайстраў. Але нават сярод самых моцных шахматыстаў вельмі і вельмі нямнога такіх, якія б мелі пастаянныя высокія спартыўныя дасягненні, гэта значыць, бралі б некалькі разоў запар першыя месцы ў турнірах вялікага класа. Толькі «паўлегендарны» Пауль Морфі, былы чэмпіён свету Эмануіл Ласкер перыяду «маладосці» ды геніяльны рускі шахматыст Аляксандр Алёхін трымаліся на шахматным «Алімпе» на працягу даволі значнага часу.

У іншых выдатных гросмайстраў мінулага і сучасных буйнейшыя поспехі непазбежна чаргаваліся з няўдачамі, хоць рэдкімі, але ўсё ж такі надоўга памятнымі.

Як вядома, такой няроўнасцю вынікаў вызначаўся вялікі рускі шахматыст Міхаіл Іванавіч Чыгорын (1850—1908). Гэты ж недахоп меў і яго сучаснік чэмпіён свету таго часу Вільгельм Стэйніц. Ды і сярод нашых сучаснікаў-гросмайстраў такіх прыкладаў нямала. Такі недахоп (няроўнасць вынікаў), бадай, уласціва такім буйнейшым шахматыстам, як Смыслоў, Бранштэйн, Керас. Найбольшай «устойлівасцю» вызначаецца наш чэмпіён свету Міхаіл Батвіннік, які з велізарнейшай адказнасцю ставіцца да кожнага выступлення.

Ёсць іншая катэгорыя шахматных «маэстра», якія амаль ніколі не «правальваюцца», але да вяршынь ім нехапае заўсёды нейкай драбніцы. Яркім прыкладам можа быць Тыгран Петрасян — шахматыст-віртуоз. Ён заўсёды бывае другім, трэцім, але пакуль амаль не быў першым.

Гэты невялікі экскурс у гісторыю шахматаў дасць некаторае ўяўленне пра тое, наколькі яркі талент і высокія спартыўныя якасці таго шахматыста, пра якога мы раскажам у гэтым невялікім артыкуле.

Міхаілу Талю ўсяго 22 гады, але за два апошнія гады ён двойчы запар стаў чэмпіёнам СССР і пераможцам буйнейшага міжнароднага, адборачнага турніра «прэтэндэнтаў» на матч з чэмпіёнам свету! Кожнае выступленне Таля—гэта яго вялікі поспех! Амаль ніхто з сучаснікаў не можа «пахваліцца» такім спартыўным «актывам», ды і ў мінулым такіх шахматыстаў было вельмі мала.

У чым сакрэт поспехаў Таля? На наш погляд, як у яго рэдкім шахматным таленце, так і ў наватарскім стылі, вельмі агрэсіўным, атакуючым, дынамічным. Ніхто з сучасных майстроў не атакуе з такой творчай «выдумкай» і энергіяй, як Таль.

Даём партыю, дзе майстэрства атакі Таля было вельмі павучальным. Гэта партыя гралася ў Міжзанальным турніры на першынство свету ў гор. Партарожы (Югаславія).

**Таль — Фюштэр. Абарона Кара-Кан.**

1. e4 c6, 2. d4 d5, 3. Кc3 de, 4. К:e4 Кd7, 5. Кf3 Кgf6, 6. К:f6+К:f6, 7. Сc4 Сf5 (Вядома, сур'ёзнай памылкай было б 7. ...Сg4?, таму што пасля 8. С:f7+Кр:f7, 9. Кe5+ з наступным К:g4 белыя атрымлівалі выігрышную пазіцыю), 8. Сc4 Сf5, 9. Фe2 e6, 10. Сg5 Сe7, 11. 0—0—0 h6, 12. Сh4 Кe4? (Непрыкметная памылка, якая вельмі цікава караецца Талем. Мацней было б 12. Кd5), 13. g4! (Вельмі моцны ход. Нельга, вядома, 13. ...С:g4 з-за 14. С:e7 з наступным Ф:e4. Нядобра таксама 13. ...С:h4 з-за 14. gf! з моцнай атакай у белых), 13. ...Сh7 14. Сg3! К:g3 (Некалькі лепш 15. ... Кd6, пазбягаючы ўскрыцця ліній на каралеўскім фланзе), 15. fg Ф c7, 16. Кe5 Сd6, 17. h4 f6, 18. С:e6! (Павучальны момант. Амаль ніхто з сучасных майстроў не зрабіў бы такую зусім невыразную ахвяру фігуры. Але гэта і характэрна для «ўтрапёнага» Таля), 18. ...fe, 19. de Сe7, 20. Лhf1 Лf8, 21. Л:f8+С:f8, 22. Фf3! (Павучальны момант гл. дыяграму).



У чорных лішняя фігура, але іх баявыя сілы канчаткова скаваныя і пазбаўлены рухомасці.

Потым ідзе прыгожы фінал:
22. ... Фe7, 23. Фb3! Лb8 (Упарцейшае было б 23. ...b5, хоць і тады пасля 24. Сd7+белыя павінны перамагчы), 24. Сd7+Ф:d7, 25. Л:d7 Кр:d7, 26. Фf7+Сe7, 27. e6+Кpd8 (На 27. ...Крd6 імгненна выігрывае 28. Фf4+!!), 28. Ф:g7, і чорныя здаліся.

У заключэнне прапануем чытачам самастойна рашыць задачу.



Ход белых. Ці могуць белыя выіграць партыю?



## ЧАМУ МЫ ТАК ГАВОРЫМ

Усім вядома, што кожны пачатак партыі мае сваю назву. Напрыклад: «сіцылійская абарона», «славянская абарона», «дэбют Рэці», «варыянт дракона» і г. д.

Раскажам, як узніклі некаторыя з гэтых назваў дэбютаў.

1. **«Меранскі варыянт».** Гэта адна з вострых і папулярных сістэм «славянскай абароны». Яна ўзнікае пасля ходаў 1. d4 d5, 2. c4 c6, 3. Кf3 Кf6, 4. Кc3 e6, 5. e3 Квd7, 6. Сd3 dc, 7. С:c4 в5... Гэтая назва з'явілася ад назвы чэшскага гарадка Мерана, дзе на міжнародным турніры ў 1924 годзе гэтая сістэма ўпершыню была паспяхова ўжыта гросмайстрам Акібай Рубінштэйнам. Цяпер «меранскі варыянт» дэталёва распрацаваны тэарэтыкамі ўсяго свету (і перш за ўсё савецкімі шахматыстамі) і з'яўляецца адным з найбольш цікавых варыянтаў ферзевага гамбіту.

2. **«Гамбіт Эванса».** «Гамбіт Эванса» атрымліваецца пасля ходаў 1. e4 e5, 2. Кf3 Кc6, 3. Сc4 Сc5, 4. в4... Гэтая назва дадзена ў гонар яго вынаходцы — англійскага шахматыста капітана Вільяма Дэвіса Эванса, які яго ўпершыню ўжыў ў 1824 годзе.

З таго часу «гамбіт Эванса» быў дэталёва даследаваны і зрабіўся ўлюбёным пачаткам такіх выдатных шахматыстаў сярэдзіны і канца мінулага стагоддзя, як Морфі, Андэрсен, Чыгорын і другія.

3. **«Венгерская абарона».** Яна ўзнікае пасля ходаў 1. e4 e5, 2. Кf3 Кc6, 3. Сc4 Сe7 і атрымала сваю назву па партыі Парыж — Будапешт, ігранай па перапісцы ў 1842 годзе і выігранай Будапештам. У сучаснай турнірнай практыцы гэтая абарона ўжываецца рэдка, таму што ў чорных у ёй узнікае пасіўная бесперспектыўная пазіцыя.

4. **«Шэвенінгенскі варыянт».** Ён з'яўляецца вельмі распаўсюджаным варыянтам «сіцылійскай абароны», асноўная пазіцыя яго атрымліваецца звычайна пасля ходаў 1. e4 c5, 2. Кf3 e6, 3. d4 cd, 4. К:d4 Кf6, 5. Кc3 d6...

Назву сваю «шэвенінгенскі варыянт» атрымаў ад галандскага гарадка Шэвенінгена, дзе на міжнародным турніры ў 1923 годзе гэты варыянт быў ужыты ўпершыню. Цікава адзначыць, што найбольшую папулярнасць у шахматнай літаратуры атрымала партыя Мароцы — Эйве з гэтага турніра, прайграная чорнымі. Толькі наступная партыя паказала жыццёвасць гэтага варыянта.

Для «шэвенінгенскага варыянта» характэрнае размяшчэнне пешак d6, e6 (малы цэнтр), пры якім чорныя атрымліваюць некалькі сціснутую, але вельмі моцную пазіцыю. Гэтую абарону з поспехам доўгі час ужываў за чорных савецкі гросмайстар Аляксандр Котаў.

5. **«Варыянт Балеслаўскага».** Ён узнікае пасля ходаў 1. e4 c5, 2. Кf3 Кc6, 3. d4 cd, 4. К:d4 Кf6, 5. Кc3 d6, 6. Сe2 e5... Уся гэтая цікавая сістэма ўпершыню даследавана і ўведзена ў практыку ў 1942 годзе савецкім гросмайстрам І. Балеслаўскім, які цяпер жыве ў Беларусі.

Ідэя яго за чорных у тым, каб за кошт некаторага паслаблення пешачнай структуры атрымаць добрую фігурную ігру.

«Варыянт Балеслаўскага» цяпер з'яўляецца асноўнай зброяй у ігры за чорных. Ідэя Балеслаўскага спрыяла распрацоўцы новых сістэм у ігры за чорных.

Прапануем нашым чытачам самастойна рашыць наступную задачу:

Белыя пачынаюць і даюць «мат» у 9 ходаў.



Рашэнне гэтай задачы просім прысылаць у адрас рэдакцыі.